згніеш, вось табе і ўсё... Ну ці не дурны! А здаецца, і дзяцюк нічога сабе, рахманы.

— Дык як жа, дзедку?

— Як? А так, што, колькі трэба, ведай, а ў вялікае не залазь, а то каб шыю, бывае, не скруціць. І не думай, што яно такое простае... Што няма нічога...

— Вы, дзядуля, як былі маладзей, не казалі, мусіць, таго?

— А што — «маладзей»... Як быў я маладзей, ішоў я раз апоўначы каля могілак, а была там свежая магіла: надоечы пан войт памёр. Даўся ён, гэты войт, пры жыцці людзюхнам. Жорсткі чалавек быў, нікому не даравў, няхай ужо свят ляжыць. І ўміраў доўга і страшна, памерці ніяк не мог, мучыўся дужа. Іду, значыцца, я сабе з качарэжкаю, адганяю думкі аб нябожчыку, а яны так і лезуць. Не гляджу туды, дзе гэта магіла, а нехта як падбівае: «Зірні, зірні, што тама?» Не ўцерпеў я, скасіў вочы: зірк! Аж на магілцы, над насыпам — белы як у тумане чалавек стаіць, быццам то й на пана войта паходж, да яго ў падобі. Закалацілася ў мяне сэрца, ногі занямелі, валакуся як нежывы, дыхаць дайжа баюся. А тое дрыжыць-дрыжыць, трасецца, як во паветра, калі ў пагодны дзень сонечны; толькі яно белае, быццам папера. Не ведаю, як я ўжо да хаты даваloкся, белых валасоў, праўда, заўтра знайшоў, хварэў ці мала, хадзіў як у воглуме.

Дзед памаўчаў. Студэнт прыціх, але ткі запытаўся:

— Дык што?

— А што? Каб на другога — не ведаю, што было б. А я ўжо праз гадоў дваццаць ад пана Беляеўскага чуў, што траплялася гэткае бачыць і другім; гавораць іншыя наўчоныя, што гэта, як пачынае чалавек у магіле ўжо тлець, дык з яго праз зямлю наверх выходзіць нешта,— забыўся названне, не наскае слова,— і збіраецца ў кучу такую ж, якой формы чалавек быў, што там пахован...

— Фосфар, хіба... Ведаю.

— А можа, й так, забыўся, наймення не помню.

— А-а...— працягнуў студэнт у задумленні.

— Можа, калі-небудзь і аба ўсём, што каля нас незразумелага, даведаюцца людзі. Бог ведае.

Дзед замоўк. Коні весялей пабеглі, бо лес далёка астаўся цёмнай грамадай адзадзе, а дзесьці справа, дужа далёка, галасіла машына. А вакзал быў недалёчка.

— Адно астанецца людзям навекі святою загадкаю — гэта тварэц наш найвышні. Каб не было дано людзям гэ-

тай загадкі, не было б чалавецкага жыцця... Прапалі б людзі.

«Іш, які дзед,— памысліў Архіп,— не дарма ж назбіраў поўную багаўню богамаленных кніжак, не дарма ж і ў базыльянцаў некалі вучыўся ў Мсціслаўлі».

А дзед у гэты час маўчаў, думаючы важную думу. Абразы мінулага лунаді прад памаладзеўшым старыком. Ён, падумаўшы, загаманіў:

— Дык вось, Архіп, любы ты мой! Бачу я, крэпка ў табе роднае карэнне наша. А мне, старому, уміраць трэба. Едзеш ты ў свет далёкі. Смерць мая з-за кургана ўжо смяецца: мо і не пабачымся болей, дык вось, будзь ласкаў, звярні ты ўвагу на маю старыкоўскую гутарку. Першае, што скажу я табе, гэта — чытай, галубец, у кніжках і ў разумных людзей пытайся, як жылі даўней нашы тутэйшыя людзі... Споўніш гэты загад — у жыцці не апукаешся, будзеш ведаць, што рабіць трэба. І ніякая, братка, чартаўня, ніякія думы чорныя не змогуць цябе. А другое: часцей у роднае гняздзечка залятай, дык не будзе яно здавацца табе страшным, і не пабяжыш ты, спужаўшыся, уцякаць ад яго, калі, часам, пачуеш ад каго дурнога або цёмнага і скрыўджанага наракапні няправедныя, пахабшчыну на справу і працу тваю. А яшчэ дадам: не забывай ты ў гонарадзе, дайжа ў добрай таварыскай бяседзе за салодкімі напіткамі ды смачнымі дарагімі стравамі, не забывайся ты запытаць у сябе: «А можа, цяпер у каго скарынкі хлеба няма?» І ведай тады, што адным енкам ды стагнаннем бядзе людской не паможаш... Помні, што каб другога вызваляць, трэба самому крэпкім быць, на сілы не ўпадаць, а то і самаго затопчуць... Толькі ты не гневайся, што я табе наказы раблю...

— Што вы, дзядуля! Мне так люба, лягчэй мне.

— А чартаўня... Можа, яна і не такая незразумелая, як нам здаецца... Унукі нашы больш за нас ведаць будуць.

— А ўсё ж крыўдна, дзядуля, што людзі сляпыя такія.

— Гэта ў пары такой цяпер ты! А шчэ горш тое — рос ты змалку сярод нас, цёмных, у лесе, дзе шчэ мой дзед маліўся каля асінавага пня богу Дуплінскаму-Ільінскаму. Вось яно і гаворыць у табе. Нічога, прывыкнеш сярод паноў — абойдзецца...

— А не-е, дзед! Чаму ж тады...

— Ку-гу-гу-гу...— загудзела машына, глушачы словы студэнта. За гоні стаяла станцыя, па насыпе бег пасажырскі поезд.

У цёплых, добрых бягучых хатках ехалі людзі, ехалі са сваім горам і радасцю.

— Ча-чах, ча-чах-стук — шпарка дужа грукаталі-чахалі,— чах-чах, ча-чах-стук,— тахалі колы вялікія пад вагонамі.

Падуў ціхі ветрык, заківаў лазу пад канаваю і траўку змірную прыдарожную.

«І трыста, чатырыста гадоў назад таксама дуў ён тут, ветрык, і таксама калыхаў-цалаваў траўку сумную і маўклівую... толькі цуда-машыны не было»,— памысліў студэнт і замаркоціўся...

## У ПАНСКІМ ЛЕСЕ

— Ах ты, рагатун пракляты! Адлезь, табе кажу, а то, брат, поўху зловіш, ці ведаеш!

— А стой, не спужаліся. Дый не карожся дарма, пакуль з табой як з добраю. Не хочаш з ласкі, будзе без ласкі!

— Уцякай, падла стары. Мяшок бяры, хустку бяры, абдзірай, сабака панскі, а гэткія жарты пакінь, поскудзь ты!

— А мы во як...

— Ы-ы, не чапай...

Хрась! Хрась!

Забаўтаўся стары ляснік, пахіліўся, раскірэчыў ногі і саўсім непрыгожа асеў к зямлі.

Дрыгнуў шабадранымі ботамі, пацягнуўся.

Чорная, гідкая, страшная кроў паплыла ў яго з галавы, пэцкала новы жупан, стрэльбу.

Маладуха астаўпянела, з жахам вытрашчыла вочы, тупы шчапель, што карэнне капала, шмякнуў з рук на зямлю.

Ой! Тошна, дрэнна... Няма як аджывіць. Тое ўжо навекі.

Бежч... бежч... О-ё-ё-ёй... Што гэта?

Дрэвы нядобра заківалі макаўкамі, прытулілася трава, ледзьве трэснуў сучок, лёгкая болачка ўцякла з аднаго боку неба на другі.

Бегла, як шалёная, маладуха.

Ляжаў, як калода, стары ляснік.

## КРАСАВАЎ ЯЗМІН

Мы зайшлі на пустую вуліцу і селі на лавачку пад хатай. Людзі ўжо спалі.

Дзе-нідзе на небе блішчэлі зоркі. Яны то хаваліся, то ізноў выпаўзалі з-за чорна-сівых бягучых хмар.

З саду даходзіў к нам п'янавата-мляўкі пах язміну. На бярозцы ціхенька варушыліся дробныя лісцікі і сыпалі далоў, на зямлю, кропелькі нядаўняга дажджу.

Я маўчаў і думаў-дзівіўся. А яна, чорная, вірлавокенькая, з сумным паглядам, шаснаццаці гадкоў яўрэечка, блізюхтынька села ля мяне і, няўзнаку, маўкліва гарнулася да мяне, загадаўшыся аб нечым.

Хацеў звярнуць гутарку на што-небудзь будзённа-простае, але яна сумысле маўчала і тулілася ўсё болей і бліжэй.

«Дзяцінімся, больш нічога,— думалася,— як бы яе звярнуць на гэта; ах, каб яна гэта заўважыла».

— Муся, у аўторак мне будзе дваццаць гадоў...

Маўчыць.

— Муся, вам... не сцюдзёна?

Паклала ручку мне на плячо, маўчыць.

Я не ведаў, што рабіць. Шукаў-шукаў хоць якіх-якіх асаблівых сардэчных пачуццяў у сабе і не знаходзіў. Яна мне надта, праўда, падабалася як мяккая, добрая, начытаная дзяўчынка з не саўсім звычайна-лёгкім дзявоцкім паглядам на жыццё. Мне з ёю было добра, ладна, прыяйна. Гуляць з ёй любіў. І ўсё.

І цяпер мне было дрэнна ад думкі, што яна, маладзенькая, невялічкая, уздумала, маючы трывожна-любую надзею на шчырае спатканне, уздумала пастукацца ка мне ў душу з нечым квола-далікатным, чыстым, і я, калі не захачу скрыўдзіць яе ў лепшых, абмылкавых ці не абмылкавых — усё роўна, пачуццях-жаданнях, я павінен ілгаць — не лгаць, а так — цягнуцца ўслед і прыстаўляцца.

Раптам яна абшчапіла мяне за шыю і па-дзіцячы сціснула...

Я, падаждаўшы, каб абмеркаваць, нясмела і няўмела ўзяў яе за руку і троху пацягнуў да сябе.

І пазіраў сабе, не спяшаючыся, на неба, як там усё збягаліся і збягаліся белаватыя болачкі і збіраліся ў адзін цёмны груд, падобны на аграмадны, кепска складзены стог сена.

— Дзы-ынг, дзы-ынг...— з працягам прабіў на каланчы дванаццаць стары вартаўнік.

А Муся маўчала. Заплюшчыла вочы, паклала галоўку мне на грудзі і быццам дыхаць перастала.

— Мілая Муся, ці праўду казала мне ваша таварышка?..

— Твая, а не ваша,— пачуўся шэпт.

— Ну, т... твая таварышка, што художнік Мартусевіч, пабачыўшы малюнкі ваш...

— Твае,— ізноў ціхенечкі шэпт.

— ...Твае малюнкі, прызнаў у ва... у табе вялікі талент і прасіў працаваць, абяцаўся помач?

Замест адказу тужліва запяяла шапаткам:

«Хоць ты сэрца вы-ырві ды й адкі-інь далё-ка... Хоць ты сэрца...» — Змоўкла і маўчыць.

— Чаму ж не сказала мне калі, што малюеш?

Маўчыць.

Я сядзеў як пень і лаяў у думках сябе калодаю, дурнем, сажалкавым гнётам... Гадаў, што дзеецца з Мусяй, аб чым яна думае і чаго яна ў час, калі другія гарапь, полымем пышуць, яна быццам нежывая... Ці нічыра яна пачувае?

А надоечы — успомнілася — усё пыталася, ці пазволяць ёй, жыдоўцы (гэта слова яна гаварыла з нейкай жалабнасцю, як скрыўджаная), па сканчэнні гімназіі мець у вёсцы сваю школку і вучыць сялянскіх дзетак. «Вочкі прамываць тваім белагаловенькім»,— яшчэ пажартавала з сумам у голасе.

— Вы шчэ самі вучыцеся, калі тое будзе,— вывароч-ваўся я. А Муся колькі разоў усё ж такі цвёрда і ўпорна памыкалася дапытацца напэўна, і я круціўся, як тая вужака ад бізуна, ад гэтых пільных пытанняў.

Мне ўжо і так надакучылі, былі прыкры тады нацыянальныя і набажэнскія пытанні, апастылела паўсёднае айканне і салодзенька-кіслае стагнанне няшчырых людзей. Глыбока праўдзівага спаткаў мала. «Можа, і Муся, можа, і яна толькі чапурыцца перада мною дзеля чагосьці?» — выпаўзла, як з падпечку, гідкая думка.

— Муся, зірні, зірні — якія прыгожыя, дзіўныя болачкі плывуць на заходзе. Бачыш?

Ледзьве варухнулася, маўчыць.

«Як незразумела і няскладна ідзе сягоння час,— падумаў.— Так, я ведаю Мусю і яе сям'ю гады чатыры ці пяць,

але ж «пазнаёміўся» з Мусяй усяго на тым тыдні ў серaду і гуляў з ёй трэці, толькі трэці вечар. Цікава...»

Меркаваў-меркаваў, як і што, і ўрэшце ўцяміў, што трэба яе пацалаваць.

Сагнуўся, узяў яе за плечкі і прыціснуўся к цеплаватаму лічку, пацягнуў да сябе мяккую, любую, гладзенькую, крамяненькую шчочку, але так няўдала, так... што пачуўся прыкры, каб яго век не чуць, гук: «Цмыгу-у-уль...»

Мне зрабілася сорамна за сваё мяжджульства.

Я скасавурыўся, як конь, хмылячыся, і збоку паглядзеў на Мусю. Дужа задзівіўся з нейкай дайжа трывогай, чаму яна такая белая, не глядзіць і маўчыць, хоць ты што? Спіць, не спіць.

Баючыся, каб яна не ўцяміла майго пастылага настрою, я ненарокам, асцярожна шукаў на яе руцэ пульсу і шчупаў дужэй, нібы ад вялікага пачуцця паціскаў дарагую ручку.

Пульс біўся слаба, а біўся — і тое мяне ўзвесяліла.

А яна тым часам на ўсю сілу сціснула маё плячо, прыціснулася як мага ка мне.

— Мілы, харошы...— ціха шапярнула, аж маё сэрца зайшлося.

Мне здалося, што тут і я павінен больш паказаць любоўную прыхільнасць. Крэпка ціскануў я Мусю ў руках, аж у стане ў яе нешта: «Хрэсь!» — хрэснула...

«Ну й ламіна ж я»,— стыдзіў сам сябе і чуў, як пабегла кроў у галаву; зачырванеўся, і добра, што хоць ноч, дык не відаць.

А Муся — як мёртвая.

Пасядзеў, пасядзеў, ізноў паглядзеў туды-сюды. Ага, прыпомніў: «Я — ненармальная»,— сказала нет ведама к чаму заўчора.

Зірнуў на яе.

Вочы заплюшчаны. Ці то ад доўгіх век, ці то і сапраўды — пад вачамі было чорна-чорна. Ліцо бледнае, што ў нябожчыка, галоўка, нежывая, адкацілася назад...

«А божа! Самлела... Няжыва...» — маланнёй скаўзанула ў галаве, пад лыжачкай зрабілася да прыкрасці пуста, і па плечах быццам пакаціўся халодны пот.

Дзяржаў яе, самлелую, у руках і гукаў:

— Му-уся, Му-у-сечка! Ну скажы што-небудзь, Му-у-сечка...

Яна не варушылася. Галава яе без сілы звісла ў маіх

руках; адна рука, амярцвелая, з'ехала і ўдарылася аб маё калена.

Мне было жарка, душна, худа. Прытуліў самлеўшую Мусю да сябе і, як непрытомны сам, гадаў, ці крычаць ратунку, ці бегчы ў якую хатку за вадою, ці што? Што з ёй такое? Дрэнна?

Спуджаным поглядам кінуў ізноў да Мусі і — ай! — асекся: яна адным вокам пазірала на мяне з ціхім пытаннем-дакорам...

Пачуўся стукат па тратуары.

— Мусечка, ідуць!

Той жа момант яна крапулася, адсунулася ад мяне, адвярнулася і пачала абпраўляць валасы.

Бывае, заснеш удзень, прачнешся і не ведаеш — вечар ці ранне. Так было цяпер са мною.

— Юра, Ю-рачка, пойдзем дамоўку,— пачала гукаць, і здавалася, што яна смакуе імя Юра.

— Пасядзім трошку, Муся.

— Я хачу спацькі... Галоўка баліць...— Як занадта кукоблены дзіцёнак, лашчылася і быццам хацела трошку й пакапрысіць-павярэдаваць.

Узяла маю руку так, каб я абшчапіў яе.

Пайшлі-ткі.

Маўчалі ўвесь час і нікога не спаткалі. Падышлі к іхняму ўжо дому.

— Заўтра ўранні ты волен?

— Не, буду на рабоце ў полі.

— А ў поўдзень?

— А ў паўдзён дамоў прыйду.

— Прыйдзі ў сасоннік к мосціку.

— Добра, Мусечка.

Папрашчаліся. Я ўспамінаў закон і не пацалаваў яе. Яна ўзышла ўжо на ганкі і пазваніла, каб адчынілі. Я крыху прыстояў.

— Як ты не заснуў? — няжданае даляцела ка мне з ганка.

Я аглянуўся. Схавалася ўжо за дзвярмі... Пастаяў-пастаяў крыху і пайшоў.

І цяпер сэрца пачынала млець.

Назаўтра я заране ўжо прыйшоў к мосціку. Доўга, доўга хадзіў-дажыдаўся: Мусі няма, няма й няма. Не прыйшла.

«Увечары, пэўне, прыйдзе ў парк, убачымся»,— цешыў я сябе, і нейкая туга агарнула маё сэрца.

Прыйшоў вечар. Усе ходзяць-гуляюць, смяюцца, як заўсёды, а Мусі няма... Так і не пабачыў у той дзень.

«Што ж такое?»

На другі дзень таварышка яе паведаміла мне, што Муся «яшчэ ўчора раніцай» паехала к радні ў Вільню. І калі прыедзе — немаведама. Быццам згубіў я што дарагое, дужа патрэбнае, без чаго жыць дрэнна.

* * *

І вось... Праз пяць дзён прыйшло паведамленне, што Муся ў Вільні раптам памерла...

— Самагубства? — з балючай цікавасцю ў дрыжачым голасе запытаўся я ў тае ж самае таварышкі нябожчыцы Мусі.

— Адкасні-іцеся вы, гора... Нівесь чаго яшчэ дабіваецца,— толькі й пачуў я.

«Дык што гэта такое?»

* * *

Прайшло нямала часу, на іншым жыццёвым шляху апынуўся я, многа розных іншых людзей спаткаў, а і дагэтуль ад пары да пары з'яўляецца прада мною квола-даражэнькі абраз невялічкай, чарнявай яўрэечкі з сумным паглядам у чорных глыбокіх вочках.

— Муся, Муся...

І так і чую тады той п'янавата-мляўкі пах красуючага язміну.

«Што й к чаму? Што й к чаму?» — ташную ў гэткі час, бо не маю аніякага ж адказу...

## СТРАХАЦЦЁ

— Паніч надта мяне дзівіць. А ці спаткаешся з ім, пачынае: «Як па-твойму, Гаўрыла: ёсць бог ці няма? Ці было табе, Гаўрыла, страшна? А богу ты шчыра молішся, Гаўрыла, ці толькі так, па прывычцы?»

Якое маё дзела да ўсяго такога? На тое жывуць папы

і ксяндзы, на тое ж іх адукуюць і грошы ім плацяць. А мне што? Я — пячкур. І не абы-які, а добры пячкур. Я даволі працую, а на рабоце мне трэба шкелік-другі выпіць, добра пад'есці, хоць не дужа смачна, а каб уволю. У свята мне трэба выспацца ўсмак і пагуляць у карты ці яшчэ ў што.

І чаго налезе мне ў галаву дурное, як панічу таму?.. Ці шчыра малюся? А ты перш растлумач-ка мне гэтае шчырае маленне. Як змалку матка наўчыла, так і малюся. Кожны дзень і ўранні і ўвечары. Я сярод людзей жыву. Дзякуй богу, не сказіўся, каб не маліцца. А што іншы раз молішся і аб печках думаеш, то няхай бог даруе.

Чаго ў цэркву хаджу? Вось табе на! Вядома чаго. Ці за асеццю мне маліцца? У святы дзень што рабіць? Пойдзеш у Слаўнова, адстаіш абедню, завернеш к Боруху — сотку спаласнеш дый удвору марш.

Аб смерці загадвацца, панічыку, саўсім пустое. Усе памром. Хто раней, а хто пазней. Шкоду каму зраблю, скрыўджу каго аніма за што — і так на душы будзе тошна, ці я тады мыслію аб смерці, ці саўсім не мыслію. Калі варта памардаваць другога сабаку за што якое — не ўваж! За такіх і бог, і добрыя людзі даруюць. А пекла баяцца? Э... Чаму быць — ад таго не выкруціцца. Ды няпраўда: і ў пекле не адзін будзеш.

Баяцца?! Каго? Чаго? Мерцвякоў іншы баіцца... Чаго, каб у яго хто спытаў. Памёр чалавек, закапалі, пахавалі — і кікс. З зямлі быў, у зямлю і пойдзеш, зямлёю будзеш. Сатлее, струпяхлее на порах, і амін, усё. Няма каго баяцца. Шчэ інша справа — бярэжцца звера або злога чалавека, пакуль ён не сканаў. А баяцца трупехлі, гною, зямлі — не ведаю! Здаецца, цяпер і сярод нашага брата мала дурных. Поп ці ксёндз мяне чортам страшыць... А ці бачыў ён сам астатняга чарцяночка? І ці відзеў нячысціка хоць адзін разумец на свеце? Ну?

О, яшчэ іншая справа, калі чалавек аб заклад ідзе. Такому бываюць зданні, праўда. Аб заклад ісці ў чым-небудзь страшным, закладацца аб страхаццё якое — анікому не раю. Як чалавек заклаўся, ён пачынае ўсё думаць аб адным: думае, думае... А к таму ж і баіцца троху. Праз гэта ў галаве робіцца па каліўцу ў тым-сім паслабленне, і можа паказацца ўсякая дрэнь, хоць усамдзеле і німаш нічога; няхворы чалавек нічога б не заўважыў.

А мяне то чортам ды нябожчыкам ніхто ўжо не спужаў бы. Бо калі мне пачало б рабіцца страшна, я зараз

узяў бы ў галаву і як мага дзяржаў бы там, што ўсё бывае ад думак... А буду я так мазгаваць — рапей за мяне чорт упудзіцца, трасца яго матары! У чым-чым, а ў гэтым я чалавек крэпкі.

— Не хваліся, Гаўрыла, не фарсі.

— Я і так не хвалюся.

— Папомніш, папомніш...

* * *

Прайшло дзён восем. Гаўрыла Пячкур варочаўся дамоў з працы а познай ночы. Ішоў ён каля Пацкаўскага гаю. Ноч была цёмная, маленькі дождждык то пройдзе, то перастане, то пройдзе, то ізноў перастане.

Гаўрыла пажадаў аддыхнуць. Узышоў на гай і сеў на церамок, якія робяцца на магілках. Выняў капшук, набіў піпку табакаю і ўзяў яе ў зубы. Палажыў губку на скалку і сякалам: «Цік! Цік!» — а сам гаворыць:

— Святыя радзіцелькі, хадзіце ка мне курыць...

— А дай сабе, закуру,— пачулася нема з-пад церамка.

Гаўрыла як сядзеў, так і хлёпнуўся аб зямлю нежывы. Заўтра знайшлі: ляжаў акалелы і піпку зубамі сцяў, а вочы на лоб выкаціў.

І толькі праз гады тры даведаліся, што ў той час пад церамок залез ад дажджу басячуга наш, злодзей Атрох, і неўспадзеўкі арашыў Гаўрылу жыцця.

## ШТО ЯНО?

* * *

...А калі цёмная, пахмурна-сонная ноч спаўзала на зямлю і даходзіла ў самыя патаемныя куткі, калі ўсё наўкруг заціхала, ціхамірылася і заплюшчвала вочы ў незразумелым сне, калі дайжа чуткія, брахлівыя ўночы сабакі пачыналі, падагнуўшы хвасты і сцёпліўшыся, драмаць у зацішшы пад павеццю на саломцы, у гэткі маўкліва-сонны час яна, жалобная, паціху ішла па так знаёмай вузенькай сцежцы за сялібамі на сонны, безгалосы, нямы гай, што невыразнай, чорнай плямай адзначаўся здалёку, наперадзе, сярод невыразнага кругазору начнога неба, за

паўсотні якіх сігоў угледзела бялеючы новы, высокі крыж над свежай магілай, выстаўляла прад сабою топкія, сухія рукі, пахілялася ўсім тулавам уперад і, як падчараваная, рушылася так да самага крыжа...

Ціха, безгалоса... Начныя моўчкі...

Быццам зломленая саломіна-жыціна, валілася ўжо там на халодную, нязлежаную зямлю з глухім балючым стогнам...

Усюдых начныя моўчкі, і яна без голасу ляжыць, ляжыць.

Часам сівыя, мутныя, дымныя болкі разбягаліся ў бакі, згруджываліся па краёх у аграмадныя, чорныя, з белаватымі прасветамі аблокі, а пасярод выходзіў бледны, як глуханямы, месік і абліваў алавяным нечым, няясным і пустое поле, і бярозы з павіслым галлём, і воддаль курчавую, з правіднасцямі ў суччы сасну, і дубовы, шчэ белаваты крыж, і яе, нерухомую; падзівіўшыся троху і, як слова, задумаўшыся аб жыцці, ён ізноў хаваўся за невялічкія хмаркі-балачынкі, а яна ўсё хліпала, стагнала, цяжка ўздыхала з адпачынкам у сваёй жалобе і пачынала шаптаць.

Агоўтаўшыся ад плаку і пакрапчэўшы, падымала рукі ўгору над галавою, пільна ўглядалася ў цямноце на невялічкае, бляшанае распяцце, што прыбіта было на крыжы, і ўсё шаптала сухімі, засмаглымі губамі, усё шаптала...

Палючыя слёзы цяклі па ўпалых бледных шчоках, халаднелі, і ў чырвоным блеску каралямі — кап!.. кап!..— капалі на свежую магілу, і праз не дужа злеглую зямлю праходзілі аж да труны, і мачылі яе — соллю ўкрыецца з часам.

А ўкруг усё начныя моўчкі... Моўчкі...

Анямелыя, замлелыя рукі абвісалі, хворая галава пад чорнай хусткай схілялася на маладыя грудзі.

І той час без літасці, без міласці пачынала малаціць сябе па грудзях такіх маладых, ірвала ды шкумаціла з крыўдным імпэтам белую кашульку.

Дужэй, з болем стагнала, валілася, калацілася, нікнула к зямлі вухам...

Цалавала раптам, цалавала гліну, зямлю, доўга, бесперастанку...

— А прачніся! Устань! А-а-а... Адгукніся мне! Адгукніся-а-а...

Мёртвая ціша стаяла каля гаю і на гаю, і няўцямная жудзь плыла-цягнулася ў той цішы.

А яна распасцірала рукі па магільнаму курганку і ўзноў ляжала доўга і нібы без дыхання...

Пачынала варушыцца, быццам пасля цяжкае хваробы...

Варушылася так, мусіць, гнёў яе хто да зямлі.

Падымалася на аслаблыя ногі, хістаючыся, паволі клала крыж на сябе і цалавала распяцце, клала крыж на паветра ў адзін бок, і ў другі, і ў трэці, і ў чацвёрты, за кожным разам цалавала росныя камкі зямлі.

Пераксціла ўсю магілу.

Дастала з кішэні невялічкі ножык-складанчык, а з-за пазухі кавалачак спісанай паперы, прыціснула к грудзям маладым, пацалавала, абліла слязьмі...

Сагнулася. Падняла адну дзярнінку, капанула складанчыкам.

Палажыла ў ямачку паперу, загарнула зямлю, прыціхла...

Узяла горстачку зямлі і пасыпала сабе за кабат на грудзі маладыя і змучаныя...

Халодненька...

Малілася ізноў і цішэй, з прыемнаю пакутаю і лягчэйшым сэрцам, плакала...

А каля гаю і на гаі — ціша, начныя моўчкі і моўчкі... Ані...

Нявідзімае паветра было поўнае гэтай цішы, саўсім незразумелай.

Яна сядзела пад бялеючым крыжам, цёмная... Палажыла галаву на далоні, ціснула дрыжачымі пальцамі абсохшыя вочы і як бы думала.

«І адкуль яно ўсё? І чаму яно ўсё?»

Ціша, няма адказу...

«Дзе душа яго, дзе дух яго?»

Ціша безадказная...

Болкі шпарка бягуць высачэй і ніжэй, спіць гай, і бярозы, і сасна, і крыжы, і святліцы, росна на полі, а пахне так мякка і мляўка неяк, хоць і ядрана ўночы.

А пад зямлёю трухляціна...

«А ў яго труне? Ён... Не такі, не жывы, страшны... Мёртвае цела, не ён... Парахно, труп... Як тады, на хаўтурах, цяжкае паветра...»

І ад усяго, навокал спячага, ад усяе таемнай незразумелай і страшнай прыроды, звычайнай, а не цямлівай, цяпер ад яе ў цямноце са ўсіх бакоў ляцела адна думка-загадка: адкуля ўсё і што яно?

«Як жа гэта, невядомы найвышні? Як яно? Жыў, хадзіў, любіў... Пакінуў, памёр, няма духу, няма яго... Трухляціна... Косткі, чэрап, попел...»

Безадказная цёмная ціша...

Сядзіць цёмная пад бялеючым крыжам... Думы, думы...

Далёка воддаль цямнеюць сялібы. Прачнуўся ў свой час певень, запеў, за ім — другі, трэці... А поле, і гай, і крыжы ў сне...

Ціша... Сон...

* * *

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Ты абліваеш сваім блескам нудна, але ўпорчыва і бесперастання цалюткую ноч.

Не блеск, не, не срэбра, а нешта алавянае...

Бо няма куды пайсці, скончылася... Няма таго срэбра ядранай ночы, калі п'янілі галаву пышныя, сочныя, росныя ружы і стукала сэрца ад яе пагляду любага, глыбокага, даўгога і нешта важнае гаворачага...

Ты і тады быў алавяны, а здаўся срэбраным... Ціха было пад старымі ліпамі... Ядраная ноч... Месячна... Нечага жадалася...

Было, было... а падманіў...

Ты сваім бледным прыгоствам і незразумелай адвечнай маўклівасцю цягнеш да сябе маленькую, сінявочкую Антосю, падымаеш яе, малютку, узводзіш на высокую страху...

Ціш-ш... Няможна крычаць... Ён, а поўны сягоння, узвёў дзевачку малую, а шчэ... ціш-ш! зваліцца, заб'ецца да смертухны...

Чым ён чаруе? Чым? Чым ён цягне да сябе?

— Падажджы ж!

Схапіў стрэльбу, накінуў на плечы жупан і выбег на двор.

А ноч! Божа ж ты мой, якая ноч! Яна незвычайна прыгожа...

Старыя, ціхія пуні пад срэбрана-белымі стрэшкамі спяць сярод цёмных садоў, кідаюць ад сябе чорную-чорную сцень...

А там гумны, лазні маўчаць... Стрэхі і гароды воддаль у срэбры, а бліжэй — цёмна...

Месік, месік...

Бязгучна, пема, са сваёй адвечнай думай пазірае на лес, поле, хаты... Высокі, далёкі...

Часам трохі схаваецца за праведную болачку, што тонкімі фарботамі расцягнецца па ім, як вышываны ўсякаю гурынаю паркалёвы набожнік над абразом у святым хатнім куце.

Зоркі мігцяць, мігцяць, мігцяць...

Як дарагое цветнае каменне, свецяцца. Як лампадкі, блішчаць аганькамі белымі, залатымі, чырвонымі, жоўтымі.

Думаецца нешта ціхае, а неспакойнае...

Як прыгожа, як цудоўна-люба, якое вялікае мастацтва ў кожнай драбязінцы з творчасці Вялікай Непазнаванай Сілы!

Прыемна, люба, не страшна, а неспакойна...

— Адылі ж падаждзы!.. У тваім ціхамір'і няма спакою... Ты адбіраеш спакой... Нашто цягнеш к сабе, цягнеш, маўчыш?

— Стрэлю ў цябе!..

Сіпла прашыпеў злосны сярод прыгажосці, скрыгнуў мімаволі зубамі, пачаў цэліцца.

З узлахмачанаю, задзёртаю ўверх, хвораю галавою, без шапкі, з накінутым абы-як на плечы жупаном, дзержачы высока ў дрыжачай худой руцэ стрэльбу,— быў страшны і цікавы...

Не рана, позна...

Месячна... Месячна навокал, так месячна, і лезе нешта месячнае, тое маўкліва-незразумелае, лезе ў кволую душу, зваяваную прыгоствам няцямлівасці ўсяго, што тут спала блізка, на зямлі, і што было, нявідзімае, у паветры і што, можа, мае душу ці пачаткі яе там, далёка, на другіх планетах Усясвету...

Балюча, няможна абхапіць кволым вухам, балюча і ціха, безнадзейна...

А месячна... З усіх бакоў, з усіх бакоў абхапіла спакойна-прычэпная, пільная ў нявідзімым абхапленні, срэбраная, а нервуючая, калі няма куды ісці, месячнасць.

І тады было бела-ядрана, і цяпер... І тады было беласрэбрана, і цяпер. Які чароўны галасок быў у Ядзі... Лічка яе, ручкі яе...

Не, не... ён быў алавяны... І цяпер ён алавяны...

Няма таго, дзе яно? Дзе жывуць тыя думкі? Куды яны дзяюцца?

Спіць за возерам панскі фальварак, хаты спяць...

Толькі вартаўнік: «Ляп!» — маўчыць... «Ляп!» — маўчыць... Далёка...

Цэліўся, цэліўся, навёў на сярэдзіну, падняў вышэй.

Абурэнне пацішэла, калыханне-ваўнаванне праходзіць... Ціхая дасада на змораным сэрцы.

«Што там на ім? Горы, сцені ці Каін з вядром густачорнай, запечанай крыві Авеля? Што там?»

Рука без сілы апала, стрэльба старая, дрэнная, дзядоўская, звалілася на зямлю.

Мімаволі сеў на зямлю, сагнуўся, скорчыўся...

Схапіў галаву ў далоні, падабраў пад сябе ногі, рачком ляжаў на траве, глытаючы нешта горка-абіднае, што падкацілася к глотцы, і, пачуваючы цёплыя, смешныя слёзы па вачах, шаптаў, зломаны нясходанымі сіламі:

— Што тама? А? Што там?

А час апоўначы, высока месік... А месячнасць, месячнасць... Светла, а відна і нявідна, месячна!

— Вума арашуся, розум страчу, галовачка мая бедная, ломіць жа яна, баліць, намуцілася ў ёй, гняты з сажалкі там, дзёўбае ў вісках, гарыць...

Месячна...

— Пуста на сэрцы... і нічога не ведаю. І няма ўжо чаго рабіць... Думкі мае, летуценні мае, ідэалы мае... Скончылася дарога, няма куды бегчы-хапацца. Куды ісці далей? Нічога й нікога няма ў мяне...

* * *

У тую ноч страшна раз'юшыўся злюшчы, сцюдзёны, сярдзіты і безупынны вецер, з дзікім выццём гуляў ён па голых, чорных палях, са скогатам скакаў па зрытым бульбоўніку, як той асцервянелы сабака, кідаўся на цямнеючыя бязлістыя аголеныя алешыны, шкуматаў іх з брыдкім смехам-сіпеннем і, пераляцеўшы цераз бульнік і са злосці паклычыўшы сувалку па пустым канапляніпчы, ён тонка звінеў і шчаміўся ў самыя маленькія шчэлкі сцен гумна і пуні.

Яму падабалася наводзіць жудзь на зямлі гэтым сваім: дз-дж-джуг-аэ-эй-сю-сю-скрыгр...

І ён галасіў праз шчэлкі, праз усякія дзірачкі, вароты, падстрэшыны, прагаліны, а потым, азвярэўшы саўсім і страціўшы астатні сорам, кідаўся ў комін і пачынаў там выць і нібы пець на ўсе галасы, адпраўляючы чараўніцкія хаўтуры: «Гоё-ё-ў-уў...»

На небе ані зоркі. Чорна й чорна: уверсе, на зямлі, наўкруг...

За тры сігі няможна чалавека разгледзець.

Не ведаючы добра дарогі, падарожны дзед з хатомкаю на спіне і даўгім кійком-кастылём у руках шточасу збіваўся ў глыбокія калюжыны з ліпкаю, важкаю граззю, набіваўся на каменне, колькі разоў зваліўся з дарогі ў канаву і чуць-чуць не абмінуў моста.

Так і шчабоўкнуўся б у халодную, бурлячую, нешырокую, але з аборвістымі, абсыпленымі берагамі і з бяздоннымі віркамі рэчку, зачапіўся б там лапцем за корч, галавою старою ўдарыўся б аб камень ці калоду і захлібнуўся б ускаламучанаю вадою...

Боўкнуўся б раптам, толькі б забулькала-забульбатала: буль, буль, буль... Разбегліся б кругі, узняўся б іл, пузыры ўскочылі б, пастаялі б, павярцеліся б, праплылі і зніклі б без пены.

І зноў бы там — ціха і гладка, і светлая вада, чорная ўночы... А воддаль па каменні таксама гуркатала б і шумела вада ў шпаркай бягні ручайкоў няроўных...

Чорна, халодна, мокра, сыра, гразка, вецер заходзіцца.

З цямноты вызірае на падарожнага дзядулю нехта невыразны, іскравы, адначасны, несапраўдашні...

А ўбогі, стары дзядуля — старац, пазябшы ў падраным, з дзіркамі жупане, дрыгаючы акалелымі ў тоненькіх альняных штанах худымі нагамі і шлёпаючы растаптанымі, касматымі, гразкімі лапцямі, ішоў у гэтай хлябе да цёплага запечка і ўжо не думаў аб тым, што яму дрэнна, а неяк па прывычцы пачуваў нядолю.

Часам пільней узіраўся ў цямноту і ўжо не думаў, чаго яно ўсё такое на свеце, як яно стала так і чаго дрэннае надвор'е, а неяк па прывычцы пачуваў маўклівую незразумеласць у дрэнным жыцці і надвор'і.

Пільней узіраўся, і збоку дарогі за альшынамі, за канавамі — сыпнуцца іскры, і няма... махнецца нехта іскравы, і няма...

«У галаве так здаецца, уваччу... Ломяць косці, прастуда...»

Ці так здалося, ці так у галаве прайшло: вызірнуў нехта з цемні з вышчаранымі зубамі, высалапіўшы доўгі і таўсты, як палена, язык і выкаціўшы чырвоныя вочы...

Жыццё, жыццё... як тая мара. К чаму так бог даў, з чаго яно пайшло?

Як служыў ён «чалавекам» у распусным доме... Ча-

го-чаго было! Забылася... Лапці, рэўматызм, старэцкая торба... Няма таго тлуму, забылася... Толькі адно ўелася ў памяці: таўсты, сівы генерал сярод бутэлек, сярод дзевачак сядзеў і жудасна плакаў: «Піце, мае, мае... людзі мае! Нуда, нуда заядае!..»

Чорна, гразка... На цёплую б печ.

Па чорнаму, сцюдзёнаму небу раптам паляцеў бы з-за лесу змей і сыпаў бы іскаркамі...

Ляціць... Клубок агнявы... Далёка асвяцілася ўсё. Шум вялікі і сіп. Бліжэй... Гукаюць на зямлю каменні, шпякае смуродная гразь... Грошы нясе... Вочы аграмадныя вылезлі, чырвоныя, клыкі-кляцы даўгія, шыя тоненькая... ці то крылле, ці то ногі з капытамі і рукі кіпцятыя... Чырвоныя вугалі адлятаюць, трашчаць і пырскаюць... Сабака завыў у лесніковым двары з жахам, ціха, баючыся...

Нічога няма... Думкі ў цямноце пад шалёным ветрам.

Хто можа знаць, адкуля жыццё? Адразу было многа людзей ці з аднаго пайшло? Як? Чаму ён не пераказаў унукам, адкуль ён, першы, узяўся?

Сцюдзёна дзеду... Што й то жыццё? Нашто жылося? А жадаецца жыць... Нічога зразумелага, усё няведама.

Усё незразумелым мінаецца... А іншаю парою ўспомніцца сівы, таўсты генерал у доме распусты... Плача: «Піце, мае, мае... людзі мае! Нудна мне, смутна мне, а божа мой...»

* * *

...Думы мае, думкі, кусачыя пчолкі, крылатыя птушкі, лятучыя болкі! Дзе згубілі джала, дзе страцілі крылкі, дзе дажджом зляцелі?

Хто пакалечыў вас? Хто, які злоснік скрывіў вас без жалю, на шкоду, у дрэнны бок, на адзін бок?

Паўзуць бяскрылыя, памоклыя, зморапыя па пустой дарозе ў сівым пыле...

Чаму не джыгастыя?

Думы мае, думкі, летуценні мае...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усе людзі спаць палеглі, а яму... як яго?.. а Янку не спіцца.

Сядзіць ён, адзінота, у закопчаным куце пад закопчанымі абразамі і чорную кнігу чытае. А вецер, вецер у коміне: «Гугу-за-гу-блю-у...» — знай, пяе, як вые, ды бярозавым галлём над акном аб мокрыя сцены б'е, сцёбае ды

шастом хістае, гутае ўсё: «Драб-драб... скігі...» — беспераcтанку бушуе. А дождж ык асенні безупынны аб балонкі барабаніць, як нябожчык, стукаецца і плача мутнымі дробнымі слязьмі.

Чорна на двары, анідзе святла ўжо няма, апоўначы ўжо. Чорную кнігу чытае Янка, дабіваецца-шукае адгадкі на пытанні-дамаганні свае... І чуецца яму часам — не, не чуецца, а думаецца, што сярод цішы ўночы гукі без канца жывуць, што не вецер у коміне гудзе, а дзіцёнак то няхрышчаны, бо задавіла яго матка — дзяўчына, смутнапрыгожая грахаводніца любоўная, няўмысная, задавіла цясёмкаю чырвонаю і пахавала каля шляху без святога крыжа, што гэта ён плача-стогне ў коміне, крыжа просіць. І чуецца-думаецца Янку, што не вецер бярозавым галлём аб сценку б'е, а скрабецца той страшны чараўнік, што пры жыцці ваўком бегаў і па начах кажаном лётаў ды чалавецкую кроў ссаў у сонных немаўленнікаў, што гэта ён скрабецца ў хату, бо не мае спакою на тым свеце. І чуеццадумаецца Янку, што не дождж за акном слёзы лье, самагубца страшны малітвы праведнай, да бога даходнай, просіць, што гэта ён енчыць там...

Жах на Янку лезе, ды не паддаецца ён, знойдзе ён захаванае, знойдзе тое, што ў кнізе чорнай шукае...

Пасядзеў яшчэ каліва і адважыўся. З-за столу ўстаў, жупан надзеў і шапку-віславуху. Узяў нож-складанчык асвячоны, што ў лубцы ляжаў, калі паску пасвячалі, узяў грамніцу і проскурку жалобную-памінальную і на дыбачках за парог пайшоў. Зачыніў дзверы ціхенька, сенцы запёр і за вароты, па двары, на гарод к гумну пайшоў.

Чорна і цёмна. Сцюдзёны вецер і прыкры дождж — а з усіх бакоў, і петухі не пяюць, і сабакі спяць, не брэшуць.

Глядзіць Янка па баках — нічога не відаць, але страшнее яму неяк... А можа, ад таго, што нічога не відаць?

Ху! Нехта цёмны баўтануўся з-за старое ігрушы... Не, гэта сліўка там кіўнулася.

Далей к гумну ідзе Янка, а на галаве скура халадзее...

Узышоў на гумно. Цяпер толькі да асеці.

Ступіў колькі сігоў, на саху налез, цупнуўся. Ашчупаўся — павесялеў.

Во й падасецце. Падымае дошку... «А ці не вярнуцца яшчэ? Ці не кінуць усё гэта? Смяяўся ж некалі, вясёлы быў... Што я вытвараю, што я вытвараю?»

Ад'ехала дошка набок, палез у падасецце... Цёмна, ціха, копаццю пахне гуменнаю.

Адна прыступка, другая... Абшаснууся на трэцяй упоцемку, скокнуў адразу на под, а зямля з няшчыльнай сценкі — гур-р-р...— пасыпалася...

Сэрца закалацілася. Прысеў да зямлі і, хапаючыся, проскуркаю круг абводзіць пачаў. «Што там па чорнай кнізе? Як там па ёй?» Зашаптаў нячутна: «Сіла таёмная-чорная, сіла бясплотная-грэшная, сіла нячыстая антыхрыстава, на паслухмянства гукаю цябе раз, у другі, у трэці!..»

Раз пераказаў і абвёў проскуркаю Янка і як бы супакоіўся, а зноў — шпяк! — зваліўся камок зямлі са сценкі каля жэрала. Пасцюдзянела спіна, рукі і ногі. Грамніцаю святою пачаў абводзіць, шэпча хрыпата: «Люцыпар, Сатано, Арымане, Чорны бог! Спасылай мне драбязу тваю на паслухменства — кажу раз, у другі і ў трэ!..»

Таўхануў нехта пад локаць, ці то здалося яму, ці то ён толькі падумаў, ці то сам наўмысле за стоўб, што столь дзяржыць, зачапіўся?

«Напэўна, што зачапіўся; нічога няма».

І давёў другі раз, і ўжо нож асвячоны ўзяў.

«Што я вытвараю?» — зноў думка бліснула, але і нажом круг павёў.

Вядзе, вядзе... Раптам: дзынг...— зазвінела ў вушах... Што гэта? Крыкнуў, мяўкнуў хто на таку?..

Маланкай схапіўся Янка і кінуўся вылазіць з падасецця. Круга не давёў... без памяці схапіўся за прыступкі і палез... Скочыў наверх, а там ззаду пасыпалася зямля, загурчэла сцяна падасецця...

Бяжыць, бяжыць Янка па таку; валасы на галаве ёжуцца, пад каленямі запямела.

Вылецеў з гумна, па гародзе нясецца, шапку дзяржыць. Вецер дзьме ў рот, дождж у вочы хлешча.

Дабег да пуні, агоўтаўся, прыстояў.

«Чаго ж я пабег? Нічога ж няма? Спужаўся... І нож, і грамніца, і проскурка там. Не спраўдзіла чорная кніга...»

Затужыў. І зноў думы цягучыя, смутныя.

«Не вытрываў... Не прыйшлі сілы чорныя. А можа б, і спраўдзіла кніга чорная чараўніцкая? А што хто знае? Не казалі б таго, не выдумлялі б. Пабег, спалохаўся, упудзіўся, як конь малады...»

Бязмоўныя дрэвы чарнеюць невыразна ў начы, вецер вее часінаю. «Так было, так ёсць, так будзе, і немаведама, адкуля яно гэта ўсё, хто гэта даў і што будзе пасля смер-

ці? Памёр, згінуў... а сілы таёмнае?? Ніхто нічога не бачыў... З таго свету ніхто не казаў. Можа, і таго свету няма? Дык што ж тады, як тады? Нашто ж такі свет стварыў?»

Цёмна, глуха, сонна...

Чараўнікі сучасныя! Скажыце, як нячысцікам душу прадаць, каб толькі спытацца нешта? Не йдуць нячысцікі, бо знаюць, паганыя, у іх душа мая, няшчасная...

Нашто даў жудасны кірунак у падасеццe лезці? Нашто?

Вера, вера! Вера малая! Няма веры ні ў тое, ні ў гэта, а жудасны кірунак ёсць, ёсць ён, пракляты... Нашто мне далі яго, нашто?

А быў жа я некалі вясёлы, смяяўся ж я...

* * *

— Дурны, дурны...

Разумныя людзі дурным завуць.

Не спрачаецца, бо ўсё роўна дурны ён на людскі розум.

А перш быў хлопцам пахмурным, пасля «варонаю», далей прыдуркаватым, потым стаўся дурным.

— Дурны, дурны...

А ён хоча па-свойму быць. Дурны...

Але крыўда ў чым? Што баліць яму? У чым туга-нуда яго дурная?

Не цямяць хіба таго звычайна-разумныя людзі?

А чаго б, можа, пажадаў! Дурань, дурань!..

Самі яны ўсе дурныя... Ці ж не дурныя? Хаваюцца толькі, тояцца. Як бы так разумным і патрэбна жыць? Не, дурныя, дурныя...

Іх многа. Яны ўсе завуць яго дурным. Уся парафія. І паны. А ён адзін; з яго смяюцца людзі, калі ён гукне каго дурным. Людзі... іх многа. А яму аднаму не можна зваць іх дурнымі. Матка плача, бацька маўчыць, большы брат б'ецца, а братава сварыцца на дурнога, што ходзіць нячыста, і не хоча кашулю дурному памыць.

А ён па-свойму хоча быць. Па-свойму...

А дзеці плююцца і пылам у вочы сыплюць... Праўда — не ўсе. А наругаюцца дурному.

Ідзе за гумнамі, за гародамі, па дарозе і кладзе крыжы на абодва бакі; ксціць і поле, і бярозу, і сіне-залатога жука, і мятлушку нейкую, і жаўну, што крычыць там вунь у гайку.

Дожджык прайшоў. Пыл прыбіў. Зяленей-весялей шчэ

невялікія лісточкі бярозавыя, рунь весялейшая, чысцейшая, шнурамі калышацца, абмылася, папрыгажэла. Якое лёгкае паветра. А гаёк зялёненькі-зялёненькі, і птушачкі так ахватней пяюць.

Прайшоў дожджык, прыбіў пыл, зямельку пасвяжыў, траўку абмыў.

Кладзе крыжы, бо яму так хочацца... Паветра такое прыемнае.

З-пад лесу едуць... Пані Іванецкая там ездзіць. Вараныя коні шпарка бягуць, стаеннікі. Сядзіць у чорнай, бліскучай калясцы, як звычайны дурны чалавек, з-за шырокай Мінкавай спіны выглядае па баках немаведама што, яго ўгледзела. Прыплюшчыла вочкі, выняла з мяшочка паркалёвую пахучую хустачку, ківае пальцамі.

— А-а! Поди сюда, дурачок! Ково это ты благослоўляеш? Благослови, дружок, меня...

Не стаяць коні. Разумнейшы Мінка цягне вожкі, цішыць іх, азірнуўся і на дурнога ўсміхаецца, расставіўшы тоўстыя, сытыя, чырвоныя губы.

А дурны моўчкі на іх пазірае, не выдае смеху свайго.

«Дурныя! Думаюць, што нештачка ўжо й ведаюць... Смяюцца, бо нагарыдзіліся ў Цёмным Лесе, а прыкры як, бо перакуліваюць від свой у разумны, дурні...»

А ён відзіць, чаго яны ездзяць у лес, на гэта не дурныя.

Прыстаўляюцца перад дурным. «Што яе бласлаўляць? Ад яе распустай смярдзіць, яна прыкідываецца, што разумная, што ў жыцці нешта ведае... Сказаць ёй...»

— А Мінка ў лесе... гы-гы-гы...

Адразу пачырванела, дураты паменшала і грошык ізноў схавала. «А няхай не дае, дзеці адбяруць».

— Что ты плецёш, дурак? Прочь пашол, сумашэдшы! Мина, трогай!..

Пакацілі...

Засмяяўся і пайшоў на гай сядзець, на могілкі. «Трэба тую магілу пераксціць, дзе жывога закапалі».

Задумаўся.

Смеху каля гэтай пані. Смеху й грэху. Паглядзіш на жыццё яе і замаркоцішся. І памерці хочацца.

Жыццё, жыццё, ці ж ты вартае таго, каб жыць? Вось паня жыве... А можа, так і лепей. А весялей то напэўна. Але калі ўспомніш усю праўду жыццёвую — сорам, сорам! Прылівамі мяккімі, цёплымі кроў да шчок коціцца — чырвона.

Братава сварыцца і кашулі не мые. Памёр бы, ды смерць не прыходзіць. А трэба пажыцца даволі, каб не шкадаваць памёршы.

Трэба крыж пакласці на магілку, дзе жывога закапалі.

Прачнуўся, ачуняў, шчуп... сценкі з усіх бакоў, аніводнай шчэлачкі. Дыхаць трудна. Крычаць — толькі хрып аддаецца, праз зямлю не пачуюць. На сажань пад зямлёю цяжкаю, паветра няма, смерць. Валасы шуркаюць на скуры зморшчанай. Дыхаць, дыхаць — няма, няма... Ай, хры...

Грыз, мусіць, рукі, галавою біўся, скурчыўся, выкаціў вочы, усё. Не пачулі разумныя людзі, дурному веры не далі, жывы пад зямлёю... У вялікіх муках сканаў.

Згніў. Дух выйшаў. Які дух! Яму не хапіла духу, паветра не было, памёр. Паветра — гэта дух яго.

Трэба перакасціць тую магілку... «Дурны, дурны»... А хачу па-свойму быць... Я хачу па паветры хадзіць... Хачу... Хоць малюпаценькую часіначку... Чаму не можна? Чаму не можна? Нашто цягне зямля да сябе? Мне не падабаецца тут у лагчынах, сярод плятнёў, тынаў, платоў, загародаў, не... Чорта не відна...

Чорта, чорта, чарцяночка... І я чорт. «Дурны, дурны»... Папову батрачку ў балота завёў. Плакала, плакала Рыпінка Непадступная... Ці я ведаю, нашто было так?

Дурны, дурны...

* * *

Янка-чараўнік хварэ, а не памірае.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выскачыў з падпечча сіненькі аганёк і пабег па хаце... Каціўся, каціўся і белым дымам сышоў. З таго дыму малюпаткі старычок у чорнай маргелцы выскачыў, у руцэ нейкую торбачку чырвоную меў, кійком падпіраўся...

Адкуль ён, нячысцік, узяўся?

Расчыніў торбачку, выхапіў нейкія відэльцы і адразу к Янку падскочыў.

Што яму тут, што яму тут?

Зубы ў момант расцяў, з сатанінскім імпэтам відэльцы ў рот садапуў...

— Сотэр... Оропотоцінет... перакруціў...— захрыпеў Янка, таемны знак на паветра паклаў — і знік раптам ня-

чысцік, як скрозь донне праваліўся. Серкаю і падлаю-тухляцінай па хаце запахла, туман разляцеўся, і нічога няма.

Трэба, трэба Янку ўміраць, а не ідзе душа з цела за ведзьмарства яго. Мукі непамерныя, страхі вялікія...

На хаце, на страсе: «Скраб-скраб...» Скрабецца, быццам кот неўгамонны-збродлівы.... Лезе, разграбае страху.

Безупынку скрабе кіпцямі, бесперастання грызе вострымі зубамі, разцамі-шыльцамі...

— Страляйце з майго дзядоўскага заклятага ружжа па страсе,— хрыпіць чараўнік.

Баяцца, усе баяцца, адкуль страх гэты вялікі ў цямноту ночы бярэцца?

— Патрывайце, во набой...— сказаў і з рота чорнагнілы зуб... не, не зуб — галушачку хваць! Дае сыну-Васілю.

Апямеў Васіль, узяў зуб і ад вялікага болю крыкнуў бязвумна; як агнём пяканула яго руку ад той галачкі... Пальцы пачарнелі і гарам заняліся.

Схапіў Янка сына за руку, пачаў над ёю шаптаць, падуў, пахукаў, уклаў галачку яму ў руку. Не пячэцца цяпер...

— Не палохайся. Васіле! Набі старую дрынкую стрэльбу і тахні па страсе ў яго, таго... Дык не буду на начах прыходзіць дзяцей тваіх грызці... Чуеш? — захрыпеў злосна-сатанінска.

Выбег Васіль на двор, ноч цёмная, ані зорачкі на небе далёкім, толькі тучы-хмары чорныя ідуць, як горы вялікія, страшэнныя, як таемная грамада асілкаў-пужалаў...

Набіў ружжо Васіль, прыцэліўся-прымеціўся на самы вільчык у страху, сказаў ці памысліў: «Памажы божа госп...»

Ірванула стрэльбу, кахнула, зыкнула, пасыпалася іскар'я каля воч, зарагатаў на страсе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О, досыць мне, досыць мне, даволі ўжо... Што я пішу? Людзі смяяцца будуць. Усе будуць смяяцца з пісання майго: і таварышы-студэнты, што беларусам з-пад пушчы завуць мяне, і таварышы хлопцы-шахцёры, што прыйдуць к Міколе Вясенняму з Юзаўкі і, пачуўшы ад мяне песню маю адвечную, скажуць мне: «Ці не ходзіш ты, часам, і маліцца за асець? Заплеснеў ты ў Багацькаўцы... Пойдзем увосень да Юзаўкі, пабудзеш паўвярсты пад зямлёю, паламаеш каменне — забудзешся троху на чартаўню сваю,

радзенькі будзеш выпіць, закусіць ды на кірмаш пайсці. Вясёлы будзеш...

Забабоны мае! Адкуль вы? Я ж ведаю, што нічога таго няма... чаго... А ці ж ведаю? Не! Я дзеткам кажу аб прыродзе па-навучнаму, рэдка раскажу ім страшнае. Любыя дзеткі...

Думы мае! Адкуль вы? Калі тое было, што дзядуля-нябожчык (няхай святы ляжыць) казкі мне страшныя казаў, мэкай ды мышэшай пужаў.

Думы мае, адкуль вы?

## БУЙНІЦЫ І ДРАБНІЦЫ

Выйшаў змучаны працаю і жыццёвым амбарасам чалавек з свае штодзённае хаты падыхаць свежым веснавым паветрам.

Сеў ён на лавачку на высокім беразе ракі і глядзеў на горад.

І ўбачыў ён: высока над ракою вароны ляцелі...

Блішчэла ў рацэ вада, адбіваючы ля краю голае сучча дрэў.

Сіняе неба на захадзе бранзавела, жаўцела.

Вароны ляцелі бязмоўна і па-людску важна, троху надзьмута. І нецікава, але патрэбна для іх махалі крыллем.

Уздумаў ён на сваю працу, на свой клопат...

І змалеў сам сабе ў сваіх вачах:

— Усё буйніцы і ўсё драбніцы...— прачытаў ён у сваім сэрцы.

І не хапаўся ісці назад.

— Усё паспеецца... драбніцы і буйніцы,— разважаў ён свой сум.

## УСЁ МІНАЕЦЦА

Цёмнае неба хмарыцца, а на вуліцы гэтым вечарам цёпла-цёпла.

Выйшаў малады, а засмучоны дзяцюк з душнае хаты ў прахалодлівы садок.

Сеў на лавачку, зірнуў на неба і падумаў:

«Там чорныя хмары, а паміж іх светлыя лапікі. І вецер сцюдзенаваты. Будзе дождж. Але прыемна...»

І ўздумаў ён на тое, што было некалі пад такім жа самым небам. І сказаў сабе самому, уздыхнуўшы:

— Мінуўся год, мінулася каханне, і пастарэў я... Так. Усё мінаецца.

А хмары, і светлае, і вецер, і ўсё бязмоўна, але нязрушна пацвярджалі яму:

— Так, усё мінаецца і ўсё ёсць вечнае...

* * *

І сядзеў і слухаў ён, як вось там, пад хатаю, гуляюць хлопцы і дзяўчаты.

Гармонік то зайграе, то сціхне. Маркотны гармонік, калі маркотна...

Пяюць там прыпеўкі:

Чаму тады не прыйшоў,
Як я цябе прасіла?..

А паскакаўшы, падурэўшы, расходзяцца па сваіх хатах.

Вось міма ідзе пара, узяўшыся за рукі, як малыя дзеці. Не бачаць яго і гамоняць.

Дзяўчына кажа:

— А заўтра свята. Я так люблю святы. А то ўсё работа і работа...

Хлапец маўчыць і па-маладому размахвае рукою, яе і сваёю, спагадна і люба.

І думаў там той, у садку, калі яны праходзілі: разбягуцца гэтыя хмары і хмарачкі, выгляне сіняя, цёмная выш, ціханька-ціханька будзе ў паветры, месячык будзе прыгожа свяціць...

## ХАЎТУРЫ

Убогая хата, сёння падмецена і, калі не трэба, цёплая.

На левай ад дзвярэй лаве, вузкай як звычайна, ляжыць нябожчык — мужчына. З рэдкаю бародкаю рудымі

жмуткамі; склычаныя дзікія валасінкі, таксама жоўта-рудыя на канцах сашчэмленага сінявага роту. Худы, жоўты і чорны ў шэранькім жупане, белых альняных штанах і ў новых лапціках. Не дужа доўгі, хоць ляжыць. І рукі на грудзях сашчэплены. Папрыгажэў троху, як памёр, у свет сабраўся.

На палу сядзяць у світках дзве старыя бабулі і маўчаць.

Чытака за сталом бубніць над кнігаю і паглядае спадылба.

Жонка над нябожчыкам ціхенька вые і прычытае.

Болей — нікога ў хаце...

— Шчаслівы той чалавек, што не пайшоў на раду нікчэмнікаў, і на шлях грэшнікаў не ўступіў, і на месца душагубаў не ўсеўся...— бубніць чытака.

А мой жа ты сакалочак,
А мой жа ты галубочак!
Ты ж мяне жалеў,
І я цябе жалела,
А смертухна не паглядзела...
А што ж мне цяпер рабіць,
А што ж мне цяпер рабіць?

Так вылівае свой жаль жонка.

Гарэлкі па беднасці няма, і хаўтуры нудныя. Нудна бабам, нудна чытаку. Нават жонка як бы нудна вылічае: «Ты мяне жалеў, і я цябе жалела, а смертухна не паглядзела...»

Добра, што і дзяцей няма: усе паўміралі. А то былі б няшчасныя сіроты.

## РУНЬ

### I

Не падумайце, людзі добрыя, што ў апавяданейку гэтым выдумка хітрая, пляцень мастацкі... Не.

Яўна парушаючы законы пісьменства краснага, пішу я тут аб тым, што сапраўды было. Пішу без прыкрасы самае найменшае: пішу так, як праходзіць цяпер яно, мінулае, прад вачмі духа майго.

Спраўляю тут памін свайму дарагому, незабытнаму таварышу.

Я ведаў вялікія сілы яго душы маладой і крыштальную чыстату гэтай душы.

Я ведаў... І я павінен расказаць братам беларусам, якую, можа, сілу, што была спаміж нас, страцілі мы.

Ці ж ткі страцілі, божа?

Дзе та цяпер ты, мой любы Уладзімеру?

Дзе ён, брацці мае?

Не думайце, што нябожчык ён. Скуль гэта ведаць? Я ж быў блізкі яго сябра, і я не ведаю, ці на тым свеце ён, ці на гэтым?

Для свае радні і знаёмых ён памёр. І так думаюць, што ён зрабіў самагубства. [...]

У паліцыі ж запісана каротка: «Уладзімер З.— прапаў без весці». (Поўнае Уладзімерава прозвішча напісаць тым часам не магу, дзеля незалежных ад мяне прычын).

Даходзяць, што ён утапіўся, цела ж яго не знайшлі.

А я, мяркуючы па яго натуры, успамінаючы яго думкі і дзе-якія словы, думаю, што ён жыве!

Жыве і куе долю новага чалавека дзесьці ў Амерыцы ці ў якой іншай далёкай краіне.

Цяпер (хоць гэта выглядае троху смешна, але заліваючыся хапаюцца за саломінку), цяпер я папрасіў бы, калі хто будзе ў Амерыцы і сустрэне, бывае, такога сур'ёзнага, думнага, невясёлага на выгляд, але гарачага па вачах беларуса (імя і прозвішча мог ён перамяніць),— дык няхай прыгледзіцца пільней, можа, часам знойдзе ў ім майго даражэнькага Уладзімера З. Росту ён сярэдняга, валасы цямнявыя, бледы, круглавіды...

Дык вось прашу не забыцца.

Быў ён сірата. Маці памёрла дужа рана. Бацька па смерці маці пачаў піць і неўзабаве пайшоў услед за ёю. Астаўся хлопчык адзін, маючы ўсяе радні дзядзьку з матчынага боку, што служыў у горадзе прыдзвернікам у нейкай канцылярыі; бацькава ж радня, якая была, даўно ўся выехала ў Томск ці на Амур. Быў хлопчык і галодзен і халодзен, нацярпіўся ад людзей... Потым паўчыўся ў аднаго садоўніка-латыша дагледаць сады, а ў яго сына-студэнта, высланага за палітыку ў N., добра няўся да чытання і пісьма. Служыў у садзе, чытаў шмат кніжак, паспрабаваў пісаць. Яго карэспандэнцыі і невялічкія абразкі, найчасцей пад рознымі псеўданімамі, а то і зусім без подпісу, друкаваліся ў «Нашай ніве» даволі часта ў 1909—1911 гадах.

Астатнія часы яго вядомага мне жыцця былі звязаны з жыццём светлае памяці Ядзі К.

Ядзя была адзіная дачка збяднелага тутэйшага шляхціца, апалячанага беларуса, чалавека даволі інтэлігентнага і калісьці нават рэвалюцыйна настроенага, але цяпер хваравіта ганарлівага і нейкага апушчонага, няшчаснага. Казалі, што ён крута перамяніўся пасля смерці першае жонкі, Ядзінае маці. Цяпер ён быў жанаты з прыезджаю полькаю, што была раней гувернанткаю ў сям'і аднаго абшарніка, пана П. Яна найшла замуж старою дзеваю, вышэй за ўсё на свеце ставіла панскія манеры і, забраўшы мужа ў рукі, муштравала бедную Ядзю як хацела. У іх таксама быў кавалак зямлі пад горадам, але жылі яны з таго, што бацька Ядзін меў тут, у N., нейкую канторскую пасаду.

Уладзімер ведаў Ядзю з таго часу, як яна прыходзіла з мачыхаю, а часам адна, у сад пана П., дзе ён працаваў, купляць ягады на канфітуры або фрукты на стол.

Яго бліжэйшае знаёмства з Ядзяю пачалося, наколькі мне вядома, пазней — пад час выбараў у нашым невялічкім і глухім горадзе ў мясцовыя самаўрады — позняю, страшэнна нуднаю і страшэнна гразкаю восенню.

Цяжкая гэта ў нашай глушы пара. Найбольшы лік самагубстваў, усякіх злачынстваў і скандалаў у N. прыпадае чамусьці якраз на восень. І так хочацца ў гэтую пору троху нейкай светласці.

Уладзімер ад рана да позняга сядзеў у склепе з яблыкамі, а начою займаўся самаадукацыяй па завочных курсах, а таксама шмат чытаў і пісаў.

Якраз «Наша ніва» рассылала тады сваім чытачам плакаты — вядома на беларускай мове — каб выбіралі ў мясцовыя самаўрады беларускіх адраджэнцаў-сацыялістых. Уладзімер наляпаў адзін такі плакат на дзверы ў склепе, і гімназісткі, праваслаўныя і каталічкі, ідучы міма, заўсёды прасмяхалі друкаванае беларускае слова на плакаце.

Толькі Ядзя К. спрачалася з таварышкамі, ласкава спачуваючы таму, хто гэта пісаў і друкаваў, і таму, хто першы ў нас на зрусіфікаваным усходзе Беларусі памеў смеласці наляпіць яго, каб усе чыталі.

Уладзімер аднойчы набраўся смеласці і спрапанаваў ёй прачытаць беларускія кніжкі, якія ў яго былі. Ён жа першы і паказаў ёй, як чытаць па-беларуску.

З гэтага ў іх пачалося збліжэнне, а далей і каханне.

Была зіма, прыйшла вясна, наступіла лета...

Ядзя зрабілася свядомаю адраджэнкаю, разгневала бацьку, мачыху, усю радню.

Нарэшце, яе падманам некуды павезлі і прысілам хацелі аддаць замуж за нейкага дурнаватага і старога, але заможнага шляхціца.

А зараз пасля таго, раптам, неспадзявана, але ўпарта пачала пашырацца ў N. глухая і няпэўная чутка, што нібыта Ядзя памёрла... Нават казалі: «Бедная Ядзюня! Не перанесла свайго сораму і ўпала ў скарацечныя сухоты...» Казалі, што пахавалі яе там, дзесь у глухім мястэчку ў Польшчы, адкуль родам яе мачыха. З фальшывым панскім уздыханнем апавядалі, быццам той багаты шляхціц паставіў ёй надгробак, «з мілым напісам і белым анёлам, які стаіць, узняўшы крылы, каб несці жаль маладой нявіннай душы на неба»... Шмат усякае няпраўды выдумвалі і казалі.

Ядзін бацька і мачыха, як паехалі тады з Ядзяю, так больш у N. і не вярнуліся, прадаўшы свой кавалак зямлі і ўсю маёмасць праз нейкага заезджага пана, што быў радня мачысе. І той пан ні слова ні з кім не сказаў пра Ядзю і так і з'ехаў.

Усе гэтыя загадкавыя акалічнасці наводзілі на думку, што весткі аб Ядзінай смерці выдуманы...

А як толькі вывезлі Ядзю, не стала ў N. і Уладзімера... Прапаў і ён. Ён нікому не пакінуў ніякіх лістоў, ніякіх запісак. На жаль, я быў тады вельмі далёка ад N. на практыцы ў вёсцы і аб усім даведаўся значна пазней. Але ад нашага агульнага знаёмага сябра Л. Задумы і ад кватэрнае гаспадыні, у якой жыў Уладзімер апошнім часам, пані М., я чуў, што Уладзімера хацелі арыштаваць і ён уцякаў, а ўцёк — вось як стаяў, ні з кім не развітаўшыся і без усякіх рэчаў. Ні Л. Задума, ні пані М. не верылі і не верац у яго смерць.

Напалоханая паліцыяй пані М. шчыра папаліла ўсе спісаныя паперы свайго добрага для яе, ды непрыемнага начальству жыхара.

Выпадкова захаваўся толькі адзін убогі пакуначак яго папер, які потым трапіў да мяне і я хаваў яго вось ужо без малога чатыры гады.

Тут розныя нататкі ў форме дзённіка — развагі з самім сабою, запісы штодзённага жыцця. Пісаны яны не для друку. Але я думаю, што маю права і нават лічу за абавязак падаць у друк усё, што можна, з гэтых бедных рэштак

яго літаратурнай спадчыны. Апрача таго, я палічыў магчымым даць кароценькія выпіскі з двух Ядзіных лістоў, якія таксама знайшоў у гэтым пакуначку.

## II

1 студзеня. Як цяжка пачынаецца мой гэты новы год. Людзі ходзяць, гуляюць, весяляцца, а мне так сумна, так сумна, што хоць ты на свет не глядзі.

Сварыўся з дзядзькам за палітыку. Кажа, калі не кіну, не дасць грошай на навуку. А многа ён даваў мне іх?

Як брыдка, усё ж, бывае часам жыць на свеце.

6 студзеня. Хоць мароз, на вуліцы шмат людзей, ходзяць, гуляюць, катаюцца.

І я хаджу! Хаджу як непрыкаяны.

І гляджу вось і думаю. Колькі слаўных дзяўчатак. І колькі іх, таксама, як і я, шукаюць сабе чалавека спаміж людзей.

Чаму ж не сойдуцца нашы дарогі?

Хаджу адзін...

2 лютага. Бачыў, як хавалі Астапа, што апрогся ад гарэлкі. Жонка, дзеткі-сіроты... Уздумаў па нябожчыка тату, няшчаснага чалавека.

Эх, ты, маленства маё... Мама ўмірае. Не разумею, і вясёл. А тады пачалося гора. Тата піў. І жалеў яго і злаваў на яго. Загінуў тата.

Дзядзька ўзяў да сябе. «Каб чалавекам зрабіць». Біў кійком. Дворнічыха ратавала. Быў дождж, сцюдзёна, я туляўся па надвор'ю. Яна ўзяла, грэла, гарбатаю паіла.

— Ногі як лядні. Лядзень — ляднём. Дзеткі мае...

На гэтую ласку ніколі не забудуся.

Потым прагнаў дзядзька. Мусіў пайсці на батрацкі хлеб... Навальніца, на начлег не вядуць, а мяне, батрака, гаспадар выправіў. Павёў я коні ў далёкі кут у поле, пад самы лес: напутаў, а сам лёг пад елкаю. Страшна стала аднаму ў буру. І каб не забіў пярун. Лёг у лагчыпцы на полі, пад буйным дажджом. Ляжу, схаваўшыся пад зніз увесь з галавою а пад мяне ўжо падцякае, а згары, па знізу, як па лубу, дождж: бом-боль-буль... ліп-ліп... Гром: гур-гур-гуррр — гручыць.

3 траўня. Вясна. Яблыні сёлета вельмі сільна і вельмі хораша цвітуць: усё злілося белым цветам. Працую ў садзе — і здароў. Але часам, мімаволі, находзіць нейкі сум,

цісне адзінота, не даюць спакою нейкія трывожныя жаданні.

25 чэрвеня. Ядзя К. прыходзіла купляць парэчкі. Спачатку не спадабалася. Паненка. Але — вялікі і гладзенькі і беленькі, зусім адкрыты лоб, негенькі-негенькі, як у дзіцяці, і вочы — карыя, ціхія, разумныя. У такой просценькай сукенячцы, але чысценькай, добра пашытай. Абходзілася, як [illegible] роўным. Пыталася без усякай фальшы ў голасе, колькі плацяць мне ў месяц.

20 ліпеня. Стогне душа... Шуміць галлё на бярозах, шуміць, гудзіць вецер, кідаецца ён, мякка-неслухмяны да мяне ў вакно, ірве на стале паперы. Звініць недзе муха, звініць, быццам увосень, перад смерцю. Верабей хутка праціўкаў пад страхою сваю песню... А мне ізноў сумна, сумна, сумна... І так у мяне — кожнае свята (сёння Ілля). Чытаю Джэка Лондана «Мартын Ідэн».

15 жніўня. Няўжо я закахаўся ў гэтую шляхцянку, што ў яе харошы лоб і разумныя вочы. Што яна мне!

27 верасня. Вось і восень прыйшла... Сумна. Абвяжам яблыні на зіму, і пераязджаю на кватэру ў горад. Ну і сядзі ў склепе пана П. і важ яблыкі — не столькі на пуды, колькі на фунты.

13 кастрычніка.

Хто хоча жыць — няхай жыве, а хто памерці хоча — памрэ няхай...

1 студзеня. Здароў будзь, новы годзе! Я спатыкаю цябе здаровы, моцны, упэўнены ў сабе і супакойны. Я буду жыць, я буду працаваць і змагацца. Мне сорамна за ўсю маю даўнейшую нуду і хныканне. Я быў адарваўся ад людзей і жыцця. Але ўсё тое мінулася, і я ізноў жыву і буду жыць. Мы яшчэ паваюем, і справа наша не загіне, не цешцеся, ворагі, без пары!

5 лютага. Няўжо гэта праўда, а не салодкі сон! Я не веру свайму шчасцю!

15 траўня. Ад усяго старога адраклася ты і пайшла... Незвычайная ты!

25 чэрвеня. Год таму назад ты прыходзіла купляць парэчкі, і былі мы чужыя, далёкія, а сёння ты сказала мне: «Я пайду за табою, куды хочаш. Я ўсё кіну дзеля цябе. Ты — мой брат і таварыш...» О, мая родная, кахаю цябе ўсім сэрцам! Радасць мая не мае слоў.

25 жніўня. Дык так. Паехаць, а там тое будзе. Эх, дарогу нам! Мы ідзём долю каваць, за мора, акіяны. Вышэй галоўку, Ядзя! Жыць!

«...Мой Уладзя! Мой любы, мой каханы, мой ненаглядны!

Я рада. Так! Ты мой, а я твая, твая навекі. І татка і мачыха ведаюць усё. І няхай. Я не баюся. Свядомая жанчына павінна ўмець змагацца... І хоць твая «маленькая сястрычка» Ядзя любіць татку, паважае шмат якіх знаёмых, але не паглядзіць ні на грозьбы, ні на слёзы, ні на што... Усё я выцерплю, і чаму раз дала я веры і па якой дарозе раз найшла, у тое буду верыць і па той дарозе буду ісці, ісці, ісці... Да труны або пакуль хопіць сілы»...

Мой дарагі Уладзя. Што ў нас дзеецца... Мяне схавалі за сем замкоў. Імя тваё забаронена гаварыць. Татуля маўчыць і маўчыць, на людзей не глядзіць. Каго сустрэне бліжэйшага з знаёмых паноў, пачынае жаліцца, што «хам галаву падняў, а моладзь наша бяспрынцыпна»; што ён «шануе працавітага хлопа і рад дапамагчы яму», але ж «хама, хоць бы і вельмі здольнага і таленавітага, у радні не меў і мець не будзе...»

«Мачыха... Ой, любы, я баюся пісаць пра яе. Сам шатан муціць гэтую жанчыну. Баіцца, што «імя яе прыплятуць да скандалу...». Плача: «Няхай бы праваслаўны, ну што ўжо там, а хоць бы ж роду шляхецкага, а то... які сорам!» Яна, відаць, надумалася штосьці рабіць і намаўляе татку, усё яму штосьці шэпча.

«Але нічога, Уладзя, не тужы. Мы — рунь, якая прабіваецца страшэннымі дажджамі і халадамі, але мы яшчэ некалі, як спелыя каласы на добрай ніве, закрасуем на роднай зямлі нашай»...

## ДА САМОГА СЯБЕ

Дык так, няўдалы Уладзімерка, у апошнія часы часцей ды часцей з'яўляецца ў цябе думка нядобрая, думка аб самагубстве.

На тым тыдні табе, здаецца, як бы й павесялела, і ты падбрыківаў, як цялё, выпушчанае з пунькі на двор, і пяяў у сэрцы: «Жыць! Жыць!»

А заўчора, па абедзе, лёг ты ніц на пасцелю, горача дыхаў у падушку, сцяў зубы, з сударгай абхапіў галаву і мучыўся...

Нудна! Нудна!

Скуль з'явілася тая нуда ў цябе, што пад канец, у

апошнія часы, так неадчэпна грызе табе сэрца і паддае ламаты і болю галаве тваёй? Чаму не маеш ты цікавасці жыць?

Чагосьці не хапае табе....

А чаго — ты і сам не ведаеш. Сам ты не ведаеш, што ты за чалавек.

Ідэалаў няма ў цябе.

Праўда? Не? Няпраўда? А вось жа праўда!

Ты — вышэй звычайнага чалавека сваім духам, але дух твой цяжка хварэе, бо сам сабе дайшоў ты смерці ў філасофіі сваёй.

Не варта жыць, бо няма нічога па свеце, што дзяржала б цябе ў жыцці, што гукала б цябе да жыцця...

Так... Чаго жыць табе?

Ты не жыў, а пражыўся. І невядома, ці разжывешся ты ізноў. Немаведама, ці палепшаеш ты пасля свае хваробы і ці закрасуеш ты! Ці падасі і другім хварэючым гаючае спадзяванне, што не ўсё прапала, што можна яшчэ паздаравець?

Уладзімерка! Ты не маеш сярод людзей чалавека, якому б раскрыў душу сваю, да якога б прыхіліўся. Можа, таму, што ты сам сабе гідак і непрыемен, дык баішся паказацца людзём у шчырасці сваёй, у брыдоце сваёй.

А ты ж ідэаліст...

Ты ж змалку гнаўся за праўдаю...

Гаротны!

Тут ізноў канец ліста аддзёрты. У далейшым лістку — дзіркі і плямы, і па тых словах, што можна прачытаць, не ўдаецца ўцяміць, куды кіравалася Уладзімерава думка. Даю тут што троху-многа зразумела ў астатніх лістках.

Папраўдзе, ну чаго ж я буду жыць далей?

Каб толькі не плакала Шура і не бедаваў Г. (любы хлопчык, які чалавек у ім!) і каб толькі ведаў, што будзе цераз 50 гадоў з беларускаю справаю,— дык цыяністы калі...

Беларуская справа... Што я магу? І што хто можа? Жыццё ідзе, ідзе... да нечага.

Праўда, што мы творым жыццё, але калі і праўда, то ці не ўсё роўна? Людзі!..

А каторыя з іх болей варты спагадання? Хто іх разбярэ?

Я заступаюся за брата-мужыка, а я ж яго не люблю, і ён жа мяне крыўдзіў болей чым хто.

А ты здольны, ты можаш пісаць, ты павінен працаваць, ты тое-гэта... Пасунь уперад, праслаў родную старонку. Нічога я не маю ў сабе. А каб і геній быў я,— усё роўна. Навошта? Усё некалі будзе невядомым, усё цяперашняе згіне.

Калі я перачытаў гэтую мясцінку Валодзіных пісанняў, мне ўвайшло на думку, што многія даравітыя беларусы асталіся невядомы свету праз такія вось свае погляды, якія ж да таго, дадам, пануюць сярод многіх беларусаў.

...І ўсё роўна ані шчасця мець не буду, анічога, бо ў думках дайшоў, што няма на свеце цікавага, новага і такога, дзеля чаго б варта жыці мне.

А тэлефон без дроту?

Ха-ха!

Хто хоча жыць — няхай жыве, а хто памерці хоча — памрэ няхай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выкінута, уважаючы на цэнзуру.

Колькі прыгожых дзяўчат! Колькі іх шукаюць, як і я, чалавека сярод людзей.

І я, дзякуючы сучаснаму сацыяльна-грамадскаму ладу, павінен жыць антымаральна.

...Пісаць — значыць працаваць дзеля людскога чытання.

А мне людзі — прыкрасць.

Гордасць? Не...

Ой, гняце нуда-назола; ой, гложа маркота вялікая сэрца мне.

Стагнаць... А спакою мне!

Хапіць цыяністага калі і ляжаць спакойна...

Думка аб самагубстве ўлежылася добра і ладна.— Значыцца...

Тут частка паперы згрызена смалянкамі, калі пісанні Уладзімеравы ляжалі ў пані М. на вышках.

Потым дальш невялікую мясцінку пісання яго я не даю ў друк дзеля таго, што ў ёй Уладзімер піша пра сябе і дзеля аднаго сябе і такое, што, па-мойму, не цікава для грамадства і, надрукаванае, не пайшло б на карысць светлай памяці майго друга.

Душэ мая, душэ мая! Восстані! Што спіш? Канец набліжаецца... І іматы смуціціся,— воспрапі убо...

Эх, тэмы, тэмы! Ну, Уладзімерка, вось табе тэма.

Ад маткі ў песнях, у казках, у слёзах, у стагнанні; ад бацькі ў рабскай маўклівасці, у злых словах, кляцьбе — мужыцкае дзіця збірае ў душу пянавісць і страшэнную імслівасць да паноў... Ах, што б зрабіў ён, сын мужыцкі, усім!

Добра.

Ты — сын народу. Колькі ты змалку бедаваў! І твой бацька і твая маці ўсё жыццё цярпелі ад паноў, ненавідзелі іх — і цябе навучылі непавідзець іх. Колькі ты ўсякага ліха мысліў, колькі краіў сабе сэрца зласлівасцю на паноў. Ах, каб меў сілу над панамі.

У порах, у пыл!..

Тады яшчэ не чытаў ты кніжак, недалужка Уладзімерка, і не хварэў на інтэлігенцкія хваробы.

Добра, і вось ты цяпер — «інтэлігент». А! Рука твая не ўзнімаецца на заклятых ворагаў тваіх. Ты баішся нават, каб людзі не даведаліся аб муках маленства твайго. Ты пішаш толькі «да самога сябе». Крый божа — даведаюцца «інтэлігенты», што на душы ў цябе! Стыдненька табе! Стыдненька, што ўкрадня ўночы конікаў вадзіў у панскі лес. Стыдненька, што пакляўся сам сабе, са слязьмі ад крыўды нязмернай, зарэзаць, як вырасцеш, аб'езчыка панскага за тое, што не толькі садраў у лесе хусту ў маці твае за кошычак ягад бяроставы, але і бізуном даў, і гідкім, страшным словам зняважыў яе, маму, пры табе, дзіцяці сінявокім.

Эх, чалавек, чалавек! Усё роўна не дабіцца табе, адкуль усё і што яно...

Людзі капашацца... Не ўсё роўна, хто там душыць каго! Я вышэй гляджу! Жыццё.

Дык не варта жыць, бо нудна.

Нудна; цікавасці няма.

Гэта ўсё, як відаць, напісана Уладзімерам да яго знаёмства з Ядзяю.

Потым, калі ён з ёю пакахаўся, мусіць, дапісаў яшчэ, што тут ніжэй.

Самагубства не выйшла.

Дый чаго паміраць, калі я жыў толькі ў думках? І толькі ў думках дайшоў да самагубства. Трэба ж самому добра пажыць, добра жыццё пазнаць. Можа, яно адказ дасць.

Дык так... Паехаць! Каваць долю. А там — тады тое будзе.

Як жа з Я.? Трэба, канешне, так ці гэтак... Божа! Як яна ўсё аддала мне, усяго старога адраклася і пайшла. Святая ты, Я.! Ты ўваскрасіла мяне. Дай ручку. Пойдзем! Эх, дарогу нам! Мы ідзём долю каваць за моры, акіяны. Вышэй галоўку, Я.!

К жыццю!

Звярніце асаблівую ўвагу на апошнія радкі. Ці ж так яны не праўдзяць таго, што гадаў я і гадаю аб долі Уладзімера і Ядзі?

Пэўна, жывуць яны ў Амерыцы або ў Аўстраліі.

## ВОЙТ

*Уладзімеру З. прысвячаю*

Камкі снегу вылятаЛі з-пад капытоў, засыпалі перадок у санях і клаліся войту на кажух. Сцюдзёны, рэзкі вецер свістаў яму ў вочы і круціў наўкола саней і каня і далей па ўсім полі, як бачыш, цэлыя хмары снегу.

Мароз браўся нанач яшчэ горшы, яшчэ злейшы.

Добры панскі стаеннік, аж белы ўвесь ад шэрані, даволі шпарка бег у завеі па занесенай дарозе, хуркаў і порскаў белаю параю ў бакі. Палазы безустанна скрыпелі, звінелі, ігралі, пялі і разам з маўклівым сумам увабраных у белае бяроз, якія застыглі абапал дарогі, наводзілі на пана войта нуду і маркоту.

Пасля настойкі, што паднесла ахмістрыня, троху вяло ў галаве. У горле было прыкра-гаркава пасля надта масляных сырнікаў, што частаваў кухар.

— Усё ладна, усё добра; паны здаволены, што дагадзілі гасцям і вясёла прагулялі маслянку... чаго ж болей?

Войт злосна варухнуўся і засоп, таргануўшы каня за лейцы.

— Не-е, чорт пацягнуў пана за язык пахваліцца прыгожымі дзеўкамі... На войта нараканне, а што тут войту?

Яшчэ зласней засмаргаў лейцамі і збочыў пад узгорак да хат, што цямнелі там, ля рэчкі.

Конь, пачуўшы цёплы дух, замахаў храпаю з абмёрзлымі вусамі, забарабаніў, збегшы з горкі, па вузенькім мосце і неўзабаве рухава падвёз санкі да крайняй хаты, дзе ўжо запалілі лучынку.

Кароткі зімовы дзень мінуў. Неба, цёмнае, пахмурнае, злое, было чырванейшае на захадзе і пагражала адтуль страшэнна лютым марозам.

Войт злез, кінуў каня хлопцу, што зараз падляцеў да пана войта, і пайшоў у хату.

Улез з холадам у невялікія дзверы, пахлопаў у парозе валёнкамі і хрыпата і важна марматнуў:

— Добры вечар.

У хаце было ціха. Гарэла лучынка ў светачы-стаяку, і ля полу вазёкалася нейкая баба. Убачыўшы войта, утапілася і завугнавіла:

— Добры вечар, паночку!

— Юрка тут?

На печы зашавяліўся чалавек.

— А-а, ты на печ схаваўся! Пазяб. Пан казаў, каб ты дзеўку сваю прыслаў у двор. Там сёння апошні баль, дык шукаюць дзевак пяяць ды скакаць, каб панам весялей было... А дзе ж Тацяна?

Юрка заварочаўся на печы, саскочыў на запечак, выгаварыў-ткі:

— Добры вечар пану войту...

І заскроб бараду ў задуме: «Чым скончыцца навала?»

Войт прыхінуўся да зэдліка, абчысціў вусы ад лёду, расхінуў кажух, здзеў цёплыя рукавіцы, разагрэўся, але так сабе, бо ў хаце было, як у пуні...

З чырвонага паяса звесіўся тоўсты бізун — знак войтаўскае грознае сілы.

— Ці там, паночку, без мае Тацяны нямаш каторых бліжэйшых? — адхіляў Юрка бяду.

А войт маўчаў і думаў: «Якая дурніца і дробязь усё на свеце...» А потым сказаў няласкава:

— Гаворàць табе: Тацяну — значыцца, Тацяну. Хай збіраецца, і вязі.

— Добра, паночку, добра...

І войту было троху смешна, троху брыдка, што Юрка не пярэчыць, а так лёгка згаджаецца і патурае: «Добра, паночку, добра»...

«Якая дурніца і дробязь усё на свеце»,— падумаў ён і адчуў яшчэ большую прыкрасць, што ўсё так па-дурному робіцца на свеце...

## [КНЯЗЁЎНА]

Чутна князёўне маладой, ажно з высокае святліцы чутно́, як безустання плешча і б'ецца аб кручы, і стогне, і вые неўгамонны Няпро.

Чутна князёўне-адзіноце ў ціхім пакоі, аж праз тоўстыя мураваныя замкавыя сцены чутно́, як вецер над борам грыміць безупынна, гудам-гудзяць і шумяць векавыя сосны.

І нудна князёўне, і здаецца ёй, што так і дождж на двары, мутненькі, дробненькі, пракурыцца бесперастання цалютку ноч, а дужэючы, ён бяскоіца будзе бубнець аб розпакалёрныя балоны акенныя, наводзячы невясёлыя думы...

Буль-бом-бом... Буль-бом-бом...

Дрыжыць-мітусіцца чырвоны агонь у лампадцы перад суровымі, стродкімі лікамі святых на старых абразах у цёмным куце. Святлеецца кут ад лампадкі. А дарагія, блікучыя шаты ўва ўсе бакі іскаркамі сыплюць і маркоту цягуча наганяюць.

Нялёгка на сэрцы ў князёўны Ганны, нялёгка — дый дужа...

Ціха ў пакоі. Як заўсёды, безгалоса пазіраюць райскія птушкі і сіня-блакітныя васількі з багатых тканін, што сцены імі паўвешаны ад столі да нізу.

І апошняя балона пісанай кнігі як ляжыць дык ляжыць на чырвоным аксаміце; а не дапісана, бо ў апошнія часы не ўдаюцца князёўне хітра-сплеценыя застаўкі і канцоўкі і красныя літары. Не ўдаюцца... калі ж сумна на сэрцы ад думак дзявочых.

І не даплецены фарботы прыгожыя. Мусіць, не плятуцца чагосьці яны. Забыты, закінуты на ўзорным стале...

І не спіцца князёўне — адзінотка ж яна.

Непрыхільна сэрцу ў ціхамірным, ды пустым пакоі.

Абхінула князёўна кунічаю футраю белыя плечкі і ўздзела мяккапушыстыя палуботкі на свае ножкі дробныя; па святліцы прайшлася, маркотна на пярыны свае ўзірнула, прысела, зусім жа слабкая, на аббіты скуркамі з мякенькаю поўсцю зэдлічак і галоўку на грудзі схіліла пакутна.

Апала тонкая, беленькая з кволенькімі пальчыкамі, князёўніна ручка на калені і з кален, а валасы, як багатая кудзеля кужэльная, рассыпаліся на плечыках і на футру; з нацямнелых ад смутку вочак закапалі-закапалі гарачыя слёзы — як светлая раса слёзы...

Плача князёўна маладая, прыгожая Ганначка.

Нашто біліся вы, хвалі, аб кручу? Ці на тое, каб тут ніцая лаза парасла?

Нашто грымелі вы над борам безупынна, вятры? Ці на тое, каб тут дзікі лес усю прастору аблёг?

Нашто курыўся ты, мутненькі, дробненькі дождж? Ці на тое, каб тут вечным балотам уся зямля заплыла?

Нашто плакала ты, прыгожая князёўна Ганначка? Ці на тое, каб заплаканымі вочкамі свету ніколі не бачыць табе?

## У ЧЫМ ЯГО КРЫЎДА?

### ДА ЯЕ

12 студзеня 1910 г.

Ці здарова ты, мая даражэнькая, мая прыгожанькая, мая любенькая Ганначка?

Каб ты ведала, як многа-многа чаго маю напісаць табе! Аж не знаю, з чаго й пачаць...

Усе нашы вучні з'ехаліся і хваляцца каляднымі навінамі, як хто адсвяткаваў. Пансіён увечары гудзе і грыміць; той на балалайцы брынчыць, той скрыпку наводзіць, той пяе, іншы галопае — мазурку вучыцца скакаць, іншы, грэючыся каля грубкі, гаворыць, як у двары на ігрышчы хадзіў (укруг яго груд хлапцоў, і ўсе рагочуць, аж столь у зале дрыжыць, і агонь у лямпе мітусіцца), іншы ў сталовай кілбаскі ўбірае ды пампушачкі розныя смакуе, успа-

мінаючы калядкі — святыя вечаркі, а каторы, схаваўшыся ў куток дзе-небудзь, пісьмы піша, піша.

Хаджу я, хаджу, як непрытульны, з вугла ў вугал, на ўсім пансіёне хаджу ці ў акно пажуруся, як там так рана невясёла цямнее, а снег сыпкі бялеецца, зверху круцяцца ўсё сняжынкі, дзьме замятуха касякамі па дарозе ад паркана, і нудна ж, нудна мне...

Тут, сярод гэтага тлуму і гоману, куды б я ні пайшоў, у вачах стаіш ты, Ганулька! Не п'ецца мне тут і не есца мне тут. Я дайжа драчоны і пірагі, і ўсё, што мама напякла і нарыхтавала мне сюды, прыехаўшы, аддаў таварышам, каторыя на святкі ўдвору не ездзілі. Сам толькі нядаў — дзеля гадзіся. Усё думаю і думаю аб табе, калі то ўвіджу?.. Доўга як ждаці.

І ці ведаеш, сёння на ўроку хіміі так залетуціўся, што і не чуў, як вучыцель, паглядзеўшы, што я не слухаю,— торк! зняцеўку да мяне, аж сэрца маё закалацілася. «Повторите, господин Зарембо, как, следовательно, получается эта кислая фосфорно-кислая соль?» Я пачырванеў, ускочыў і пачаў лупаць, вытрашчыўшы вочы. «Не слушаете?» — сказаў ён і ткі адстаў.

А ўрокі такія ж доўгія, цягнуцца-цягнуцца, званка жджэш не дажджэшся.

Пасля гэтага ўроку таварышы жартавалі і прыставалі ка мне: «Не слушаеце? А-а, улюбіўся, панічок! Замаркоціўся, коця-варкоця! Так, так, хлопча... Ну, а якая ж яна? Чарнявенькая? Як зоркі, вочкі, крамяны шчочкі... Вучыцца дзе? Ай ды Касцюк!» Як слова, ведалі, якая ты сапраўды. А што ты не ўчылася, то няма нічога, друкаванае ж ты разбіраеш, толькі пішаш не дужа ладна. Не думай, што ў грамаце ўсё шчасце. Ат, каб можна было вучыцца, дык бы вучылася, праўда?

І цяпера-цька, каб напісаць табе гэту пісульку, я залез у парожні клас, абгарадзіўся партамі і пільную, каб хто часам не падгледзеў. Лямпачка перада мною ціха і змрочна свеціць жаўтавата, у коміне вецер паціхеньку свішча, унізе, у першым паверсе, на гітары іграюць, і тужлівыя, прыгожыя, густыя гукі так і лезуць з нейкай ціхай пакутай і ў вушы і ў сэрца, лезуць і жмуць пад грудзьмі...

Божа мой, божа мой! Чаму я гэткі шчаслівы, што спазнаўся з табою, Ганнуся мая, і нешчаслівы, што жыву далёка-далёка? Здаецца, каб нейкая лятучая машына, ці кавёр-самалёт, як гаворыцца ў казках, дык бы выўчыў

урокі, сеў і паляце-еў бы да Ганначкі, хоць бы на адну-адну мінутачку. Ах! Ні разу не забудуся я на тое ігрышча.

Як то жывеш ты цяпер? Ці здаровенька? А ці бываюць вечарынкі? Ці прыязджалі к нашым дзеўкам сваты? А можа, хлопец каторы наш дзеравенскі высватаўся. І як, ці такі бярэ Міхалка Аўгінню, ці ўсё няма шчэ ладу? А к Банадысёвым у супрадкі ты, божа крый, не хадзі: іхны батрак, як усе кажуць, прыкры хлопец, мне ён надта не спадабаўся, такі буян. Мала за чым не пабіўся на заручынах у дзядзькі з бельскімі хлапцамі. Што яму вадзіла, што яны прыйшлі пагуляць? А гарэлкі ж наглытаўся! І мяне дзівіць, што ты з ім так любіш скакаць польку... Ці мала лепшых мальцаў ёсць? Адылі, ты не падумай чаго-якога, гэта я толькі так, к таму, што ён чалавек не то, што «не рахманы», як ты гаварыла, а дрэнны, скрыўдзіць як, і што ты яму, такому?

Прыпішы мне, што кажуць людзі аб дзядзькавым вяселлі. Як жывуць нашы: тата, мама? Як маладая дзядзіна?

Марку я табе пасылаю ў гэтым заказным пісьме; паперы возьмеш у Мэндаля, у яго ж і напішы пісьмо сама, адрас напіша табе Мэндалеўна Этка; павестку табе перадасць таксама яна, а дзеўкам нічога не кажы... І майго пісьма Этцы чытаць не давай, а чытай сама, я пішу табе чытэльна.

Ну, а затым і бывай здаровенька, мая красачка, мая журавіначка! Не нудзіся, прашу цябе,— што сказаў, таго не забуду, дай бог толькі скончыць школу, ужо не доўга!..

А людзі, калі смяюцца, няхай смяюцца, ці каму-то заказаш? І аб жыдаўчыньцы, з каторай, быццам, відзеў мяне слабадскі Піліп у гарадскім саду, як ездзіў у Багумільск,— брахня, і не давай ты веры, можа, катораму злосніку зайздросна.

Ты ў мяне адна, Ганя, мая першая і апошняя. Лепей за цябе не знайдзецца мне ў свеце.

Цалую цябе, Ганя, на ўсю сілу... Абшчапіўшы за шыйку, жалею-мілую на ўсю сілу...

Званок на вячэрнюю малітву... Дабранач, Анюта! Ганя!

На векі-вечныя твой

*Касцючок Зарэмба.*

P. S. (Пасля пісана.) Пішу пасля малітвы. Прысылай пісульку скоранька па адрасе: горад Багумільск, Магіслаўскай губ., пансіён такога-та вучылішча, такому-та. Мне

вучыцель за каляднае сачыненне па псіхалогіі (такая навука) «Чуўства сімпаціі» паставіў чатыры з палавінаю. Дабранач!..

*Твой Касцючок.*

Цалую цябе! Люблю...

## ТАВАРЫШУ

13 студзеня 1910 г.

Насмешлівы Андрэю!

Віншаваць з Новым годам у гэтым пісьме не буду, бо я табе паслаў сваю картачку якраз 28 снежня (здаровіў цябе), ці дайшла яна, ай не?

Як адсвяткаваў я ўдвары, пісаць не хочацца — сам добра ведаеш, як я жыву ў дзярэўні, калі прыязджаю з вучылішча.

Ведаеш... Не, браце насмешлівы Андрэю, не дагадаешся, што стала з тваім Кастусём: ён цяпер саўсім другі чалавек!

Я цяпер і сам дзіўлюся, як гэта мог я раней, у тыя гады, прасядзець у сваёй хаце цэлыя каляды, не паказываючы нікуды носа? Помніш, бывала: у цэркаў не езджу (хоць і тошна тым крыўдзіць бацькоў), бо «сучасная вера — ашуканства»; к радні не езджу, бо радня мая — з хамскімі поглядамі, бачыць ува мне «кандыдата ў немалыя паны» і прыкра тым выстаўляецца; на ігрышчы не хаджу, бо «што я там знайду? Тупых дзевак, буянаў-хлапцоў, мацершчыну і ўсякую брыдоту, карты, гідкае скалазубства, насмешку над маімі словамі аб лепшым людскім жыцці», і так далей, і так далей, і так далей. Валяюся сабе тыдні тры ў хаце за кніжкаю ў гордай адзіноце і душу маладыя здаровыя кірункі свае горкімі думамі: «Такая доля мужыцкага сына з дзярэўні, што пайшоў вучыцца».

Кніжкі, кніжкі й кніжкі. Увечары хіба прайдуся да лесу па дарозе, занесенай снегам, з маленькім брацішкам дый зноў у хату.

Матка пачне: «Сыночак! Трэба ж ткі табе сядзець у хаце цалюткі дзень!.. Прайдзіся ты хоць к дзядзькавым, калі не любіш сядзець на вечарынках з дзеўкамі, прачытаў бы што дзядзіне, як, бывала, маленькі, яна ж дужа любіць слухаць цябе. І дзеўкі гукалі — кажуць, што гэта з ім, з вашым Касцюком зрабілася — людзей баіцца». А я маме

па-кніжнаму і так надуўшыся: «Што я там, на вечарынках, знайду?» А дрэнна было на душы, а цяпер успомню — чырванею.

А бацька: «Не любіш дзеравенскай гульні — к настаўніцам бы з'ездзіў... Ты ж вучышся... і ім бы весялей...»

А я тату: «Ага, паеду... Як слова, я ў іх лепшае шчасце знайду, чымся на ігрышчах... Яны з папянятамі круцяцца, звяжыся я — скажуць нашы: і Касцючок, навучыўся па сабачы нюх — запанеў, да мужыкоў ані блізка, пан... Знаю я».

Змоўчыць бацька, а кініць, бо не на яго выходзіць.

Так, бывала, і пакутую «горкую долю сялянскага хлопца, што вучыцца». Скверуся сам у сабе, не бачачы следу...

Вось была філасофія!

Чырванею цяпер: госпадзі, які я дурус быў.

І адна злая ўцеха ў мяне: «Ці я адзін такі задаўся? Многа ў нас такіх дурусаў. І ты, насмешлівы Андрэйка, і ты... помніш? Цяпер, жывучы ў горадзе, забыўся хіба на тое? А цікава ведаць, якія ў цябе думкі цяпер на гэтыя пытанні. Напішы хоць трошку, а хацеў бы ўбачыць цябе. Ці зразумееш мяне — здольны дэмакратычны працаўніча? Не ведаю... За сваімі шырокімі грамадзянскімі поглядамі маіх маленькіх, вузенькіх, беларуска-сялянскіх не ўбачыш. Многа маю пагаманіць з табою.

Я адрадзіўся! У мяне **новая платформа...** Толькі, Андрэйчык, не смейся, што я яшчэ вучань. Як ты сам, помніш, кідаўся ў розныя бакі і сварыўся з дзядзькамі, прыязджаючы ў вёску на вакацыю.

Я адрадзіўся!

А з чаго пайшло? Адзін раз, у святы вечар, к нам у нашу хату прыйшлі і хлопцы, і дзеўкі, і старыя, і дзяцьвішча — гуляць. Набухталася поўная хата.

Тата скрывіўся на іх, быццам-то, бо я меў дзікі від.

А потым, а потым... Разышоўся я, і ўся мая старая філасофія к чорту!

А ўсё знаеш хто? Ганулька Леваноўначка... Толькі ты не смейся: ну, я, здаецца, улюбіўся... і ўсё.

Бліжэй, бліжэй — пасядзеў я з ёю, пагаманіў — якая слаўная дзяўчынка. Як я раней таго не відзеў? Затлуміў галаву кніжкамі сам сабе, праз тое хіба.

А цяпер... (кніжкі то чытаю, не бойся)... на ігрышчы хаджу, у цэркву езджу, к свату ў госці колькі разоў бегаў

і з хлапцамі ў дровы ездзіў. Вясёла! Мама рада. Толькі тата трохі не разумее мяне...

У гэтым уся паэзія нашага народу! Толькі мы гадуемся на чужым грунце і забываемся добра разумець свой грунт. Не смейся, што я — вучань... Як пазнаўся я з Ганулькай, я многа ўцяміў. Каб нам, ведаеш, свой беларускі прарок, каторы б прамыў нам вочы, у чым наша істота, паэзія жыцця, прыгажосць жыцця. А то што: тое лепшае чалавецка-беларускае, што ўзгадавала ва мне сям'я (не ўся сям'я наша, а мама, дзядзіна, цётка, дзед, дзядзька і яшчэ той-гэты), тое выкараняла доўгі час школа. І мой вучыцель першы быў — беларус! Які сляпы! Мала адукаваны, мала асвячоны... Ці наўчыла нас, слухай, наша школа любіць сваё беларускае, шанаваць прыгажосць роднай прыроды, пранікнуцца гармоніяй родных з'яў? Чаму нас вучылі!

Во й вісі паміж двух магнітаў. Ці выкараняй роднае карэнне і адракайся роднай хаты, ці ўцякай ад панскай апраткі і цягайся за прымітыўнаю дзедаўскаю сахою... хвароба на...

А як я з Ганулькаю? Ды што табе... Я ж скрытны беларус! Толькі ж ты мне блізкі, Андрэй, ты мяне зразумееш і не прасмяеш.

Божа мой! До пісаць. Заўтра ў мяне рэпетыцыя па тэхналогіі, трэба зубрыць.

А шчэ граюць у вушах скамарохі, шчэ пяюць дзяўчаткі родныя песні, прад вачамі так і мітусяцца хлопцы і дзеўкі ў скоках. А той міг! Сяджу я ў вугольчыку на судніку з ёю. Заступілі нас спінамі гуляннікі, дзівячыся на танцораў, гамонім мы... Не горш нашы дзевачкі, з каторымі мы выраслі, за пераштпіленых ненатуральных гарадскіх паненак. Ай што я... і там ёсць слаўныя дзяўчынкі... Дык вось... Сажмала мне ў адказ маю руку Ганулька і на пытанне маё хлапецкае змуцілася, схіліла галоўку: «Ага... ты ж бачыш...» — кажа. Зашчымела, зашчымела маё сэрца!

Я і скакаць навучыўся, з ёю польку скакаў; танцы ўжо не такі грэх...

Толькі табе хвалюся, даражэнькі Андрэй: люблю я Ганульку і яна мяне любіць. Ніхто не ведае.

Праз два гады паскачаш, дружа, на вяселлі, бо Ганне ў наскім быце няможна доўга ждаць. Калі я і ў высшае пайду — нічога, рукі ёсць, спецыяльнасць будзе, абы здароўе, пражывём.

Працаваць і вучыцца! Так, браце. Што там хавацца, будзем самі сабою, будзем самі здабываць сваё жыццё і долю. Працаваць і вучыцца. Не хачу я хлусіць; калі я палюбіў і даў слова, яна мая перад богам і перад людзьмі. І што ты пішаш, як цяпер у вялікім горадзе ў вас: сышоўся, звёў, канцы схаваў, хоць бы і проціў старой праўды, і кінуў яе, калі абставы і варункі жыцця сучаснага замінаюць,— брыда гэта, і гідасць, і подласць. Ваша гарадская моладзь сама творыць жыццё, дык сорам ёй звальваць віну на ненармальнасць сучаснага сацыяльна-грамадзянскага жыцця.

Сорам ім, сорам. Ты выйшаў з народа і разумееш, дык будзь чалавекам, разбірайся ў ісцінна паступовым. Праўда? Ай, каб я з табою ўвідзеўся, а то на паперы выходзіць не тое.

О, трудна, брат Андрэй, нам, мужыцкім сынам. Мы выпаўзаем са сваіх хат і папраўдзе (толькі не смейся!) маем жа нейкую зямельную сілу ў сабе, гэта не мая навіна, але хаваемся са сваімі ідэаламі, нясмела азіраемся на новай дарозе, шукаем вачыма прыпынку і, не патрапіўшы і не даўміўшыся з'яднацца і пайсці сваім шляхам, расплываемся патроху ў гнілым балоце згрызеных моллю чорных світак...

Выўчыліся! Выйшлі «ў людзі»! Сталі панамі...

Я не хачу так!

Няўжо ж табе не прыходзіла ў галаву думка на панскім балі: «Вось я, пан, гуляю тут, забыўшыся на колішнія жаданні, а не магу прывесці сюды свайго бацьку — селяніна (лёкая, рабочага, дворніка), матку — вясковую кабецінку (прачку, кухарку, швачку), братоў, сястрычак і другіх, бо яны — простыя?»

Ведаеш, тут у нас у клубе на вечарынцы за буфетам падавала гімназістачка, дачка буфетчыка; не папрасіў на вальс адзін студэнт. І што ж! Падышоў сярод залы старшына клубу і папрасіў дзяўчынку выйсці з залы альбо не працаваць за буфетам. Што ты на гэта думаеш?

А ў нашым вучылішчы 80 % сялянскіх дзяцей...

Дык дзе ж дзверы да жыццёвай праўды, як жа жыць?

Не ведаю... Не ведаю... А толькі я так не хачу!

А як будзе, як то будзе?

Ну, аб жыцці нашым вясковым пісаць многа не буду. Ведаеш, сам жыў... Таксама ўсё чыста, як раней. Толькі

троху быццам то варушацца: хутары, кааперацыя, земства... Але мала разумеюць, мала знаюць — ой, патрэбна праца!

У вучылішчы ў нас жыццё старое, грэшнае. Вучымся, вучымся... Многа часу лабараторыя адбірае. Вучыцелі на ўроках спяць, хоць і каляды нядаўна былі. Вучні, брат, на шкоду многія, на прыватных кватэрах асабліва, п'юць гарэлку, гуляюць у карты. Не дужа даўно аднаго ўволілі за п'янства, у другога адабралі стыпендыю за карты, сам дырэктар аб 11-ай гадзіне паехаў і застаў. Нядобра, ведаеш, што гэтыя гаротныя гулякі — хто? Сялянскія дзеці; адзін з Міншчыны з-пад Ігуменя, другі з Магілёўшчыны з Горацкага павета. Як яны будуць цяпер? Той, што адабралі ў яго стыпендыю, атрымлівае ад бацькі рублёў 5 у месяц, а рублёў 5—7 прысылае яму брат, вучыцель. А што, калі нам забараняюць рабіць вечарынкі, агульныя чытанні і інш.; цяпер і самі хлопцы, праўда, ужо не дужа цікавяцца... Эх, жыццё!

Ну, бывай здароў. Во распісаўся я. На 2 сямікапеечныя маркі... Пісьмо гэта, напісаўшы, прачытаваць не буду, бо баюся, што, прачытаўшы, не адважуся наслаць табе яго, па скрытнасці сваёй беларускай... Толькі ты не смейся, Андрэйчык! Не смейся, напішы незабавам адказ, будзь здаровенек і не забывайся на твайго сменнага

*Косцю Зарэмбу.*

## ДАМОЎ

**паштоўка**

Студзеня 14, 1910 г.

Добры дзень тату ў хату! Як жывіцё? Як маецеся? Я здароў. Даехаў аж надта добра й ладна. Вучуся. Смуціўся троху, што выязджаючы так заюшыўся, што не схадзіў к дзядзькавым папрашчацца. У дзядзінкі старой прашу прабачэння, што мала чытаў ёй на каляды, яна ж мне маленькаму столькі казак казала. І маме вялікае-вялікае спасібачка за ўсё, што мне напякла і нарыхтавала. Ехаў— не хацеў браць, а цяпер у пансіёне дык люба. А як маладая дзядзіна? Усім кланяюся, жычу здароўя і ўсяго добрага. Пішыце, якія навіны ёсць і ўсё-ўсё... Няхай Паўлік піша і Нінка дадасць, як вучацца і г. д. Ну, бывайце здаровы і вясёлы, мае дарагія! Татка, прасціце, што ў каляды было тое-сёе...

*Ваш Кансцянцік.*

## ЯМУ АД БАЦЬКІ

**(пакарочанае)**

Дарагі сынок!

Паведамляю цябе, што ў хаце, дзякуй богу, усе цяпер здаровы. Праўда, на той нядзелі матка, ішоўшы з абедні, троху прастудзілася і прахварэла дні са тры, але цяпер, хвала богу, палепшала і каля печы сама ўпраўляецца. А то дзядзька твой малады з дзядзінаю ўжо выехаў на службу к пану ў Пнеўшчыну, Антон жупаны хадзіў шыць у Міхасёўку, прабыў з паўмесяца, Панас канаплі ад Іцкі Броўды ў Смаленск вазіў — адрабляў, што набралі ў краме,— а Паўлі з Нінкай цэлы дзень няма — зранння ў школку пойдуць, дык я астаўся адзін з хвораю маткаю, хоць ты вазьмі ды як хаця кіруйся. І вады прынясі, жывёле падавай, дроў няма — дроў насячы, у пограб злётай — проста хоць гвалту крычы. Каровы галодныя мычаць, воўцы бляюць, свінні скігочуць — ну, не дай божа яшчэ і бабскую работу спраўляць. У сераду гукнуў старую Міхасіху печ тапіць; дык яна як выпаліла, рапа юшку зачыніла, напусціла чаду паўнюхтыньку хату. Як на ліха, я ўлучыў вольную часінку, прыйшоў у цёплую хату з марозу і пачаў задоўку віць. Чую смурод, кажу матцы: «Ідзі-тка ты памалу, напрануўшы шубу, к дзядзькавым, а то на хворую галаву ўчадзееш саўсім». Выйшла яна, а я, шапку надзеўшы, сяджу, думаю — не возьміць мяне. Але к вечару як заламала ў мяне галава, як пачало мяне доргаць, насілу агоўтаўся, думаў — жыў не буду. Прыйшоў змрокам Юры Іванавіч са школы з Нінкаю і Паўлікам, кніжак тваіх у мяне прасіць. (Узяў некаторыя беларускія, а таксама журналы і «Вайну і мір» Талстога.) Дык ужо ён мяне ратаваў. І вуксусам віскі цёр, і чаем паіў. Дадушы, думаў — не вытрываю.

. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Навін вялікіх няма. Паўля, здаецца, ніштто сабе вучыцца, Нінка тож па арыфметыцы мае «пяцёрку», чытае ўжо гладка, адно дрэнь — ніяк не можа наламацца гаварыць правільна. Як закулдыячыць: адно слова кніжнае, а дзесяць наскіх хатніх... Але настаўніца яе шкадуе, навучыла вышываць. І за мову не дужа то школіць.

Слаўноўскага папа жонка ў захвіцэнні была доўга, траха за чым жывую не пахавалі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Андрэй з Пецярбургу дзядзькам ліст прыслаў. Ён далёка сігае: працуе ў нейкай рэдакцыі, нядрэнна жыве. Вось і маламожнага бацькі дзіцёнак, сірата, а ў людзі выйшаў. Ці піша ён табе? І дзядзькі яго, як прыслаў паўсотні, ужо не кажуць, што скруціць галаву, у турму патрапіць...

Паны ізноў нашым людзям за падзёншчыну грошы не аддалі. Вось паны! Судзіся з імі, чыркайся! Лес чысценька зводзяць дарэшты: і каля нашага поля Гаёк аднавокаму Хвальзону аддалі за даўгі.

Местачковыя жыды краму Саўчанкаву спалілі, каб не перабіваў гандаль ім. Аднаго засадзілі ў астрог, але што ж, нічога не будзе. А Саўчанак саўсім зжыўся: надзел прадаў, грошы, якія былі, на тавар пусціў, усё дымам пайшло. Вось ты казаў: «Каб нам такіх людзей, як Саўчанак, ды наболей. Каб нам ды сваіх гандляроў...» Куды ўжо там! Вось і натаргаваў, наскакаўся твой хвалёны Саўчанак.

Пішы, як жывеш, як вучэшся. Можа, у грашах тугавата, можа, дрэнна кормяць у пансіёне — пішы, прышлю. А матка табе шкарпэткі і вязёнкі спляла. Шкарпэткі то ладныя, цёплыя, а вязёнкі — не ведаю, мусіць, пасаромішся насіць у горадзе. Далёка нашым бабам да матак тых латышоў, што, як ты казаў, і ў вучылішчы вашым у даматканых тужурках ходзяць. Толькі ты за гэта не гнявайся: што праўда, то праўда... Ну, яны такіх маргелак ці валенак не зваляць, як наш Юстын.

У Хлімона воўк аўцу з пуні вывалак. Ваўкоў к нам панабегла з Цёмнага Лесу — бяда! А забабонныя галовы кажуць тут, што гэта ехаў вясельны поезд каля чараўніцкага двара дзе-та ды й абмінуў закінутага зайца, не пачаставаўшы ведзьмака. Вось ён іх усіх і пракляў, і ўвесь поезд пабег ваўкалакамі, з таго і ваўкоў многа. Дураць людзі галаву. А Паўлік ужо аб гэтым і казку ад дзядзіны запісаў, хацеў пасылаць табе, ды я грошы на марку не даў, нечага яму, малому, многа знаць ды грошы на глупства траціць.

Газету добра, што выпісаў. Ніпцы я не даю чытаць, малая яна шчэ а, галоўнае, каб па-расейску наламалася. А Паўлік ладна чытае; старыя, вечарком калі, так уважна

слухаюць. Шкада, што хаця мала-мала, адылі ёсць не наскія словы. Расталкуй нам у пісьме, што гэта такое: паводлуг, кольвек, жагнацца?

Кланяюцца табе ўсе, бывай здароў. Вучыся, будзь вясёлы, не смуціся.

Твой бацька *Міхась.*

Са слоў Вашага таты пісаў і Вас прывітаю
*Юрка Аляхновіч*

24 студзеня 1910 г.

Усё гэта з маіх слоў спісаў, дзякуй яму, Юрый Іванавіч, калі быў у нас. А цяпер па майму загаду піша Паўлік, бо я не хацеў пры Аляхновічу пісаць. Што ты гэта ўздумаў такія пісьмы пісаць дзеўкам? Заказное! Ці прыслаў нам хоць калі заказное? І дзе твае вочы? Ці тут разумеюць што. Ведама, дзеравенская дурата. Адно — людзі смяюцца, і аб дзеўцы і аб табе гаворка пойдзе. Разлахаюць па ўсёй воласці. І мне будзе стыдна, скажуць — да чаго даўчыў сына. Каб у другі раз не пісаў. Падумай сам. Даволі таго, што ты па-мужыцку гаворыш (дурань другі падумае, як бы не ўмееш па-кніжнаму) і нідзе за ўсе каляды сярод паважнейшых людзей носа не паказаў, быццам то, што мы жывём у дзярэўні, дык ужо пушчэйшыя за другога картузага панка ці лапцёвага шляхціца. Адумайся, Касцюк; нешта ты чым далей, тым горай. Аляхновіч па-просту гаворыць толькі з ветласці к табе.

## ЯМУ

**(паштоўка з абразлівай карцінкай на другім боку)**

POCZTOWAJA PISULKA. ПОЧТОВАЯ ПИСУЛЬКА
ATVIRAS LAIŠKAS. POCZTÓWKA. ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

Калі ты дурак, дык не бегай за вясковымі, а хопіць з цябе гарадскіх. А то па Вялікадня пераламаім табе ногі і напішам зверх таго дырэктару ў вучылішча.

Паклон з насмешкаю ад Ганны.

6 к.
Доплатить

Мясцінка
па марку

г. Богумильск
Могисл. губ.
Пансион химико-технического
училища
Касцяніціну Зарэмбі
3 кл.

## ПІСЬМО АД ПАЎЛІКА

Брато Косця! Здароў!

Тата не ведае, што я табе пішу, ды шчэ па-беларуску. А пішу я табе на тое, каб ты не прысылаў болі пісем Ганне Леваноўне. А то толькі смяюцца і гавораць аб табе дрэнна, быццам ты які благі чалавек. Тата сярдзіт. Толькі мама й дзядзіна, як даведаліся, дык смяяліся.

Калі прыслалі павестку, Ганна блізка што лётала, а не хадзіла. Усім чыста, як бы не наўмыслe, паказывала яе і пачынала тужыць і хваліцца. А даждалася свята, гукнула дзевак і Цімоха, муршчыкавага сына, каб прачытаў, бо ён пісьменны, і пайшлі ў мястэчка к абедні і ў воласць за пісьмом. Прыйшоўшы ўдвору, усім паказала, як бы не хочучы, закрываючыся хвустачкаю і чырванеючы. І бацька й матка Ганніны тое пісьмо слухалі. Лявоніха адну палавінку адабрала ў дачкі і носіць за кабатом на грудзёх. І цяпер тое пісьмо хлопцы чыталі колькі разоў у Лявона на ўсю хату. Ганне наругаюцца, кажуць: «Касцюкова жонка». Адзін раз я дакляраваў Ганнінай сястры маленькай Маньцы ажно цэлую спісаную цятрадзь, што вучыцель мне аддаў, каб толькі прынесла мне тваё пісьмо, дык яна перш згодзілася, а потым пачала прасіць кніжку з людзьмі. Я не даў. Калі-небудзь выхаплю гэта пісьмо і падзяру, толькі ты болі не пішы, а то мяне Ганніным дзевярочкам дражняць хлопчыкі і дзеўкі.

А Ганна й не дужа ладная дзеўка; у яе на руках кароста. Адно што прыгажэйшая троху і байчэйшая за нашых другіх дзяўчынак, а любіць сварыцца і дужа ілжэць. Толькі ты не сердзіся, я праўду кажу.

Лявоніха набіла каля калодзежа вядро старому Хомку, што казаў ёй: «Не возьме Касцюк твае курносай Гінесі, знойдзе ў горадзе пад брылькам сабе».

І смеху й грэху.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

У нас адлега. Вучыцель даваў нам свае лыжы па снягу бегаць...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

І да т. п. (пакарочана). . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Твой брацішка *Паўля Зарэмба.*

27 лютага 1910 г.

## ЯМУ АД ЯЕ

Рука пісала, не ведала каму, а сэрданька сказала, што міламу свайму. Пішу пісьмо ад сардэчнай мукі, ляці, пісьмо, міленькаму ў рукі.

Пісьмо ад Анны Лявонавай Валюжыпіч няцэннаму другу, у першых страках маего пісьма, што звяшчаю вас, як люблю, паважаемы Кансцянцін Міхайлавіч, і што жыва і здарова і аб тым і вам зычу ад госпада бога і ўсяго ўспеха ў руках і дзялах вашых. А цяперыцька мы прадзём найболі ў сваёй хаце, то на Банадысева батрака пе сумнявацца, патаму как мы панімаем, што ж ён, как сібе хаціш. Аб тым вяселлю ўсё ладна, і ўсе гаворащь або водкі было даволі і ўсе здаровы, так што з мяне смяюцца, куды ж мне, как мы няўчоная мужычка і болі нічаво. А мне на тое песпакой і што вы сумысля ўсё гэта і па-дзеравенску гаворыце, а вы паўчопы, і каб можа пасмяяцца за тым вас цалую і думаю як аба мне і ці будзіць з таго што. У вас ёсць прыгажэйшыя і багатыя.

Астаюся любя

*Анна Лявонава Валюжыніч.*

24 февраля 1910 г.

## З ЯГО ПІСЬМА ДА БАЦЬКОЎ

...Паўля, кніжак не шкадуй. Чытай сам і другім давай. І кніжачку з людзьмі якую-небудзь аджалей...

К вялікадню я хіба што не прыеду. Экзамены зараз пасля святак; трэба рыхтавацца... Пагуляю ўлетку...

. . . . . . . . . . . . . . . .

*К. Зарэмба.*

18 марца 1910 г.

## ІЗНОЎ ТАВАРЫШУ

Насмешлівы і праўдзіва-разумны Андрэю!

Дужа, дужа прашу цябе: калі захаваў маё пісьмо, што я пісаў табе пасля каляд (доўгае такое), то ці спалі, ці падзяры, ці — што найлепей — прышлі мне яго. Не дзівіся і не смейся; сустрэцімся калі — раскажу ўсё.

Скрыўджаны жыццём *К. Зарэмба*

18 марца 1910 г.



Школа ў Вольшы,
у якой у 1903—1908 гг. вучыўся М. Гарэцкі.



Бацькі М. Гарэцкага —
Іван Кузьміч і Ефрасіння Міхайлаўна.

## СКРЫПАЧКА

Увесь час гняла яго думка, што бедны ён дужа. І сох ад думак, гаспадарку занядбаў, усё, што яму бацька адказаў, пагоршала.

Беднасць астатняя ў госці прыйшла.

— Асілачак мой бедны! — казаў часам свайму малому сыну.— Я бедны, і дзеткі мае бедныя, а ты будзеш яшчэ бяднейшы, і дзеткі твае будуць яшчэ бяднейшыя. Але падрастаў бы ты барзджэй. Ратаваў бы мяне сваёю сілаю. Ах ты, дзетка маё любае, няшчаслівыя мы.

— Ты мне, татка, скрыпачку купі, я табе «Таўкачыкаў» сыйграю.

А ўжо іграў на скрыпачцы з лучынкі і з нітачкамі замест струн. Дужа бедная была тая самаробленая скрыпачка.

— Детка маё! Купіў бы табе скрыпачку, але купіла ў нас няма. А можа, табе лепей дуду? — жартаваў з дзіцянём.

— Не, я не хачу дуды: яна дужа нязручная.

— Падрасцеш, дык пазручнее...— казаў ён сыну абы-што, а думка так і гняла, так і гняла, што бедныя, бедныя, дужа яны бедныя.

## ВЯСНА

Вясна, вясна красная!

На ўзгорках ужо праталінкі, а ўніз бягуць цуркі звонкія, на сонейку блішчаць.

А ўверсе — неба сіняе, чыстае! А ў паветры свежанькім, веснавым — жаўраначак, нябачны ў вышыні: цюр-цюр!.. цюр-цюр-цюр!.. цюрлі-рлі!..

Вясна, вясна красная!

Астатнюю губачку на кросенцах ткалля-дзяўчына: тах-тах! трах-лях! А зірне-зірне ў акенца на сонейка: вясна, вясна красная! А губачка астатняя... У гаёк песні пяяць, красачкі рваць, на кірмашы хадзіць, вяселлі гуляць... Ах, яшчэ ж губачка на кросенках.

* * *

Гэй вы, шчасныя веснавыя дні!

Ганначка, сястрыца! Пойдзем у таўкачыкі, а на лагу там ля балота жоўтых красачак нарвём.

І дзеразы зялёненькай, лахматай надзяром, і ялецу наламаем, і шышачак набяром: азяленім, ахарошым сваю хатку старэнькую.

Макравата яшчэ ў полі, зямелька не высахла...

А ты лапцікі абуй.

* * *

Гэй, вясна, вясна!

Гудзе вясна рана-рана, у цёмныя досвіткі. На ўсходзе стужка чырвоная расцягнулася, а наўкола — чуткі сон. Дрэмлюць выраі клапотныя, адны крыгі там усё крэхкаюць — далёка там, дзе вада шуміць, несумоўчна і скрозь сон. Гаёк зялёненькі ў тумане там стаіць, а бліжэй, на канаве, вербы пушыстыя сівеюцца.

Пялешчацца і крукае нехта-нейкі пад гайком па рацэ. Жораў дзетак сваіх купае там па вольным паветры веснавым.

Вясна сёлета не позная. Учора добры цёплы дожджык накрапіў, агрэст і смуродзіна дужа яркенька зазеляняліся. Сёння зязюльку, ішоўшы ў лазню раненька, пачуем — дадушы!

* * *

Гоман у плятнёвым прымыльніку, дзе сувалка і мялле белае, колкае, і мяліцы-раскірэкі заваленыя. Гоман там над рэчкаю паўнаводнаю, бурнамутнаю. Не крыгі — ільдзінкі толькі бягуць. Чэрпаюць ваду ў лазню голыя людзі, а тыя льдзінкі з вадою сцюдзёнаю ў вядзерца цякуцьнабіраюцца. Многа вады, не тое, што ўлетку, у пякоту жніўную.

Мыюцца людзі, гоман... Выбегуць хлопчыкі з лазні на лажок, бягуць голыя з лісцем прыліплым, уцеха іх бярэ, радуюцца, бо там, унізе, за гайком, крэхаюць крыгі астатнія.

Ох, ты, лазня ты наша нехалюзая, сёння ж ты, лазня, дзеля вясёнкі выпалена, сёння ж ты чыстая — на палку саломка чыстая пасцелена. Унізе вадзяначка з вадою сцюдзёнаю і цугун вады цёплае.

* * *

Ох, дайце мне, дайце венічак шаўковенькі, мыльненькі, каб ён гладзіў па целу гарачаму: змыю нуду сваю!

Буду махаць венікам, шугаць духам лёгкім, гарачым: нуду з цела і з думак змываць. Цёп-цёп-цёп!.. У-хва! Пячэ! Добра вадзіцу жаданую, сцюдзёную ліць на галаву. Добра тут распарыцца, распесціцца і ў салодкай млявасці — квох! — ляжаць ды ляжаць з прыліплаю лісцінкаю на баку, пакуль дзесь там Нью-Йоркі будуюцца...

Перасў ты, клопат, сэрца маё, што было ж некалі дзяцінае. Даўно-даўно тое было... І жорава пачуць можна было, і зязюлю-кукунь шэрую. А цяпер... Гора мне, гора мне — дзе вясна мая?

Бегаў з лазні, проста з палка, на лажок, аж да канавы, і сцюдзёнаю вадою абдаваўся там. А цяпер не пабягу. Эх, вясна, вясна красная!..

Эх, вясна!

Вясна, вясна красная!

Добра ўжо, добранька грэе сонейка згары, а ля ног яшчэ цягне халадком. Снегу на полі і ўгледзець няма дзе: вясна, вясна! Відзіма-відзіма траўка-мураўка на праталінках прабіваецца, рунее-зелянее,— на сэрцы весялей.

Пайду я ў адным жупане, новым паясом падперазаўшыся.

Гоман, гоман ля мяне... Б'юцца галінкамі пушыстымі... «Хвароба ў лес, здароўе ў косці!»

А нашто вы, людцы нядобрыя, па слаўненькі лясок хіру сваю насылаеце? Ад вашае хіры пасохнуць бярозачкі, ад вашае хіры трава пагарыць...

Біце сёння, хлопцы, вярбою дзяўчат: сёння дазваляецца. Біце здаровых, маладых...

Люблю цябе, прыгожая, за тое, што на грудзях у цябе красачкі прышпілены. Ах, люблю я красачкі!

І аб чым ты, дзяўчынка мая, так задуманая? Чаго твае вочачкі чыстыя засмуціліся? Кволыя пралесачкі... Нейкае трывогі не схаваць, не схаваць.

* * *

З горак вецер вее. Снег у равах, на дне, чорны. Жаўранкі заліваюцца на ўсе галасы. Жыта зялёнае. Мятлушачка ляціць... Мітусіцца першая мятлушка...

А ў балоце, за шляхам, разлягаецца веснавое: ква-а! ква-а! ква-а!

Жоўта-зялёныя, ліпкія, няроўныя лісцікі. Цёплае паветра, гусценькае, і лаза пушыстая, залатая.

Вясна!

падумаць?» — паглядзеў я на яго. Далей — што ён мае чатыры георгіеўскія крыжы, поўны георгіеўскі кавалер,— і гэта было для ўсіх нас яшчэ большаю неспадзяванкаю. Ён жаліўся на няпраўду і непарадкі, бо вызначылі яму пенсію толькі другога разраду, а здольнасць працаваць ён страціў зусім. І я аж падумаў: «Няўжо так?» З гэтае жальбы ён перавёў гутарку на «кручкоў-гарадавых», якіх не бяруць на фронт, на марадзёраў-абознікаў, якія таксама «зажырэлі» ў тыле, і на рознае тылавое начальства, якое прыцясняла яго сям'ю, калі ён быў на вайне. Ён жаліўся, што яго жонку і матку ганялі на работы, і бывала, што з канём, і не давалі жыцця салдацкімі пастоямі... «А тым часам, вось, суседзька наш, князь Друцкі-Любецкі, мае колькі тысяч дзесяцін, ані яго людзей на работы бралі, ані яго коні ў фурманкі гналі»,— з гневам і абурэннем вылічаў ён свае сялянскія крыўды.

І ў такі момант проста вочы мае расчыняліся на яго з радасным подзівам. Было дужа люба яго слухаць...

* * *

Яны павячэралі і рыхтаваліся спаць: маладуха слала пасцелі, а старая парадкавала ў печы і ля печы. Мяне цікавіла, ці будзе гаспадар маліцца нанач.

І што вы думаеце — ён не маліўся! Гэта быў для мяне рэдкі выпадак, што селянін клаўся спаць не маліўшыся.

Ды вось, калі мы ўдвух, я і артылерыст, ужо ляжалі на саломе сярод хаты, пакрыўшыся шынялямі, а падпрапаршчык расцягнуўся на лаўцы, курачы і жмурачы, як кот, вочы на босую Праксэду,— гаспадар загаварыў лішне нервова...

Я не чуў добра, з чаго ён прычапіўся да маральнага ўзроўню сучаснага свету, але мімаволі звярнуў увагу на яго ўзрушанасць у голасе, калі ён сказаў:

— Распуста цяпер такая, якую прадказалі прарокі на канец свету. (...) У даўней праве было тое самае: кожная салдатка жыла ў распусце. Нашы беларускі,— сказаў ён,— як-та далікатнейшыя, змірнейшыя. Ды цяпер, як насунуў сюды фронт, і ў нас тое самае...

Мяне зацікавіла, што ён і нацыянальна адрознівае сябе, хоць і кажа беларускі, а не беларускі. Але прарокі і канец свету не вязаліся з тым поглядам, які ў мяне ўжо складаўся на яго.

Праксэда маўчала, і маці маўчала. Яны, калі ён казаў

аб распусце, быццам прыціхлі, пакарыліся, цішэй сталі варушыцца — адна з падушкаю ў руках ля полу, другая з галлём ля печы.

Ён сядзеў на палу, марудна разуваўся, заняты сваімі неспакойнымі развагаміннямі, і казаў, як мне здалося, з наўмыснаю пэўнасцю — нібы загадзя ведаў, што яму не павераць. І пэўнасць тая была нездаровая і паказвала яго ў людскіх вачах горшым, чым ён мог бы быць...

— Якраз на вадохрышча ў 1914 годзе,— раптам пачаў ён апавядаць штосьці новае,— на вадохрышча, позна ўвечары, у якой 12-ай гадзіне ўночы, на шумнай — вядома, калядиай — вуліцы раптам зрабілася мёртва-ціха. Я з сватам толькі што вярнуўся дамоў. Што такое? Выйшлі на двор — аж там ві-і-ідна-відна, святлей як удзень. Спалохаліся мы, выбеглі з двара на вуліцу. І бачым: на небе, з усходу на захад, у белым-белым, светлым ззянні, але як у тумане, ідуць, ідуць, ідуць... У каго ў руцэ шабля, у каго стрэльба ці якая іншая зброя, кулямёты на каточках цягнуць... І напіс там, дзе прайшлі, вялікімі чырвонымі, аж гарацъ, літарамі — гады: 1914, 1915, 1916... З'явяцца літары і змеркнуць патроху, з'явяцца і змеркнуць... Не паспеў я добра прыгледзецца, як раптам жа ўсё — шух! Шухнула, і зноў цёмна...

Як ён перастаў казаць, уся хата маўчала, і ў цямноце (бо святло ўжо пагасілі) толькі папяроса ў падпрапаршчыка зрэдку пыхала чырвоным бліскам. Усе маўчалі, аж прыкра было. І я думаў: нашто ён сплёў гэты пляцень? Не проста ж так сабе, а з нейкаю мэтаю? А з якою? Хоча страхамі адвярнуць нас ад распусты, абараніць сваю жонку? Не верыць жа ён сам у сваю байку... «А можа, ты кантужаны і пляцеш цяпер плятні ад хворага розуму, паўчыўшыся троху некалі ў царкоўна-прыходскай школе?» — хацелася мне спытацца ў яго, але далікатнасць не дазваляла. Сусед мой, артылерыст, уздыхнуў (ці то пазяхнуў) і ціханька, неўспадзеўкі для мяне затросся дробнаю дрыготкаю — звычайна так бывае з нервовымі ці дужа змучанымі людзьмі.

— Довольна та сказывать бабушкины сказкі, дюша мой! — сказаў падпрапаршчык, шумна адвярнуўся да сценкі, закрактаў, засоп...

Я чакаў, што скажа на гэта гаспадар. Доўга чакаў, але ён змоўк. Я таксама не адважыўся парушаць цішыню, і ўся хата заснула — у цямноце, пад свіст восенняга ветру за сценамі і ў коміне.

* * *

Ураніі, яшчэ цёмненька, мы выйшлі з хаты на зборны пункт і зараз рушылі ў дарогу. Так што я не паспеў ужо прыгледзецца да гаспадара на дзённым святле ці прыстаць да яго з распытваннямі. Толькі мімаходам, ішоўшы на вуліцу міма навеці, заўважыў я, што там, пад навесцю, дзіўны гэты паляшук прыглушаным голасам, халяруючы, зусім не такі, якім здаўся мне спачатку, данякаў маладую жонку каля церніцы з лёнам за нейкую памылку ў рабоце, а можа, за што іншае...

І цяпер, чуючы яго раздражнёны голас, я падумаў, што чалавек гэты страшэнна зайздросны да свае жонкі, а можа, і мучаецца за нейкія яе памылкі за час, калі ён быў на фронце, а ў хаце ў іх начавалі такія ж пераходныя салдаты, як і мы.

## ГАБРЫЕЛЕВЫ ПРЫСАДЫ

*Брату Гурыку прысвячаю*

Дзён пяць ужо дрэннае надвор'е.

Цяжкія чорна-сівыя хмары навіслі над зямлёю, пахавалі горы, зліліся з мокрым лесам і то там, то тут мутнеюць, палавеюць і сыплюць пылам драбнюсенькіх капачак.

Часам дужэй падзьме знекуль вецер; раздзярэ мутную дзяругу хмар і патурыць па небе шкумацце аблок. Дажджавы туман курыцца далёка-далёка ўскрай неба, а навакол пасвятлела; уцякаючы да гор, пашуршэў астатні раз дожджык па галлю, яно зашумацела, сціхла — і паказаліся ніжэйшыя горы, зялёныя там, дзе лес, і шэрыя, скалістыя, дзе няма яго; а макушка гары-асілка Бештау ўся ў шпаркіх лятучых дымных аблачынках і патроху раскутваецца з іх.

Недалёчка ад сонца відаць ужо сіняя палянка чыстага неба, атачоная празрыстымі, белымі краямі парваных хмар.

Шумяць кляны. Стройныя елкі няўважна і супакойна ледзь калыхнуцца зялёнымі лапкамі.

Ізноў цямнеюць далі, сінеюць і туманяцца горы; ізноў збіраюцца дымна-сівыя грамады, хаваючы неба; ізноў палавеюць яны — і пасыплецца, як скрозь сіта, драбнюсенькае мокрае курыва.

Гэтае надвор'е канца курортнага сезону ўсё пільней кіруе думкі да абразоў роднага краю.

Сумна мне. Хворы я...

Прыйшоў вялікі час, і вялікай працы чакае краіна.

Мала я жыў, мала зрабіў. Хворы, капаюся ў мінулым, падводжу ўбогія рахункі. Не ведаю, куды павядуць мяне мае жыццёвыя дарогі...

І ўзышло на думку: нябожчык стары Габрыель і яго прысады...

Прах яго, пэўна, перасыпаўся са жвірам, а магільны курганок зглядзіўся. Пройдзе яшчэ колькі дзесяткаў гадоў, і падарожны чалавек не запытаецца, чаму прыгожыя прысады на N-скім шляху завуцца Габрыелевымі, які невядомы Габрыель даў ім сваё імя.

Быў грэшнік, баламут, п'яніца, картэўнік і гуляка. Яшчэ змалку атручаў жыццё сваёй ціхай, добрай матцы і ганарліваму, наравістаму бацьку. Вучыўся і не давучыўся. Хацеў прадаць душу чорту, але чорт не прыйшоў браць яе, дык пакінуў верыць богу і ксяндзу. Загубіў харошую кузынку: з'ехала ў свет немаведама куды і, кажуць, пайшла там у манашкі. Рабіў самагубства, але дактары ўратавалі яго. Жаніўшыся з дачкою прыезджага аднекуль з свету аднадворца-старавера, паспакайнеў і заняўся быў грамадскаю справаю: пасварыўся з начальствам, панствам і духавенствам, навёў страху на гандляроў; а сялян замуштраваў, ганяючы па розных «прысуцтвах», шукаючы ім праўды, і кончыў тым, што пачаў страшэнна піць...

Мімаезны гандляр-перакупнік, смаленскі рызнік (па-тутэйшаму трапашнік), лясны купец, прыблудны басяк, панскі ляснік і свецкі паніч — усе, каму не лень, пілі з дзівачным Габрыелем. Ён апух, без пары пастарэў, зрабіўся лысы. З жонкаю і дзецьмі — а дзеці ж падрасталі — рэдка размаўляў па-людску ў цвярозасці, а не даваў ім супакою прычэпкамі, калі дужа ўпіваўся. Пасля хлопцы-шахцёры на станцыі навучылі яго, старога, гуляць у карты, і зрабілася яго хатнім яшчэ горшае пекла: голад і ўсякія нястаткі, а падчас каіты — мукі ад яго нядатклівасці, раздражнёнасці і проста хваробы. Набліжалася старасць, і Габрыель троху-патроху зводзіўся дашчэнту... І садзіць бярозавыя прысады на шляху таксама губіла ўжо для яго свой ранейшы сэнс, пераходзячы ў звычайную прызвычку старога дзівака...

І вось Габрыеля даўно-даўно ўжо няма; збяднелы, выкарміў быка на продаж і вёў яго на вяроўцы на кірмаш —

бык забіў яго на дарозе. І жонку яго, пакутніцу Габрыеліху, «сталаверку», даўно пахавалі. Кавалак зямлі і жылы будынак над саламянаю, зялёнаю ад моху, стрэшкаю адышоў да N-скага ксяндза, калішняга апекуна над двума Габрыелевымі сынамі, што цяпер бадзяюцца дзесь па свеце, і трапіў такім чынам у практычныя і надта практычныя рукі Ісака Скорабагатага з N. Новы жыхар жыве і цяпер у гэтым доме, не папраўляючы яго. Не падумае направіць Ісак Скорабагаты і пазрытыя могілкі, што не ўваходзіць у ўмову аб пасэсіі з панам ксяндзом і падстаўніком. Не едуць сыны, службовыя людзі, з чужыны, і толькі бярозавыя прысады шумяць маркотную памяць свайму пасадніку вечнай памяці нябожчыку Габрыелю.

* * *

У малых дзіцячых гадах хварэў на нейкую цяжкую хваробу маленькі Габрусік. Пасля пералому да лепшання, перад сонечным раннем расплюшчыў ён апухлыя павечкі, і вока яго пала ўніз, на падлогу, на каравую, каляную анучку. Нянька сушыла і кінула, набегшы да яго маленькага брацікa. І каравая анучка была заліта першым залатым спапом сонца. Габрусік задрамаў у томнай, хваравітай дрыгоце і сасніў нешта дзіўнае. Не быў гэта сон у звычайным разуменні, бо, здаецца, ніводнае пачуццё, ні паасобку, ані разам, не мела тут удзелу, а было нейкае асаблівае пачуццё ўсяго «я», усяе душы, усяго цела. Сніў... не, не сніў, а ўсёю істотаю чуў нешта аграмаднае, масіўнае, і разам каравае, з гострымі, колкімі, цвёрдымі, як скаліна, краямі. І яно складала ўвесь свет. Быў часткаю яго... Яно было ўва ўсім яго целе. І наўкола ва ўсякай істоце... Нейкі жах ахопліваў ад таго, што чуў у сабе гэтую каравую, чорнабліскучую грамадзіну. І вось, з невыслоўнай салодкасцю, момантамі кароткімі і бязмернымі, пачуваў, як з яе, бязвобразнае і безабразнае, неспадзявана вытвараюцца простыя, стройныя лініі, гладка выструганыя сцены, нешта гарманічнае, музыкальнае, харошае і прыемнае незвычайна. І не... не ў лініях, гладкіх баках і формах вытваралася гэта гармонія, не вачмі бачылася, не дотыкам чулася яна, а ўсёю яго істотаю, невыказным чуццём розуму і ўсяго цела. Моманты кароткія і бязмерныя... І знікае гармонія, ізноў жахае каравае, чорнае і аграмаднае, усясветнае. А найсаладзейшая салодкасць разліваецца ў целе, калі на момантік прыймае каравае стройнасць жаданую... І ўрэш-

це знікла чорная грамада; рассыпалася мільёнамі іскрачак у бяздонні,— і, напалоханы і радасны, чуючы, як страшна тыхае сэрца, прахапіўся ён да сапраўднасці...

* * *

Прысады свае пачаў садзіць ён з малой прыгоды.

Ішоў аднойчы вясною ўночы па шляху і неспадзявана напаў на беднага селяніна над спілаванаю бярозаю. На другі дзень ён разам з гэтым бедным чалавекам высадзіў бярозкамі з свайго бярэзнічку цэлы канец старога шляху, дзе прысады даўным-даўно былі звёўшыся...

А пасля садзіў адзін, штогоду...

— Усё ж роўна ўсохнуць. Каровы высмыгаюць,— казаў мімаезны чалавек, асцярожна смеючыся і ветліва, ды з аглядкаю вітаючы пракуднага Габрыеля; — гэта старым людзём ці асілкам неяк здалося,— дадаваў ён.

— І мы ўсохнем. І нас чэрві высмыгаюць,— непрыхільна адказваў яму, хмурачы бровы, стары дзівак.

Мімаезны чалавек нешта мармытаў і рупіўся зручней сцебануць брухатую сваю кабылу.

Шмат усыхала дрэўцаў. Злоснікі псавалі іх. П'яныя кірмашоўцы вывaрачвалі калёсамі,— Габрыель садзіў ізноў.

— Ішоў час — і выраслі яны. Далей пад N. рэдка-рэдка дзе стаіць старая кацярынінская бяроза, і ўжо ўзімку высаджваюць там дарогу яловаю лапкаю. Будзённыя бедныя людзі звялі красу на свае патрэбы. А Габрыелевы прысады выраслі, сплялі ўгары густа-густа вецце сваё; вабяць у прыгожую вясну вока людское, улетку даюць падарожнікам і старцам прыемную прахалоду — і шумяцьшумяць песню вечнасці... А ўзімку, як зачараваныя, белыя, змёрзлыя, у бліскучае серабро ўвабраныя, паказваюць дарогу да дому беднаму коніку, каб вёз п'янага гаспадара ад лютае смертухны.

* * *

Восень. Апусцеў стары парк. Нудна шуршыць лісцё па алейках. Жоўтае, пасохлае, куды вецер падзьме, пакутна і безнадзейна ляціць яно. Шэрыя хмары збіраюцца. Вецер робіцца маркотным.

І ў тон засмучонай восені задрыжэла і заварушылася апалым лістам у глыбокіх сховах душы.

Лячу думкаю да краю роднага, да прысадаў тых.

За тысячы кіламетраў бачу іх...

Абсыпалася пажоўклае лісце, праляцелі на поўдзень даўным-даўно апошнія журавы, восеньскі вецер хістае галінкі ў прысадах.

Ціха і глуха.

Хіба часам галодная варона каркне там. Хіба часам нявшчасны бедны чалавек прапляцецца па разбітых калёсах, на худой клячы па каменнай грудзе або глыбокай гразі, маючы за пазухаю паперу ад начальства аб забітым на вайне сыне. Абголеныя восенню прысады лішні раз падглядзяць тады пахаваныя чалавечыя слёзы.

Многа бачылі яны на вяку сваім і найболей у завірушныя апошнія часы. І ўсё маўкліва прыймаюць на сховы, пакуль прыйдзе пясняр, распытаецца ў іх і песню зложыць.

А можа, у цёмную восеньскую ночку прыедзе гаротнік, згубіўшы лепшае сваё, і як жыццё ссекла радасць яму, так ссячэ і ён тую бярозку ў прысадах і знішчыць частку вечнае думкі і хараства.

Прысады, прысады жыцця майго! Дзе вы?

## [КІСЛАВОДСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ]

А яшчэ зусім нядаўна была пагода. Заліты цяплом, скрыпаў жвір пад нагамі на пляцы ў парку, блішчэў на сонцы тысячамі дробненькіх прамяністых дыямантаў, аж сляпіў вочы. Красавалі п'яныя краскі і злівалі свой тонкі хмель з прыкра млявым пахам парфумерыі ў людзей. Душная музыка млела ў паветры, нервуючы і дражнячы, быццам наркотык. Як далёка адышло тое гулянне! Быццам не было сонца... Ізноў, як гэтыя хмары, заклубілася і палящела ў смуткуючай душы.

* * *

Мы паехалі ў Кіславодск.

Ад Жалезнаводска да Кіславодска, як кажуць, кіламетраў шэсцьдзесят. Тым часам, калі ў нас, сярод высокіх гор, дождж і сцюжа, там, у Кіславодску, яснае, цёплае сонца, курортная публіка гуляе ў лёгкіх летніх вопратках.

Ужо на паўдарозе, каля Пяцігорску, значна святлей і цяплей. І ўжо відаць у бок Кіславодску далёкі светлы край неба, сіне-залаты, пагодлівы.

Скрозь тоўстую запыленую вагонную шыбу дзіўлюся, як мільгаюць белыя мазанкі, плятні вінаграднікаў. Ад высокіх закурэлых комінаў цэментнага завода цягнік крута загібае ў левы бок, адкуль выплывае харошае места Пяцігорск, раскіданае ў глыбокай лагчыне, па баках шумнай горнай рэчкі сярод пяцёх гор. Па шырокай вуліцы, па чорных засохлых камках гразі варушыцца даўгі абоз; пара за параю дыбаюць сівыя крутарогія валы, цягнучы даўгія вузкія драбіны з чалавечай фігурай пад вялізарным абвіслым брылём.

На гэтай вуліцы, па ліпкай гразі, у свежае, яшчэ цемнаватае ранне, ці па едкаму пылу, пад спякотай, маршыраваў некалі з сваймі салдатамі паэт нездаволення і журбы і крычаў тут, з нудою: «Напра-ва! нале-ва! рады-ы ўздвой!..»

У тутэйшым скверы ўдзячныя патомкі зграмаздзілі яму нязграбны помнік: на камені, у нібыта задумнай позе, сядзіць, рукою падпёршыся, афіцэр з калмыцкім тварам і валавокім поглядам.

Ён павінен углядацца ў той бок, дзе ў ясную пагоду за больш сотні кіламетраў блішчыць у небе срэбрам дзіўная, незвычайнага хараства, гара над горамі Эльбрус. Такое найменне далі ёй за яе дзве макаўкі; у перакладзе з туземнае мовы яно значыць — «Дзявоцкія грудзі».

Улева ад яе цягнецца галоўная хрыбціна гор, белая, як крыгі снегу, срэбраная, сярод срэбрана-сініх воблакаў, Як іншы свет відаць у далёкім небе!

* * *

Прыехаўшы ў Кіславодск, мы пайшлі цераз парк, прыгожы незвычайна восенным сумам і ціхаю ўміраючаю красою.

Узлезлі за горадам і паркам на Чырвонае Каменне і селі.

Прыгожае вокала было перад вачмі. Выяўце сабе засохлы калюжысты шлях, непаладжаны пасля вялікага дажджу. Цуркі беглі ў розныя бакі і прамылі вузкія і глыбокія равочкі, што цяпер абраслі ўжо мураўкаю. Павялічце гэтую частку шляху ў мільёны разоў; пабачце ў калюгах горад з белымі і чырвонымі стрэхамі; заместа мураўкі

лічыце чорны лес — і тое вялізарнае, чароўнае вокала будзе перад вамі.

Дол тут, дзе стаіць горад, быццам галіна сучкамі, разбягаецца ў розныя бакі. І адкуль ні надзьмі вецер на малюнаценькія, калі глядзець на іх згары, белыя дамкі ў зялёных і жоўтых восенных садах — ім заціша і цёпла.

Надходзіў вечар. Сонца залаціла зямлю. Павяваў лёгкі горны вецер. Паветра — свежае і прыемнае, салодкае, што бывае на Беларусі ў добрае сонечнае маёвае ранне; зычна і музыкальна пялялі ў ім курортныя лакаматывы. На дарожках і сцежачках паўзлі на горы і назад, гуляючы, людзі.

Хацелася заплюшчыць вочы і выявіць сабе гэтае вокала, што ляжала перад намі, без людской культуры: у думках адкінуць гарадок, і дарожкі, і гудкі.

Вялікасным і жудасным здаваўся абраз!

Грамады гор, бяскрайнія гушчы лясоў, пустэльнасць, спрадвечная дзікасць пад нямымі, самотнымі, немаведама куды скіраванымі ў сваім лёце аблокамі...

Спрадвечны вецер абвявае дзікае зелле на адхоне гор...

Вечнасць. Жуда. Блізкасць пачаткаў.

Нешта вялікае і магутнае, але страшнае розуму, што не дарос да гэтае вялікасці...

Яшчэ доўга сядзелі мы з сябрам на Чырвоным Камені. І цяжкае пачуццё, што адпусціла было, ізноў пачало сціскаць мяне: чаго жыць? аб чым думаць? І ў тон засмучонай восені задрыжаў і заварушыў апалым лістам у апусцелай душы...

Эт, што там! Як-небудзь прыкінуся, як-небудзь пражыву. Звяжу як-небудзь тыя, мною ж парваныя, ніткі, што прышыты імі чалавек да зямлі. Ах, барздзжэй бы звязаць. Ах, угамуйся ты, праклятае чорнае пачуццё! Бо ізноў закрасуе вясна.

Ляцеў думкаю да краю роднага... Чамусьці не выходзяць з галавы прыгожыя алеі, што пасадзіў Габрыель.

За тысячы вёрст бачыў я іх. Абсыпалася пажоўклае лісцё, праляцелі на паўдзён даўным-даўна журавы, вецер восені хістае галінкі алеяў. Ціха і глуха. Хіба галодная варона каркне над імі. Бедны мужычок прапляцецца на разбітых калёсах.

А можа, у цёмную восенную ночку прыедзе гаротнік, згубіўшы лепшае сваё, і як жыццё ссекла радасць яму, так ссячэ і ён тую бярозку ў алейцы і зніштожыць частку вечнай думкі і хараства.

Алеі, алеі жыцця майго! Дзе вы?

## ЗНІБЕЕ СЭРЦА

Дзіўнае неба. Упакойна-гарачае сонца. Жыватворчае паветра.

Знямелая гара-асілак кукобіцца і дрэмле і нагадвае егіпецкую піраміду. Як прыгожа вакол!

А парк повен прыбранага панства. Ныдвіць у галярэі неўрастэнічная музыка: карціць яе слухаць, але яна неяк непрыемна ласкоча...

Скрыпае пад ботамі і блішчыць на сонцы жоўценькі жвірок з дробненькімі чарапашкамі, белымі, як белыя парасоны над лавамі для сядзення хворым.

Зялёныя груды лісця на дрэвах і кустах застыглі ў цяпле, а п'яны водар кветак бунтуецца з парфумаю курортнай публікі, што тут гуляе.

— Усё — як заўсёды!

Старая простая жанчына, з белым вузлом бялізны на старых плячах, цяжка прыкандыбала лесавою сцежачкаю з пасёлку да цалебнае крыніцы.

Яна бачком абышла паноў і з прыроджанаю простаю ласкаю папрасіла ў дзяўчынкі-вадалеі чаўхірачку гарачае вадзіцы, што шляхоча а шляхоча там з-пад каменнае гары ў трубу пад высокаю, дзівоснаю паветкаю на чатырох мармуровых калонках.

Рухавая дзяўчынка, з чырвонымі, як бачок цукровага яблычка, шчочкамі, падала панам, адылі ізноў зачэрпала, узышла вышэй па мураваных прыступачках і паставіла ёй, бабулі, на край крыніцы.

Бабуля асцярожна паклала вузел і качарэжку на кончык чыгуннага ўслончыка пад лаўрам і сама села піць. Яна такая спакойная.

Я змарыўся, я амяг сярод панскага натаўпу. І я прыкмеціў пакарнейшую, худую. І я гляджу. І я адпачываю.

Яна падобна да мае маці.

У сэрцы маім — нешта прыемнае і хворае. Як шчырае каханне. Як каханне таго, хто шмат думаў. Спрадвечнае і тлен.

Яна падобна да мае маці.

Маршчынаваты, хворы твар. Добрыя вочы труджэльніцы. Вочы, што зазналі гора і даруюць за ўсё. Непрыгожыя старыя рукі. Старэчая пахіласць і няроўная хада чалавека, уціснутага працаю.

Яна падобна да мае маці.

Ёй некалі бавіцца. Рыхтуецца пайсці. Бярэ качарэжку,

крэкча, і белы важкі вузел ужо гняце ёй плечы. Пайшла папрасцень у бок нашае здраўніцы. Я гляджу следам, пакуль белае мільгае сярод лісця, і я думаю, што там гэта пайшла мая маці...

* * *

Пайду і я.

Я амяг, высіліўся. Цёплае сонейка размарыла мяне.

Пайду кружна, вакол гары. Тут цянёк. Тут няма натаўпу. Пустэльныя сцежачкі. Не чуваць неўрастэнічнае музыкі. Чырванеюць у гушчарніку кізілавыя ягады і цыўкаюць малюсенькія птушачкі. Блішчыць праз зялёнае галлё, як быццам шкло, навіслая сярод карэлага дубовага сучча сцяна-скала.

Як тут ціхамірна, як тут упакойна!

«Ад зямлі ты ўзят, ад зямлі ты ўзят!» — шэпча мне на вуха самотнасць мая. Адкуль гэта? Што мне ўроілася ў галаву, які тут звязак?

А! Бабуля, бабуля, што бачыў ля крыніцы...

Пайду ў здраўніцу.

Адпачну крыху ў сваім пакоі, ахаладжуся, вып'ю прыкрых лекаў.

Адылі выйду я ў альтану, сяду ў мяккае панскае крэсла і аддам сябе пад уладу гарачаму, а не пякучаму сонцу. Салодкае паветра само льецца там у змучаныя грудзі.

Буду дзівіцца на прыгожую відаль, на лес на горах. Ён здалёку здаецца травою, нагадвае сенажаць на Беларусі.

І буду думаць пра свой родны край. Там цяпер сеюць жыта, дажынаюць авёс. Сівая, бліскучая павучына сцелецца па полю...

Ля ўвахода ў здраўніцу сядзіць тлусты, намагляваны і пяны швейцар, і мне гэта прыкра, бо я думаю пра людзей на сенажаці.

Гэты дом, кажуць, быў даўней уласнасцю вялікіх буржуяў. Цяпер тут значна агалела, абшкумачана, але тым часам — прыгожа і каштоўна.

Пад ногі пасцелены дарагі дыван. Ля столікаў у вестыбюлі нібыта абы-як кінуты пад ногі харошыя каберцы. У поручнях на сходах дзівосныя балясінкі з разьбою. У кутах і ў сценках-праціўнях аграмадныя люстры. У нішах антычныя статуі. На кожнай паваротцы, на пляцы-

ку — далікатныя кушэтачкі. Старая пазалота гапароза маўчыць, не кідаецца ў вочы.

Пацїху ўзыходжу і думаю свае думы.

* * *

І раптам бачу...

Яна, старая простая жанчына, з белым у рудэ, хапаецца выйсці ўніз, троху не кумільгом скаціцца, а ў адчыненыя дзверы пакою № 21 выпхнулася грубая вусатая постаць знаёмага мне вайсковага.

— Сорамна! сорамна! Табе, вужацы, абы грошы садраць. А йшчэ — старая. Сорам! Я табе дам за гэтыя насатачкі!..

Учора да вайсковага прыехала яго жонка, малюсенькая, але сценькая, пухленькая, з магляваным ружовым тварам маладзічка-пані. Яны сёння таргавалі і купілі ў заходжага перса буйны аквамарын. Я праходзіў тады міма і пакланіўся вайсковаму, а яна, нібыта незнарок, але ласкава і спагадна паглядзела на мяне. Яна шуршэла дарагімі спадніцамі і перабірала ў паветры негінькімі пальчыкамі. Пальчыкі ўнізаны пярсцёнкамі.

Ужо дзверы пакою № 21 замкнуліся, водгулле сціхае ў канцы калідора, і паважная ціша панскае здраўніцы нічым не парушаецца. А я стаю ашаламёны.

Бабуля, блізкая, родная мне бабуля, палахліва шарпае па прыступачках чувякамі, хапаецца. Яна збялела, як ліпіна, нешта мармоча і зрэдку плюскае вачмі. А вочы выцвілі, спалоханы і горка пакрыўджаны.

Знібее сэрца маё: яна так падобна да мае маці. Гэткі ж знаёмы маршчынаваты, хворы твар.

Упакойна жаркае сонца. Жыватворчае паветра. Ныдвіць музыка. Барвісты натаўп курортнага панства захлынуў пляцык і сцежачкі ў парку.

Бабуля з плаццем цяжка кандыбае з качарэжкаю да крыніцы. Ёй па дарозе ў здраўніцу.

Я прыкмеціў.

Заможныя людзі, буржуа... І я сярод іх. А гэта — мая маці. Яна падобна да мае маці, надта падобна.

І знібее дурное сэрца, бо я йшчэ хворы.

# ПАНСКАЯ СУЧКА

## I

— Ну хто заступіць ім Лэдзі? Ніхто!..

— Ах, гэткае няшчасце, гэткае няшчасце, пане мой! — казаў князь Вішнявецкі графу Пшаздзецкаму і знерваваны хадзіў па кабінеце.

— О, так, так, каханы пане! — паслужна патураў госць.— Я чуў, што пане князь даў за сваю Лэдзі каласальную цану?

— Але ж не, пане мой! Не надта ўжо і дарага. Я аддаў Любамірскаму за маю гаротную Лэдзіньку некалькі душ падданых. Эт, у выселках, пане, жылі, у ройстах, рогам убіўшыся ў Любамірскага загоны. Ну, колькі сем'яў пераганалі бліжэй сюды, а тых, рэшту, з кавалкамі балота, я адступіў суседу за Лэдзі. Ды не ў цане той справа, пане мой! А не ў цане! То ж гэткая мне страта...

— О, так, так, каханы пане!

— Няхай аджывяць мне маю Лэдзі, і я кіну за гэта ўдвойчы, утройчы болей — колькі хочаце! — сем'яў. Але ж яна ўжо — не жыве... Скапала мая галубка ўдосвецця, гадзіне а палове сёмай, пане мой. Ніякая ветэрынарыя не дала тут рады. Доктар спачатку даў надзею, што Лэдзінька напэўна ачуняе, і я меў тое безгалоўе — адпусціў яго дамоў, не пачакаўшы лепшае гадзіны. Мой уласны ветэрынар... але не! Я не магу, не магу супакойна ўздумаць на яго...

І князь паплёскаў далоняй аб далонь...

Нячутна адчыніліся ў кабінет дзверы, нячутна, як тая здань, даўся на вочы камердынер, з сівымі барадкамі ля вух і ў золатам вышытай фамільнай князеўскай ліўрэі.

— Хлоп слухае яснавяльможнага пана!

— Скажы камісару, пану Міхалу, што ветэрынара Будзьку аддаём у войска за нядольнасць у яго адмысловай працы. Выправіць заўтра ўрапні.

Граф Пшаздзецкі быццам меўся нешта сказаць, але, як на тое, дапіваў віно, ён папярхнуўся і закашляўся, а ў той час камердынер выйшаў.

— Лэдзі! Лэдзі! — засігаў князь з кута ў кут.— Бач, мой пане, нарадзілася яна ў Англьшчыне, і радавод яе не горшы, чымся якога літоўскага шляхціца з драбнейшых. О! Прывёз яе бацька Любамірскага, нябожчык пан Ксавэры, пухам яму зямелька. Ах, і што ж то быў за знаў-

ца і цаніцель! Сынок цяпер старанна абкругляе валадарства, але пары слоў не звяжа, блазен, у сабачых справах. І вось я дастаў ад яго Лэдзі. Яна прыйшла ў мой дом. Пане! Я ж дрыжаў над ёю, я ж яе кукобіў... Заўжды спала яна, мая галубка, ля маіх ног. І навошта мне было спускаць яе з Сангушкавым кабялём? Скажэце, пане мой, навошта, а? Ці ж гэткія далікатныя, гэткія кволыя стварэнні пана бога прызначаны быць маткамі? Вось я бачу, яна ўся ў маіх вачах. Памятаеце, пане? Якая пластыка, а? Якое хараство правільных ліній? Якая духоўная выразнасць кожнага мускула, кожнае жылкі! А стойка? А як яна мяне любіла! А, пане мой, скажу зусім без перавышкі... ці ўва ўсёй Польшчы і Літве быў калі сабака лепшы за яе? Ай, Лэдзі, Лэдзі!.. На тых вялікіх ловах у Панятоўскага, дзе быў са сваім услаўленым сабакам кароль Прусаў, мая Лэдзі была лепшай за ўсіх панскіх і каралеўскіх сабак...

— О, так, так, мой залаценькі пане! То ж гэткія Лэдзі нараджаюцца не вельмі часта сярод сабак, як геніі і таленты сярод людзей,— казаў Пшаздзецкі.— А паважуся спытацца: шчанючочкі... яны засталіся жывыя, пан бог хаваў?

— Так.

— Ну, то дзякаваць пану богу! Як мне здаецца, дык гора каханага князя павінна зменшыцца надзеяй на шчанючкоў. Уважаю на тое, што яны ж дзеткі слаўнай Лэдзі. Дый Сангушкаў сабака, я ведаю, добры сабака. Гадок ці паўтара — і ў каханага князя будзе некалькі добрых Лэдзі.

— Так, так... Засталіся сляпенькія, нядужыя. Здохнуць.

— Змілуйцеся, мой каханы пане! Пры добрым а пільным доглядзе, пры належным клопаце не могуць яны здохнуць,— выкачаюцца.

— Але не, пане! Бач, яны нават лактаць не здолеюць, ім трэба ссаць.

— Рацыя, рацыя, мой каханы пане. Але ж ведаю некалькі выпадкаў, што зверанятькі, пакінутыя ў гэткім стане, гадаваліся.

— Ну хто заступіць ім Лэдзі? Ніхто!..

— Так, гэта рэч няпростая. Але памяркуем...

Граф узяў жалезны кіёчак і біў вугалле ў каміне. Чырвоны водбліск ківаўся на яго вялікай і магутнай постаці. Даўгія вусы з гонарам віселі па баках вуснаў, што грэбліва, па-панску, выпіналіся.

— Мне прыйшло ўдум штосьці добрае, мой каханы пане,— сказаў ён і павярнуўся галавою ў бок да гаспадара.— Сёння на паляванні стары палясоўшчык пераказаў мне цікаўную прыгоду. Можа, казка, можа, не. Спазнілася аднойчы ў полі мужычка з дзіцёначкам. Мядзведзь злавіў яе і з дзіцёнкам прыцягнуў у сваю мярлогу. Быў удавец,— мядзведзіца яго здохла, пакінуўшы дзяцей,— дык залучыў бабу, каб была ў яго за гаспадыню. Баба выкарміла медзведзянят разам са сваім дзіцёнкам. Мядзведзь, як рыцар, дбаў аб усёй сямейцы, прынасіў мёду, хлеба і ўсяго, што задавалася сцягнуць на полі ў мужыкоў, у вуллях, у зямца і абы-дзе. Калі медзведзяняты падраслі, добры іх бацька пусціў тую мамку на волю, нават паднёс, кажуць, яе хлапца да самага поля.

— З гэтага выпадае, пане?..

— З гэтага выпадае, мой каханы пане, што дабрачынная мужычка знойдзецца і для Лэдзіных сіротак!

— Думка не благая! Толькі мне замінае тое, што нашыя хлопы яшчэ надта цёмныя, дурныя... Баба, напэўна, не зразумее, што маральнай крыўды для яе асобы тут няма, калі ходзіць аб выратаванні сіротак... А я, пане мой, хоць, можа, гэта смех, не хачу звязваць такіх, таго... такіх бабскіх пачуццяў з успамінкамі аб маёй Лэдзі. Не, не хачу!

— О, то-то-то! У словах каханага пана чуецца даўгое быццё ў Ангельшчыне. А я скажу пану: я болей за каханага бавіў час у нашых благаслвёных пушчах, і дух нашых хлопаў я, мой залаты пане, до-о-бра ведаю. Пане! Любая баба за гонар будзе лічыць і пойдзе з прыемнасцю... Пабыць у самым замку! — для іх то гэта вялікае шчасце...

— Так, мой пане. Але я, таго... не хацеў бы я, каб гэта пачалося ад мяне.

— Божухна мой! Толькі міргніце аканому ці там войту...

— А ўсё ж, таго, непрыемна. І толькі дзеля свае Лэдзі, дзеля яе бездапаможненькіх сіротак я складу ўсякую ахвяру. Ай, Лэдзі, Лэдзі мая! Яе ўжо няма.

## II

— Забіце, замучце — не паеду я!..

Поўны клопату, стары войт Рымарчук зранння быў не ў гумары і ў думках пасылаў да ўсіх чартоў здохлую заморскую сучку. За яе, праклятую, то й дзіві, і сам страціш

панскую ласку. Дапраўды, і не яго-то, войтаўскі, абавязак клапаціць аб тым, што дзеецца ў самым замку. Але ён — стары, зведаны служака, і на яго валяць усе труднейшыя і непрыемныя даручэнні. Рымарчук, ідучы ў чорную хату, клапатліва загінаў пальцы: ветэрынара да вайсковага начальніка выслалі (тут войт з прыкрасцю зморшчыўся, успомніўшы слёзы і выццё); ямку сучцы ў старым парку капаюць; з заказам на помнік у N ужо паехалі; псара Яську, што забыўся паказаць апальшчыку сагрэць пакой, дзе шчаняткі, абсеклі; застаецца галоўнае і самае дрэннае: знайсці і даставіць у замак мамку. І як мага барздзжэй. Каб цябе ліха — дзе ж яе так зараз знойдзеш? Але ведама, што ў пяцёх акругах ёсць мамкі. Толькі ўсё надта далёкія, вёрст за дваццаць, трыццаць і далей. Трэба гнаць пасланцоў па ўсіх, а самому трэба ехаць па самую бліжэйшую. Каля чорнай хаты ўжо прыбіралі яму вазок, але пасланцы не ўсе справіліся, і войт узлаваўся і падняў на іх голас, дражліва перавёў марудных бізунам, што насіў за поясам, як адзнаку войта. З крыкамі і лаянкаю сеў ён у вазок, піхнуў паваждая ў спіну і пакаціў па мамку...

Бязлюднае снегавое поле супакойвала.

Шэра і аднастайна было наўкола. Ані жывой душы. Прыдарожныя бярозы безуважна нудзіліся ў сваім сярэбраным прыбранні. На ўзгорачку, у кусточку, пырхала нейкая азызлая птушачка з чырвоным воллем. І сумныя ці няўважна-зачарсцвелыя вароны не агаламалі сваім грубым карканнем зімавых палёў.

У мутна-бялёсых далях, за грабеннем, курганнем і гурбамі снегу маячылі зубчатыя сцены, вежы замкаў, званіцы, дзівосныя горы, агорнутыя воблачкамі. Ды не: мужыцкія там хаты, як завеяныя завірухаю грудкі гною, выплываюць здалёк, сярод адзінотных бяроз і калодзежных сох з вагамі.

Уецца сіні дымок над страхою. Дзьмухнуў адтуль вецер і прынёс пах смаленай бярosты, дыму і жылля.

Пуста на вуліцы, заваленай хваросцем і карчамі з лядa. Пратоптаны вузенькія сцежачкі ад хаты да хаты, да паграбні і да гуменца.

Мятнулася з грэбнем і мычкамі лёну дзеўка і, спуджаная, таго ж часу дзесь прапала. За рогам стаяла грамадка мужыкоў з сякерамі за паясамі, у шапках-віславухах. Яны невясёла гаманілі аб нечым з дзедам, што нёс у рэзгінах рыжую асаку.

Зазвінелі, заскрыпелі палазы пад вазком — бліжэй, бліжэй! І ўсе мужыкі, хапаючыся, скінулі шапкі да пояса.

— Дзень добры, людзюхны!

— Дзень добры пану войту!

— А дзе тут жыве Таццяна Турботная?

— А вунацька тама, просім пана, тамацька на рагу, за крыніцаю жывуць Турботныя.

І колькі хлопаў паслужна замахалі рукамі і аблавухамі і пабеглі наперад паказваць.

Нізкія хацінкі і пуні ўехалі ў зямлю. Малюпаценькія акенцы, як бельмы на воку ў жаласнага старца, тусклелі ў бедных пузырамі, у багатыроў — мутным і таўстым бутэлечным шклом. Саламяныя маты і падстрэшшы закурэлі. Хаты курныя, без каміноў, і дым пракурыў усе шчэлачкі. Стрэхі з нізкімі шчытамі і акапамі. Сцены абкладзены саломаю ці канаплянаю сувалкаю — дзеля цяпла. Гэта дом прыгонніка, панскага падданага, гэта яго звярынае логава.

Пад'язджаючы да Турботных, войт непрыемна ўразіўся: на вуліцы, ля сцяны, стаяў царкоўны дзераўляны крыж.

— Хаўтуры ў іх. Дзіцёнак у Турбоціхі памёр,— сказалі войту.

Ён нізка нахінуўся і ўвайшоў у хату. Печ была толькі зачынена, і елкі дым яшчэ вісеў пад столлю і еў вочы. На лаўцы ляжаў пад белым грубым палатном, з венчыкамі па галоўцы, ссінелы маленькі дзіцёнак. Перад абразамі цеплілася жоўтым агеньчыкам чорная свечачка — падарунак якога-небудзь дзядзькі Ярмолы, тутэйшага зямца. Пад палком брыкала ў саломцы цялё; запёртая пад печаю курачка сакатала. У запечак забіліся, як звяркі, дзеці — дзяўчынкі. Сядзела ў кажухах некалькі спагадніц-цётак. Матка галасіла па дзіцяці:

А мой жа ты дзетачка,
А мой жа ты галубятачка!
Я ж цябе выпасіла, выхварала,
На прыгон у кашолцы насіла,
Сама жытца панскае жала,
Цябе снапочкамі ад сонца загараджала.
А ты ж мой дрыжоны сынулечка...
Хто ж мяне пад старасць прыгледзіць,
Кавалачак хлебца прыдбаець,
Хто ж мне прыгон служыць пасобіць?

— Царства нябеснае,— пераксціўся войт і ўздумаў адразу пачаць гутарку аб справе.

Бабы далі яму месца па лаўцы, змахнулі пыл хвартухом. Адна бабулька пачала гамаваць матку:

— Супакойся, мая любая. Няхай бог крые, як ты гаруеш, быццам па вялікім. Супакойся, рыбухна.

Нечаканая ўз'яўка войта ўразіла ўсіх і сціскала. Усе чакалі.

Абчысціўшы вусы ад лёду, Рымарчук не зусім адважна і не надта складна загаманіў:

— Вось што, Таццяначка. Трэба табе цяпер жа ехаць са мною ў князеў палац.

— Няшчасцейка ў мяне, пане любенькі... Аслабаніце, калі ласка панская. Не ведаю, навошта я тамацька патрэбна ў гэткі час?

— Там... бач, мамкі патрэбны. Чалавечае малако на лекі, ці што, патрэбна,— няўдалымі словамі напалохаў ён баб.

— Ой, нешта не так, паночку даражэнькі, кажыце нам усю праўду.

— Рыхтуйся, Таццяна. Праўды вам заманулася. Можа, трапіцца ўсяго дзень які пабавіць, потым другую прывяжуць.

Баба бухнула ў ногі.

— Паночку наш залаценькі! Абаронца наш! Змілуйцеся! Дайце ж мне самой пахаваць майго дробненькага.

Войт змагаўся і не ведаў, як зрабіць. Здань панскага гневу палохала яго. Надаўшы паважнасці, Рымарчук злосна буркануў:

— Няма там чаго... Зараз жа рыхтуйся!

Баба абхапіла яго за ногі і завыла. Ён, нарэшце, выпрастаўся і закрычаў ужо грозна, як прызвычаіўся за шмат гадоў вайтоўства.

Але баба раптам перамянілася.

— Не паеду!! Забіце, замучце — не паеду я!.. Не пайду ад свайго сыночка. Не аддам яго малачко на панскія лекі... Не паеду!

Гэта было навіною Рымарчуку. І ён замяўся, не ведаючы, што рабіць.

— Ну, ну, ну...— казаў войт,— пакрычы, каб князь пачуў, дурное бабства. Сёння ж увечары прыязджай: паспееш пахаваць. Так і мужыку скажы. Ён дзе?

— На прыгоне... У лесе калоды валочыць на сплаў,— адказалі бабулі за яе, бо маўчала.

— Так і яму перакажыце.

Войт паехаў.

Па дарозе, воддаль ад цяжкага бачання, ён пачаў каяцца, што не ўзяў адразу. «Ну ды нічога; можа, прывязуць мамку яшчэ адкуль»,— цешыў ён сябе.

Насустрач ехаў хлоп з возам карчоў і, угледзеўшы войта, хапатліва збочыў, тапіўся ў снезе каля вязнуўшага каня і скінуў шапку. Сабачка яго заліўся ярым гаўканнем і кінуўся да вазка.

Войт з задавальненнем працягнуў па сабачцы бізуном і ахінуўся кажухом цяплей.

Бязлюднае снегавое поле ізноў супакойвала, але зараджала ў глыбакосцях душы нязнаную нуду.

## III

— Закапаць іх разам з Лэдзі!

— Ну, войт, вязеш бабу? — сустрэў Рымарчука ля замка камісар увечары.

Войт доўга меркаваў, як адказаць.

— А ці з далёкіх ні аднэй не прывязлі, вашмосць? — спытаўся ён.

— Хто ж павінен ведаць? Для чаго ёсць войт? Ты ездзіў па бліжэйшую?

— Я, так, вашмосць. Незабавам, пане, прывязуць бабу.

— А шчаняты дагэтуль некармлёныя! Сцеражыся, войце! Князь не падзівуе, што ты войт.

А князь сядзеў на кукярэчках ля лубачкі ў пакоі шчанятак і бедаваў. Яшчэ трое шавяліліся і барохталіся, жаласна канькалі і лезлі адно на аднаго. А самы дробненькі ляжаў нерухома, убачку, закруціў галоўку і выцягнуў лапкі. Ён здыхаў. Стаялі сподачкі з малаком. Стаялі пачціва ля дзвярэй сівы камердынер і засмучоны псар Яська.

— Мае гаротныя лэдзіняткі! Мае бяздольныя дробныя цюцечкі,— квохаў князь, гладзячы мякенькую шэрстачку, і з любасцю пачуваў, як піхаюць у яго руку голыя мордачкі і жаласна хныкаюць.

— Ну, што ж баба? Дзе ж баба? — раздражнёна пытаўся князь, не гледзячы на людзей.

— Няма яшчэ, яснавяльможны пане, казаў камердынер, а Яська хмурыўся і маўчаў.

— Хто паехаў па бліжэйшую?

— Сам войт Рымарчук.

— І гэнага старога дурня дагэтуль няма?

Чалядзінцы маўчалі.

— Зараз жа даведацца і прыслаць яго сюды. У-у, бэлдасы,— зусім выходзіў князь з прызвычаёнай ангельскай раўнаважнасці.— І пана Міхала гукнуць! — дадаў ён.

Калі ўз'явіліся ўстрывожаны камісар і дрыжачы Рымарчук, князь быў грозен. Твар наліўся крывёю, мускул на шчацэ скакаў, нос пашызеў.

— Дзівуйся, дзівуйся! — пацягнуў ён войта за палу жупана.— Ты замардаваў іх галоднаю смерцю. Яны ўміраюць... Гэты ўжо канае. Ты не маеш міласлівасці, закаржэлы хлоп. Ты праваладводзіў цалюткі дзень дарма, пся крэў твоя. Ты надта даўно войтам, агідны смерд. Ты прывык лупцаваць хлопаў, і цябе мала абходзіць труд бедных драбнютак мае бяздольнае Лэдзі.— Князь намагаўся стрымацца і не мог.— Да д'яблаў гэтага нягоднага лайдака,— неспадзявана для сябе зароў ён, звярнуўшыся да пана Міхала,— у найдалейшую вёску, простым хлопам яго, брыдкога, пад пільнае дагляданне старасты!

І, пусціўшы Рымарчука, галасаваў:

— Вон! Далоў з воч маіх, пракляты смерд!

Войт, знямеўшы, паплёўся ў дзверы.

— Слухаю яснавяльможнага пана, — пракулдыячыў пан Міхал.

— Слухаеце? Вы — слухаеце! Работу трэба рабіць. Ідзеце сабе...

І князь сам пайшоў у пакоі. Пан Міхал засіпеў штосьці на камердынера, на Яську, пасыкнуўся быў да шчанят і вопрамець рынуўся з замка.

Перапуд пайшоў сярод чэлядзі і ўсіх людзей. Забегалі туды-сюды з ліхтарамі. Зазвінелі балабончыкамі хамуты. Сядалі вершнікі, гаўкалі сабакі. Пан Міхал кідаўся па двары і сыпаў праклёны і тэўхалі направа і налева. Паскакалі пасланцы ўва ўсе бакі сустракаць мамак. Гайдук памчаўся ў саначках на скараходзе па Таццяну. А войт сядзеў у пякарні, як хмара. Ніхто не важыўся ўмаўляць яго. А ён яшчэ не мог дасканала ўцяміць, што было, і прызвычаіцца да навіны. Адна думка свердліла галаву: як ён мог так зблагаваць? Паехаў сам-а-сам па бабу і не прывёз. Як ён не сцяміў тады? Але ўжо не паправіць, прапаў... Пан Міхал, зірнуўшы на момант, грэбліва і зларадасна ахапіў яго поглядам і буркануў: «Пся крэў! Наробіў бяды. Будзеш ты цяпер ведаць у мяне».

Пад поўнач прывезлі Турботную і ўрынулі к шчанюкам.

А пад ранне і тыя трое здохлі.

Увесь замак ведаў і прыціхыўся перад гразою, чакаў княжэўскага абуджэння.

І князь прачнуўся.

— Прачнуўся, прачнуўся,— зашасцела па ўсіх закутках замка, пранеслася па двары і ў чорных хатах.

Князь у халаце прайшоў да шчанятак. Яго адвярнула: брыдкая, нячыстая, зарумзаная бабішча забілася ў кут, як сава. Падхапілася і рушыла цалаваць князю ў руку. Ён з гідасцю адхапіў і схаваў руку за спіну. З нецярплівай цікавасцю падышоў да лубачкі і проста знямеў: гідкія, нечым аблітыя, ускалмачаныя, з вялізнымі брухамі, раскірэчыўшы каляныя лапкі, ляжалі нежывыя дзеці слічнай Лэдзі.

Моўчкі пайшоў магнат у кабінет, пляснуў у ладкі і загадаў гукнуць камісара.

— Ведаеце? — каротка спытаўся ён і не вітаўся, калі прадстануў пан Міхал.

— Ведаю, пане яснавяльможны, няшчасце...

— Чаму гэта?

— Трэба ўважаць, баба абкарміла іх сваім папсаваным малаком, пане яснавяльможны.

— Абкарміла? Ды як жа яна пасмела?! Можа быць, наўмысля? Можа быць, пачуццё пакрыўджанае маткі? О, якая грубасць, якая нялюдскасць у гэным дзікунскім куце! А можа быць, і сваволя? Так, так, безумоўна, сваволя. Тут усе распусціліся. Распусціўся войт, распусцілася чэлядзь, хлопы... Я не ведаю, дзеля чаго я маю камісара. Дзе выкапалі гэтую страшную бабу? Гэтую душагубку? У яе выгляд сапраўднай ведзьмы! Абкарміла, ха, ха! Накарміце ж яе самую так, каб аж піць папрасіла! Можаце ісці. Падбадрыце распушчонікаў. Ага... узвараціць ветэрынара Будзьку: няхай даследуе, чаму акалелі шчанюкі. Закапаць іх разам з Лэдзі!

## IV

*— Як накарміць чалавека, каб аж піць папрасіў?*

Пан Міхал уцяшаўся, што бяда блізка што мінулася. Адылі ўцяшаўся з асцярогаю, каб ногды не давялося расчаравацца. «Накарміце ж яе самую так, каб аж піць папрасіла!» Чорт ведае, што гэта значыць? А трэба ўцяміць і ў дасканаласці выканаць; доля войта зусім няўблівая. Рымарчук — хлоп; узнесены панскаю ласкаю на высакосці

вайтоўства — смерд; яму лягчэй зрабіцца ізноў тым самым, чым быў нскалі. А пан Міхал — шляхціц, хоць і запяпалы; яму не знесці сораму. Трэба старацца. Балазе дагэтуль ішло баразною.

— Скажы ты мне, Яська, як пакарміць чалавека, каб аж піць папрасіў, а? — спытаўся ён, сустрэўшы сабакара.

Той не зразумеў, прыняў за жарты і стараўся патрапіць пад панскі гумар; ён адказаў:

— Накарміць трэба ўволю, ласкавы пане.

— Накарміць? Ды мне па добрым абедзе курыць толькі хочацца, разумееш?

— А мне — піць. Анегдай пасля смажонага селядца я паўкухля квасу выжлуктаў у кухара, ласкавы пане.

— Ага, так, так, так! Па селядцу, значыцца?

— Пасля лазні надта піць карціць, ласкавы пане.

— Ага, пасля лазні яшчэ, Яська? Добра, добра, ты разумны хлоп, псар Яська.

— Сабакары ўсе мудрагелі,— вышчарыўся Яська.

— Ну, ідзі сабе да сваіх сабак, а то ізноў на што забудзешся.

— Дармоўшчына была, паночку...

— Ну, ну, пагамані ў мяне!

Пан Міхал пасля размовы з псаром Яськам прасвятлеў. Хоць не выпадае так доўга гутарыць яму са смердам, нядаўна абсечапым, ды нічога: гэпы смерд, чорт яму сябра, падаў добрую думку. Княвеўская воля будзе споўнена як след.

У садзе за старою афіцынаю аканома ліпела пад заплытым стаўком старэнькая закінутая лазенька. Камісар загадаў, каб як найбарздзей зрабіць у ёй парадак і пачаць грэць. У лазеньку ўмясцілі Таццяну Турботную і замкнулі на замок там, дзе парацца. Ключ паклаў сабе ў кішэню пан Міхал.

— Скрозь акенца даваць па пяць селядцоў уранні і ўвечары, а болей нічога не даваць. Няхай есць уволю, каб аж піцюхны пабажала. Цяпло ў печцы не спускаць дзень і ноч, ды болей пары паддаваць, а то азызне галубка,— казаў пан Міхал гайдуку,— паліць як найжарчэй, селядцы выбіраць як пайсальней.

Тры дні, тры ночы стагнала, хрыпела і драпала сцены знямоглая ад смагі, хворая, ашалелая баба.

Ужо і Будзьку павярнулі. Ужо ён з радасці пацвярдзіў, пусціўшы ў ход усё сваё ветэрынарскае веданне, што, да-

праўды, шчапятаў баба абкарміла малаком. Надта проста, што і сумысля, бо ўмеюць жа яны карміць сваіх, не абкармліваюць. Ужо князь, захапіўшы гатоўку ў глаўнай канторы і даўшы нарад фальваркам, закручаны ў мядзведжу поўсць, на шасцёрцы цугам шэрых з яблыкамі пакаціў у бясклопатна-вясёлую Варшаву, маючы далейшы кірунак на Парыж і Лондан, далей, далей ад старонкі дзікунства, згалення і забабонаў, што па дзіўпой іроніі дае князю залатыя звонкія чырвонцы.

Перад выязджаннем князя пану Міхалу надта карціла пахваліцца, як здагадна зацеяў ён тую ведзьму папрасіць папіцца, але не паважыўся турбаваць яго светласці драбніцамі.

Варкатаў камісар пад нос сабе: «За Нёман, за Нёман...» і адзягаў патранташ, рыхтаваўся прайсціся па парошы з бутэлечкай «погжэбовэго» па зайчышках, а вось гайдук прыйшоў з паведамленнем, што баба сціхла.

Знайшлі яе на памосце з абдрапанымі да крыві рукамі і грудзьмі, з шырока разяўленым ртом. Камісар збянтэжыўся і накінуўся на гайдука з папікамі і лаянкаю, чаму не сказалі раней, што яна ўжо такая. Са страху ён забыўся на сваю панскасць, прутка сарваў з пляча торбачку, выхапіў пляшку і частку «погжэбовэго» ўліў у непрыгожы і страшны бабін рот...

Пасля колькіх хвілін прыкрага для ўсіх чакання яна захрыпела і, душачыся, лыкнула ўліты ёй у самае горла спірытус.

Узвалілі яе на розвальні, прыкрылі паверх кажуха дзяругаю. Паважны і хмуры Яська павёз яе дамоў.

## V

— Вечны спакой!

Магнат Вішнявецкі ізноў уз'явіўся ў варшаўскіх салонах, асабліва цікавы і, як казалі далікатныя пані і паненкі, «невыслоўна адухоўлены» пасля самоты ў сваіх беларускіх пушчах. Усе ведалі, што славутая Лэдзі, якою вабіўся кароль Прусаў на пышных ловах у Панятоўскага, без пары згінула. Граф Пшаздзецкі пазычаў у князя грошы і не ў меру вёрз лухту аб яго новых поглядах, памеўшых поўную незадачу пры першым датыканні з кансерватызмам хлопаў.

Гутарка аб гаротнай Лэдзі зрабілася моднаю ў арыстакратычных салонах.

А маладзенькая жартаўлівая баранеса Фальц-Фэйн гарэзліва пяяла засмучонаму князю на жалосна-смяхотную мелодыю:

Гаў-гаў-гаў, сучачка!
Гаў-гаў-гаў, цюцечка!
Вечны спакой!
Без пары згінула,
Дзетак пакінула,
Вечны спакой!
Ой, лэдзінятачкі,
Дробны шчанятачкі,
Вечны спакой!..

## ІДУЦЬ УСЕ — ІДУ Я...

У нашы часы могуць жыць у творчасці толькі фанатыкі з правага ці левага боку. Вялікі сум нашых дум неравышае патрэбу тварыць.

Але гэта павінна ўжо скончыцца.

Вашыя словы

Я па шляху ў вялікім полі.

Далёка, далёка — лес, абгарнуты сіняю, быццам неба, смугаю, а тут, збоку, ходзіць статак і шуміць над авечкамі бяроза. Авечкі перабягаюць цераз шлях, а зводдаль ходзіць стары чалавек.

Ён у белай сярмязе і маргелцы, на плячах у яго торба і вясла лык, а ў руках у яго доўгая пуга і берастовая труба.

Як падзьме чалавек у трубу, дык у полі, у лузе, у зарасніку і ў лесе гудзіць, а гудзіць песня — маркотная, турботная і вялікаспакойная песня.

Песня аб спрадвечнасці.

І болькі сціхаюць балець.

* * *

Свая бацькаўшчына і ўвесь свет — вялікая пустэльня, у якой нічога не цягне да сябе, і ўсё нецікава; векавечная хада фармавання, у якой адно нішчыцца, рассыпаецца і йдзе матэр'ялам на іншае, новае, але такое ж нуднае, ужо вядомае, былое.

Даўней, калі тая смяротнасць чуцця яшчэ толькі пачыналася — было балюча і трудна, бо яшчэ карцела часам спадзяванне, што дзесьці (калі не ў пустэльні) знойдзецца нейкі прыпынак... ці нават нейкая мэта.

Болем вялікім было пачуваць вялікую адзіноту, не бачыць змыслу, нічога не ведаць. А навакольная суята проста атручала кантрастам з пустэльнасцю таго, што глаўнае. І хацеў памерці. Хацеў зрабіць барздзейшую хаду фармавання. Ды і была брыдкая, нелагічная цікавасць перайсці адвечны кардон — смерць, а можа, за тым кардонам нешта ёсць цікавейшае?

І далей — ужо не тое. Ужо не хацеў паміраць. Прызвычаіўся да суяты і кантрастаў і толькі шукаў сабе найлепшага стану ў гэтай суяце, у фармаванні, шукаў чагось найлягчэйшага для згарэлай душы.

Ведаў, што не варта змагацца і не варта кахаць, а ўцягнуўся ў змаганне і паддаўся на ролю аб'екта ў каханні. Ведаў, што апасля яшчэ вастрэй адчуецца нецікавасць і абмежаванасць быцця, але не вызваліўся... бо яно паволі і патроху, маментамі забывання, здавалася сапраўдным, дасягаючым.

Было прыемна ізноў прайсці па торнай дарозе, ізноў пусціць думку па старых слядах у мазгу, ізноў выяўляць сябе таёмнай часткай прыроды з таёмнай здольнасцю на салодкі сум у каханні і буйную здаволенасць задачнага змаганніка за людскія правы.

Было прыемна рабіць эксперыменты з маладой дзяўчынкай, для якой тое — нязведанае, святая першынка. Было прыемна забаўляцца, дражніць, сумаваць, знаходзіць прычэпкі для драмы, слёз, болю, адыходзіць. А да гэтай фальшы цягнуць і прыроду, прымушаць і яе хаўрусна рабіць тое ж: плакаць, весяліцца...

Было прыемна рабіць эксперыменты з людской масаю, для якой тое — святое, вялікае, заветнае. Было прыемна бавіцца ў фальшы, так падобнай да святой праўды.

І ў гэтыя часы прыкідання, калі водле псіхалагічна сімпатычнага падражання яно праходзіла ў нейкі сур'ёз, у гэтыя часы з'яўлялася нават нізкая жыццёвая думка: пройдзе гэтая хвароба, ізноў прыйдзе час шчырага жыцця, дзе ёсць не фальшывая праўда.

І так жыў далей.

* * *

Спрадвечны, бясконцы шлях у пустым вялікім полі. Ідуць багамольцы. Хатылі на худых плячах. Лапці. Сляпыя вочы. Востры душок поту і цяжкі пах прэласці. І шарпанне нагамі па сухому зеллю, і тупанне па пылу — крок за крокам. Жудасна марудны крок. І чорныя крыжыкі на відных з-пад славянскай кашулі худых, спаленых сонцам грудзях. І навокал — жудасна-ціхая пустэльня.

Пыл, пот, крыжык на грудзях, марудная хада, бясконцы шлях. Вечнасць.

Ідуць усе — іду я...

## ТАМАШЫ

### І

Зіма. Ноч. Вуліца. Бялеюцца сумёты. На лютым марозе пад вакном свае хаты — Тамаш. Вазіў ён шуркі ў мястэчка і запазніўся там. Замятуха змучыла каня, забіла снегам баранькавую шапку, вусы і бараду гаспадару. Ну, хваліць бога, прыехаў. Сціхае замятуха, гурчыць ласкава на двары сабака.— «Грук, грук, грук!» — стукае Тамаш у вакенніцу. «Га, пазаснулі, угрэліся, аглухлі...» Хлопае іспадкамі і грэе ногі: б'е пахлапень аб пахлапень. Грошы было шкада, дык не зайшоў у местачковы народны дом, не заказаў сабе там кіпятку і тарана. Злуе цяпер, што аж цалюткі дзень гарачае стравы не ўжываў, а гэткая сцюжа! Ізноў малоціць пугаўём па вакеннай маце, адступіў к варотам і тахае кулаком аб дошкі — «Гэй, адчыніце!». І пасля ў бараду сабе гамоніць: «Я прахаладаў, змарыўся, а яны і думаць на мяне забыліся». Яны — гэта жонка яго маладая і з пасынкам.

— Грук! грук! грук! Адчыніце! Ах, каб вам вушы пазаклала!

Чуваць — заварушыліся ў хаце. Бліснула святло, паляць лучыніну. Бразнулі дзверы. На панадворак выбег хто-там. Па хадне, мусіць, сын. Шкраб! шкраб! — апоркамі па мёрзлых каўцюхах ад ганку да варот.

— Тата! ці гэта вы?

— Няго хто. Спіцё, як мёртвыя.

— Здавалася, адразу пачулі.

Ляпнуў завал, адчыніліся вароты, ірвануў мышасты, і зазвінеў снег пад ходкімі палазамі. Уз'ехалі.

— Тпру, косю, тпру,— кажа Міхалка, адпрагаючы, і разважае аб тым, што бацька зноў усерджаны.

— Пяхцер пад паветку занясі, а каня гунькаю накрый,— гаворыць той ласкавым голасам: — ды не струшанкі,— сена клок падкінь яму, а сам мацае неракалелымі рукамі па санях. Знайшоў торбачку і важка засягаў у хату. А ў хаце маладая Тамашыха свайму старому вячэру ўжо рыхтавала. Увайшоў Тамаш. Моўчкі распрануўся. Павесіў зніз — армяк і з кажухом — на курчыну, абтрос снег, аббіў галлём ногі. Расправіў у бакі мокрыя вусы і бараду. Старэе дужа астатнія часы Тамаш, срэбра там-атам у барадзе бліпічыць. Агледзіўся Тамаш па хаце: адна Варка, больш нікога няма. І кажа:

— Міхасіху нанач не гукнула. Адна з пасынкам начуеш?

Маўчыць Варка. З воч хмары бягуць. Але кажа:

— Ізноў, відаць, злыя людзі нашапталі. Давай веры. Тваю гарэлку п'юць і тваю жонку ў вочы хаюць. Піў бы сам, а людзей не слухаў.

— «Хаюць»... Не загаварвай мне дарма зубы: пакуль што не бадяць.

Налівае Варка крупеню ў латку. Хвалямі ходзяць пышныя грудзі, а маўчыць яна. Але ткі задрыжаў палонік у руцэ. Каб не заплакаць, дробненька так, дробненька загаварыла:

— Бедная мая галовачка! Чымся так жыць, лепей задушыцца ці сыйці кудой у віры ад цябе. Хай бы вочы мае не глядзелі на гэтае пекла, хай бы вушы мае не слухалі гэтае музыкі....

— Мялі, мялі, маеш волю,— няўважліва кідае ёй мужык і адхінаецца да міскі.

— А ці прыйдзеш адкулецька, а ці прыедзеш, усё адно ў цябе ў галаве, ратуй мяне, божухна,— гаруе жалобным тонам Варка.

Гэтага хныкання не вытрываць Тамашу. Трэба абараніць сваё злаванне. Заёрзаў ён на лаўцы і закіпеў — болей наўмысля, чым ад сэрца.

— А-во! Слёзанькі... ці ведаеш! Гудзі, гудзі: пасынак не ўступіцца, а салдат не пачуе, бо ў дарогу паехаў. Гм,— ухмыляецца па-звярынаму Тамаш. Прайшла вачмі па старому Варка. Прыстоіла наўпроці, пільна агледзела яго ўся-

го, кінула наліваць страву, нядобра засапла і палезла на печ.

Направіў лучынку ў светашніку мужык і ўзноў прамычаў сабе ў бараду: «Гм... гм...»

Увайшоў у хату Міхалка. Нічога не сказаў, толькі шпарка прабег вачмі па хаце. Скінуў жупан і сеў на зэдлік. Зачырванеліся яго шчокі, рассыпаліся закруціста русыя валасы, і ён лёгка і прыгожа адкідае іх крэпкаю рукою назад. Сярдзіта сёрбае Тамаш прастыглую бульбу, цмокае, чаўкае. «Як свіння тая»,— мысліць сабе на печы Варка. А Тамаш ёй:

— Чаго лягла? Ці не пара б забыцца на панскія замашкі. Калі ў паноў ды ў жыдоў была, тады й качалася, а цяпер няма чаго дурэць.

Маўчыць Варка. «Акхі! Акхі!» — кашляе і буйна дыхае.

— Чуеш ты? — пагражае муж,— крупені йдзі падлі.

— Тата! я падаллю,— хоча Міхалка.

— Цябе не просяць!

— Крупеня, можа, укісла троху,— мякчыць сын нядобрую размову, а ў голасе прыкрасць застаецца.

— Што? — зірнуў Тамаш па сына.

— Я кажу: крупені падаллю,— уцёк ад бацькі вачыма хлопец.

— Цябе не пытаюць. Маўчы. У мяне і свае рукі ёсць, а ёй, гэта, не падаруецца. Хай не думае сабе: тутацька ёй не мястэчка. Ведала, кудой ішла, браў яе ўдзень, не ўночы,— так гаворыць Тамаш і ўвесь кіпіць, але адразу не хоча выказацца да канца. Надмуўся. Важка паглядае з-пад ілба і думае сваё дзікае.

Невясёла разважае Міхалка; не разумее ён бацькавае натуры. Прыціхла за комінам Варка. Дагарэла, не ўгледзілі калі, у светачы лучынка. Скокнуў агонь у сучок жоўценькім хвосцікам: «Дж, дж, дж!» І ўгору пацягнуўся горкі, сіні і сівы дымок. Па сценах, па столі, па траму ганяліся шпаркія, цёмныя і святлейшыя цянькі. Непрытульна, непрыхільна ў хаце; сцюжаю цягне ад вокнаў і з-пад полу. Шкумаццё раскідана паўсюдах.

Зваліўся агарак на зямлю. Горкі дым пайшоў па хаце. Міхалка ўсхапіўся шукаць лучыны, а бацька яму:

— Стой! Няхай яна запаліць.

Тая моўчкі сядзіць за комінам і слухае, як шуршаць у шчэлках прусы ў цямпоце.

— Варка! — крычыць Тамаш: — лучынку запалі. Чу-

еш? А то пажджы, пакуліцька палезу сам шукаць яе па печы, пажджы ты ў мяне!..

Крычыць, і сёрбае, і чвякае, наядаецца ўкісшае крупені з бобам.

## II

Так ішло жыццё ў Тамашоў. Яно даўно зрабілася звычайным і не выгукала цікавасці ў суседак. Ад часу да часу трохі толькі весялей крычала іншая маладуха, прыйшоўшы ў супрадкі: «Ці ведаеце вы? А ўчора Тамашы сварыліся...» Толькі Міхалкава душа, як і здаўна, востра прынімала боль, бо нясмелая была яшчэ на жыццёвай дарозе, а злашча сярод гэткіх прыкрасцяў, бо не спелася яшчэ ў агульным хоры. І вось за гэта лаялі мужыкі Міхалку мякінаю, папіхайлам і насміхаліся з яго. І навучалі хлопца, каб узяў ён бацьку за грудкі і паспрабаваў бы сваю сілку. А бабішчы былі такія, што саромліва казалі: «А мае вы бабкі, мае вы галубкі! Нячым гэтак кожны днёчак ім брахацца, дык хай бы, хай бы вось... хай бы ён, гэны Тамаш, сышоў кудой у свет, а іх пакінуў. Варка смялей, Міхалка не важыцца...» Даходзілі размовы да хлапца, і надта ж, бедны, мучыўся.

Аднойчы ў калядны вечар прыйшоў Тамаш дахаты троху выпіўшы. Ані з таго, ні з гэтага прычапіўся ён да сына, каб той ішоў сёння з двара далоў.

— Тата! Што вы кажаце? — здзівіўся сын,— чаго я пайду?

— Не давадзі мяне да злосці! Не хачу, каб ты сянні начаваў у двары, вось табе і ўсё. Ідзі.

Міхалка знайшоў шапку на куце, апрануў жупан і ўсё бурчаў пад нос: «У каго ціха — а ў нас ліха; у каго змірна — а ў нас ні разу. Хварэй яно, такое жыццё». Выйшаў ён з хаты і стануў у цёплых сенцах. Прыхінуўся да прыталкі і аб няўдалым жыцці ў сям'і іхняй задумаўся. «Каб мама жывая была, нічога б таго не было. А то бацька з маладою пабраўся дый валаводзіцца вось... Ах, божухна, навошта непарадкі дапускаеш?» Чуе Міхалка, як у хаце пайшоў бацька ад застолля к печы і кажа: «Варка! А Варка!» Маўчыць мачыха, не дае адказу. Маўчыць і бацька. І-і раптам: «Трах! Лёп!» — б'юцца — трывожна затукала сэрца ў хлапца. «Няго за мяне, за роднага свайго сына, ён так яе петуе, га?» — мысліць Міхалка і не можа ўцяміць, як бацька мае духу падазраваць на яго. І слёзы накручва-

юцца ў хлапца, тоскна яму. «Падпалю хату, няхай пагарыць усё. Як апануе бяда, скончаць калатніну сваю,— так сам сабе разважае,— ах, шкада: серчыкаў няма». Пашукаў у кішанёх. «Ну, што пажар такое? Некалі ж зусім нічога не мелі, а з часам усяго нажылі. Так і цяпер. Пагарэлі б, пабедавалі б дый на сваркі свае паганыя троху забылі б ся...» І паволі пачаў адпускацца Міхалка, але ўздумаўшы на матку-нябожчыцу, ізноў ён зажалобіўся. «Бацька.— Не даў матчынай магілцы абмуравець, як мачыху ў хату прывалок. Навошта права яму дадзена? Вось, бывала, матку без міласэрдзя п'яны біў. Чаму ж, калі ты добры бацька, не робіш так, як добраму бацьку выпадае?» Яшчэ колькі часу пастаяў Міхалка і надумаўся: «Пайду я, схаджу да дзеда-кутніка» — і засягаў у канец вуліцы.

Бабыльская хата ўрасла ў зямлю. Вокны яе былі абкладжаны пасканнаю сувалкаю і саломаю. Сцежачка ішла цераз самы грэбень высачэннага сумёту проста ў сенцы. А сенцы тыя не мелі дзвярэй і ніколі не зачыняліся: туды ў калядь і ваўкі часам траплялі. Міхалка ўлез у іх і пацягнуў за клямку. Хата была запёртая. Тады ён забарабаніў у дзверы выспяткам, ды ў хаце доўга не было нічога чутна, хоць праз дзірачку-шчыліну і прабіваўся свет: відаць, гарэла газнічка.

— Хто тамацька? Ча табе трэба? — дайшоў глухі голас старога дзеда, і чуваць было, як зашамалі рукі ў парозе, адкручваючы вяроўку ад крука, за які была прывязана дзвярная закрутка.

— Пусці, дзядок! Гэта я, Міхалка Тамашоў. Ай, дзядулька, не пазнаў?

— А хоцькі ты і Тамашоў, ча цябе багавіца па начах ганяе, што табе собіла? — казаў так і пусціў Міхалку ў хату.

Было там пуста і смуродна. Жоўты, з копаццю агенёк газніцы кідаў мітуслівы водбліск на нейкую лужыну вады ля печы. Пад загнетам у ямцы ляжаў груд хворасту. Дзед толькі вытапіў печ. На загнеце ляжала заслонка, а на заслонцы — чорны кот. Дзед краіў лыкі на лапці.

— То, малойчык, садзіся, чым маеш, хваліся!

— Няма, дзед, нічога добрага, чым пахваліцца.

— А во, хацеў ён добрага! Не будзе ў вас добрага і няма з тае пары, як здурнеў бацька і прывёў у хату жыдоўскую ваданоску.

— Праўда, дзед; праўда! І што параіць, дык ліха ведае,— ратуначку няма.

— Не гукай, дзеткі, ліха, не патрэбна яно,— сказаў дзед, адкраіў лыка, паклаў яго на лаўку, пачмякаў вуснамі, прыгледзеўся з-пад сівых броваў да Міхалкі і спытаўся:

— Калоцяцца?

— Няўжо ж.

— Э, дзеткі, патрывай. Вазьмі-тка во лапаць, памажы старому, падпляці, то, можа, й стары табе ў нечым спатрэбіцца, абы-што спляце.

Узяў Міхалка лапаць, усадзіў гладкія цугакі ў курцы, схіліўся падплятаць. Капцела газнічка, смурод ішоў з кноту і чадзіў па ўсёй чыста хаце. Кот, нагрэўшыся, скокнуў на зямлю, пацягнуўся, паставіў хвост дудою і пачаў муліцца ля дзедавае нагі.

— Ці ты, Міхась, быў пры матцы, як умірала?

— Не, а што?

— А як хворая была, не гаманіла з табою аб чым-небудзь?

— Чаму ж не гаманіла? Толькі я па лекі як паехаў, дык без мяне сканала. Як вярнуўся, то ўжо на лаўцы прыбраная ляжала.

— Вось яно як... То я віджу, нічога ты не ведаеш. Дык, можа, гэтак і лепей. Забудзься на ўсе смуткі. Цяпер твая пара такая, што сама пагуляць. Цяперацька табе, што зарваў, то й тваё. Не зважай на дурнога бацьку, бо каб быў ён разумны, то сам бы, сівуган стары, не жаніўся, а, трохі паждаўшы, цябе жаніў бы. Варка — малодка юрлівая, не дзіва, што спадобіла цябе. А Тамаш — бацька табе, не бацька...

Дзед ускідаў выцвіўшымі вачыма на хлопца, шавяліў жоўтымі ад курава вусмі і як бы шчупаў, ці можна яму казаць, ці не. Нагінаўся к цугуночку, у якім мачыў у цёплай вадзіцы лыкі, і пстрыкаў двума пальцамі ката па хвосце, кажучы: «А брысь, асва! А псік, шэльма!» А потым стаў казаць:

— Мінулася таму столькі гадоў, колькі ты цяпер, Міхаська, маеш. Вяселле тут перад пятроўкамі было. За сватку была Тамашыха. Даўно яна замужам была, дзетак не мела, і хто ведае, чыя ў тым няспраўка. Упіўся Тамаш на гэтым вяселлі і з салдатам Захарам у дружбу палез. Цалуюцца, мілуюцца. Пачаў жаліцца, што бяздзетухам жыве. А салдат яму і кажа: «Калі ты сам у гэтым вінават, то ж можна рады даць». І баялі тады людзі, што пайшла з вяселля Тамашыха вельмі рана, у хаце яешню пякла і

гарэлкі пазычаць прыбягала. Начаваў Захар у іх. Ат, даўно тое было. А мне памятна, бо я ў тое лета магерку, з кірмашу ехаўшы, па дарозе пасеяў — шэрую, дрыбінскай шапавальскае работы.

Аж трасло Міхалку.

— Маніш!! — закрычаў ён на дзеда і лапаць выпусціў.— А дзе салдат?

— А салдат, павёзшы лён у Рослаўля, напіўся п'яны і апрогся, пахавалі ў дарозе, а болей нічога не ведаю...

— Брэшаш ты, манюка! — пстрыкнуў Міхалка дзеда па носе і кінуўся з яго логава на вольнае паветра.

— А халера на вашую галаву, багатыры праклятыя! Пазарэжцеся, пазакусайцеся, хоць на вас звод! — мармытаў дзед і шчупаў нос.

## III

— Варачка! Ён пайшоў, адны мы, адны чыста... Варачка, пакінь злаваць. Ну ча ж ты хочаш, га? Усё зраблю дзеля цябе, мая ягадка, толькі пакінь ты сердаваць, Варачка, га? — так лез Тамаш да жонкі.

Маўчыць тая, а-ні! толькі зноў па-свойму, буйна, дыхаць пачала.

— Варачка! — гаворыць Тамаш, цягнучыся дрыжачаю рукою ўпоцемках.

— Адлезь!! — крыкнула жонка яму ў адказ і так махнула яго руку, што дужа балюча бразнула яе аб комін.

Забалела Тамашу. Змоўчаў ён на малы час, павадзіў санкамі з боку ў бок, толькі косці ля вухоў трашчаць; падкаціў вочы, абхапіў пабітую руку другою і завыў:

— Га-а-а-а!! Дык так? Дык цябе ні ўпрасіць, ні ўмаліць? Дык ты, ганчырка местачковая, уродаваць мною будзеш? Можа, манішся ў адну хэўру з пасынкам пайсці дый з хаты мяне вытурыць? За маю ласку, за маё добрае! — адмахнуў руку, кулак мужыцкі сцяў,— ах, ты!.. Трах!

Не даляцеў кулак да Варкінае галавы, цёмна, трахнуў Тамаш з усяе сілы аб бэльку.

— Каб цябе ўдушыла, як з-за цябе ўсе ручачкі пазбіваў,— раптам павярнуў жартуючы Тамаш, каб гэтак выцягнуць ад жонкі смех. А яна ўсё не размаўляе, толькі памалу хліпаць пачала.

— Каб табе мову заняло, як ты маўчыш! Варка! Ну, досыць, га? Каб я жыў, слова табе болей благога не ска-

жу. Ну, будзем жыць па-боску, Варачка, га? Ні разу ўжо дрэнна не падумаю па цябе, братка мая. Пасунься троху, я хачу легчы.

Лезучы, пачаў зяваць: «А-а-о!» Разінуўшы рот, ксціў яго дробнымі хрэсцікамі і казаў: «Ах, бо-о-ожжа наш, божа наш!» Спадзяваўся, што ткі Варка ўлашчыцца. Памыляўся. У гэты час нават мала зважала на яго словы і дзівавала сабе, як раней яна не відзела Міхалкавай прыгажосці. Пайшла вось за бацьку і страціла навекі дарогу да мальца. І сваім жаноцкім чуццём чула, што хоць і здолела б прывязаць яго на нейкі час да сябе сваімі бабскімі хітрыкамі, ды не любіць ён яе і ніколі не ўлюбіцца, а за той нядоўгі час свае слабасці ўзненавідзіць.

— Навошта выгнаў Міхалку? Дзе ён цяпер? Можа, калее дзе?

— Ча жта ён калее? Пойдзе да кутніка або к Цімошысе. Што ён рупіць табе, твой Міхалка? — ізноў жартуючы, сказаў ён. І праз ўсё яго цяплеючае цела праходзіла жывая радасць, што не ведае тайны аб Міхалкавым бацьку, а сорам перад людзьмі і боязнь грэху прад богам здзержуць бабскі юр.

Варка ляжала ціха. Але надумалася. Усхапілася, села.

— Што ты? — спытаўся яе Тамаш. Раптам з сударжнай агідай хапіла яго за валасатае горла і здавіла яго на ўсю сілу... Каленкам станула на яго грудзі, адну руку прыжмала да гарачага споду, не закрытага рыззём. Мужык захрыпеў і круціўся, каб вывернуцца.

— Хочаш, каб задавіла тутка цябе, старога падлу? Чаго жаніўся, калі пясок з цябе сыплецца? — так з слязьмі і неспадзеўным смехам крыкнула і завыла Варка. Сэрцы ў абоіх стукалі, і дыхалі яны абое, як кавальскія мяхі. Сядзела баба на мужыку і патроху адпускалася, вызваляла горла яго.

— Няпраўда твая, не сыплецца,— хрыпеў Тамаш, смяleючы,— я шчэ табе дам!

## ЗЛОСЦЬ

Хутарэц Васіль Арцямёнак быў злаclівы ад прыроды, а пажыўшы на хутары, то зрабіўся яшчэ злаclівейшы.

Калі траплялася якая неспадзейная радасць і ён мі-

маволі адпускаўся ад паўсёднай злосці, дык аж сам сабе дзіваваў, навошта гэтак халярує, каму гэта патрэбна? Але адпусканне тое было ў яго зазвычай нядоўгае.

Ішоўшы з кузні, дзе зубрыў сярпы для сябе і бабы, але яшчэ не вызубрыў і пакінуў там, ён з завідасцю паглядзеў на дрэўцы ля хутарка свайго суседа Івана Данілёнка: усе дрэўцы прыняліся! І ўвесь добры настрой, які быў знайшоўся ў кузні сярод людзей з іхным гоманам і жартамі, увесь добры спакой прапаў, як параўнаваў ён суседскія дрэўцы з сваімі: яго амаль не ўсе паўсохлі і тырчаць ля хаты й пуні, як галлё на падсцілку пад сена. «Як каму ручыць,— з злой крыўдай, вельмі звычайнай для сябе, падумаў Васіль,— з якой доляй хто народзіцца... А чаму я гэткі нарадзіўся? Вота ж усё роўна, калі такія парадкі пануюць на свеце». Ён здалёку відзеў, што Матрупа Данілёнчыха сядзіць сярод бульбоўніку з жоўтымі ўжо красачкамі, поліць там ці хвароба яе ведае. «Вота ж чыя бульба цвісці пачала, а чыя ледзь з зямлі высунулась»,— пакутаваў ён і знароку адхінуў галаву ў другі бок, каб не сказаць знялюбелай суседцы «памажы божа!».

Ішоўшы па сцежачцы сярод свайго зялёнага аўса, Арцямёнак заўважыў, што нехта, хлопцы ці сабака, выталаваў вялікую мясціну.— «Дам!» — закіпеў ён. Падыходзячы да хаты з незакончанаю трэці год страхою, Арцямёнак увідзеў, што большы кормны парсюк, якога меліся гадаваць і ў поле не выпускалі, вылез нейкім дзівам з свінаркі і рыецца сабе ля дрэўца. Праўда, сухое дрэўца было, але не згубілася надзея, што яно прымецца і зноў хоць некалі ды закрасуе.

— Дзе ж тыя дзетухны? — з балючай нудою на сэрцы заглядаў хутарэц наперад, шукаў вачмі ля хаты,— добра пільнуюць гаспадаркі, няма што казаць. Дзе ж тая Мар'я? — спомніў ён і пра жонку.

Тым часам падышоў да самага парсюка. Ціха было наўкол, а нідзе нікагусенькі. Парсюк спакойна падрываў карэнне дрэўцу і не зважаў на грознага свайго гаспадара.

Васіль з сакрухаю адышоўся, выцягнуў з-пад клеці новы бярозавы кол і стаў цікацца назад.

Парсюк, як слова, духам чуў небяспеку для свайго здароўя і спакою. Паглядзеў на мужыка круглымі сівымі вочкамі з-пад навіслых вушэй, чухнуў, порскнуў, падкінуў задам, падтрухнуў хвосцікам і адбегся ад вырытай ямы к балотцу.

Васіль з усяе сілы кінуў яму колам па нагах.

Парсюк падскочыў, як на спружынах, яшчэ мацней зачохкаў і троху супакоіўся. Пастаяўшы, ён трушком пабег пад клець і часам вярнуў свой лыч набок, каб не спушчаць з воч ворага. А ворагу толькі тое было і патрэбна. Спрытна падхапіўшы кол, Васіль забег парсюку перад і стануў ля клеці. Як толькі той паткнуўся галавой пад падвал, ён так урэзаў яго з усяе сілы па вушшу, што той аж лёг на заднія ногі.

Па шуме і віску запанавала ціша. Сапеў і чохкаў парсюк і меў аддыхацца зласлівы чалавек.

— А юс, каб ты здох! — не доўга цярпеў, збунтаваў цішу Васіль і піхнуў выспяткам парсюка ў таўсты адкормлены зад. Той падаўся тулавам наперад, але раптам страшэнна праразліва заскігатаў: ушчаміў сярод громазду галаву і не мог вызваліцца.

Васіль аж вушы заторкнуў ад незвычайнага гвалту: яму зрабілася сорамна, што зачапіў свінню на гэткі страшэнны крык. Як толькі ўбачыў ён, што здалёку бягуць дзеці, а за імі на той жа самы ратунак — жонка, Васіль загневаўся на ўсё на свеце, у шалёным прыступе зласлівасці схапіў зноў кол у рукі і, размахнуўшыся, упёк колам у парсюковы хвост. Той проста зароў. Беглі дзеці, бегла жонка, наперадзе сабака, аж куры закудкадакалі ў страсе, і Матруна Данілёнчыха, пакінуўшы палоць бульбоўнік, пасунулася бліжэй на той скандал.

Тады ўжо ніякая сіла не здалела б удзержыць Васіля; ён пратаў парсюка калом з усяе сілы, пакуль удосыцце не спагнаў злосці.

— Забіў! Забіў! А божухна, бацюхна! — выла Васіліха і з дзяцьмі цягнула чуць жывога парсюка з-пад клеці за заднія ногі, а Васіль хапаў сякеру і ішоў барзджэй у ляда, да вечара, не еўшы, церабіць кусты і краіць сэрца за сваю нялюдскую злосць.

Васіліха налівала абед у спарышы і пасылала к бацьку ў ляда самага меншага сына.

## ДОСВІТКІ

Доўгімі зімовымі досвіткамі чуў я, а пазней, калі выбіўся ў святлейшы свет, спісаў, як мучылі папы нашу бедную цётку Таццяну за нейкую заморскую сучку; як

смажыў ім ката заместа зайца маладушны дзядзька-кухар; як баяўся боскае кары за свой высакалюдскі ўчынак цёмны дзядзька Тарас; як тады і высока ўчопыя людзі, старыя прафесары, роўна з цёмнымі і няўчонымі, схілялі трудным часам галаву перад нязведанымі сіламі прыроды; як накладалі розумам хоць мала ўчоныя, але ўжо малаверныя і нешчаслівыя вясковыя інтэлігенты, «дурныя настаўнікі», за сваё прыгожае, але пустое, цёмнае шуканне вечнага пачатку; і як выдатныя адзінкі, песняры-музыкі нашага народа, у тым чорным часе праўдзівага досвецця болем свайго сэрца ігралі страшныя песні паняволеных прарокаў волі.

Доўга цягнуцца зімовыя досвіткі. За вокнамі цёмна і лютая сцюжа, а ў сцюдзёнай хаце невясёла гарыць цямнявая лучына, нудна трынкаюць марудныя верацёны. Да свету яшчэ далёка-далёка!

Не пяюць удосвецця песень, і маўклівыя праллі толькі ціха думаюць свае ціхія досвітныя думы.

Але бяссонны дзядуля, размачыўшы лыкі і сеўшы ў кажусе на калодачку пасярод хаты, любіць гэтым часам развеяць сонны сум у маладых сваімі пераказамі аб розных прыгодах з даўняе мінуўшчыны.

Пляце дзядуля старадаўнія плятні і любіць іх, як свае лапці, а ўжо яго старэйшы ўнук, яшчэ і не дзяцюк, а толькі ладны хлопчык, што ні ў вошта, аднак, ставіць лапці перад ботамі, ужо ён не можа ўцерпець — і перабівае ціхую стройную плынь казання і слухання. Бунтуецца яго маладое сэрца супроць незразумелай для яго пакоры панскіх падданых.

— А каб на мяне,— кажа ён дзеду,— то ўзяў бы я добры кол, прыпільнаваў бы пана дзе-небудь у зручным куточку ды так бы свіснуў яго поўху, што ён бы і сваіх не пазнаў! Не стаў бы другі раз сячы людзей.

— Эх, братка ты мой, братка! — усміхаецца на ўнука дзед.— Няўжо ж ты гэтак любіш біцца? Ці табе, такому маладому, так казаць! Брыдка гэта — біцца... Але быў у нас адзін: бывала, як яго сячы, возьме кол, стане ў кут і не даецца. «Палезьце толькі! Першаму, кажа, растаўку мазгаўню». А потым уцячэ ў лес і басцяецца дзён дзесяць. Але што ж? Недзе ж яму дзецца — вернецца сам або яго зловяць. Схопяць знянацку, звяжуць, пакладуць на ўслоне, пара людзей сядуць на ногі, пара на галаву, а трэцяя пара з двух бакоў так адлупцуюць беднага, што пасля яшчэ дзён колькі ляжыць ды стогне...

— Каб усе не даваліся, як ён, то не абсеклі б!

Дзед толькі засмяецца і кажа далей перарваную гісторыю.

— А каб на мяне,— ізноў замінае дзеду ўнук,— узяў бы я карабочак сернікаў і добры пук саломы, выбраў бы я цёмную восенную ночку і так бы засвяціў у панскім двары, што пан той і сваіх бы не пазнаў.

— Эх, братка ты мой, братка! — усміхаецца дзядуля.— Лацвей табе цяпер казаць,— не тое было ў даўны час. Быў у нас гэткі адзін. Бывала, як толькі восень — гарыць гумно ў нашага пана. Згарэла раз, паставіў цераз год другое. Згарэла і тое, паставіў трэцяе. А пасля прыехалі к пану казакі, сагналі ўсіх людзей у двор, выбралі ад кожных дзесяці сем'яў па чалавеку, разлажылі іх голых на таку ў гумне. Прыйшоў пан, запаліў свечку ўвелькі з добрую качалку і ну па радоўцы падсмальваць задраныя бароды, дый пытаецца: «Не ведаеш, цераз чый грэх спалілася гуменца ў твайго пана?» — «Ой, паночку, змілуйцеся, не ведаю». Абышоў усіх, а ляжалі ў два рады, як снапы,— і ніхто не ведае... «Ну, то, кажа, як вы такія святыя, што ніхто з вас не мае грэху,— царства вам нябеснае!» Выйшаў з казакамі за вароты, сказаў заперці там нягрэшных і запаліць і гэтае гумно... Божухна-бацюхна! Пан багаты, што яму значыць спаліць гумно (пустое, без хлеба) і страціць сотні дзве падданых, калі ў яго лесу таго за колькі дзён вокам не скінуць, а падданых не адна тысяча. Завылі ўсе людцы, што стаялі вонках, кінуліся да пана, але не з коллем, а з гаручымі слязьмі, каб не губіў невінаватых. Плачуць, галосяць, поўзаюць наўкол пана па зямлі, як ракі або чэрві. «Запальвайце! — крычыць пан.— Мае людзі, мой адказ!» Хацелі ўжо казакі паліць, аж крычыць з гумна адзін: «Мой грэх!» Выпусцілі ўсіх, а яго звязалі, павязлі некуды скрозь ноч. Дзейкалі ў нас людзі, што спаліў яго пан у лесе. Можа — праўда, можа — не, толькі ўжо ён прапаў недзе навекі, ніколі не вярнуўся. А начальству пан сыпнуў грошы, каб не слухала людскіх дзейканняў і не шукала чалавека. Сам жа пан быў і начальнік...

— Каб усім кагалам кінуліся на пана, то не прапаў бы чалавек,— спіраецца задуманы хлапец.

— Эх, братка ты мой, братка! — ківае галавою дзед.— Паглядзім, што-то ўжо будзе з вас, маладых ды бойкіх.

Маўчыць тады, бывала, малады ўнук.

І так цягнуцца доўгія-доўгія зімовыя досвіткі... Да свету яшчэ далёка, і кажа дзед, як загінуў малады Васіль, што кахаў харошую дзяўчынку-немку, і любіў ён маляваць, і як звялася па смерці дзедавага дзеда багатая пчэльня, і як трасла дзедавага дзядзьку трасца, здаўшыся яму начою ў лесе нямою бабаю...

— Не йменца веры, дзедку, у тое, што ты кажаш,— усміхаецца нарэшце-такі і ўнук.— Трасца не можа здацца бабаю, бо гэта ёсць толькі хвароба.

— Можа, і так,— пакорна згаджаецца дзядуля,— а людзі кажуць, і я кажу... Мне самому нічога ніколі не здавалася. Вам жа, маладым, лепей тое відаць, бо вам у школе кажуць, а нам, цёмным, што... Што мы ведаем?..

— Як чалавек хворы, дык яму тады здаецца ў хворых мазгах...— спяшаецца ласкавей сказаць унук, бо цяпер жаль ён чуе да свайго цёмнага, пакорнага дзядулі...

## ПАМЫЛКА

Зараз пасля каляд, у ціхі, засыпаны снегам дзень ездзілі па вёсцы дзве чарніцы і збіралі на свой манастыр каляду.

Адна, маладзейшая, заставалася на двары пры санях з дабром, а другая, старэйшая, хадзіла па хатах.

Увойдзе, пачне хрысціцца, ды кланяцца, ды божкаць, перабярэ па йменню ўсіх святых угоднікаў, спамяне Афон і Кіеў, а ўрэшце глядзіць спадылба бяльматымі і тупымі вачыма, чакае, чым будзе гаспадыня надараць.

Стаіць у парозе ўся ў чорным, падаткнуўшы полы ў світцы. Ногі, як у салдата, у вялікіх ботах, рукі вялікія, мужчынскія, ад працы закарэлыя, ад сцюжы чырвоныя, каб згарнула, то і кулак быў бы салдацкі. Твар зрыты воспаю, курносы. На грудзях — абраз, а на баку — торба.

Заехалі тыя чарніцы начаваць да аднаго заможнага гаспадара, які раней быў старастам царкоўным і шмат нацягаў сабе старых абразоў, як рабілі ў царкве рамонт. У яго было дзве хаты, і абедзве ён апальваў скрозь усю зіму, бо ў адной сам жыў, а ў другой віселі тыя абразы. Баяўся, каб у волкасці не пакарабаціліся.

У гэтай хаце склалі чарніцы свае зборы і заначавалі.

Маладзейшай карціла пайсці ў другую хату, адкуль чуваць быў гоман і галасы маладых сыноў гаспадара.

А старэйшая пільнавала за таварышкай, загадала завесіць адно, не зусім замёрзлае вакно фартухам, замест фіранкі, і зараз паставіла яе з сабою на малітву.

Страшэнна ўпадабала яна маліцца на гэтыя старастаявы абразы. І залезла ёй у галаву нядобрая думка: украсці адзін абраз і завезці да сябе ў манастыр.

Нічога не сказаўшы той, як толькі ўсе пакладіся ўжо спаць, яна ціхенька ўстала, зняла адзін абраз і панясла на двор хаваць у свае сані пад пяхцер.

Ішла, малілася, каб не злавілі на зладзействе, дрыжала, каб дужа не рыпнуць, выходзячы, дзвярмі...

Але як толькі нахілулася над сенам, рыпнулі ізноў паціхеньку дзверы і выйшаў нейкі мужчына (гэта быў гаспадароў дзяцюк у валенках і кажусе).

Ён выйшаў дасачыць, каторая і чаго тут ходзіць.

«Бедная,— падумаў ён з жаласцю пра маладую манашку,— губіць сваё маладое жыццё, ніхто яе не пажалее, не пажартуе з ёю».

Не мог разгледзіць, што не тая, і схапіў за плечы.

— А, дзядзечка,— ледзьва прашапацела спалоханая зладзейка,— не буду болей век,— хацела вымавіць яшчэ, але і дух ёй заняло ад незвычайнай прыкрасці перад старым гаспадаром.

— Ага, ты абразы псуеш! — грозна зашаптаў на вуха чалавек,— вось я станавому дакажу, сашлюць абедзвюх у Сібір.

— Яна невінавата...— задыхалася чарніца пад яго цёплым кажухом,— гэта я адна надумалася...

Разгледзеўшыся, што, мусіць, не стары, а яго сярэдні ці меншы сын, яна смялей, хоць і не без страху, пусцілася на выкрутасы: абшчапіла яго за шыю, пацалавала... І прасіла:

— Даруй мне, братка... Нікому не кажы...

Як пачуў дзяцюк, што гэтак просіць, аж затрасло яго ад сполаху. Перавярнуў-ткі яе за плечы да сябе... і як убачыў скрозь цямноту знаёмае на носе рабаценне, так страшэнна засароміўся, што кумільгам скаціўся з саней і пабег без гуку ў валёнках у хату...

Чарнушка занясла абраз назад на сцепку, барзджэй паклалася ад трасцы, а назаўтра яны да свету паехалі з двара.

# «ДУРНЫ НАСТАЎНІК»

Гадоў, мусіць, шмат мінулася з таго часу, як можна было яго бачыць на вуліцах у Мсціслаўлі.

Апранены ў нейкі абадраны балахон, няголены, валасаты, з даўгімі, чорнымі ад гразі кіпцямі. Вочы ў яго змучаныя, неспакойныя і невясёлыя. Ніколі не глядзіць ён на другога чалавека проста, а ўсё некуды ўхіляецца, быццам шукае чаго ці прыглядаецца да нечага, што стаіць у вас за плячмі.

Бывала, цалюткі дзень, ад рання і да позняга, шарпае апоркамі на босую нагу па ходніках ці па каменню. А то яшчэ і ўночы бродзіць ды гамоніць з вартаўнікамі.

У кірмашовы дзень ходзіць сабе ціха між народу, прыглядаецца да наехаўшых сялян, шукаючы знаёмых, каб папрасіць гуркоў ці яблык.

У будзённы дзень часам бадзяецца, сагнуўшыся, па рынку; збірае раструшанае па зямлі сена і корміць коз; а то наводзіць на пабожных перакупак страх — затым, што ціхенька падыдзе і ўмаўляе:

— Сястрыцы вы мае! Бога няма, каб я так жыў,— няма...

— А матачка найвышняя! Што ён гаворыць! — хрысцяцца спалоханыя перакупкі і ўпрашаюць яго, каб не казаў так.— Маўчы, маўчы, Якуб Цімохавіч! Гарадавы блізка...

— Кгаспадзін настаўнік! — скажа яму які-небудзь крамнік-падшывалец.— Кгаспадзін настаўнік! Гарадавога блізка нет! На бублік: плюнь на царкву!

Ён паглядзіць у той бок, дзе гарадскі сабор або Тупічаўскі манастыр, паглядзіць-паглядзіць і плюне... Моўчкі возьме бублік і есць. А дурні рагочуць.

Як часам надта лезуць яму ў вочы, ён нічога не бярэ ды яшчэ і крыкне:

— Смаўжы сляпыя! Плюю на вашу веру і на вас плюю.

І плюне на каторага. Ох, яны тады палохаюць: «Гарадавой ідзёт! Гарадавой ідзёт!»

Але ён нічога не баіцца. Ён плюне на царкву, на касцёл, на сінагогу — хоць бы на воку ў самога цара ці губернатара. Хіба гарадавы ласкава папросіць, каб хаця пры ім блізка не рабіў так, дык ён паслухае, пры ім высцерагаецца, каб прыкрасці яму ў яго службе не было.

Дык вось жа гэты самы «дурны настаўнік», як празвалі яго людзі, або Якуб Цімохавіч Кубраковіч, як было яго праўдзівае імя, быў раней настаўнікам у нашай Шамаўскай воласці, так што ведалі тут усю яго нешчаслівую гісторыю.

Родам ён быў з Мсціслаўля. Відаць, дзед яго ці прадзед хадзіў па свеце кубраком — значыцца, збіраў на збудаванне новых ці ўхарашэнне старых цэркваў,— адкуль і прозвішча ўзялося: Кубраковічы. І бацька яго знаўся з папамі ды дзякамі; быў п'яніца і піў з імі, пакуль было за што, а як звёўся з капылоў далоў, пайшоў у званары за паўтраця рубля на месяц, званіў і вартаваў царкву начою, каб зладзеі не абакралі. Маці плацце людзям мыла і гароднае насенне прадавала. Так і жылі, і сын, хоць і невялікай адукацыі, а ткі дайшоў, у вясковыя настаўнікі прабіўся.

Перавялі яго да нас з другое воласці, дзе не паладзіў, кажуць, з бацюшкам. Вядома, у той час настаўнікі з бацюшкамі часта сварыліся. Калі не хочацца настаўніку дапамагаць у царкоўнай службе, ці не дужа нізка пакланіцца ён матушцы, ці так чым не дагодзіць папу або дзяку і іхным чадам, напрыклад, не ходзіць да пападзянак або з дзячышак смешкі строіць, дык зараз на яго папера і паляціць: «Так і так, настаўнік у тутэйшай школе — вальнадум, у царкву не ходзіць, дзяцей богу не моліць і добраму не навучае...» Трах, і перавялі яго ў другую, горшую за тую школу або і зусім прагналі сабак пасціць.

У нас тады быў поп старэнькі, на прозвішча Бекарэвіч. «Не дужа мудры,— казалі пра яго сяляне,— дык і не дрэнны: хрысціць, вянчае і на той свет з паратам адпраўляе, а ўва што лішняе не лезе і да людзей не чэпіцца... Добры поп». І з новым настаўнікам яны пасябраваліся. Рыбу лавіць ці ў грыбы, ці ў ягады — разам хадзілі. Адно толькі дакучала старэнькаму, што настаўнік любіў гаманіць пра бога і пра ўсякія такія справы.

— Не люблю я тваіх мудрых гутарак, Якубе! — казаў старэнькі Бекарэвіч Кубраковічу.— Што табе ўсё карціць: чаму так, чаму не гэтак? Ну як было, так і было... «Не прыемлі імя госпада бога твайго ўсуе». Ты мне толькі рыбу пудзіш... А я люблю, мой братку, супакой.

Затое была ў папа за гаспадыню, бо адзінокі жыў на старасці, нейкая далёкая сястра ці то швагерка. Сухая дужа і з чорнымі вусікамі, але вельмі пабожная, начыта-

ная ў святых кнігах і гаваркая. Яна і заступіла маўклівага бацюшку ў размовах з настаўнікам. Вечна яны, бывала, спіраюцца, як што калі тварылася, і чаму так, а чаму не гэтак. Яна верыла ўва ўсякія забабоны, а Якуб Цімохавіч даводзіў ёй, што не ўсякай лухце можна верыць. Поп слухае-слухае дый пойдзе спаць, а яны ўспомняць, як той казаў, і бога, і Хрыста, і лазовага куста.

І сталі дзейкаць людзі, што новы наш настаўнік і добры і нядобры. Добры за тое, што дзеці яго ўлюбілі, старанна вучыць, не адпускае школьнікаў да цёмнага — не тое, што другі: не паспеюць бабы ля печы ўправіцца, а ён ужо распусціў іх. А нядобры, што нейкі ён дзіўны... Не займаецца ні з паненкамі, ні з чаркаю, ні ў карты. Толькі ў яго і занятку: адпусціць школьнікаў і ідзе да папавае швагеркі на дыспутасы ці сядае за свае, хто ведае, што там за кніжкі за такія незвычайна цікавыя, і марнуецца над імі да познай ночкі.

І ўжо тады троху-патроху пачало выплываць наяву, што няцвёрды ён у веры чалавек. Не іме веры то ў тое, то ў сёе, ува што спрадвеку верылі ўсе людзі. Падсмейваецца з папавае швагеркі, што яна, калі га́дзіна ўкусіла іхнюю карову і папоўы малітвы рады не далі, запрасіла лесніка шаптаць і пасля казала, што ад таго шаптання карова ачуняла. І так шмат у чым пракідалася яго слабая вера ці і зусім нявера на погляд тутэйшых людзей.

— А хіба ж кожны ведае,— казалі тады ў нас людзі,— чаму ў іншага лесніка хоць якая нягодная стрэльба лучае ў лёт самую шпаркую птушку? Або чаму самы бедны гарапашнік ані з тога, ані з сёга раптам робіцца багатыром на ўсю акругу?

— Таму так робіцца,— казалі яны тое, што чулі ад сваіх бацькоў і ад дзядоў,— таму, што гэткі-то д'ябальскі паслужнік, калі прычашчаецца, дык пакіне кашку ў роце, выйме з рота ў хустачку і схавае; потым, выбраўшы цёмную часіну, ідзе ў самыя глухія нетры, прывяжа кашку на асінавым суку і стрэліць...

— А як толькі ён, гэткі акаянны, складзецца стрэльбаю, дык разам асвеціцца яму ўся чыста пушча няземным, як бы ад вялізнае маланкі, ці як бы сонца шухне яму з неба ў вочы такім святлом, сціхне зямелька, панікнуць і застыгнуць ад жудасці дрэвы, паваляцца і прыліпнуць без дыхання травы, і здасца яму: вісіць распнуты

на крыжы, раны точацца свежаю крывёю, а з вачэй капаюць жалкія слёзы...

— З другога на гэтым месцы і дух вон, а другі, карэлы, стрэліць — і тады мае на паслугах усю нячыстую сілу...

Якуб Цімохавіч, мусіць, і змалку тое чуў і ведаў, але хто ж бы мог нават падумаць, што яму ўроіцца ў галаву зрабіць і практыку.

Вось прыйшоў вялікі пост. Вясна чулася ў паветры. Спопчаныя людцы да споведзі хадзілі, паглядаючы дарожкамі, ці ўжо ёсць праталінкі, ці ўжо блізка вясёнка цяпленька, калі мінецца ім адна нішчымная бульба, а можна будзе і свежай траўкі згатаваць і малачком яе забеліць.

Пайшоў у споведзь і Якуб Цімохавіч. Пасля казалі, што ўжо і тады відаць было па ім, што задумаў нешта нядобрае. Ды нікому нічога ані ў дум.

Тым часам вясна закрасавала. Распусціўся лес, зашумелі гоманам дубровы, ночы цёмныя прыйшлі, хлопчыкі коні на пачлег вадзілі. Даўно скончыў Якуб Цімохавіч заняткі ў школе, толькі ж замест паправіцца пасля настаўніцкае працы скрозь цэлую зіму, дык ён зблажэў яшчэ па горшае: высах, чорны зрабіўся. «Што яму такое?» — дзівіліся людзі. А гэта ён, задумаўшы адно, а чуючы і ад папа і ад яго швагеркі зусім што іншае, мусіць, стаў вагацца сам у сабе... Быў жа ён не дужа ўчоны, дый навука была даўней пабожная,— і хоць розумам сваім ён чуў, што па яго ткі баку праўда, але не дзіва, што мог і завагацца, калі штодня слухаў пабожныя гаворкі і бачыў каля сябе адну спрадвечную цямноту.

Але зрабіў-ткі.

На самае купалле пайшоў у лес, узяўшы стрэльбу і схаванае прычасце.

Пасля ён сам не тоіўся і пераказваў, што яму там думалася ў лесе. Адзін ды ў цёмным — ён быў пачаў збівацца з сваіх даўнейшых думак. Чакаў паўночы — і здалося яму векам, пакуль сядзеў там у гушчарніку і неяк тупа разважаў: «Што я вытвараю? Прыгожы забабон зрабіў сабе нейкаю хваробаю! Хто робіць дослед, рэжучы на кавалкі чалавечы труп або слепячы вочы мікраскопам, а я сяджу, як дурань, пад дрыжачаю асінаю... Хто робіць дослед дзеля навукі, а я — каб пахваліцца, што не збаяўся страху і мне нічога не здалося...» А калі налязала на яго цямнота з пушчы, калі слабела яснасць думкі яшчэ болей,

тады спадчына многіх вякоў і пакаленняў гаварыла яму, што зараз пабачыць ён у пушчы розныя незвычайныя купальскія дзівы,— хай жа не баіцца! Што зараз пачнуць здавацца яму ніколі нябачаныя страшыдлы і зверукі, баран ▪ адрэзанаю галавою будзе бегчы на яго, будуць кугакаць страшна совы, зацвіце заклятая краска папараці, пад нагамі засіпяць вужакі, павыпаўзаюць з нор агідныя рапухі, яшчаркі... І ўжо хацелася, каб жа хоць нешта незразумелае, дзіўное з'явілася ўвачччу. Хай бы хоць здалося, што папараць цвіце, калі ўжо батанікі даводзяць, што яна цвісці не можа, не такая расліна.

Сонна шумела чорная дуброва, спалі звяры і птушкі, не варушылася мураўка на нявіднай упоцемку зямлі.

І Якуб Цімохавіч фальшыва пацяшаў сябе самога: «Ды ты і не думаў верыць у прыгожы забабон... От, так сабе пайшоў палюбавацца на хараство соннае дубровы купальскай ночкаю... Бачыш, як хораша, як люба і як ціха! Прырода ёсць прырода: бяздонная крыніца для навуковых доследаў і багаты матэрыял для пясняpскай творчасці... Ну, ты ўжо здаволіўся... Ідзі спаць... Цябе ўжо морыць сон...»

«О, не! Як жа так пайсці? Пабачым...»

Раздаўся шумны стрэл, дзугнула стрэльба ў плячо і ў санкі няўмеламу стральцу.

Сціхла...

Шуміць патроху сонная дуброва, цёмна, пах ад лесу і пах ад стрэлу... І ўжо — толькі пах ад лесу, і зноў усё, як і было!

Нічога не здалося, нічога няма, усё звычайна...

Тым бы справа і скончылася. Але нешта адзін раз упаілі добрыя людзі Якуба Цімохавіча на кірмашы ў Мсціслаўлі, і ён, хмельны, пачаў верзці не да рэчы, што хадзіў у лес і рабіў там практыку... Разбегліся добрыя людзі, як ад дурнога. Але забылася і гэта. Потым паспрачаўся ён з тым лесніком, што лячыў папу карову. Ляснік казаў, што настаўніцкая навука нічога не варта, што яго, чараўніцкая, мацнейшая. І тут тож не ўцерпеў Якуб Цімохавіч і бракнуў яму ў вочы, што ўсё яго чараўніцтва — адна мана, што вось ён рабіў адну такую практыку і нічога яму не здалося... Як на шалёнага паглядзеў на яго і ляснік, але, добра не ведаючы, якую такую практыку рабіў настаўнік, ён нічога не сказаў і толькі зараз ад яго

ўцёк ды затаіў на яго злосць. Аднак пайшлі гаворкі, адно з другім сплялося, і дачулася-ткі і пабожная папоўская швагерка. Ледзьве не самлела ад вялікага страху, але гукнула Якуба Цімохавіча і стала дапытвацца, чаму гэта пра яго людзі гавораць. І тут не ўцерпеў Якуб Цімохавіч, не ўцерпеў на сваю вялікую бяду. Жартуючы, сказаў ён, што, ці праўду людзі кажуць, ці няпраўду, але, мусіць, каб яно было, дык так бы толькі і было,— што б там здалося? Бацюшка якраз быў хворы, швагерка баялася, што ён хутка памрэ, і ўсё малілася. Калі ж пачула такія жудасныя для яе словы, яна не ведала, ці бес улез у гэтага настаўніка, ці ён здурнеў ад лішніх думак... І, пажалеўшы яго, напісала ў паліцыю заяву, што здурнеў настаўнік, бо каб напісала, што здаровы, а гэтак кажа, дык, мусіць, пакаралі б яго смерцю або вечнай катаргай. Прыехалі, заарыштавалі, няволілі ў астрозе і ў жоўтым доме... Нарэшце выпусцілі, як ціхага дурнога. Казалі, што і ён сам прыкінуўся дурным, спалохаўшыся кары. Шмат чаго казалі. Звёўся чалавек. Не толькі якой працы, і пашпарта яму не давалі, цураліся яго, дурным празвалі. І нарэшце зрабіўся ён такім, якім можна было ўбачыць яго на вуліцах у Мсціслаўлі. Не сам зрабіўся,— разумныя людзі зрабілі... Але што ж: які быў час, такое тады і ўсё было.

## ТРАСЦА

Дзеялася гэта даўно,— тады, калі яшчэ дзяды нашы мусілі баяцца і пана, і бога, і чорта...

Дзеялася гэта тады, калі бедны чалавек мусіў за палена дроў цягацца па начы ў панскім лесе.

Дзеялася гэта тады, калі цёмны чалавек, змарнаваны цяжарам працы, усяго баяўся і ўва ўсё верыў, і нават хваробу сваю звязваў з усякімі зданямі...

Трасца прычапілася к яму вясною, калі ён хадзіў уночы ў панскі лес красці дровы. Ноч была месячная і ёдкая. З хаты ён выйшаў, як папелі першыя пеўні. Па дарозе яму нічога не здалося. Ціха спалі будынкі. У голым полі веяў халаднаваты ветрык. Ад сажалак цягнула веснавою мокрасцю. Чалавек спакойна пераступіў граніцу і падаў-

ся глыбей у лес. Незабавам узбіўся ён на добры лом, напляваў у рукі і з прыемнасцю, але паціху, асцярожна завінуўся над паваленай бярэзінай. Хапаўся і дзеля таго троху лішне ўвагрэўся. Потым, не марудзячы, заткнуў сякеру ззаду за пояс, узваліў бярэзіну на правае плячо і, доўга не думаўшы, засігаў шыбчэй назад. Спярша лясіна не здавалася цяжкою. Аднак, калі выйшаў ён на поле, дзе пачыналася панаванне месяца і холаду, несці стала цяжка. Лясіна гнула яго ўніз і за кароткі час намуляла яму і правае, і левае плячо. Сам здзіўлены сваёю слабасцю, ён падумаў, што трэба адсячы кавалак макушкі, бо толькі гутаецца і замінае несці, а карысці з яе мала. Скінуў лясіну і прыстоіў; абцёр пот. І тады пачуў на спіне, пад кажушком, непрыемны дрыгкі халадок. «Э, ці гэта не бывае»,— падумаў сам сабе, узяў сякеру ў рукі і нахіліўся, шукаючы, дзе б адсячы канец лясіны. Аж раптам неўспадзеўкі з подзівам заўважыў, што ззаду яшчэ пехта жывы поркаецца па зямлі. Прыгледзеўся пільней і па месяцы ўбачыў, што гэта нейкая баба. Не стаўшы адсякаць канца, падняў ізноў лясіну і моўчкі, не гледзячы назад, ішоў да самай хаты. Гэта яшчэ не быў страх, а ўсё ж ткі там, на спіне, дзе чуўся халадок, цяпер зрабілася аж надта цёпла.

— Папсавала мне работу,— ціха сказаў ён сам сабе, злажыўшы бярэзіну ля хаты пад страху, сеў тут жа пад страхою і закурыў піпку. Тым часам пеўні прапелі ўдруга, ён падумаў: «Якога ліха баяцца»,— і пайшоў у лес яшчэ раз.

Разважаць аб зданях ён не хацеў, але цяпер мімаволі час ад часу пытаўся ў свае памяці: ці гэта ён бачыў жывую бабу, ці гэта яму толькі здалося? І цяпер ён не дужа смела ішоў туды, дзе, спадзяваўся, болей сухога буралому. У лесе быў яшчэ снег; бялеў і хрупаў пад нагамі, разганяючы дурныя страхі цішы і поцемкаў. Усё было ціха, нідзе ніхто не варушыўся, не здаваўся. Зараз трапіўся яму сухі пень. Хацелася курыць, ды адлажыў ужо дахаты, абчысціў збольшага пень ад кары, узваліў яго на плечы і маўчаком пасунуў к полю. Бабы не было. Па дарозе ён смела строіў здогады, што, мусіць, і яна таксама крала дровы, толькі не спазнаў яе — адкуль і хто. Так выйшаў ён па поле. У гразкім пераходзе хацеў папраўіцца, каб лепей было несці, азірнуўся... аж сунецца тая баба! На спіне ў яго, пад кажухом, дзе было так горача, разліўся мокры холад, а троху ўмочаныя ногі занылі, як пасля доўгае і труднае хадні ці ад рэўматызму,— і засягаў,

больш не азіраючыся. Тое, што блізка былі хаты з людзьмі, паддавала яму болей смеласці. Злосць яго ўзяла: чаго, думае сабе, учапілася за ім дурная баба, як той сабачы хвост за ваўком? «Ча яе за мною носіць?» — разважаў, абціраючы сцюдзёны пот і зашпіляючы каўпер, бо ёдкае паветра ахапіла яго ўсяго...

Кінуўшы пад страхою пень, прыйшоў у хату, каб трошку адпачыць і сагрэцца. Жонка заварушылася, пачуўшы яго.

— Ці ў дровы схадзіў? — спыталася.

— Ага. Прынёс макушку і пенушок... дый яшчэ раз думаю схадзіць,— адказаў ёй, пыхкаючы ў светлаватай ад месяца хаце, аб той жа старой змоўчаў, каб не спалохаць жонку. «Яшчэ пабаіцца адна з дзяцьмі заставацца ў хаце»,— так падумаў. Хацеў пераабуцца, бо мокрыя аборы надта ўрэзаліся ў ногі, толькі мала часу меў да світання, дык не стаў. І піць яму захацелася. Жонка, як на тое, устала паіць хлопчыка, дык і ён не ўцерпеў, напіўся і выпіў болей, чым можна піць, спацеўшы.

— А я ўсё нейкую дурную сніла,— сказала жонка, кладучыся ізноў на пасцелю, і, відаць, манілася зараз, хоць каротка, пераказаць яму свой сон. Ён жа наўмысля не стаў слухаць і пайшоў у лес трэці раз.

Пабрыў за гумны з цікаўнасцю і страхам: стрэне ён цяпер гэтую старую ці не? А ў жончаныя сны не дужа верыў, бо жонцы заўсёды нешта нейкае вярзлося. На полі нікога не было. Неба ачысцілася ад хмар, выплыў месяц у другой квадры. Усё асвяцілася спакойна-сонным яго святлом, ёдкасць спусцілася ў мокрыя нізіны, паветра пазванчэла, і дзесь адзаду, сярод хат, гаўкнуў сабака, за ім яшчэ другі. Чалавек супакоіўся, шыбка скакаў з сухога на сухое, каб угрэцца і пасмялець. Над цёмным лесам з'явіўся невялічкі, але рэзкі гэткаю парою вецер, і макушкі злёгку зашумелі, заківаліся. Ступіўшы цяпер у лес, напалоханы чалавек разы са тры перахрысціўся зморанаю цяжкім пнём рукою,— не тое што для страху, але так, на ўсякае ўсё. І пачуў, што яму робіцца сцюдзёна не зусім так, як бывае звычайна. «Хоць бы трасцу не схапіць»,— дзіўна аслабеўшы на кароткі час духам, падумаў ён і злаяў старую: «Прычапілася ж, падла, ні стуль, ні ссюль». Яе ж пакуль што не было, і пайшоў ён гэтым разам не туды, дзе знайшоў макушку і пень, а троху ўбок. Тут ён зараз сабраў ношку сухога палення, ды неяк трапіў у благое месца: пад нагамі хлюпала вада, ён яшчэ

болей памачыў ногі, абрызгаўся вадою і ўпэцкаўся ў леташнія хваёвыя голкі, змешаныя з гразёю. Толькі ўзняў ён ношку на плечы, глядзіць, аж баба тая стаіць побач... Па ім прабегла палахлівая дрыготка. Стала варашна і сцюдзёна... Маўкліва панёс ношку,— і цяпер самі сабою заколаціліся ў яго зубы: д-д-д-д... Хваравітая, мляўкая асцюдзянеласць пайшла па ўсім целе, і чалавек са страхам памысліў, што трасца апанавала яго. Цяпер ужо ён не мог саўладаць з дрыготкаю, барзджэй адкінуў колькі паленняў і панура выйшаў з лесу на поле. Прырода ўсё яшчэ ціхамірна спала, толькі як бы троху паслабела месячнае святло, і паветра пацямнела ў нізінах, а ядранейшым і святлейшым зрабілася, здаецца, над галавою. Там, дзе дагэтуль маўчалі хаты, закукарэкалі трэцім разам пеўні, у адным акенцы бліснула было святло, ды ізноў згасла: відаць, хацелі там ужо ўставаць, але ўбачылі, што яшчэ вельмі рана. Яго трасло і трасло... Рады, што падышоў да хат, кінуў ён ношку ля гумна і ўгрунь пабег у хату — мокры, спацелы, сцюдзёны.

— Яшчэ прынёс? — прыхільна спыталася жонка. Ён маўчаў і мокрымі ад поту і ад вады рукамі раскручваў аборыну. Зубы яго ляскаталі, усё цела калацілася, а часам яго ўсяго няведамая сіла кідала з боку ў бок.

Мляўкая асцюдзянеласць разлівалася ад патыліцы к сярэдзіне, усё цяплеючы і вяшчуючы гарачку. Жонка здзівілася яго маўчанню, боязка прыслухалася і тады пачула дробненькае зуб аб зуб: д-д-д-д... Яна схапілася з пасцелі і падышла ды нахінулася:

— Што табе? Чаго маўчыш? — А ён ўсё маўчаў.— Што табе! — крыкнула ў упудзе і кінулася паліць лучыну.

— Н-н-не п-п-па-л-і-іі,— насілу вымавіў, трасучыся ўвесь, мужык, а тады сцюдзёнымі, ліпкімі, як мярцвец ці жаба, пальцамі ўзяў яе за руку і пацягнуў к акну. Шлёпаў голаю, разутаю нагою і чвякаў другою, абутаю. І калаціўся, як асінавы ліст пад вялікім ветрам. Яна з жахам зірнула ў акно... Прыхіліўшыся да яе вуха, ён стаў шаптаць, вымаўляючы склад за складам, слова за словам: ці не стаіць там, на месячным відным надвор'і, на гародзе, між блізкаю, віднейшаю пуняю і далячэйшым, цёмным гумном, пахілая чорная постаць? Жонка слухала і глядзела, як зачараваная. Тады раптам жахліва адшаснулася ад акна, хоць там, пэўна ж, нічога не ўбачыла, але і ёй здалося, што быццам нешта чорнае мільгаецца там увач-

чу. Яна рынулася к полу, схапіла там першае, што трапіла пад руку,— спадніцу — і, распасцёршы яе ў руках, захінула акно. У хаце зрабілася цёмна і нязручна, але затое забаронна ад надворнага ліха. Зачапіла яна спадніцу адным ражком за крук у сценцы, а другі падціснула пад налеснік. Край спадніцы апаў... Вузкая коска белага месяца няроўна праскачыла ў хату — і спалохала іх абаіх. Не палячы святла, памагла жонка мужыку ўзлезці на пол, на пасцелю, на якой ён і пракачаўся дзён дваццаць з гакам у хваробе і выпетрыў на шчэпку ад гарачкі...

## СМАЧНЫ ЗАЯЦ

### I

Але колькі ўжо выпадкаў было ў гісторыі, што з самае вяршыні шчасця чалавек раптоўна звальваўся ў самае бяздонне плачу і адчаю.

Князь забіў на ловах пару вялікіх прыгожых ласёў. Вясёлы, здаволены, безупынку гамонячы з гасцямі, вярнуўся ён да вечару дамоў і заказаў кухару засмажыць адменнага зайца, што забіў учора лоўчы на снягу ў пушчы.

Тлусты, чырвоны той заяц ужо ляжаў на стале ў пякарні, і кухар жвава завінуўся ля яго.

Умельствам кухара ганарыўся сам князь і часта хваліўся гасцям, што другога такога кухара ўва ўсім краі няма.

Кухар гэта ведаў і пільнаваўся не выскачыць з свае славы.

Сёння ён асабліва стараўся: князь вярнуўся вясёлы, госці рагочуць, абед будзе з паляўнічай выпіўкай,— можна і гасцінца спадзявацца ад іх, а князь назаўтра пахваліць і добрым часам дасць чарку гарэлкі.

А не дагодзіш — бяда: зараз пацягнуць гайдукі на стайню і так адсмаляць раменнымі бічамі, што цэлы тыдзень будзе ані сесці, ані легчы.

Быў адзін выпадак,— і кухар засмуціўся, спомніўшы... Перасаліў ён страву, і князь сам, сваёю цяжкою рукою, так ударыў яго два разы поўху, што і цяпер яшчэ ў бла-

гое надвор'е з вуха гной цячэ. З гэтае прычыны кухар заўсёды насіў у вуху кавалачак мяккага хлопу і дрэнна чуў.

I ці мала было такіх выпадкаў, што забіў бы яго гнеўны князь да смерці ці аддаў бы ў маскалі, каб не даражыў яго залатымі рукамі і тонкім кухарскім смакам.

Пасля калецтва прыкра было бачыць князю кухара з заткнутым вухам, і ён ніколі ўжо не гукаў яго на параду аб стравах да сябе, а пераказваў яму ўсе свае загады цераз стольніка.

Ды сёння князь быў у такім нязвычным гумары, што захацеў, апрача стольніка, і сам пагаманіць з ім, як смажыць зайца.

Калі хлопчык-гайдучок прыбег з палаца да кухара ў пякарню, а яна змяшчалася воддаль, у асобным, адумысным будыначку, калі ён запыхана крыкнуў кухару: «Дзядзьку яснавяльможны кліча да сябе... барзджэй!» — у кухара затрэсліся ад неспадзевак рукі і зазвінела ў хворым вуху. Ён не ведаў, палохацца ці радавацца яму, што кліча яго князь.

Падняў уронены ручнік, абцёр з рукі зайцову кроў і рупненька прыгладзіў лысіну і падкруціў вус.

— Піражка... піражка, Янучок! — сарамліва, без раўнавагі зашаптаў ён гайдучку, азірнуўся, каб хто не ўбачыў, схапіў з духоўкі румяны піражок і ўсунуў хлопчыку ў кішэню за добру ці нядобру вестку.

Хлопчык усцешыўся, пагладзіў вялізнага адгадаванага ката, князёвага ўлюбёнца, што быў тут прыбегшы за хлопчыкам з пакояў, і паганяў дзядзьку: «Барзджэй, барзджэй, чакае!»

I зараз паляцелі: хлопчык наперадзе, а кухар следам, на бягу спушчаючы засуканыя рукавы.

Толькі мышасты кот застаўся, зачынены праз недагляд у кухні. Ён важна пахадзіў па ўсіх сталах, панюхаў зайца і зморшчыўся, потым скокнуў і падзівіўся скрозь няшчытна зачыненыя дзверы з кухні ў чорны прыкухоннік, як там два кухцікі, судамой і хлопец-дрыванос, былі кожны пры сваёй рабоце.

Кату прыемна засвярбела ў носе, ён глыбока пацягнуў пах ад вялізнае гарачае пліты, на якой без ліку стаяла рознага судзіння з гатаванымі стравамі, клубілася з катла пара, шляхатала вада, сіпелі скавародкі, трашчалі дровы ў печы. Але блісканне на паліцах соцень медных рондляў усялякай велічыні, ад самага большага, увелькі з цэбар,

да самага маленечкага, з катову галаву,— не спадабалася яму.

Там былі адчынены другія дзверы, і скрозь іх цягнула холадам, можна было выскачыць на двор, але пануры выгляд кухароў, асабліва ж хлопец-дрыванос з вяроўкаю ў руках не спадабаліся князёваму ўлюбёнцу, і ён пайшоў, задраўшы тоўсты хвост, назад.

Вучоны да ўсякіх штук, кот падскочыў, ударыўся аб клямку і расчыніў дзверы. У сенцах узлез на паліцу і настабурчыўся: пачуў, быццам скрабаюцца мышы ў скрынцы з прыпасамі...

Тым часам у дзверы вытыркнуліся з надвор'я морды двух хартоў — тонкіх, як вужакі, сагнутых дугою. Адзін з іх пацягнуў носам і зараз знюхаў зайца. Мякка, нячутна падышоў да стала, задраў вострую морду, схапіў у шырачэнную зяпу зайцаву галаву і шмыгнуў з сваім радым сябрам на двор у хартоўню...

Усцешаны варочаўся назад галоўны кухар: князь быў да яго дужа ласкавы, пагаманіў з ім і нават даў пацалаваць сабе ў руку.

Але колькі ўжо выпадкаў было ў гісторыі, што з самае вяршыні шчасця чалавек раптоўна звальваўся ў самае бяздонне плачу і адчаю.

Шчаслівы кухар, праходзячы каля хартоўні, пачуў, што ў пуньцы — хрумстанне, жвяканне і ціхае вурчэнне... Харты нешта жаруць!

Сэрца яго ёкнула: ці не зайца сцягнулі праклятыя сабакі, падобныя да чартоў?

Угрунь пабег ён да свае кухні, ускочыў, падбег к сталу,— зайца няма! Болем пеканула яму ў сэрца. Ён кінуўся ў чорны прыкухоннік, шыбка агледзеў усё і ўсіх. Зайца не было, і кожны ціха займаўся сваёю работаю. Як бы за якой справай выйшаў кухар ізноў на двор і марудна, прыціснуты няшчасцем, паплёўся міма хартоўні, асцярожна паглядаючы ўбок на сабачыя пунькі. Вось паказалася з аднае хартовая галава: морда ў крыві, вочы заплылі хіжаю сыццю і ў зубах штось тырчыць... Хорт аблізнуўся, і з зяпы выпала зайчая лапка.

Кухар панура пацягнуўся назад.

Увайшоўшы ў сенцы, ён прастоіў там, як непрытомны, і мімаволі задраў галаву, шукаючы крука, каб хаця і засіліцца навекі.

І тут яшчэ раз трэба сказаць, што чалавек ніколі не ведае, дзе згубіць, а дзе знойдзе. І няма такой злыбеды

9*

на свеце, на якую б не ўсміхнуўся неспадзеўны, нечаканы ратунак.

У вочы яму кінуўся ляжачы на паліцы кот — вялікі, адгадаваны, мякенька-пушысты, як той заяц.

Адчайная думка застроміла кухару мазгі, і ён паманіў князёвага ката выстаўленымі пальцамі. Кот прыплюшчыў вочы, змераў постаць старшога кухара, важачы яго вартасць у каціных вачах. Ад кухара прыемна пахла, вочы яго былі пакорна-ласкавыя, і кот патрошку, важна стаў падыходзіць да выстаўленых пальцаў. Як толькі ён дакнуўся іх сваёю гладкаю, шаўковаю шэрсткаю, пальцы з дзікай знявагаю абхапілі яго карак і пацягнулі ў паветра. Кот захлынуўся ад шалёнай злосці і крыўды. Абдумаўшыся, ён люта ашчэрыў зубы, заглабаў кіпцямі і закруціў хвастом; абраз князя стаў у выкачаных з галавы вочных яблыках і напаўняў кацінае сэрца злаславай радасцю бяссільнага, што ворагу князёвага ўлюбёнца будзе лютая кара за гэты здзек. Ды пальцы сцягнулі яго карак мёртваю пятлёю і няслі ў брыдкім паветры. Калі дзверы за людзьмі зашчапіліся на чэп, у вольнай руцэ кухара бліснуў вялізны, жудасны кухонны нож. Кот сабраў рэшткі сіл, сударажна рвануўся і згубіў прытомнасць. Гарачая кроў палілася з яго парэзанага горла, і наступіла вечнасць.

У адзін момант садраная шкурка была кінута ў дальні кут пад печ, а чырвоны, тлусты, аблуплены катовы труп з адсечанай галавою ляжаў, як добры, адменны заяц, на стале. Кухаравы рукі набраліся цвёрдасці, сэрца патроху сціхла калаціцца, і кухарская праца закіпела. Час ад часу кухар шаптаў «Вочча наш», ксціўся-маліўся, абціраў пот і маўкліва, старанна смажыў, перчыў, паліваў...

## II

— Ой, сэрца, людцы! Ой, сэрца!

Першы раз за ўсё жыццё еў князь і яго госці такога смачнага зайца. «Вось заяц — дык заяц! — хвалілі госці.— Пальчыкі аблізаць». Князь прыемна ўхмыляўся і часам нават шкадаваў, нашто калісьці ў страшным гневе скалечыў кухара. «Заяц добры, але і кухар мой нягоршы,— хваліўся ён.— Граф Зібер-Плятэр суліў мне летась за яго трыста злотых, ды я і за тысячу не аддам; мяркуйце, панове, самі: залатыя рукі, што?»

Гутарка ўзбілася на залатога кухара, і падвыпіўшыя госці пажадалі паглядзець на яго. Паслалі гайдука ў пякарню, каб прывёў яго.

— Скуль яснавяльможны дастаў яго? — пытаўся граф Бжастоўскі.

— Мой падданы... тутэйшы. Ні ў Парыжы, ні ў Варшаве не вучыўся,— мусіць з кухонным геніем радзіўся.

— Што ж так доўга не вядуць генія сюды? — запытаўся адзін пануры стары пан.

Князю не спадабаліся гэтыя словы, ён нахмурыўся і паслаў другога гайдука. Той ведаў князеў гнеў і памчаўся як страла.

Тым часам з кухарам рабілася немаведама што. Першы пасланец, здзіўлены, не ведаючы, што тут такое, стаяў над ім, старым, і не мог даць рады, каб ён ішоў да князя.

Кухар збялеў, дрыжаў і не казаў ні слова. Ён глядзеў на пасланца вытрашчанымі вачыма і не рушыўся з месца, быццам прыліпшы. Потым, урэшце, паволі скрануўся і пабрыў у сваю каморку, побач з прыкухоннікам. Асунуўся там на калені, зложыў перад абразом рукі далонямі і скамянеў так. Не маліўся, не кланяўся, толькі стаяў на каленях і глядзеў на абраз.

Доўга, можа, прастоіў бы ён так, каб не прыбег другі пасланы. Тады двое гайдукоў схапілі яго падпашкі і пацягнулі ў палац. Ногі яго не ішлі, згібаліся, лоб узапрэў, змярцвеласць на твары не змяншалася.

— Упіўся ты з радасці, ці што? — крычаў на яго старшы гайдук.— Князь хоча паказаць цябе гасцям, які ты, знацца, ёсць штукар зайцоў смажыць, а ты і язык высалапіў. Ідзі ўжо сам! — і піхнуў яго злёгку ў бок.

Але кухар заваліўся на снег і не ішоў. Потым ён схапіўся рукою за грудзі і балюча застагнаў: «Ай, людцы, сэрца, сэрца баліць!»

Гайдукі спалохаліся сапраўды, але не важыліся і марудзіць і, схапіўшы яго, пацягнулі далей. З палаца выскачыў стольнік. Спытаўшыся на бягу, што такое, схапіў жменю снегу і пацёр кухару лоб. Тады ён трохі ачуняў і слаба паплёўся сам.

Калі гайдукі адчынілі дзверы ядальнага пакоя, паны голасна гаманілі, наперабой хвалячыся сваімі ўдачамі на ловах, рагаталі, строілі розныя жарты на свой панскі манер. Граф Бжастоўскі першы заўважыў і, смеючыся, закрычаў: «Генія, генія, здаецца прывялі!»

— А, вось ён, геній...— прабурчаў пануры стары пан

і ўсміхнуўся: — Праўда, якісь асаблівы, быццам з таго свету... Але зайца смажыць мастак!

Госці патроху сціхлі і павярнулі галовы туды, дзе між двух рослых, здаровых, як дуб'ё, гайдукоў, стаяў пахілены, збялелы кухар.

— Што табе здзеілася, дурню? Скажы-тка нам, як ты смажыў зайца?

Кухар толькі шавяліў васковымі вуснамі і нічога не казаў.

Князю было прыкра, што яго чалядзінец такі затуканы і баязлівы...

— Што табе, дурню? — ізноў спытаўся ён грэблівым голасам.— Чаго без пары спалохаўся: за добрую работу будзеш мець добрую заплату.

Кухар зразумеў гэта як пагрозу і асунуўся на каленькі.

— Князёчку! — залямантаваў ён.— Харты яснай міласці, харты, каб на іх паляруш!

Ніхто нічога не разумеў. Харты яго спалохалі, ці што? Князь насупіўся, што кухар папсаваў яму добры гумар. Але ён не хацеў крута мяняць такую нядаўную ласку на гнеў і намерыўся яшчэ раз спытацца, у чым справа. Толькі ён тое падумаў, як кухар скруціўся і схапіўся абедзвюма рукамі за грудзі.

— Ой, сэрца, людцы! Ой, сэрца!..

— З ім сардэчны прыпадак ад якогась перапуду,— сказаў пануры стары пан і стаў ліць у шклянку сцюдзёнае вады, каб ратаваць няшчаснага; ён знаўся на лячэнні хвароб.— На, выпі, галубец,— прыклаў ён да зубоў кухара зазвінеўшую шклянку і спрыючы, але жартам дадаў: — Сардэчная хвароба — хвароба геніяў.

— Ой, людцы! Ой, людцы! — жаласна і брыдка лямантаваў кухар, скрабучы грудзі кіпцямі. Кавалак хлопу вылез у яго з вуха.

Усім зрабілася нялюба.

— Вядзеце яго! — загадаў князь гайдукам.— Хартоў спалохаўся, як дзіця...— прабурчаў ён услед падданаму і для супакою гасцей звярнуўся голасна і як нічога не было: — Гэта што — пара ласёў! Вось як мы летась палявалі з графам Зібер-Плятэрам — зуброў накрылі ў маёй дальняй пушчы...

І шумная лоўчая размова аднавілася. Забыліся і на зайца і на кухара.

## III

> Спачуццё шчаслівага да няшчаснага сфальшывіла чыстую ў муках душу чалавека.

Хворы кухар стагнаў на ложку ў сваёй каморцы. З'явіўся дворны фельчар, даў выпіць супакойных капак, пытаўся, як сталася хвароба. Не дабіўшыся ніякага адказу, махнуў рукою і пайшоў. Малодшыя кухары ад смутку і дзеля спачуцця троху выпілі, сваім гоманам дурылі галаву хвораму, а тады пайшлі і яны.

Позна ўвечары прыбег захныканы гайдучок Ясюк, шукаючы запрапашчонага ката. Ён, бедны, аблазіў усе куткі ў пякарні і нідзе яго не знайшоў, толькі выцягнуў з запечча зайчую скурачку, якая дужа нагадвала яму ката. З ёю ў руцэ прыйшоў ён да хворага, калі там нікога ўжо не было, і стаў плакаць і жаліцца дзядзьку, што баіцца князя за ката.

— Можа, уцёк у лес... Можа, сабакі разарвалі... Заўтра яснавяльможны спытаецца, дзе кот... Што я скажу? Гу-гу-гу! — румзаў бедны хлопчык, прыпаўшы да скуркі тварам.— Вось ён такі быў гладзенькі, як зайчык... Прыйшоў са мною сюды ў пякарню, а потым не ведаю, дзе дзеўся!

— Не ведаеш, Ясюк? — узняўся з ложка хворы і ўталопіўся на хлапца здзіўленым поглядам.— Не ведаеш, дзе падзеўся твой... гэты кот?!

— Не ве-е-едаю-ю, гу-гу-гу,— не сунімаўся, плакаў Ясюк.— Можа, уцёк у лес ці на вёску, сабакі там мужыцкія разарвуць яго, гу-гу-гу...

— А ў пакоях ніхто не ведае, дзе ён, халера, падзеўся? — аджыўся хворы кухар.

— Ніхто не ведае, не бачылі... ува ўсіх пытаўся. Што мне цяперака рабіць, дзядзечка... гу-гу-гу! Будуць сячы мяне, што не ўпільнаваў.

Смяротны цяжар раптам скаціўся з кухаравых плеч. Вялікім шчасцем засвяціліся змучаныя, праваленыя, з сінякамі ад сардэчнае хваробы вочы. Ком радасці ўскалыхнуў збалелыя грудзі. Спачуццё шчаслівага да няшчаснага сфальшывіла чыстую ў муках душу чалавека. З няшчырай пяшчотаю ўцалелага прыцягнуў кухар хлопчыка да сябе, прытуліў, гладзіў па галоўцы, жалеў, кажучы з найбольшай даступнай яму ласкавасцю:

— Дзетка маё! Сіротачка мой бедны! Не бойся, не плач, неяк жа абойдзецца. Ну, абсякуць, на тое ж мы

слугі панскія, каб нас секлі. Не бойся, да смерці ж не заб'юць. Во і мяне колькі разоў секлі,— нічога: неяк жа мадзею... Супакойся, мой Ясючок, галубок мой! Здохні ён, кот! Можа, яшчэ і знойдзецца, калі сабакі не разарвалі, вернецца, як захоча есці, ліха яго не возьме... Цябе князь любіць, можа, і даруе, калі нават і згіне гэты падла.

Хлопчык, круглы сіротка, узяты з вёскі ў палац ад малых гадоў, рэдка чуў такую бацькаўскую гутарку. Ён паволі змаўкаў, сціха хліпаючы не столькі ад гора, колькі ад расчулёнасці. Ласка старога кухара, які даў яму сёння піражок, растапіла яго сэрца, як цяпло растаплівае воск. Хлопчык прыпаў да кухаравай рукі і пацалаваў... Скурка выпаўзла з яго далоні і скацілася на ложак. Кухар зорка сачыў за ёю і, упільнаваўшы зручнасць, пасунуў локцем назад, і яна звалілася, за ложак. Тады кухар пачаў умаўляць хлопчыка, каб ён ішоў класціся спаць.

— А як жа, дзядзька, хворы адзін будзеце ляжаць? — з дзяцінным спрыяннем спытаўся хлопчык, паглядзеўшы на старога чысценькімі, абсохлымі ад слёз вочкамі.

— Нічога, Ясюк! Не шкадуй мяне, бо мне ўжо крышку лепей...

## ЕДУ ДАМОЎ

Даўно не быў я на вёсцы ўлетку.

Даўно не відаў таго бязмернага хараства роднае прыроды, якое адно ніколі не змяншаецца, ніколі не марнее.

Наадварот — яно расце і расцвітае, набірае няведанае цаны ўваччу з кожным новым годам майго жыцця, з кожнай новаю сустрэчай пасля даўгога разлучэння.

Прыйдзе час, і з'явяцца вялікія песняры і пісьменнікі беларускае зямлі, каторыя патрапяць дасканальна паказаць прыгожым словам тое, што поўніць мае грудзі, а што выказаць не маю сілы.

Цяпер жа не адзін я пішу з няволі, пішу дзеля таго, што яшчэ дрэмле запраўдны паэтычны геній нашага высока адаранага народу.

Можа быць, я надта стаў нервовы ад сучаснае завірухі, але здаецца мне, што слёзы, якія неўспадзеўкі накруціліся на родным полі і якія стараюся схаваць ад сваіх здаровых падарожнікаў-сялян, што яны — добрыя слёзы.

Бяспечнае, дарагое і любае чуццё красы плача ўва мне.

У чужых краях, глядзеўшы на вялізарныя горы, шырокія рэкі, пладаносныя дрэвы і на ўсё тое, што хораша, а ў нас на Беларусі яго няма або яно горшае, я таксама любаваўся, харашэў душою, быў паэт, але не плакаў.

І зтуль, з чужыны, імкнулась думка да родных жытных ніваў, з маркотаю гамонных лясоў, спакойных пералескаў.

— Таму, што ўзгадаваўся на тым мізэрным лапіку зямное кулі,— казалі мне.

А што, калі і гэтак? Спрэчнае пытанне: якое хараство мае вышэйшую цану — ці тое, каторае здаецца гэтакім спрадвеку найвялікшаму чыслу людзей, ці тое, што выклікае ў мяне слёзы?

Цэннасць хараства залежыць для людзей ад успрымання.

Я ж успрымаю так, як на тое паказала маё ўзгадаванне, мой светагляд, мае пачуцці, а можа быць, і бацькоўская кроў.

Гармонік і раяль — дзве рэчы зусім непараўнаныя паміж сабою. Але я знаў расійскага паэта, што пад раялевыя гукі плакаў, спамінаючы маркотна-звонкі гук гармоніка ў расійскім цёмным полі жніўнаю начою. Я не дзівіў яму...

Мабыць, з падобнае ж прычыны мне найлюбей за ўсё на свеце відаль раўнін, якія вось раскінуліся з узгоркамі наўкол і ўздоўж пыльнае дарогі.

Сто вёрст буду ехаць я да свае хаты па гэтым шэранькім шляху сярод жыта і яравога поля, потым у лесе і ўзноў у полі.

Буду ехаць, і піць свежае паветра, і плакаць, як паэт.

## СТРАШНАЯ МУЗЫКАВА ПЕСНЯ

Дзеялася тое за прыгонам.

Быў у таго пана, акрутнага і злога пана Дастаеўскага, малады музыка.

Звалі яго — Арцём Скамарох.

За тое — Скамарох, што ўвесь род іх — скамарохі. Бацька, дзед і прадзед умелі іграць на скрыпцы і былі скамарохамі для ўсяе акругі.

Ніводнае вяселле без іх не абышлося.

Спачатку дзед іграў, даючы прыклады сыну. Потым бацька замяніў, водзячы з сабою па ігрышчах і кірмашах, дзе трэба і не трэба, свайго малога Арцёмку.

Але вось памёр дзед, памёр і бацька з маткаю. Застаўся дзяцюк адзін, сірата. Тады пан Дастаеўскі ўзяў яго да сябе ў двор.

Іграць жа хлопец умеў так, што бацьку і дзеда перайшоў. Не простыя дастаў ад долі пальцы.

Ды толькі меў і свае гонары Арцём. Вядома, наш брат-мужык, панскі падданы, а ў ім гонар быў зусім нянаскі.

Такі ганарлівы быў хлапец, што нават пан сцярогся рабіць яму якую крыўду. Такі ганарлівы: як не захоча іграць, то ці ўпрашай яго, ці пагражай яму,— не стане іграць, дый годзе!

І вось аднойчы прывёз пан Дастаеўскі з Варшавы новую палюбоўніцу-палячку.

Палячка тая вазьмі дый улюбіся ў нашага музыку.

Узяла на вока простага дзецюка.

Каб не быў такі ганарлівы, то рэч у той мінулы час звычайная. Пан бавіцца з палюбоўніцай, а палюбоўніца яшчэ каго ў сэрцы мае.

Аж тут выйшла цэлая гісторыя. Арцём дзяцюк быў гэткі: як не любіў, то і прыкідацца не хацеў...

Выедзе пан Дастаеўскі да Варшавы, або ў госці да суседзяў, або на ловы ў пушчу,— палячка толькі таго і чакае. Гукне мальца да сябе і просіць, каб ёй іграў.

Пакуль Арцём не ведаў, у чым справа, іграў палячцы розныя наскія песні, да якіх мела яна вялікую цікавасць, бо ніколі раней не чула іх. Нават гаманіць па-наску трохі нялася, каб, знацца, лягчэй апанаваць яго.

Але, як зразумеў музыка, што не простым вокам глядзіць на яго панская палюбоўніца, што нездарма распушчае перад ім свае даўжэнныя, чарнюсенькія, быццам вугалле, косы, што не так сабе хмурыць свае бровы, што не абы-чаго ў яе на бел-румяным твары якоесь нецярплівае, капрызнае ламанне,— як заўважыў усё гэта, страціў ахвоту іграць ёй песні.

А дзяўчына бачыць, што хлопец ганарлівы,— і пэўнасць страціла сваю.

Вядома, як жанчына страціць пэўнасць, то робіцца як бы якая непрытомная. То плача, то смяецца, то злуе-халяруе, нічога ў свеце ёй тады ўжо не смакуе, і кожны лёгка заўважыць яе каханне.

Палячка была з людзьмі абыходлівая, і шмат хто шкадаваў яе, бо ведама ж: і ў панскай палюбоўніцы ёсць чалавечае сэрца і яна ж на сваім хлебе — чалавек.

Шкадуюць людзі палячку, наракаюць на Арцёма за ганарлівую натуру.

А музыку нашаму дадзела тое горш за рэдзьку. І сам ён шкадаваў прыгожую палячку, ды раз на злосць усім сказаў камусьці гэтак: «Не хачу за панам падбіраць... Няхай яна сабе другога пашукае!»

Злыя людзі вазьмі і дакажы палячцы.

От жа выйшла гісторыя, зусім, як у той бібліі аб Язэпе тым Прыгожым і начальнікавай жонцы.

Прыехаў пан, палячка з роспачы і назводзіла яму на беднага музыку. «Так і так,— кажа,— лез гэты хамуйла да мае красы».

Але пан сцяміў, што справа, мабыць, трохі іначай выглядае.

Гукнуў ён да сябе Арцёма, запёрся з ім вока на вока ў кабінеце і ну яго пытаць:

— Скажы, хаме, чым ты прывабіў да сябе маю палячку?

Маўчыць Арцём. І што тут скажаш?

— Хочаш ты, хаме, з ёю ажаніцца? — ізноў пытаецца ў яго пан.

— Нізашта ў свеце, найласкавейшы пане,— цвёрда адказвае Арцём.

— Цо ж я бэндэ з вамі робіл? — як бы раіцца з ім пан: — Іграў ты ёй хамскія песні?

— Іграў, паночку!

— То выбірай, галгане: або жаніся з ёю і сядай на хлопскую там гаспадарку, або маеш іграць ёй што хоцькі... адну ноч?

— Жаніцца — ніколі не жанюся, а іграць — на тое мне і пальцы служаць.

— Добжэ мувіш, хаме,— пасміхнуўся пан,— паментай жэ о тэм!

А за колькі дзён здзеялася неспадзейнае няшчасце: захварэла палячка і памерла...

Мабыць, паднёс атруты пан.

Прыбралі яе на той свет у багатыя панскія ўборы, паклалі ў вялікай зале на чорны стол, запалілі свечкі...

Наступіла ноч, кліча пан музыку са скрыпкаю.

— Паментаеш, хаме, цо мне мувіл?

— Памятаю, найласкавейшы пане.

— Ну, то ідзі іграй цэлую ночку нябожчыцы, каб яе душа не вельмі сумавала па гэтым марным свеце...

Спалохаўся наш музыка, думае: жартуе пан... Не!

— Ідзі, ідзі,— кажа,— галгане, такая ж была ў нас умова.

Пайшоў Арцём у залу, і зачынілі яго там аднаго з палячкаю.

Жудасць ахапіла людзей, вялікі жаль мелі да музыкі і баяліся, што ў той зале пры нябожчыцы прыйшла-ткі на яго загуба.

Спаміналі цяпер розныя страшныя пераказы: як ўставалі памершыя з труны, каб загубіць таго, каго ў жыцці дужа любілі.

Сталі нават шаптаць, што палячка была чараўніца, старая кракаўская ведзьма, якая ўдалася прыгожай панскай палюбоўніцай, каб загубіць нашага музыку.

Казалі нават, што і сам пан Дастаеўскі спутаўся з чарцямі, якім даўно карціла звесці са свету слаўнага музыку. Вядома, чарцям няма спакою ад добрага музыкі, бо ён сваім харошым граннем робіць людзей лепшымі, верне іх на добрыя думкі.

А было ўсё гэта пад канец лета, калі з надыходам восені наступае самая вядзьмацкая пара.

Што ж тым часам рабіў Арцём?

Прыйшоў ён да труны, памаліўся за ўмершую душу і ўзяўся настрайваць сваю старую скрыпку.

Тады адчыніў на́пята акно і даў першы гук на струнах...

Як нейкі боль, як нейкі стогн, раздаўся гук у садзе, сярод адцвіўшых красак, сярод агорнутых цішою ночкі дрэў, пачуўся ён у сэрцах панскай чэлядзі і даляцеў да пана, што сядзеў у кабінеце пры чарцы старога віна.

Усё прыслухала: што будзе іграць музыка нябожчыцы на развітанне?

Памаўчаў трохі музыка і паволі, сціха, маркотна зайграў «Вечную памяць».

Дужэлі гукі, раслі, і вось здавалася, што цэлы хор папоў адпявае чалавека.

Яшчэ дужэйшымі рабіліся гукі, і дзіўна было ведаць, што там усяго толькі адна скрыпка так пяе...

Не хор папоў пяяў там, а быццам тысячы панурых галасоў зліліся ў адным хаўтурным гімне.

Слухаючым тую песню, жаль было марнай чалавечай долі, мізэрнымі былі раскошы гэтага свету, нікчэмнымі

нашыя сваркі і звадкі: «Суета сует и всяческая суета», «Прах еси и прахом отыдеши»,— пялася ў той песні.

Але скончыў музыка маліцца, памаўчаў трохі і зайграў штось іншае. Трудна было адразу ўхапіць, аб чым гаворыць яго скрыпка, але чулася нешта знаёмае, даўна вядомае, даўна пяражытае. Як бы там лес шуміць, як бы завіруха ў полі гудзіць, ізноў жа як бы жнеі пяюць. Зайграў, значыцца, музыка аб штодзённым жыцці чалавека. Кашаль б'е старога дзеда, гоман якісь людскі, як бы сварка бабская, кугаканне дзяцінае... І такое выразнае, дарма што скрыпка, быццам сапраўды хворае ці галоднае дзіцятка заходзіцца. Так плача, так плача, што вытрываць аж трудна, хочацца бегчы да яго, каб суняць тое плаканне. І чуецца, што сунімае матка: «А-а, а-а, малое! а-а, а-а, беднае!» Патрошку сціхае дзіця, калыша яго матка, скрыпаюць пачопкі цераз даўгую ночачку, скрыпаюць і скрыпаюць як бы вось тут во, каля цябе, дарма што гэта адно скрыпка даказвае пад музыкавымі пальцамі. Звычайныя песні іграў музыка, але слухаў бы яго, слухаў без канцакраю.

Не плач, маё дзіцятка, ■ цыц, маё родна.
Вунь там война ідзець,
На татку, на мамку ён бізун нясець,
У тым у бізуне скураты увіты,
На тым на бізуне слёзкі паліты...

І шмат чаго іграў музыка аб сваёй нядолі змалку дзён.

І так, песня за песняй, сыграў усё жыццё сваё.

Цёмная ноч стаяла на двары, а як іграў, то быццам расплывалася цямнота: то жніво перад вачмі, жнеі пяюць, то ў сенажацях косы звоняць, то ў супрадках вераценцы трынкаюць, то на ігрышчы «Лявоніху» хлопцы з дзеўкамі скачуць.

І нікому не здавалася дзіўным, што ля труны нябожчыцы іграе ён не толькі хаўтурнае, але і штодзённае, бо ўсё пакаралася пальцам музыкавым; усё было толькі хораша — ці яно святое, ці грэшнае.

Аж так і да паўночы падышло.

Дайшоў музыка да тае нешчаслівае часіны, як іграў палячцы наскія песні.

Трубіць паляўнічы рог, гаўкаюць ганчакі,— гэта, значыцца, выязджае пан на ловы.

Смяецца палячка, як бы званочак сярэбраны,— гэта яна цешыцца, што Арцём да яе ідзе. Пакацілася ад скрып-

кі смутная жніўная песня, гэта ён пачаў іграць ёй наскія песні.

Песню за песняй іграе скрыпка, і такая жальба, такая жуда чалавечае душы была ў тым гранні, што сэрца ад болю ўсім сціскалася, белы свет не мілы рабіўся, жадалася чагось няведамага, чаму ніколі на свеце не бываць. Разліваецца ў слёзах скрыпка, плача аб марнасці таго свету, дзе адзін любіць, а другі — не. Так іграў.

Але вось перабіваецца ігранне на новы тон. Выплывае на паверх магутны гук, горды, непернагражны, пад якім ледзьве чуваць і тыя песні жніўныя, і тое мучанне паляччына. Зайграў Арцём аб сваёй гордай, адзінокай душы, зайграў аб сваёй музыцы. Грыміць няземны гімн, аж увесь свет ад тых гукаў дрыжыць... Па-над усім вышэй стаіць музыкаў гімн, няма той сілы ў свеце, якая б яго сходала.

Раптам зарагатала з кабінета панскага нешта нялюдскае, дзікое... Пан рагоча, вые, смяецца! А музыкаў гімн, не зважаючы, плыве шырокай хваляю ў паветры цёмнае начы, як тая магутная бурлівая рака ў пáвадкі.

Сціхла рагатанне, і сярод музыкі раптоўна: бух!..

Сціхла і музыка. Бягуць людцы да пана ў кабінет, глядзяць: аж ён ляжыць з разбітымі мазгамі, пісталет турэцкі пры ім уронены ляжыць.

Здужала яго нячыстую сілу Арцёмава ігранне,— застрэліўся наш пан!

Пахавалі яго з палячкаю разам; Арцёма ж болей мы не бачылі: сышоў ад нас у свет, няведама куды.

Вось які быў калісь музыка, вось якое-што часам дзеялася за прыгонам.

## СКАРБ

У самую бязгодзіцу глыбокай восені, пад дажджом беспрастанку і ўвечары, ехаў я ад станцыі Яшун Палескае чыгункі ўбок вёрст за пятнаццаць. Дрогкія, убогія калёскі, калматая, слабасільная шаўлюжка і пануры, бедны вілянчук-фурманшчык не весялілі вока.

Лёгкае паліто пад дажджовай накідкай мала баранілі маё зяблівае цела ад пранізлівае сцюжы з ветрам, і я з жалем глядзеў на акалелага вазніцу ў кароткай і благенькай, зношанай капоце.

Вазніца быў маўклівы; маўчаў і я, прыціснуты бясконцай чарадою невясёлых думак.

Пакуль цягнуліся ад станцыі ў сасновым лесе, нядоля ў заціпшы здавалася яшчэ не дужа прыкрай. Але вось патанулі мы ў туманным полі... Гусцела цьма. Нямела мокрае надвор'е. Страшыла чорная, без просвецця, маруднная дарога. І я пачуў сябе няшчасным у жыцці.

«Але,— думаў я сабе,— ёсць на свеце яшчэ болей абяздоленыя людзі». І падумаў пра свайго фурмана, які паедзе гэтаю ж дарогаю назад адзін. Я добра павячэраю, сагрэюся і буду спаць, калі ён, бедны, будзе яшчэ калець на гэтай сцюжы.

— Ці часта вам трапляецца так ездзіць? — спытаўся я азызлым ротам, з натугай вымаўляючы слова па слову.

— Як калі,— гэтаксама адгукнуўся фурман,— як пасажыры ёсць, тады і еду. То цераз дзень, то разы два на тыдзень.

— Ох, няшчасны ж вы чалавек!..

— Чаму няшчасны? Без хлеба не сяджу, патроху зарабляю.

«Мабыць, звёўся з гаспадаркі і ўдаўся ў фурманы,— падумаў я аб ім,— мабыць, няздатны гаспадар; такія незадачнікі бываюць між сялян».

— Я, бач, братку, зямлі не маю, конь — усё маё багацце,— як угадаўшы мае думкі, сказаў ён мне.

— То вы сапраўды няшчасны чалавек...

— Чаму няшчасны? Я часам добра зарабляю.

— Калі ж гэта вы так добра зарабляеце?

— Бывае. Пасажыры бываюць розныя.

— «На чай» даюць?

— Даюць гасцінца, а вось надоечы, дык пяцьдзесят рублёў за тры вярсты зарабіў.

Мяне здзівіла і зацікавіла, які такі шчаслівы выпадак скінуў яму з неба пяцьдзесят рублёў?

Я хацеў пытацца, але фурман ажывіўся сам, і я прыслухаўся, што ён мне скажа?

— Бачыце, вунь там фальварак? — паказаў ён пугаю некуды ўбок.

Я, прызнацца, нічога, апроч чорнай, мокрай цьмы, не бачыў і, як ні напружваўся вачыма, не мог зацеміць ніякага фальварка.

— Ну, дык што?

— Там жыў калісьці пан, які займаўся чараўніцтвам.

Ён даведаўся, што ў тым сасновым лесе, што мы, вось, праязджалі, французы закапалі скрыню грошай.

— Ну, ну?

— Дык вось шукаў ён таго скарбу праз усё сваё жыццё, ды нічога не мог натрапіць. Так і памёр, нічога не знайшоўшы, але прадаў свой сакрэт немцам за граніцу. Відаць, я гэтых немцаў надоечы і вёз.

— Цікава!

— Але, братку, дужа цікава! Каб ведаў я, што яны, гэта, скарб едуць шукаць, то не пяцьдзесят рублёў узяў бы з іх.

— Значыцца, яны знайшлі? Кажыце па парадку ўсё.

— Што ж тут казаць? Відаць, знайшлі, бо столькі грошай мне дарма не кінулі б. Прыехалі яны з вячэрнім цягніком як вось, прыкладам кажучы, і вы. Прыехалі ўдвух, высокія такія, з рыжымі вусамі, і гаворка ў іх ні польская, ні руская, а невядома што, падобна да яўрэйскай. Ды не яўрэі. Са мною гаманілі ломана па-польску. Па далікатнасці відаць, што важныя паны і не тутэйшыя. Дагаварылі яны, гэта, не таргаваўшыся, маю фурманку да фальварка, але, прыехаўшы ў той бор, сказалі мне стаяць. З сабою ж узялі якуюсьці даўгую цяжкую торбачку — штрументы былі там ці што, бо троху дзынкала. Запалілі лікстрыцкі ліхтарок і падаліся з дарогі ў лес. І торбачку ўзялі з сабою. Чакаў я іх, мабыць, з гадзіну. Спачатку не дзівіўся, бо паны, вядома, ад іх усякіх штук убачыш. Але, урэшце, дакучыла мне дужа — таксама дождж крапіў — ды і цікавасць забірала. Тут я і сцяміў, што яны, гэта скарб шукаюць. Вярнуліся, гяргечуць паціхеньку між сабою і нештачка малое ў руках адзін нясе. Другі нёс торбу, а гэты — штосьць завінуўшы ў чорную хустачку, можа, тую скрыначку французскую з грашыма. Што мяне здзівіла, дык гэта — радасці вялікай на тварах не было відаць. Як і раней, гяргечуць паціхеньку, спакойна між сабою і кажуць заварачываць назад. Я, вядома, завярнуўся і завёз назад на станцыю. Якраз падыходзіў і цягнік на Вільню, яны ўзялі білеты, далі мне пяцьдзесят рублёў ды і паехалі сабе.

— Дзіўныя рэчы кажаце! — як крыкнуў я.— Толькі як яны маглі знайсці ў лесе, уночы, у незнаёмай мясцовасці?

— Немцы, братку! Мудрыя галовы, хітрэйшыя і ад яўрэяў. Забыўся сказаць, што на вакзале яны ў нейкі план глядзелі і стужку мерную якуюсь мелі пры сабе. А як іх

вёз, дык усё на гадзіннік паглядалі, колькі ўехалі. Пыталіся ў мяне ломана па-польску аб паваротках ад дарогі.

— Ай-я-яй! Чаму ж вы не сказалі хоць начальніку станцыі, што немцы нешта ў нашым лесе адкапалі?

— Э, панок, лес гэты панскі, а звяжыся з начальнікам, яшчэ ў бяду якую трапіш... Далі мне пяць паперак, я і маўчу.

— Ну, а цяпер жа вы шкадуеце?

— Чаго шкадую? На іхнюю долю, знацца, шчасце. Трошкі, можа, і шкадую, што не папрасіў хоць сотню. Як думаеце, далі б ці не?

— Ай-я-яй! — мог я толькі адказаць, бо сапраўды ўпэўніўся, што немцы выкапалі скарб, закопаны ў 1812 годзе французскім войскам.

Нядбаласць кінула мяне; здавалася, як быццам пацяплела, як быццам пасвятлела навакол. Хацелася бегчы даганяць штосьці, намалёванае ўвабражэннем. Ды не надоўга...

Фурман змоўк. Паволі сціх і я. Каняка наша шлёпалася, як рак. Ноч яшчэ болей пацямнела, і падарожжа ізноў расціла цярплівую нуду, маруду думак, безнадзейнасць. Дожджык прабіраўся за каўнер, пранізлівая сцюжа ёжылася па спіне. За паўгадзіны апавяданне яго здавалася даўняю, даўняю байкаю ці нечым бачаным у ва сне.

## САСНА

І ёсць на нашым полі вялізная кучматая сасна, старая-прастарая. Стаіць яна ў баку ад новае дарогі, там, дзе калісь праходзіў стары шлях. Гаспадар шнура, на якім яна прыйшлася, даўно звёў бы яе са свету, каб не баяўся, што ад гэтага яму трапіцца нейкая бяда. Дый усе людзі так прызвычаіліся бачыць гэтую сасну, што без яе, здаецца, і поле нашае было б не тое.

Вось аб гэтай-то сасне многа чаго кажуць старыя людзі, спамінаючы стары, даўна мінулы час.

Яшчэ да вольніцы жыў у нашай вёсцы заможны гаспадар. Шмат грошы назбіраў ён за сваё жыццё, бо скнарыца быў — што няхай такіх не будзе. Прадасць, бывала,

збожжа, лён ці канаплі, дык бубліка дзецям не купіць на гасцінец. А калі з'явіліся пазнейшым часам крупадзёркі і млыны, то нізашта не хацеў завезці, каб яму абдзёрлі ці змалолі; бабы мусілі, як і даўней, таўчы-душыцца ў ступе крупы і малоць мелева на сваіх хатніх жорнах.

Меў ён чатырох сыноў. Тры засталіся гаспадарыць, а самы малодшы, на імя Васіль, з панскага загаду прыстаў да немца-млынара ў навуку. Малоць ён добра не наўчыўся, але затое наўчыўся маляваць, ад немца, абразы.

Не спадабалася яго старому бацьку, што сын займаецца такою-то лухтою: малюе дрэвы, хаты і людзей.

— Гэта, кажа,— панская або нямецкая забаўка, а мужыка яна толькі псуе!

А ў немца ды была харошая дачка, звалася Эльза,— хлапец вазьмі дый закахайся. Яна, бывала, ходзіць, бавіцца пад тою сасною, а ён малюе кучматую сасну і сваю дзяўчыну пад сасною. Урэшце так добра стаў ён маляваць, што перайшоў нават і немца, і шмат намаляваў вялізных абразоў па просьбе бацюшкі ў царкву. Толькі іх пасля з царквы павыкідалі.

Аднойчы дужа заняўздолеў стары той гаспадар, думаў, што памрэ, гукнуў сваіх трох большых і сказаў:

— Дзеткі! Дужа я хворы, можа, памру, дык хачу вас падзяліць, каб вы па маёй смерці не калаціліся за бацькава дабро.

— Што ж ты дзеліш толькі траіх? — спыталася старая.— Чаму ж ты Васіля не дзеліш?

І сыны ўмяшаліся. Сталі прасіць бацьку, каб не крыўдзіў ён і меншага, Васіля.

— Дык я, гэта, яго крыўджу?! — з гневам сказаў хворы.— Не, не я, а ён мяне пакрыўдзіў! Бо вы, дзеткі, пайшлі добрым торам, а ён не.

— Можа, ён яшчэ абдумаецца,— прасіла за сына маці.

— Абдумаецца? Не, ніколі ён не абдумаецца, калі дагэтуль не абдумаўся,— гневаўся, не мякчэючы, стары.— Я,— кажа,— скрозь цэлае сваё жыццё збіраў дабро: прадаўшы, бывала, збожжа, лён ці канаплі — соткі гарэлкі ні разу не выпіў. Скрозь увесь век свой хадзіў я ў лапцях, не хацеўшы траціцца на боты, хоць і меў за што. Адну шапку-віславуху цягаў я зіму і лета гадоў дваццаць, а можа, і болей... Каб толькі сабраць вам... Мне ж нічога ўжо не трэба. У ямку з сабою не вазьму. А Васіль лаяў мяне, бацьку свайго роднага, за гэтае маё старанне. Ён боты носіць, ён паскудствам займаецца, дзевак малюе.

Каму гэта патрэбна? Рукі мые па самыя локці... Дык няма ж яму ад мяне нічога. Хай цалуецца са сваімі немцамі.

І так падзяліў гаспадарку між трыма старэйшымі сынамі, а маляру за тое, што не ішоў, на яго зданне, добраю дарогаю, не даў нічога.

Але гэтым разам не памёр стары,— аправіўся.

І стаў жыць цяпер адзін са старою, дастаючы часціну збожжа ад аддзеленых сыноў і маючы, ведама, вялікі запас грошы.

Тым часам ссадзіў за нейкую прамашку з млынарскае пасады немца пан. І пачаў наш бедны немец надта гараваць, бо зусім не меў ён чаго есці і ўсю сям'ю жывіў толькі адною каваю, ды не праўдзіваю, а меленаю з жалудоў. Сям'я ж, праўда, невялічкая была: сам ды жонка з тою дачкою Эльзаю.

Дужа блізка ўзяў Васіль да сэрца бядацкае жыццё сваё каханкі і пасабляў чым мог, цягаючы патрошкі з бацькавае гаспадаркі. Дадзела яму гэткае жыццё, і прыйшоў ён раз да бацькі прасіць, каб дазволіў бы яму жаніцца з немкаю і сесці, з панскай ласкі, на гаспадарку. Пэўна, з тых замераў нічога б і не выйшла, бо з хлапца ніякі быў гаспадар, яму абы часіна — зараз маляваць, а маляваннем хлеба не прыдбаеш. Але старому не спадабалася, што з немкаю. Сварыўся ён на сына-неўдалюгу, а колькі раз нават і з хаты выганяў.

Васіль, бывала, кажа:

— Тата! Сын я вам ці не? За што вы гневаецеся? Я ж яе кахаю. Не вінават я, што кахаю, а яна не вінавата, што яна немка. Дазвольце мне жаніцца і сесці на гаспадарку.

— Колам ты сядзь, сынок,— кажа яму бацька.— Каб я з месца не сышоў, калі я дам табе хаця што-небудзь.

— Вы не давайце. Вы толькі дазвольце мне жаніцца.

— Як? Дык ты нічога і не просіш у мяне, сынку? А хацеў жа сесці на гаспадарку?

— Калі будзе на чым, сяду. А не — я з свайго промыслу пражыву. Я абразы ў царкву буду маляваць. Да млынара дзе-небудзь у памагатыя прыстану.

— Згінеш ты. Не пражывеш! А кінь немку і маляванне, будзь чалавекам, дык нічога я табе не пашкадую, худога слова табе ніколі не скажу.

— Я кахаю Эльзу.

— Што ты ў ёй добрага знайшоў. Немцы, сынку, не

нашы людзі, яны — гордыя. У бядзе сядзіць, жалудовай каваю толькі жывіцца, а прыйсці з пакораю не хоча. Ён чакае, што я пайду яму карыцца: «Дзякуй табе, пане млынару, што твая дачушка майму сыну галоўку завязала». Не, недачаканне...

— Тата! Эльза будзе вам як родная дачка.

— А-а, будзе! Цяпер ужо ў руку цалуе мне, спаткаўшыся: ветласцю хоча падысці. Не, мяне падбегамі не купіць.

— Яна гэта робіць па шчырасці, паважае вас як майго бацьку. Гэта звычай такі нямецкі. Няхай жа тата не думае нічога дрэннага.

— Блазень ты! Анямечылі яны цябе. Малюеш дрэвы, хаты і людзей, а гэта панская або нямецкая забаўка, і мужыка яна толькі псуе. Кінь ты свае забаўкі, будзь ты чалавекам!

Тым размовы і канчаліся.

Не мог кінуць Васіль гэтых сваіх забавак, і не да забавак тут ужо ішло...

Бяда ўжо тут надыходзіла, бо трэба было дзеўку да шлюбу весці барзджэй, за тое, што дапусцілася да ліха. У немцаў, мусіць, глядзяць на тую справу троху лягчэй, як тое ў нас паводзіцца. Спракудзілася дзеўка, а немец анічагусенькі: не сварыцца, не лае, адно п'е каву з жалудоў, чакаючы панура, калі дазволіць бацька пабрацца з ёю маляру.

П'е і спамінае мінулы час.

...Млын гудзіць. Млынар ходзіць белы ад мукі. Вось бяжыць яго Эльзачка.

— Татачка, а дзе Васіль?

— Ой, дзяўчынка! Нешта вельмі часта пытаешся ты Васіля.

— Татачка! Адпусці ты яго сёння з млына. Мы пойдзем пагуляем пад сасною.

— Чаму ўсё пад сасною?

— Васіль там будзе маляваць мяне.

— Ну, ідзіце сабе: завозу мала.

— Дзякую, татачка! — скажа дзяўчынка і пабяжыць вясёлая.

Беленькая была такая немачка, з вялікаю касою, хоць і маладзенькая.

«Маладая дзяўчынка,— думае ўслед ёй бацька,— рана

ты закахалася. Хлопец нічога сабе, але мужык. Бацька яго такі,— каб яго чорт схапіў. Ат, клопат сабе!.. Гудзі, гудзі, маё кола! Мялі, мялі хлябок людзям! Будзем мы піць каву не жалудовую, а сапраўдную...»

Ды не давялося яму піць сапраўдную каву. П'е ён жалудовую. І кажа, адарваўшыся ад сумных успамінкаў і разваг:

— Эльза, Эльза! Дзіцятка маё! Што ты сядзіш? Што ты думаеш? Ты думаеш, што бацька твой ужо скінуты з млынарскае пасады? Што бацька твой — ужо бедны беззработны чалавек? Што ён п'е жалудовую каву? Эльза, Эльза! Дзіцятка маё!

— Татачка, мы нешчаслівыя людзі,— казала Эльза, хаваючы ад засмучоных бацькавых вачэй сваё кругленькае паднятае брушка.— Але мы яшчэ будзем шчаслівыя, татачка!

А Васілёваму, аднак жа, бацьку страшэнна не падабалася, што немцы ў гэтай-то бядзе не думаюць яму карыцца, не просяць, не наракаюць, пры спатканні з ім дужа ветлівы, а дзяўчына нават і ў руку яму цалуе.

Знялюбела яму дзеўка за гэтую нямецкую пачцівасць і яшчэ за тое, што любіла бавіцца пад тою сасною. Мала таго, што бавіцца сама, Васіля туды з сабою цягне або цэлы табун дзяўчат вясковых прывядзе. Збяруцца там карагодам і пяюць ёй без пары вясельныя песні.

А то жартуюць:

— Як жа ты, Эльзачка, белая красачка, з намі, мужыкамі, будзеш жыць, панскі прыгон адбываць, не ўмеючы ані кросенцаў ткаць, ані жытца жаць?

А немачка смяецца, як блазнотка:

— Я,— кажа,— усё здолею, толькі не дужа прызвычаена. Для Васількі свайго любага да ўсяго я прызвычаюся. Буду кросны ткаць, і жыта жаць, і хлеб мясіць...

— А малаціць жа ты не ўмееш?

— Дык ці доўга мне навучыцца, Васіля кахаючы!

Кажа так, і не сорам ёй...

Пагуляўшы, ідзе немачка з Васілём дамоў, пастаяць, пажалеюцца, пацалуюцца і разойдуцца: Эльзачка — дамоў, а Васіль — да бацькі або ў панскі двор варту адбываць. А часам — і немаведама, дзе ён начуе.

Ізноў сядзіць Эльзачка, сядзіць ды слухае бацькаву жальбу.

— Мы нешчаслівыя людзі... так! — кажа стары немец, а нямкіня-маці плача, абціраючы ціхенька слёзы белым

хвартушком, і п'юць жалудовую каву.— Я нешчаслівы бацька, Эльза! Табе даўно пара да шлюбу ісці, Эльза! Паглядзі на сваё брушка, дзяўчынка мая! Яно расце так, як нашае няшчасце. Што нам рабіць, Эльза, дзіцятка маё?

— Васіль, татачка, пагамоніць са сваім бацькам, татачка... Што рабіць? Ці я, бедная, ведаю? І я нешчаслівая, бо за мяне і вы ў няшчасці, мой любы татухна, мая любая мамухна. Але мы яшчэ будзем шчаслівыя, мой татачка!

А старая нямкіня нап'ецца кавы і шые дзіцячыя каптуркі. Шые і абцірае слёзы.

Так ішоў час, і зусім крута прыйшлося немцам, а з імі разам і хлапцу. Што заробіць Эльза, шыючы сукенкі нападзянкам, тым толькі і жывілася з бацькамі. Васіль за ёю сох.

І вось аднойчы сцягнуў ён з гора ў бацькі некалькі рублёў і панёс старой нямкіні, каб купіла чаго есці.

Сядзелі тады немцы, гаманілі. Стары ўбачыў, што нехта ідзе, і кажа:

— Хто там ідзе, Эльза? Ці не Васіль?

— А хто да нас болей пойдзе? Васілёк ідзе,— адказала Эльза і пабегла на спатканне.

Ён прыйшоў. Маўкліва сеў. Усе на яго глядзелі. Ён быў белы як крэйда. Валасы змяклі ад поту.

— Ну? Васілёк? — падышла да яго Эльза і паклала сваю руку яму на галаву.

— Нічога...— насілу адказаў Васіль і адвёў яе руку, быццам яму сорамна ці дужа цяжка.

— Выпі з намі кавы, Васіль! Жалудовай кавы...— сказаў немец.

— Вось грошы...— паклаў Васіль скамечаную паперку на стол.

— Якія грошы? — спыталіся ўсе ў адзін голас.

— Бацька даў? А, Васілёк? — дапытвалася Эльза.

— Усё роўна, хто даў... Будзем строіцца да шлюбу... Сёння ж... зараз... Ну, жыва! — казаў, як непрытомны, Васіль. Быў зусім няладны.

Нямкіня ўзяла грошы і перадала старому. Той схаваў іх у кішэню ў штаны, напрануў сваю капоту і пайшоў к Васілёваму бацьку. Прынёс яму грошы і просіць, каб не гневаўся на сына.

Стары, замест паслухаць і, нарэшце, змілавацца, аблаяў немца і ўсю яго сям'ю, назваў Эльзу нехарошым сло-

вам і стаў клясці няўдалага сына, кажучы, што цяпер і на парог яго да сябе не пусціць, што праклінае сына, і дзяцей яго, і ўвесь яго род да сёмага калена.

— Злодзеяў,— кажа,— у нашым родзе не было. Ён мне цяпер не сын, а я ўжо яму не бацька. Хай ідзе ад мяне, пракляты, куды сабе хоча!

Было гэта пад вечар. Калі немец вярнуўся, Васіль, забіты горам, кінуўся, сам не ведаў куды, у поле. Але прыбег у бацькаў двор, увайшоў у старую варывеньку, дзе начаваў, і парэзаў усе свае малюнкі і нагамі іх патаптаў. Потым пабег ізноў да немца. Позным вечарам бачылі яго людзі пад сасною ўдваіх з Эльзаю. Ён штось вельмі горача і з вялікім жалем і крыўдаю казаў ёй, прыпаўшы да сасновага камля, а яна хацела як-небудзь супакоіць яго, сядзела, схіліўшы галаву, і брала любага за рукі...

А ўночы сталася ліхая справа, якой спрадвеку не было чутно ў нашым глухім баку... Засек Васіль сякераю старога бацьку, а сам на той сасне засіліўся, бедны...

На раніцу прыехала начальства, зрабіла следства, старых немцаў і Эльзу павезлі ў турму, старога дазволіла сынам хаваць, як хочуць, а забойцу за тое, што задавіўся, сам адабраў сабе жыццё, дало загад закапаць тут жа пад сасною, бо хаваць такіх на могільніку з усімі нябожчыкамі разам — па хрысціянскаму закону грэх, як і маліцца за іх грэх. Так, без усякага абраду, як не чалавека, а жывёлу, і закапалі там.

Але ж як сталі капаць яму магілу пад сасною, то і знайшлі гаршчок з грашмі. Там, значыцца, хаваў стары сваё багацце і не любіў, што Эльза з моладдзю хадзіла па тым месцы. А яны хадзілі — і ані гадкі ім, што па грашах ходзяць...

І грошы тыя начальства забрала да скарбу.

А сасна і цяпер стаіць, толькі магілкі не значна, бо яе і не рабілі,— пакінулі гладкае месца.

## ПАКІНУТЫЯ ХАТЫ

Я забрыў далёка на ўскрай Вільні і апынуўся паміж хат, пакінутых гаспадарамі, што паўцякалі ў 1915 годзе ад немца ў Расію.

Як тут смутна!

Не чуваць вясёлых дачных галасоў, дзявочага звонкага смеху і грання на верандзе грамафону.

Цішыня і магільнасць.

Забітыя вокны з пакрадзенымі там-сям шыбамі.

Пыл і павучынне на сходах.

Сярод кляноў праляцеў сіваграк. Краі ў яго чорныя, а пасяродак, між галавы і хваста,— сіні.

Я лёг на траву пад кустом і глядзеў угару па вецце.

Патроху заснуў.

Мне прысніліся старадаўныя муры сярод лесу. Аказалася, што там жыве ляснічы. Швейцар не хацеў пусціць мяне, але я настойліва прасіў яго схадзіць да ляснічага і сказаць, што я прыехаў у гэтую глуш з далёкага краю на ўсё лета і што я цікаўлюся старасвеччынай.

Швейцар, пачуўшы, нізка пакланіўся мне і шырока расчыніў дзверы.

Я пайшоў па бясконцых мураваных калідорах і прыбіўся ўрэшце да вялізнай залі... поўнай чалавечых касцей, чарапоў і яшчэ недагнілых трупаў. Ляснічы стаяў збоку і панура ўглядаўся на ўсю гэту старасвеччыну. Мне зрабілася жудасна. І я з цяжкім пачуццём прачнуўся. Ад пакінутых хат веяла такім сумам, што я барзджэй пайшоў проч.

## У ПАНСКАЙ КУХНІ

Аддаў бацька Сымонку ў кухаронкі.

— Адны вучаць на пісара, другія на папа, а мы, сынку, бедныя, дык выйдзі хоць на кухара,— казаў ён сыну.— Зямлі ў нас мала, дык трэба табе, галубок мой, пайсці ў свет...

Завёз бацька Сымонку да аднаго вялікага пана, што жыў недалёка ад іхнае вёскі, і аддаў там у кухарскую навуку: служыць хлопчыкам на кухні і патрошку прыглядацца да работы.

І прабыў там Сымонка ад восені да каляд. А потым выйшла гісторыя...

* * *

Было свята... Меўся ўначы прыехаць з Масквы пан. Быў ён адзінокі, дык увесь дом цяпер стаяў пусты, панур, а Сымонку дык і страшны.

На ўвесь дом сядзелі яны ўдваіх з старэнькаю кухаркаю ў пустой і прастылай кухні.

Лёкай, дзядзька Тамаш, страшэнны п'янчуга, пайшоў некуды п'янстваваць. Судамойка Рыпіна гуляла ў «людской» — так звалася хата для парабкаў.

Дык яны сядзелі ўдваіх: старэнькая кухарка і Сымонка.

Спачатку бабулька ўпраўлялася ля пліты, потым села ў крэсла, гукнула з каморачкі Сымонку і папрасіла, каб ён прачытаў ёй што-небудзь, бо ўвечары яе вочы слаба разбіралі друк.

Сымонка ўжо нарыхтаваўся ёй чытаць, а яна цяжка зварухнулася ў крэсле (бо надта ж была грубая, і пухлая, хоць і нездаровая), потым падкруціла кнот у лямпе, ахінулася вязанаю хусткаю, па галоўцы Сымонку пагладзіла, цукерку мятную з кішэні дастала, яму падсунула на кнігу, а потым з сваёю аддышкаю загаманіла:

— Ну, балазе ўправілася. І ўжо ткі дачакалася... Сёння павінен прыехаць пан,— прывязе новага кухара, а заўтра сяду я на машыну, увечары буду ў сваім мястэчку. Досыць з мяне — наслужылася я за свой век. Не шкадую... Не падабалася мне тут. Нядобрая тут мясцовасць, нядобрая! Што ночачкі выюць праклятыя сабакі. І навыюць бяды... На ліха іх гэтулькі мае пан? Ні ён стралец, ні ён паляўнічы... І людзі невясёлыя. Тамаш цвярозы амаль што ніколі не бывае. Рыпіна з мужыком дражніцца ды вадзіцца, а бедная Анэта, мусіць, другой дарогі не ведае, як да мяне хадзіць і плакаць...

Анэта была дачка старшага фурмана, вучоная, былая настаўніца, ці што. Яе звёў нейкі хлапец і кінуў. Яна вечна была засмучоная, жалобная.

— Яшчэ як пан дома — сяк-так, весялей крыху, а як паедзе на дзён пяць у гэную самую Маскву — зусім закляты дом, і двор, і ўся ваколіца,— разважала бабулька.— Сеня, Сеня! — паклікала яна Сымонку.

— Што, бабулька?

— Што задрамаў, мой галубок? Ці, можа, аб чым задумаўся?

— Не, я так сабе, бабулька!

— Прасіла — не кажы: бабулька. Заві мяне Агап'я Мікулішна, адвыкай ад дзеравеншчыны.

— Мне дамоў хочацца... Агапа Мікулішня.

— Ах, мой хлопчык, як ты дрэнна вымаўляеш. Ну, нічога, не смуціся. Раскажы мне што-небудзь пра сваіх родных: што там у вас, як там у вас...

— Там у нас цяпер мама вячэру налівае, за стол садзяцца, тата рукі мые.

— Ну і добра, што мые. Гэта надта гігіенічна. А ў мяне ў даму цяпер, пэўна, гарбату п'юць або нявестка ў царкву на вячэрню пайшла. Налі-ка, Сенічка, мне там з пліты гарбаткі.

Пакуль Сымонка налівае, яна кажа:

— Каб была я цяпер у сваім мястэчку, у царкву таксама пайшла б, а то сяджу вось ды нуджуся. Ведаеш, мой галубок, збегай ты ў людскую па Рыпіну, пара ўжо пліту распальваць: пан, можа, з адзінаццатым прыедзе. Фурманы ўжо, пэўна, запрагаюць.

* * *

Пакуль Сымонка напранаўся, дзверы расчыніліся, і з холадам увайшла чорная фігура заплаканай Анэты.

Яны, сваім бабскім звычаем, пацалаваліся. З Сымонкам дарослыя людзі, як Анэта, яшчэ не лічылі патрэбным прывітацца.

Потым Анэта села і, як зазвычай, заплакала.

— Што добрага чуваць, Анэтачка? — спыталася ў яе бабулька.

Анэта, не абціраючы сваіх вечна цякучых слёз, нейкім далёкім, безуважным голасам працадзіла:

— Бацька паехаў ужо на станцыю, а дзядзька Тамаш п'яны зарыўся ў снезе пад плотам... Напіўся з каналямі. Яны цягнуць сюды, а ён ірвецца, каб на станцыю вялі яго яшчэ ніць.

— Матачка найвышняя! — закапашылася старая.— Знацца, пан за паўгадзіны можа прыехаць, а ў мяне пліта яшчэ не распалена, Рыпіна збегла... Тамаш упіўся... Сенічка! Сенічка! Бяжы ты шыбенька, не марудзь, па Рыпіну.

Сымонка пабег у людскую. У дарозе наскочыў на дзядзьку Тамаша з каналямі, якія тузгаліся з ім, ведучы падпашкі. Ён заўважыў Сымонку і закрычаў п'яным голасам:

— Сенька! Хто я табе?

— Вы мне — дзядзька Тамаш,— адказаў Сымонка весела.

— Ідзі сюды.

Сымонка падышоў.

— Я табе бог і цар! — схапіў дзядзька Тамаш Сымонку за вуха.

Сымонка вырваўся і ўцёк.

У людской было поўна людзей. Адзін парабак іграў на гармоніку польку, а ўся хата скакала. Сымонка знайшоў Рыпіну з садоўнікам, абняўшыся ў пары, і сказаў ёй, каб зараз бегла ў кухню. Яна ж была чырвоная, з падвышаным настроем і быццам не пачула, што сказаў ёй Сымонка. Сымонка насілу выбраўся назад у сенцы.

Там, у куце, нехта сказаў, відаць, пра Рыпіну:

— Яна круціцца з другімі, а ты глядзіш, дурань...

— Нічога... дам рады,— адказаў дзіўна і нядобра яе мужык.

Вярнуўшыся ў кухню, Сымонка далажыў пра ўсё бабульцы.

Анэта, паслухаўшы, працадзіла:

— Ці гэта ў іх гульня, цётачка! Адна нуда толькі...

А бабулька пачала бубнець і жаліцца на Рыпіну, што не прыбегла зараз, і ўстрывожылася, каб мужык са злосці не зрабіў ёй ліха.

— Натура такая ў маладзіцы. Дражніцца з мужыком, а ён думае нівесь што. Бокам ёй вылезе гэтае заляцанне з садоўнікам.

Рыпіна так і не прыйшла з гульні. Прыслала потым дзяўчынку, аднаго парабка дачку, з навіною, што яна ўжо болей служыць не будзе, разлічыцца ў пана і паедзе ў Пецярбург.

— Вось дурная! Вось то дурная! — бурчэла бабулька на Рыпіну, заняўшыся ля пліты, і паслала па яе Сымонку яшчэ раз: каб зараз прыходзіла, пакуль яшчэ не разлічылася...

* * *

Не паспеў Сымонка выбегчы, як пад парадны ход пад'ехаў пан — і адразу завылі ўсе сабакі.

Бабулька вярнула Сымонку і паслала яго спярша памагчы пану памыцца.

Сабакі заўсёды вылі, як прыязджаў пан (мусіць, духам яго чулі), але сёння ўзнялі гэткае выццё, што пан на-

ват загневаўся. Новага кухара ён не прывёз — не знайшоў, а можа, у цане з ім не сышоўся і наогул прыехаў не ў гуморы.

Сымонка ніколі раней не наліваў пану вады на рукі з вялікага белага жбана і вельмі баяўся не ўладзіць яму. Але пан быў з Сымонкам ласкавы і спакойны, вучыў яго, як што рабіць: каб не ліў памногу і каб мыла не браў у свае рукі, а падаваў бы з мыльніцай.

Калі пан абціраўся, уваліўся ў буфетную дзядзька Тамаш. Пан загадаў, каб Сымонка не пускаў яго ў пакоі, але дзядзька паспеў ужо ўвайсці і стаяў панура ля шкляных дзвярэй у калідоры. Ён хістаўся і гаманіў нешта сваё, п'янoe, прасіў, каб пан дараваў яму.

— Свіння. Вон пайшоў! — крыкнуў пан, а дзядзька ўпаў на калені і пацягнуўся цалаваць пану ў руку. Тады пан зрабіўся такім страшным, якім Сымонка ніколі яго не бачыў. Ён моўчкі, страшэнна паглядзеў на дзядзьку, потым раптоўна схапіў яго за карак і з усяе сілы кінуў на шкляныя дзверы. Пасыпалася шкло, дзядзька парэзаў рукі і дужа пабіўся; ён застагнаў і лежачы мармытаў: «Нізвініця... нізвініця...» — што мела азначаць «выбачайце, выбачайце». Пан замкнуў пабітыя дзверы на ключ і схаваўся ў кабінет, а Сымонка пачаў цягнуць дзядзьку ў яго каморку. Дзядзька быў прыгнечаны і лёг, доўга не ўпінаючыся.

Тады Сымонка, трохі напалоханы, трохі непрыемна ўзварушаны, пабег хутчэй па Рыпіну.

Мімаходам ён разагнаў сабак, каб не вылі.

Падбягаючы да людской, ён заўважыў, што ў людской цяпер не было ўжо той гульні — і, як відаць, здарылася нешта незвычайнае...

На вуліцы людзі гаманілі прыцішанымі галасамі, а ў сенцах крычаў і плакаў Рыпінін мужык. У хату нікога не пускалі.

Дзяўчынка, што прыбягала ў кухню, плакала ля дрэва і спачатку нічога не хацела казаць Сымонку, а потым, хліпаючы і трасучыся ад спалоху, усё яму сказала...

Рыпіну забіў мужык.

Забіў плашкаю. Два разы ўдарыў пасярод хаты, па галаве, і ніхто не бараніў яе. Яна кінулася хавацца пад ложак, а мужык даў ёй трэці раз з усяе сілы па галаве і патыліцы — і забіў насмерць. Парабчанскі стараста выгнаў усіх з хаты, Рыпіну пакрыў белаю пасцілкаю, а мужыка яе казаў звязаць поясам і пасадзіць у сенцах.

Сымонка таксама закалаціўся, як і дзяўчынка, пачуў млявасць і холад на сэрцы і здранцвеласць у нагах.

Сабраўшы сілу, ён хутчэй пабег у кухню. Аж там усё ведалі. Бабулька плакала і прыказвала:

— Навылі, навылі праклятыя сабакі... Чула маё сэрца. Дня болей не застануся ў гэтым месцы... І ты, дзетка, не заставайся тут...

Так і выйшла: за колькі дзён прыехаў па Сымонку бацька і ўзяў яго дадому; нядобра хлопчыку служыць у такім паганым панскім двары.

Так і не выйшаў з Сымонкі кухар: застаўся жыць ён на бацькавым кавалачку зямлі...

## РУІНЫ

Няма нічога прыемна-смутнейшага, як слухаць му́зыку падземную, музыку з таго свету...

Падземныя мелодыі не падобны да проста-вясёлага ці проста-плачлівага наскага грання.

Яны такія невымоўна-тонкія, такія ціха-прыглушаныя, што нам, тутэйшым жыцельнікам, трудна расслухаць, калі там, у сценяў магільнага жыцця, замірае вальс на шляхецкім банкеце і пачынаецца хаўтурны марш на пахаванні зацнае пані.

Як невымоўна-тужлівыя весці аб марнасці свету, весці нам, малым і дробным, аб даўней жыўшых вялікіх у сваёй вечнасці людзей, выплываюць гукі падземныя...



Маўчаць струпехлыя руіны... Сумна свеціць белы месяц на высокую сцяну, калыша чорнае дзікае зелле на самай хрыбціне, цалуе мёртвую пабітую цэглу, і ўмуравелае, замшэлае каменне на зямлі.

Дробна серабрыцца, воддаль ад чароту, месячнае святло ў вадзе на возеры.

А падземныя гукі глуха і плаўна гудзяць пад гарою. Ні то вальс, ні то хаўтурны марш.

Заплюснуўшы па-смяротнаму вочы, сядзеў бы тут вечна і слухаў бы вечна тую разлітую ў падзямельнай цішы мелодыю.



Звініць быльнік на руінах, ды вадзіца на возеры дробненька серабрыцца.

Спяць убогія драўляныя хаткі на далёкім беразе.

У светлым месячным тумане, вагам, ідуць бясконцай чарадою сцені даўна-даўна памершых нябожчыкаў — замкнутыя, бязмоўныя...

Згаслыя вочы страшна ўляпіліся ў вечную прастору. Нямыя кавалеры ўсміхаюцца, як смерць, сваім панурым дамам. Сатлелыя ўборы нешта шэпчуць сваім нязнаным, памершым хараством...

Ідзём, ідзём у вечныя прасторы,
Ідзём, ідзём на вечныя часы...



Гукі вальса глуха, невыразна пераходзяць у гімны хаўтурныя...

Доўгая пахавальная працэсія рушыцца вечным крокам ад белага палацу да адчыненага касцёлу.

Рота ўзброенай пяхоты-почту мерна адбівае такт пад музыку.

Два сівых дзяды ідуць з вялізнымі, з белага воску, а ў чорных стужках, запаленымі свечкамі. А між іх трэці, самы сівейшы і друзлейшы, нясе чорны крыж з распятым.

Збіваецца з нагі груд харугваносцаў, з чорнымі, дзіравымі ад старасці, на высокіх палках, пратэсамі.

Дзве роўныя чарады, чорна-даўгаполых, з знятымі чорнымі шапачкамі голеных лацінікаў і яшчэ барадатых уніятаў. Біскуп у рагатай майсееўскай кароне.

Пад цяжка-глухое гудзенне аркястровых басоў пара за парай ступаюць вараныя коні ў чорных хаўтурных гунях з вялікімі кутасамі — цягнуць жалобны воз. Балдахін з крыжыкам наверсе гутаецца ў плачлівай песні маршу, а пад ім незварушна ляжыць жалезная труна з залатымі гербамі па баках, прыбраная зялёнымі хвойкамі і свежанарванымі, яшчэ не павятымі, белымі, жоўтымі, сінімі красачкамі.

Пануры сівавусы пан-ваявода, раскошнік марнага свету, прыціснуты смерцю пані жонкі, утупіў сумныя вочы ў вечную прастору.

Прыпыняючы напор вялікай чарады, ідуць паны старосты, чашнікі, стольнікі, дзяржаўцы, сотнікі, мечнікі, харуговыя і пані засмучоныя...

Ідуць, падводзяць яе міласць, пані ваяводзіну, ясную папі, на вечны спакой...

Ідуць, ідуць у вечным крузе. Нікнуць у сівым тумане...



Глушэе музыка падземная, ціхне, знікае...

І толькі водгулле мелодыі дрыжыць яшчэ, дрыжыць у вушах.

Дрыжыць-дрыжыць і паволі моўкне, мінаецца, як і музыка падземная.

Я прачнуўся... Пакойчык мой недалёка ад мястовай залі — там сёння панскі баль, і цэлую ноч безупынку грымяць вальсы і мазуркі, далятаючы да мяне, на чацверты паверх, як з глухога падзямелля.

Ціхі спакойны месяц залівае мой пакойчык сваім цьмяным святлом.

А ўдзень я быў у музеі і бачыў там партрэты надзьмутых магнатаў, старасвецкія іржавыя мячы і падраныя злінялыя сцягі...

І мне прыснілася.

## СТАРЫ ПРАФЕСАР

Дзеялася тое дужа даўно...

Прыязджаў некаліс да пані ў госці стары прафесар з маладою жонкаю, панінай пляменніцай.

Прыехалі яны аднаго разу з Пецярбурга на папраўку познаю вясною, калі ўжо адпяялі салавейкі і адцвілі акацыі.

Ды яшчэ прыгожа было ў панскім садзе, і кожны вечар, ідучы з работы міма сіняга плота, можна было бачыць там на сцежцы беленькую сукеначку ў пары з вялікаю чорнаю постаццю прафесара.

Надта ж любіў гэты пажылы вучоны чалавек сваю невялічкую рухавенькую жонку. Ён высокі, маўклівы, а яна ўчэпіцца за яго локаць, шчабеча яму, як тая птушачка, заглядае знізу ў вочы, як дачушка да старога бацькі.

Відаць, што ён не можа на яе налюбавацца, як бы дзеля таго і маўчыць. Пазірае з вялікаю пяшчотаю і толькі носам усміхнецца да яе з радасці, як дзіця.

Затое і ўсіх людзей любіў. Да сялян быў ласкавы, даступны, сам падыходзіў і пытаўся пра іхнае жыццё. І любіў слухаць усё, што яму кажуць. Песні і казкі любіў, як немаведама што. Пачуе цікаўную казку ад пастуха Якіма і ходзіць за ім, пільнуе, каб яшчэ пачуць. Пачне той пляс-ці свае плёткі, а прафесар слухае так, як бы богу моліцца, слоўца не прапусціць. Як той скончыць, ён задумаецца, засмуціцца, а потым і ўсміхнецца па-свойму, як тое дзіця. Пачуе дзявочыя песні, і зноў яму вялікая радасць.

Палюбіў народ і яго жонку. Нават да старой пані у тым леце ўсе ласкавейшыя з-за іх зрабіліся.

Дык не дзіва, што надта ўсім было жалосна, калі захварэла маладзенькая паня на якуюсь цяжкую і цягучую хваробу.

Як прыйшло жніво, не бялелася ўвечары суkенaчка між дрэў у садзе, затое бесперач стаяла ля сіняга плота карэта пад доктара. То завазіла, то прывазіла, а палёгкі ніякае няма. Перабывалі з горада ўсе дактары, то ездзіў адзін, то потым другі, а ўрэшце і ўсе разам, тры ці чатыры сабраліся, а рады не могуць даць ніякай.

Схудзеў прафесар, аблахмаціўся, вочы ў яго ўваліліся, гаруе бедны, як не плача пры людзях. Лячыў, лячыў дактарамі і прыждаў таго, што ўсе дактары ў адзін голас зусім яго абезнадзеілі. Хоць нічога яму страшнага не казалі, але відаць па іх, што чакаюць канца і як бы дзівяцца, чаму хворая так доўга не даецца смерці.

Хадзілі да яго і нашы бабы-шаптухі са сваімі радамі, ды ён і слухаць іх не хацеў, нават з старою паняю за іх пасварыўся. Няўцям гэта было людзям: казкі ж простыя слухаць любіў, чаму ж, думалі, не хоча спрабаваць простыя рады? Бывае ж — памагае.

Тым часам адбіў ён тэлеграму ў Пецярбург найлепшаму доктару. Прыехаў якраз на самага спаса. Пастукаў, паслухаў, паківаў галавою, як пераказвала пакаёўка, ды і развёў рукамі таксама, як і тутэйшыя дактары: няма надзеі. Купіў у Хаіма-рандатара пяць пудоў ранніх медунічак з панскага саду і паехаў назад у Пецярбург.

Хворая ссохла, збялела, знядужала ў канец: адны косці, абцягнутыя тоненькаю скураю. І што ёй такое было, хто ведае: то гарачка паліць, як агнём, за сорак градусаў даходзіць, то асцюдзянее ўся, аслабне і так самлее, што вось-вось сканае нешчаслівая... Разоў колькі думалі, што і памірае... Старая паня ламае з гора рукі, лямантуе, хапае ў пакаёўкі смяротную свечку, прыступаецца да пля-



Леаніла Чарняўская,
жонка М. Гарэцкага.
Здымак 1910 г.




Вокладка першага зборніка
М. Гарэцкага «Рунь».
1914 г.

менніцы на вечнае развітанне, пакаёўка і кухарка равуць ад жаласці, а прафесар, забыўшыся на сваю вучонасць, крычыць на іх усіх, гоніць вон, потым абхопіць хворую, сашчэміць у сваіх абоймах, прытуліць да яе пасохшых грудзей сваю сівую галаву і шэпча, як здурнеўшы: «Не, не, не! Гэтага быць не можа! Ты не памрэш! Ты не памрэш! Я хачу, каб ты жыла. Мы ізноў будзем гуляць вечарамі ў садзе... Мы ізноў будзем гаманіць... А то не, мы кінем гэтае гіблае месца! Мы паедзем у Пецярбург! Паедзем, паедзем... Чуеш, рыбка мая, я не хачу, каб ты памерла, ты не памрэш, не! не!! не!!!» А ў самога вочы гарацЬ, барада трасецца. І хворая, быццам паслухаўшы яго, патроху кране вачыма, пачне дыхаць. І так гэта ўсё жаласна, што глядзець,— сэрца кожнаму сціскаецца болем.

Пакаёўка Аўгення была сірата і мела толькі аднаго дзядзьку, таго самага пастуха Якіма, што, бывала, пану казкі плёў і так складаў розныя небыліцы. Яна часам бегала да дзядзькі пагаманіць і, вядома, пераказвала, што дзеецца ў панскім будынку. Жаль было Якіму добрага прафесара і яго маладой жонкі. І параіў ён, каб сказала панам зрабіць так: абвязаць хворую сырою ніткаю і кінуць тую нітку на раздарожжы, каб зняла хваробу. Аўгення, вядома, дзяўчына, не сказала старой пані з вока на вока, а бухнула ў сталовай за абедам, калі быў і прафесар. Старая пані і абедаць кінула, хоць якое там з гора і абеданне было! Пасядзяць моўчкі за сталом, цяжка ўздыхаючы, паглядзяць са смуткам на стравы і пойдуць, нічога не з'еўшы.

— Зрабіце так, зрабіце, пан прафесар! — кажа старая.— Зрабіце, калі вам дарага мая Вольгачка.

А Вольгаю звалі хворую.

Прафесар за час хваробы жонкі зрабіўся апрысклівы, гняўлівы...

І тут загневаўся:

— Я чалавек навучны, а вы мне дурніну такую кажаце.

— Пабойцеся вы бога, пане прафесар, з сваёю навукаю,— аж дрыжыць і слёзы абцірае старая пані.— Што вам даражэй: ваша навука ці... ці... жыццё... жыццё Вольгачкі?..

І вось прафесар паказаў сваё каменнае навучнае сэрца. Гаворыць так:

— Навука сказала сваё слова, і я веру ёй, а не вашым забабонам.

Паня і Аўгення аж вочы ў страху на яго вытрашчылі. І ён, мабыць, сам спалохаўся таго, што сказаў. Затросся ўвесь, застукаў кулаком па стале, закрычаў, як не ў памяці:

— Веру, веру, веру! Але не хачу гэтага, не хачу, не хачу, ой не хачу! — Потым схапіўся рукою за горла, завыў і бразнуўся на стул. Адлілі яго вадою, валяр'янавых капак выпіць далі, пагразілі, што хворая пачуе яго крык. На тым размова скончылася.

Тую ноч была радоўка пільнаваць хворую прафесару з Аўгенняю, бо так хворая настоіла, каб адну ноч старая паня з кухаркаю, а другую ноч яны былі б пры ёй. Толькі ўсё роўна прафесар штоночы амаль не адхадзіў ад яе ложка, адно што не ў сваю радоўку стараўся не быць на ваччу ў хворай і сядзеў у сумежным пакоі.

К гэтай ночы хворая зусім страхлела. Гарачка адпусціла бедную, дык ляжала выцягнуўшыся, як доўгі шкілет, сіняя, непарушная.

Цеміць прафесар, што смерць у пакой увайшла. Цеміць і з галавы сходзіць. Сатне зубы, абхопіць галаву рукамі і сядзіць, пахінуўшыся да кален, у крэсле.

Калі хворая задрамала трошкі, выйшаў ён на мысічках у другі пакой і давай штосьці шаптаць.

Прыслухаецца Аўгення і чуе, што ён спамінае ўсё то жонку, то навуку.

Расчыніў акно, глядзіць у сад і ўсё шэпча сам з сабою.

Жніўныя ночы ў нас дужа прыгожыя, асабліва, як дзе дрэвы лісточкамі ў цемні варушаць. Цёпла, ціха, там-сям зорачка блісне, з поля, дзе жыта пажатае, прыемны супакой так і плыве ў душу. І антонаўкамі прыемна пахне...

— Спіць? — шэптам спытаўся прафесар у Аўгенні і, убачыўшы, як кіўнула галавою, выйшаў у сад — прахаладзіцца ці хто ж яго ведае чаго. «Каб яшчэ не зрабіў сабе ад гора чаго ліхога»,— памысліла Аўгення і прыхінулася ля акна, каб ад хворай далёка не адхадзіць і дасачыць, ці ходзіць ён па дарожцы ў садзе.

Ціша панавала ўва ўсім будынку і садзе, потым гадзіннік прazваніў адзінаццаць ці дванаццаць, дзяўчына добра не злічыла, і ізноў усё чыста сціхла, толькі пясочак скрыпае пад нагамі ў прафесара — чуваць у акно.

Слухае Аўгення і пачала патроху разбіраць, што там шэпча з гора чалавек.

— Вольгачка, Вольгачка, ты і навука — усё жыццё

маё. Ты,— кажа,— ахарашыла для мяне навуку, а без цябе і навука ні ўва што.

Потым раздумаўся, памаўчаў дый кажа, быццам няўмысля лютуючы сябе:

— Не,— кажа,— навука вышэй за цябе, навука вышэй за ўсё, і без навукі мне было б нудна нават з табою, хоць ты адна і найлепшая для мяне ўва ўсім свеце. І ты памрэш, і я памру, а навука не павінна памерці і здрады не павінна цярпець.

«Божухна-бацюхна! — памысліла дзяўчына.— Не любіць ён жонкі, усе мужчыны такія: то халяруе ад кахання, то гатоў за якуюсьці навуку на смерць жонку аддаць».

— Памрэш ты, Вольгачка,— шэпча ён далей,— і застанецца мне адна пацеха — навука мая. Дык ці ж магу абразіць яе забабонамі? Гэтая нітка — знявага для навукі і для майго імя.

І шмат чаго яшчэ казаў здурнелы ад гора прафесар, што і зразумець не магла Аўгення. Адно ўцяміла, што яму хочацца зрабіць так, як казаў яе дзядзька Якім, але чамусь сорамна яму рабіць тое.

— Тут,— кажа,— справа не ў нітцы і не ў забабонах, а ў здрадзе навуцы, якую любіў, калі яшчэ і Вольгачкі не любіў.

— Няўжо ж,— кажа,— магу я напляваць на сваю веру?

«І якая тут вера ў яго,— мысліць дзяўчына,— калі нават папа прывезці спавядаць жонку перад смерцю і то не дазволіў старой пані,— антыхрыст стары!»

Аж раптам чуе яна: затупаў пан нагамі па зямлі, як няўдалы дзіцёнак, потым кінуўся за дрэва і давай калаціць яго на ўсю сілу, давай трэсці.

Хацела бегчы дзяўчына па старую пані, ды ад страху прыліпла к сценцы, думае сабе: «А што, як сапраўды здурнеў і паляціць сюды біцца? Вялікі, здаровы — задавіць насмерць». А ён калаціў, калаціў дрэва, адпусціўся і ціха, але жудасна, аж скура стыгне, зарагатаў:

— Пляваць мне на цябе, навука, калі ты бяссільная!

Сціх і ідзе ў пакоі, а тым часам Аўгення шмыгнула да хворай і млее там: што гэта будзе? Хворая ж ляжала, як мярцвяк. «Можа, і памерла ўжо?» — паглядае на яе дзяўчына і баіцца падысці.

Тым часам праблізіўся на мысічках прафесар, прыхіліў да жончыных грудзей галаву, паслухаў. «Дыхае»,— шэпча Аўгенні і ківае да сябе пальцам, гукае Аўгенню за

10*

сабою. Як выйшлі, пытаецца: «Ці няма ў цябе, Аўгінка, пад рукою якой нітачкі? Буду паперы разбіраць у кабінеце, трэба звязаць у пачкі».

Зразумела яна, на якую патрэбу просіць нітку і зараз збегала ў сваю каморку, прынесла.

— Ну, галубка, ідзі троху паспі,— сказаў ёй прафесар,— я пакуль што адзін пабуду, а як трэба, дык узбуджу.

Пайшла Аўгення, а троху пачакаўшы, дасачыла з-за вушака: абвязвае наўчоны прафесар хворую жонку ніткаю. Абвязаў, асцярожненька прапусціўшы пад ногі і пацягнуўшы вышэй пад тулава, потым пацалаваў жонку ў лоб, перахрысціў (чаго ніколі, ніколі раней не рабіў) і з ніткаю ў руцэ паціхеньку выйшаў у сад.

Аўгення сцяміла, што ён пабрыў за сіні плот на раздарожжа, і была дужа рада.

Калі ён вярнуўся, дзяўчына паіла хворую пані вадою з узбітым бялком і віном.

— А я трошкі прагуляўся,— вінавата, але спакойна і радасна казаў прафесар,— ах, якая прыгожая ноч, дрэвы спяць і скрозь сон варушаць лісцейкам... Ну як ты сябе чуеш, рыбка мая?

— Як бы лепей...— усміхнулася яму хворая цянюсенькімі вуснамі і раскрыла вочы.

— Чамусь мне верыцца, рыбка мая, што ты з гэтае начы пачнеш папраўляцца... У цябе сягоння быў крызіс. Вось пабачыш, рыбка!

— Мне лепей... чую, што лепей! — парадавала мужа хворая і пацягнула худзенькую, васковую ручку, каб пацалаваў: — Цяпер ідзі спаць, мой любы.

Назаўтра Аўгення збегала да дзядзькі і сказала, што пан такі даўся з сваёю навукаю. Усе людзі з надзеяй чакалі палягшэння хворай.

Але не магла памагчы навука,— не памаглі і забабоны. На трэці дзень хворая сканала.

## БАГАТАЯ ПЧЭЛЬНЯ

Мой сад калодамі абведзен мёдных пчол,
што гаманяць, як неўгамонныя музыкі...
Янка Купала

А то вось яшчэ: жыў у часе паншчыны адзін заможны зямец.

Аддзяліўшыся ад бацькі, меў ён толькі хатку, хлявок

ды пуньку. Тады развёў садок, дастаў ад свайго цесця ў пасаг за жонкай дзве калоды пчол, паставіў у садку і год за годам аграбаў раёў.

За гады тры было ў яго калод дзесяць. А забівала дарагоўля на вуллі. Добрая калода каштавала на той час сярэбраны рубель — дужа вялікія грошы. А плеценых з саломы зямец гэты не любіў: бо ў іх пчолы не вядуцца і мёд гарчэйшы. Дык ён набываў вуллі ў пана ў абмен на мёд, а ў іншых зямцоў — на адработ.

За гадоў колькі ля яго двара гуд гудзеў: вуллі стаялі і ў садку, і пад стрэшкаю, ля пуні, і на ўзмежках на гародзе, і за плотам. Пчолы яго заміналі суседзям працаваць, кусалі коні, калі трэба араць гарод, дзяцей кусалі, а часам і вялікіх людзей, асабліва баб. Наогул зрабілася тут з імі цесна. Дык зямец мусіў вынасіцца ў лес, на расцярэбы. Узяў у пана права на лапічак у лесе ў расцярэбах, за дзесяць пуд мядовай дані ў год, і развёў там пчэльню.

Умеў жа ён хадзіць ля пчол!

Не бывала гэткіх выпадкаў, каб у яго пчолы паміралі ўзімку ці каб гнілец калі ўчапіўся. Не рабіў ён прагавітае падлазкі, не пакідаў пчалу на голад, умеў абараніць яе ад ворага. Сам жа не займаўся ніякімі валхебамі і не хадзіў у сцюжу прасвердліваць вуллі суседу.

Ведама, другім зямцам, злоснікам, завідасць спакою не давала. Яны і паспрабавалі ваявацъ...

Унадзіўся адзін, гэткі-то, хадзіць к яму як бы па дружбе. Хадзіў-хадзіў, дружыў-дружыў дый зрабіў ліха. У самую пільную пчаліную пару ўлетку залез украдня ўночы на яго пчэльню, абмазаў на вуллях усе ходцы, лазы, лётку і тваркі смярдзючым салам і атручаным, дурманным мёдам, а сваіх пчол перад тым пачаставаў гарэлкаю ды імбірам, каб лютасці набраліся. Прыйшоў дзянёк... Як паглядзеў зямец, што дзеецца, за галаву хапіўся! Поўзаюць яго пчолы, як сонныя мухі ўвосень, а нечыя чужыя так і сякуць іх, так і сякуць і мёд з вулляў цягаюць. Доўга не чакаючы, пайшоў ён следам за чужымі пчоламі і — прост к суседу-ліхадзею.

— Што ж ты гэта, браце, нарабіў?!

Хацеў спачатку той адперціся, што і пчолы не яго, што і ведаць нічога не ведае. Але трудна яму адпіраццa, калі ўсё відаць. Ну і кажа:

— Памірымся, кажа, толькі пану не пажалься.

— Каб ты мяне самога адурманіў ці пабіў, нікому жаліцца не стаў бы,— адказаў ён ліхадзею,— але за пчолак,

безабаронных, нявінных жывёлінак, ці ж можна даравацъ?

— Што ж ты мне ўчыніш? — пытаецца той.

— Калі адробіш зараз сваю нягодную работу, дык нічога не ўчыню, забудуся на ўсё.

Убачыў ліхадзей, што злое не ўдалося, схапіў бярэма гунек, посцілак, мяхоў, абвязаў свае калоды, каб яго п'яныя пчолы не мелі выйсця, потым кінуўся з мятнаю вадою да атручанае пчэльні, пазмыў, пазмыў, што там напэцкаў, і кажа:

— Даруй, братка! Дзесятаму закажу... Толькі пан няхай нічога не ведае!..

Нікому не пажаліўся зямец, тым справа і скончылася.

Таксама ніколі не бывала, каб у таго зямца раі ўцякалі. Другі зямец бяжыць за роем з мокраю саломаю і кропіць, каб рой спусціўся, сеў бы. А рой ляціць сабе, ані гугу. Ляціць у лес або ў чужы навужнік, падымаецца, як птушка,— і толькі яго бачылі. У яго ж гэтак ні разу не было. Заўсёды роя дапільнуе, ціхенька на сваім месцы аграбе, і свае хатнія часам не ведаюць, што сёння быў раёк ці колькі іх. З тых, што робяць з роем гармідару, ён толькі пасміхаецца. «Што гэта,— кажа,— за такі зямец, што гоніцца за сваім роем аблаваю?» А траплялася ж, бывала, даўным часам, што няўдалыя зямцы і стрэльбаю стралялі, дагнаўшы роя верхам на кані, каб ён спусціўся. І шкода, і смех, як рой ляціць, а людцы турацца за ім — з сярпамі, сечкамі, нажамі, бляхамі, і-і звоняць, балабоняць, крычаць: «Каб сеў! Каб сеў! Сеў-паў! Сеў-паў!» Як быццам рой іх словы разумее. Галасу, можа, часам і спалохаецца, а прыказкаю рады не дасі.

Развёўшыся на пасеку ў панскіх расцярэбах, зямец плаваў у мяду. Быў жа тараваты: даць мёду не жалеў нікому. Даваў бедным людзям мёду на лекі, вузы прыкладваць на пухліну... Падлазіўшы, бывала, не шкадаваў ані сваім, ані чужым. Толькі не любіў, калі хто лез к яму ў рабоце. Дый самі пчолкі, як ведама, не любяць староннїх воч. Пчэльню ён абгарадзіў такім парканам, што ў шчыліну нічога не відно, што там зямец робіць. Дзверцы былі заўсёды зачынены.

І хараша ж было ў яго на пчэльні! Навакола з трох бакоў працярэбленая лесасека, з чацвёртага боку — ляда з грэчкаю, палі, лугі ды сенажаці. Самае пчалінае жыццё. Улетку звініць пчэльня, як адзін рой, дрыжыць, як музыка,— нават трудна і сказаць, якое салодкае там харас-

во. Стаялі там на пасецы старыя раскідзістыя дрэвы, было шмат кустоў ляшчынніку, абросшых высокаю пахучаю травою. Ліпы там цвілі, многа дзятліны пасела на самых галах, медуніцаю заўсёды пахла, і ўсякіх дрэў і красак было даволі. Па ўсёй пчэльні або стаялі вуллі-стаякі, прывязаныя к дрэву ці к таўстому каляку, або на козлах аблягліся вялікія лежакі, і ўсе калоды былі добра дагледжаны, пакрыты бяростаю ці яловаю карою. З краю пчэльні, пры самых дзверцах, стаяла пунька з пустымі вуллямі і з рознымі пчалярскімі прыладамі, у якой заўсёды надта прыемна пахла добрым зеллем, мятаю, медуніцаю, мядком. Побач з пуняю стаяла невялічкая хацінка, дзе начаваў зямец улетку, а ўзімку жылі слабыя пчолы ў пастаўленых стоцьма і шчытна адна ля аднае калодках.

Сумны канец мела гэтая слаўная пчэльня, як і многае тады, у тым мінулым часе...

Дзед зямец мог бы адкупіцца ад паноў на вольніцу, ды, на жаль, не адкупіўся. Ці ён баяўся, што пан злупіць з яго вялікія грошы і згоніць далоў з пчэльні, ці ён прост не мог сабе асвоіць думкі, што можа быць і з цэлым родам вольны, незалежны ад паноў.

Прыйшла яго старасць, і перад смерцю хацеў зямец адказаць усю пчэльню аднаму старэйшаму сыну, а двум другім — усё іншае дабро. Але пан загадаў, каб падзяліў ён пчэльню між усіх траіх,— мусіць, разлічваў з траіх зямцоў больш дані браць, чым з аднаго.

Не хацеў зямец дзяліць пчэльні, дужа не хацеў.

— Калі я,— кажа,— пчолак падзялю, загіне ўся мая пчэльня, бо тыя два сыны зусім нязручныя ля пчол хадзіць.

І як толькі ні даводзіў ён дурному пану, што дзяліць не варта, але як і жонка яшчэ навалілася, каб дзяліў так, як пан кажа, каб не крыўдзіў меншых сыноў,— прысілены быў падзяліць.

Аж як ён прарочыў, так і сталася. Занядбалі сваіх пчолак маладзейшыя сыны,— ведама, іх сэрца да гэтай справы не хілілася. Сталі ў іх пчолы паміраць, то з голаду, то з недагляду, ад мышэй, ад звяроў, а пад канец усунуўся гнілец. Як ні стараўся той старэйшы брат, не мог даць рады. Перакінуўся гнілец і на яго часціну. Гадоў за дзесяць пагінула ўся пчэльня. Адабраў пан пасеку, і за гадоў дваццаць пяць парос на ёй густы ельнік ды бярэзнік.

## СУПАКОЙ

Пан Сташэўскі быў меланхолік, і таму тапіў сваю нуду ў гарэлцы, пасля чаго яму лягчэла.

Найгоршы настрой бываў у яго перад запоем. Тады пан Сташэўскі найвастрэй адчуваў, што ён не толькі расійскі ўрадовец, але таксама — віленскі паляк, шляхціц з роду ў род, значыцца, павінен штосьці рабіць на карысць укаханае мацеры Польшчы.

Тады ён за абедам пачынаў лаяць папоў і ўсіх схізматыкаў, коса пазіраючы ў бок свае праваслаўнае жонкі, а ўрэшце з невінаватым зрокам пытаўся ў яе па-польску, хоць зазвычай размаўлялі па-расійску:

— Поведзь мне, кохана Лёлю, чы то ўніятэм был твуй дзед чы прадзед?

— Яшчэ дзед быў уніятам,— з ціхаю пакораю адказвала жонка.

— Чэму ж то он пшынял вяру ад казакув, а не ўцаліл-ся да найсвянтшэго папежа?

— Або я ведаю? — яшчэ цішэй прамаўляла тады яна.

— Ненавідза схізматыкув!! — раптам стукаў пан Сташэўскі лыжкаю аб брыж талеркі і ў страшэннай злосці падымаўся і выходзіў з застолля.

Ён накідаў пальто на плечы, моцна бразгаў дзвярмі і выходзіў з дому. Паліто апранаў у рукавы на сходах, а зашпільваўся выходзячы на вуліцу.

Прападаў ён на цэлы дзень і позны вечар.

* * *

Пані Сташэўская з той жа ціхаю пакораю супакойвала дзяцей: Ядзеньку, старэйшага — Казю і самага меншага — Мечыка,— смялей клала ім на талеркі недаедзеныя мужам кавалкі мяса і задумліва глядзела на іх, сама не маючы апетыту. Хлопчыкі прагавіта, без боязі, глыталі, цмокалі і абсмоктвалі, а Ядзенька старалася цішком пагледзець маме ў вочы.

Тады мамачка брала яе да сябе на калені, левую рукою трымала асцярожна пад ручкі, каб не пакамячыць сукеначкі, а праваю — гладзіла яе альняныя валосікі. Ядзя прыпадала да грудзей задуманае мамы і моўчкі сядзела з ёю, пазіраючы ў бяздумную далечу, аж пакуль хлопчыкі не пад'ядалі і трэба было прыбіраць са столу.

Па абедзе хлопчыкі беглі з нянькаю на падворак, на вуліцу, у сад, а Ядзя з мамаю заставаліся ў хаце, бо хадзілі гуляць да абеду.

Агледзеўшы цесненькую кватэру, ці ўсё ў парадку, праверыўшы, ці зачынены надворныя дзверы, пані Сташэўская ішла з дачушкаю ў спальны пакой і клалася адпачыць.

Пры ёй ляжала Ядзя — і ў дрымотнай цішы, надыхаўшы цяпла ля мякенькіх маміных грудзей, дзяўчына засынала.

Пані Сташэўская накрывала соннае дзіця шэраю вялікаю хусткаю, з негасцю прыгладжвала жменьку валаскоў на сіняй жылцы на вісочку, цалавала там, і ў лобік, і ў дробненькую ручку. А пры гэтым супроць волі ўспаміпала праўдзівага Ядзінага бацьку, маладзенькага белакурага падпаручыка, забітага на японскай вайне.

Яна ляжала і пазірала ў кут, дзе вісеў яе праваслаўны абраз Канстантына і Галены побач з каталіцкім маткі боскай. Такі самы, толькі малюсенькі, абразок Канстантына і Галены дала яна яму, калі выязджаў на вайну... Яна звала яго Косця, а ён яе Леначка... Усё тое даўно мінулася. Яна часта ляжала так па абедзе, на шырокай і мяккай пасцелі, бо не было ёй куды пайсці і да іх ніхто не хадзіў, за тое, што пан Сташэўскі п'яніца. Ёй прыемна было ляжаць і ўспамінаць... Цяпер гады яе праходзяць, і спаміж знаёмых няма нікога, хто б за ёю паўхажваў — ласкава і далікатна, цалуючы ў ручкі, а часам, па дружбе, і ў губы. Большага яна не жадала. Яшчэ ёй хацелася, каб муж яе меней піў і каб былі здаровы дзеці.

Ядзя хутка прачыналася, але потым ціхенька гуляла з лялькамі ў другім пакоі, каб мамачка спакойна адпачывала. Мамачка ж не спала, толькі ляжала, і ўжо слухала, ці не ідзе хто па сходах.

Прыходзіла нянька з хлопчыкамі, прыносіла з імі шум, свежасць і водгалас людскога староннята жыцця.



Марудна цягнуўся вечар, хоць троху і было баўнага занятку ў тым, што супакойвалі крыклівых і бітлівых Казю і Мечыка, рыхтавалі вячэру і гутарылі на хаду з пані Міхаловаю, старой і беднай паняю, што жыла на адным з імі падворку і кожны дзень прыходзіла пазычаць не тое, дык гэта.

Пры Міхаловай хвалілася навінамі і маўклівая нянька-ліцвінка. А навіны чула яна ў скверы ад знаёмае пані, што прыводзіла гуляць сваю дзяўчынку.

— Карошую, як наша Ядзюнька,— заканчала свае размовы ліцвінка, і ўсе тры субяседніцы разыходзіліся па сваіх кутках.

Калі ўжо спалі ўсе дзеці і з імі нянька-ліцвінка, калі ўжо пані Сташэўская не ведала, што б ёй такое пачытаць, лёгшы ў ложак, і думала, што Стась яе сёння зусім не вернецца,— ён прыходзіў... Грукаў нагамі па сходах, мацаў рукамі па сценцы, каб не зваліцца, бо йшоў моцна выпіўшы.

Жонка асцярожна зачыняла дзверы, каб не дужа дзвінкнуць замком і не ўзбудзіць дзяцей і нянькі, а пан Сташэўскі хапаўся, хістаючыся, за яе шыю, лез да яе вуснаў ■ сваімі мокрымі абвіслымі вусамі і неслухмяным голасам, падыхаючы страшэнна брыдкім пахам віна, мармытаў ёй ласкавыя і вінаватыя словы:

— Моя кохана Гэлю! Я люблю! Я і схізматыкаў люблю, і папоў люблю... Лю-блю, дда!

— Добра, добра, Стасік... Распранайся.

— Добра? Ну, то найвэнцэй то цебе, кохана Лёлю, жалую! Дда. За ўсё даруеш, Лёленька? Прасці міня, дарагая Гэлю! Я свіння, я выпіў, да!

Яна клала яго спаць. Але, трошку паляжаўшы, ён перапаўзаў на яе ложак, лашчыў яе, хоць і не меў ужо вялікае ахвоты лашчыцца.

А яна гладзіла яго маруднаю рукою па галаве, па шчацэ.

І ўсё было ціха і супакойна...

## НЯВЕСТКІ СВАРАЦЦА

— А дзе нож? — спыталася маладзейшая нявестка ў старэйшае, прыхінуўшыся да столу і ўзяўшы за краец хлеба.

«Жаруць як не ў сваё,— падумала старэйшая нявестка,— дзяцей маіх аб'ядаюць».

І сказала з брахлівасцю ў голасе:

— Нажыхі пайшоў шукаць... Вяселле будзе.

Маладзейшай зрабілася крыўдна.

— Што твой язык — што сабачы, што ты скажаш — што сабака вяхне,— усё роўна! — засварылася яна так, як сварацца старыя бабы.

— Во сыплеш! — здзівілася тады старэйшая.— Во сыплеш, каб табе язык твой скуллем абсыпаўся.

Маладзейшая тым часам знайшла ножык пад абрусам, адкроіла сабе, прымераўшы на вока, скібку хлеба, буйна пасыпала соллю — і тады ўжо, наўмысля, з вялікаю напаказ злосцю, кінула ножык на стол.

— Злыдня ты! — са слязьмі крыкнула яна ў парозе і бразнула дзвярмі так, што аж сама ў сенцах падумала і ўсміхнулася: ці не занадта ўжо паказала сваю сілу?

Прыйшла ў сад і села на лавачку пад хатаю, каб супакоіцца. А свая котка, рабая, і другая нечая чужая, жоўтая, брадзілі па траве, нюхалі траву і выгіналі спіны, усім тулавам выцягваліся ўдоўжкі.

«Кошкі траву жаруць: на дождж»,— падумала і паглядзела ўгару на неба. Неба ж было хмарнае, з белымі камкамі воблачкаў там-а-там.

«Хоць бы да вечара пайшоў: яе палотны нанач змякнуць на лажку»,— не адпускалася яна ў злосці на старэйшую нявестку.

А ў гэты час зацыркаў у лісці на яблыньцы цурочак: цыр-цыр! Піць прасіў: гэтая птушачка таксама цыркае на дождж.

І патрошку запырскаў дожджык.

## ДУРНАЯ ГАЛАВА

Вёрст за пяцьдзесят ад Цёмналесся завяліся з панам мужыкі за луг. Пан казаў, што сенажаць з-пад спушчанага пруду належыць да яго; мужыкі ўпёрліся, што ўсё да самае вады — спрадвеку іхнае. Паслаў пан сваіх дворных касіць той луг, мужыкі сагналі. Пачаўся «бунт».

Няведама дзеля якой прычыны не прыслала начальства пану казакоў; мабыць, для іх хапала працы ў другім месце.

А толькі было так, што па загаду ад спраўніка пачалі збіраць і ў Цёмналессі і ва ўсіх вёсках вакол усіх соцкіх, дзесяцкіх і выбарных, каб ішлі зміраць бунтаўнікоў.

Пара дзеля работы стаяла пільная, нікому не хочацца

патраціць такі час на падарожжа за колькідзесят вёрст, каб біць там свайго ж брата. А не пайсці — бяда: пасадзяць у кутузку.

Чуець наш Трахім, як выбарны галосіць, не хоча кінуць касавіцу дзеля бунту. Чуець дый раптам бух: «Я за цябе пайду! Дай па трыццаць капеек у дзень».

З радасцю згадзіўся на тое выбарны, і вось наш воін рыхтуецца ў паход. Выразаў добрую дубовую булдавешку, узяў у хатылёк на пяць дзён хлеба і пацягнуўся ў воласць на зборную.

Дзесяць дзён прападаў ён на ўзмірэнні. Людзі паспелі скасіць, і высушыць, і звезць, а Трахіміха чуць-не-чуць адзін вазок сабрала, а то ўсё ці коні патравілі, ці пад дажджамі пагніло.

Вярнуўся наш Трахім,— нічога, не смуціцца, хоць сена пагніло, затое тры цалковых зарабіў і свету паглядзеў, бунт сумірыў! Праўда, грошы ён праеў там на харчах, але яму гэта не бяда,— усё роўна зарабіў!

На ўсё жыццё было аб чым казаць Трахіму.

— Няўжо ж ты і людзей біў? — пыталіся ў яго.

— А што ж бы я дарма хадзіў? — смяяўся ён, пакручваючы наўкола галавы сваёю булдавешкай, да якой за дзесяць дзён паспеў так прызвычаіцца, як салдат за колькі гадоў службы да ружжа.

— Як жа ты біў?

— А во як! — з усяе сілы бэхаў ён булдавешкаю па плоце.

— А самаму ўляцела?

— Ну, не, я больш ля баб зураднікамі ваяваў! Божухна, колькі ж там было гэтых ураднікаў, а-я-я! Нагналі з усяго вуезду. І ўсе чыста ў белых паркалёвых жупанках, з бліскучымі, як тое шкло, гузікамі на грудзях і з шаблямі пры баках. І іспраўнікаў было штук пяць! Соцкіх тых, дзесяцкіх, выбарных — не пералічыш. Высыпалі мы на сенажаць, як войска. Далі вураднікі нам косы ў рукі. Добрыя то косы,— вядома, панскія.— «Касіце!» Мы касіць, а бабы кладуцца пад касу, каб не даваць. Мужыкі з цапамі стаялі найбольш адзаду, а бабы, дзеці і старыя сунуцца на нас. «Лупі іх, хлопцы!» — кажа нам тады глаўнейшы спраўнік. Некаторыя сцясняюццца, а я, не доўга думаўшы, так угрэў крыклівую малодку касаўём, што аж скіпела.— «Сабака панскі!» — крычыць яшчэ, халера. Я тады, не доўга думаўшы, кінуў касу, ды як лупнуў яе ў грудзі булдавешкай! Аж тут, халера, зусім старэнькі дзед

схапіў з травы касу, як кінецца з касою на мяне. Каб не схіснуўся ўбок, зарэзаў бы, як кукарэку. Віджу, што тут не паласа, булдавешку на плечы, ды ходу, брат ты мой! Насілу схаваўся за ўрадніка, што з-пад Татарска, манапольшчыка старога сын.

— Сумірылі?

— Вядома! Штук дзесяць баб трохі парэзалі, хлопчыку аднаму носа адкраілі, а мужыкоў паслалі пад арэшт. Не бойсь, не будуць бунтавацца!

— Што ж, пан вас добра напаіў?

— Якое там,— скупы, халера! Прасілі, каб хоць вядры са тры паставіў, дык, кажуць, кінуў усё чыста і з'ехаў са двара. Мужыкі яго ўсё роўна спаляць. Заядлыя там мужыкі, бунтоўнікі, задзёры.

— Скажы ты нам, Трахім,— пытаюцца ў яго,— каб во, прыкладам, у нас такое з панамі завялося, ці добра б то было, каб і цябе хто гэтак лупцаваў?

— А што я? Калі на тое зарабіў, хай і мяне лупцуюць.

— Дурная ты галава! — з прыкрасцю казалі яму нават бабы.

— Самі вы дурныя,— смяяўся Трахім і дзеля жарту з усяе сілы бэхаў булдавешкаю па плоце.

# СІБІРСКІЯ АБРАЗКІ

## [ПАЕХАЛІ...]

Паехалі...

Цягнік шыбка ідзе, раве, імчыцца-вырываецца з гораду ў шырэйшыя і цішэйшыя прасторы.

Прыемна імчацца. Усякі палёт прыемен. Уздым пачуцця...

Вечарэе. Халадком павявае. Шмат лесу.

Пад самаю Масквою — і столькі вялікага, прыгожага, праўдзівага лесу. Тут жа ўсё, уздоўж усяе дарогі, дачныя пасёлкі, прыгожыя дачныя будыначкі.

І дачнікі — ідуць па адным, па два, па тры, групамі, з кошыкамі, з вудамі, з пакункамі, і так, з пустымі рукамі, і абняўшыся, гуляюць прыбраныя, чыстыя, вясёлыя, здаровыя... [...]

Ціхі вечар, цёплая і цёмная ноч... Прыемна ехаць.

Кладуся. Буду ляжаць, засну.

Адзін я з сваімі думкамі.

А хочацца спаткацца, пагаманіць...

Палюбавацца на жыццярадаснае хараство.

28/VI

А сёмай гадзіне ўвечары праехалі горад Кацельніч, што нядаўна згарэў. Кіламетраў сто ад Вяткі.

Горад над шырачэзнаю ракою Вяткаю. З двух бакоў ад вакзалу — абгарэлыя каменныя дамы.

Вакзал драўляны, але чыгуначнікі абаранілі яго ад вогненнай навалы.

— Бядовы народ гэтыя чыгуначнікі! — хваліць іх за гэта наш вагонны правадпік.— Дзе ні вазьмі, усюдых чыгуначнікі — малайцы! — хваліць ён і чакае ад мяне згоды.

Я механічна раблю на сваім твары нейкае спрыянне. І іду туды, дзе прадаюць марозіва і іграюць на гармоніку.

Каля калёсак марозніка натаўп пасажыраў. А трошку воддаль нейкі праставаты чалавек, паклаўшы шапку на зямлю, каб кідалі ў яе грошы, з усяе сілы расцягвае ў гармоніку мяхі — іграе папулярную цяпер песню «Кірпічыкі».

Ад мелодыі «Кірпічыкаў» вее на мяне нервовым сумам, які павінен быць заглушаны надзеямі на лепшае жыццё...

Гарманіст расставіў ногі, упацеў, стараецца-ўлягае колькі сілы. І відаць, што яму цяжка добра сыграць, але гэты імпэт і вялікая стараннасць паднімаюць яго ў вачах слухачоў.

Сумныя гармонікавы гукі ўсё ж разганяюць безнадзейе...

І гарманісту кідаюць капеечкі...

— Бедны край.

Зялёныя лясы і лясочкі. Дрэннае жытца. Вузкія палоскі. Сохі. Вёска ад вёскі далёка.

На ўскрайку вёскі — ветракі (млыны). Потым шнурочак бедных хат. Толькі дахі — не салома, а драніцы, гонт. І ізноў ветракі-млыны.

Агульны выгляд — сум.

Станцыя. Нічога няма. Толькі квас-бурда ў беднай і неахайнай бабы.

Усё беднае.

29 чэрвеня, аўторак.

Прачнуўся позна.

Ізноў раніца, ізноў едзем, ізноў тая самая відаль. Але ўжо болей адчуваецца блізкасць Уралу.

Край узгоркаваты, па полю — вострaверхія елкі і елачкі, толькі камення яшчэ не відаць. Елкі — і на ўзгорках і ў нізінах.

І тут вёска ад вёскі далёка. Поле — зялёнае ці чорнае, але прыгожага жыта даўно не відаць. Так — ярына нейкая.

Далей за Перм'ю ўсё болей гор з лесам і — ужо троху скалы.

І зноў — такія ж самыя бедныя станцыі з беднымі, неахайнымі, то дужа ціхімі і панурымі, то дужа крыклівымі і грубымі людзьмі.

І толькі на станцыі Шаля — прыгожая дзяўчынка, трошку манголка, усцешыла мяне.

Яна прадавала квас, такую самую бурду, як і ўсе тут

прадаюць. Цадзіла яго з вялікае бутлі ў шклянку і прадавала па дзве капейкі.

І я пастаяў і палюбаваўся на яе... Слаўная дзяўчынка!

Стаяў і думаў...

Ніколі не бачыў цябе, ніколі больш не ўбачу, а ты мне блізка і дорага і, сама таго не ведаючы, радуеш мяне, як і ўсіх людзей.

Як слаўна жыць, калі ёсць гэта!

30 чэрвеня, серада.

Калі я прачнуўся, была Цюмень, і цягнік ужо нейкі час стаяў на станцыі.

Дык вось пераехалі Урал і ўжо ў Сібіры. Спалі і нічога не бачылі. Але я бачыў Урал раней, дзесяць год таму назад, калі першы раз ехаў у Сібір і потым з Сібіры. Прыпамінаю сабе тое вялікае горнае хараство.

Майго суседа-рабочага, і тэлеграфіста з сямейкаю, і настаўніка — ужо няма, выйшлі, калі я спаў. Селі новыя пасажыры.

На месцы, дзе былі тэлеграфісты, села нейкая нафарбаваная рыжая дама і яе маці, больш падобная да яе прыслугі. Вязуць вялікую ляльку, увелькі з праўдзівае дзіця.

Я выйшаў на плацформу.

Сцюдзёна. Дожджык імжыць. Але перон — крыты. На пероне — маса перасяленцаў. У непрыгожых разбітых лапцях, у чорных, брудных, сцягнутых на задзе світках, самі — непрыгожыя. Валяюцца, пакутуюць.

І маленькія дзеткі, у такіх жа самых, нязграбна пашытых світах, сядзяць на рэчах, калеюць. У лапціках, хлопчыкі ў калматых шапках, дзяўчаткі ў зношаных, злінялых хустах. Тварыкі дзіцячыя і вочкі ясныя, толькі нясмелыя. Едуць — куды бацькі іхнія едуць і іх вязуць.

Едуць з Сімбірскае губерні на Далёкі Усход. Звычайная з'ява на сібірскіх вакзалах.

Я асцярожна абхадзіў іх і іхныя мяшкі. І ў памяці мне ўсплыў «самаход» Панас Пушча, што некалі апавядаў мне, як ехаў ён у Сібір на перасяленне.

Здаецца, якраз у Цюмені быў ён арыштаваны — за тое, што скандаліў, чаму іх, перасяленцаў, усё перакідаюць. [...]

Калі я вярнуўся ў вагон, то на паліцы нада мною, што займаў рабочы-курортнік, цяпер ляжаў вялікі барадаты мужчына, з рудаю калматаю барадою — з аблічча, мусіць, яўрэй.

Нарэшце паехалі. Я ўзяўся снедаць. Сцерлядзь мая сольная-прасольная, хоць не еш. Але ем, шкода ж кідаць, гарбатаю запіваю. У вагоне ціха і пахне макравасцю ад новых пасажыраў. За акном пільна сячэ касы дожджык.

Дождж ішоў аж да ст[анцыі] Вагай. Там троху пераціх.

На гэтай жа станцыі ўстаў мой новы сусед і набраў сабе вару. Таксама сеў снедаць. Разлажыўся каля мяне скромненька, але ў яго — цэлы бохан добрага сітнага хлеба, і слівачнае масла, цэлая бляшанка, і цукар-рафінад.

Піў ён і еў доўга і са смакам. А я ўсё чытаў. Нарэшце ён дзівіцца: нашто я купляю столькі газет. Ён газет не купляе — нашто траціцца, і так усе навіны даведаецца раней — ці праўда?

— Праўда...— згаджаюся я, сканфужаны. Што яму яшчэ сказаць?

— А мне здаецца, што я вас дзесьці бачыў,— далікатна працягвае ён гутарку, канчаючы снедаць і акуратненька ўсё складаючы ў сваю скрыначку з фанеры.

Углядаюся ў яго. Нічога не пазнаю. Але як быццам ведаю і бачыў яго даўным-даўно...

— Вы былі калі-небудзь ў горадзе Катарзé? — пытаецца ён.

— Быў. Улетку 1916 г[ода]. Вайсковая служба закінула мяне туды.

Ён радасна і ветла падае мне руку... Называе сябе — і я ўсё ўспомніў. Гэта — грамадзянін Дзісян, разнік з горада Катаргí, дзе я быў у 1916 г[одзе], служачы ў войску.

У нас пачынаюцца ўзаемныя распытванні.

## [УГОДА БОГУ]

У адным са мною купэ едзе грамадзянін Дзісян, разнік з горада Катаргí.

Ён здаравенны барадаты мужчына, з чырвоным тварам, у высокіх ботах, і жылы ў яго на руках заўсёды тоўстыя, быццам надутыя.

Але ён вельмі лагодны і далікатны чалавек.

Са мною ж ён асабліва ласкавы, бо ён любіць і паважае адукаваных людзей і, апрача таго, мы — землякі: родам

ён з г. Рэжыцы б. Віцебскай губерні. Цяпер гэты горад пад Латвіяй.

У цяжкія гады рэвалюцыі Дзісян уцёк у Сібір і асяліўся ў Катарзе, на запросіны тамтэйшых пабожных яўрэяў. Яўрэі ў Катарзе — гандляры, рамеснікі, і спаміж іх ёсць яшчэ многа пабожных людзей, якім патрэбен свой разнік.

Дзісян жа — вельмі добры разнік, часам нават замяняе рабіна і добра зарабляе.

Цяпер ён ехаў з Свярдлоўска ў Томск. Шукае месца, дзе б вучыць сваіх дзяцей у універсітэце. Дзеля гэтага яму трэба перасяліцца з Катаргі. У Свярдлоўску яму спадабалася, горад добры і блізка да Расіі, але там ёсць некалькі разнікоў, і разлічаць на вялікія заробкі не прыходзіцца. Дык ён едзе ў Томск.

За дарогу мы з ім блізка пазнаёміліся і шмат аб чым гаманілі.

Гаманілі і пра скапцоў. Аказваецца, скапец Алёхін — яго добры знаёмы. Дзісян хваліць яго як дужа парадачнага і сумленнага чалавека.

І Дзісян не лічыць дзікім звычай выразаць у чалавека органы размнажэння.

— Кожны хваліць бога, як умее,— кажа ён і пачынае апавядаць, што і абразанне, напрыклад, добрая рэч...

Ён міла апавядае мне аб сваім старым нацыянальна-культурным яўрэйскім быце, і я бачу, што ў ім яшчэ не згасла надзея, што быт гэты будзе жыць і квітнець, але я адчуў у ім і засмучэнне, што новыя ідэі, новы быт павіслі пагрозаю над старымі ідэямі і старым бытам.

Ён робіць, што можа, каб паказаць старое перад новым у добрым выглядзе, каб абязвініць яго і як-небудзь увязаць яго ў сітуацыі, якая цяпер стварылася.

І ён частуе мяне сваім сітным хлебам, добранька адразаючы складанчыкам невялічкія скібачкі, і сваім добрым, узятым у дарогу маслам з бляшаначкі, і, задуменна паглядаючы, п'е гарбату да поту, і міла апавядае мне, як робіцца ў яўрэяў абразанне і якая гэта далікатная аперацыя. [...]

І яшчэ ён кажа, якая гэта вялікая радасная ўрачыстасць у сям'і. Збіраецца ўвесь род, і мілыя суседзі, і паляць свечкі, моляцца і гавораць пажадальныя прамовы, садзяцца за багаты стол, смачна ядуць і п'юць, жартуюць, смяюцца, пяюць песні... Маладыя вучацца ад старых, як трэба жыць, як трэба ўкладаць мудрасць вякоў у свой кароткі земны шлях — для маладога цёмны, невядомы і небяспечны...

А я пытаюся, ці партыйныя ў яго дзеці.

І ён мне кажа, падумаўшы, можа, нават ўзважыўшы, ці бяспечна гэта з яго боку казаць мне такія палітычныя факты з асабістага жыцця. І кажа, пагладзіўшы сваю вялікую, салідную і мудрую і яшчэ вельмі здаровую і энергічную бараду. Кажа так:

— Што ж? — Такі свет цяпер настаў. Што ж? — хай на здароўечка жывуць і вучацца...

І я таксама троху падумаў і, узважыўшы, ці сказаць яму ці не і як сказаць, падняў сваю пушачку з манпансье, ветла і настойліва папрасіў яго ўзяць яшчэ і сказаў так:

— Праўду кажаце: другі свет настаў. І дзеці вашы паканчаюць універсітэты і будуць ужо рабіць угоду іншым ідэям, іншым спосабам, не будуць ужо рабіць над сваімі дзяцьмі гэтага абраду, які існуе ў вашым народзе ад незапомных часоў, не будуць рабіць гэтае ўгоды богу, хоць гэта, можа, вам і сумна...

Дзісян змоўк, не зразумеўшы мяне ці не хочучы аб гэтым думаць. Я пачаў глядзець у вакно, дзе не сціхаў касы дождж і сек шырокае туманнае поле, з прыніклаю травою, кустамі. Табун авечак уліп там у зямлю. Каля загону стаялі мокрыя калёсы. Недалёчка ад іх скарадзіў хлопчык: ішло гуськом тры кані, на пярэднім ён сядзеў. Сцюдзёна, хмарна...

І ўзноў я падумаў у здавленні: новы свет, пра які мы гаманілі з грамадзянінам Дзісянам, нясе свае змены і сюды: пушчаны будуць тут гэткім гуськом нязграбныя, але напорыстыя трактары, і не хлопчык акалелы, а бойкі трактарыст будзе кіраваць тым механічным жалезным канём. І хмары страцяць сваю золкасць, і замест суму нясходаных прастораў прыйдзе сюды нейкая новая, яшчэ невядомая мне паэзія, якую адчуваю толькі ўсцешаным сэрцам па дырэктывах розуму.

І ці будзе яшчэ тады абразанне?

## ЧОРНЫ ЛЕБЕДЗЬ

Катарга́ да рэвалюцыі — невялічкі павятовы горад Тобольскае губерні, на лев[ым] беразе Іртыша, кіл[аметраў] 200 ніжэй Омска. Жыхароў там было тысяч дзесяць. Але

бывалі даволі вялікія кірмашы, як зазвычай у сібірскіх гарадах, бо гарадоў мала, і яны далёка адзін ад аднаго.

Сяляне прывозілі масла, скуркі, кедравыя арэхі. І з «самаходам» Панасам Пушчаю пазнаёміўся я таксама на таргу, купляючы ў яго мяшочак добрых кедравых арэхаў.

Пасля я быў разы два ці тры ў іхняй вёсцы, ці па-тутэйшаму — пасёлку, кіламетраў за дваццаць ад Катаргі.

Быў Панас — заядлы паляўнічы, і я некалькі разоў хадзіў з ім, потым, паляваць у ваколіцах Катаргі.

Месца там роўнае, больш нізкае, шмат балотаў. Балоты, азёры, рэкі. Трава і трава — зялёная, рудаватая, жоўценькая ад буйнага і залацістага сібірскага казельцу (люціка).

Мы цягаліся па гэтых гусценных пстрах высокай травы і кустоўя, часта паднімалі то дзікую гусь, то кракву.

Часам лёгка ўзнімаўся і ляцеў на Іртыш прыгожы белы лебедзь (чорныя лебедзі тут таксама спатыкаюцца, але мне іх бачыць не давялося).

Але кампанеец мой не столькі страляў, колькі апавядаў мне пра сваё жыццё, пра Сібір і пытаўся ў мяне пра вайну і палітыку.

Ён апавядаў, што дзед і бацька яго былі палясоўшчыкі ў абшарніка Віцебскае губерні. Дзеля таго, мусіць, і прозвішча далі ім — Пушча.

І сам Панас колькі год служыў у таго пана лесніком, ды не вытрывала яго натура вечных паніжэнняў ад пана і звычайных у службе лесніка нараканняў ад сялян, і ён з'ехаў у Сібір.

Трапіў ён у Катаржанскі павет. Тут шмат жыло ўжо перасяленцаў з Віцебшчыны. Жылі яны, як і перасяленцы з розных іншых мясцовасцей былой Расіі, апрача хіба немцаў і латышоў, надта бедна і знаходзіліся ў эканамічнай залежнасці ў старажылаў — «чалдонаў».

У чалдонаў было дзесяцін па 30—40 зямлі, штук па 10—15 коней. На стале ў іх я заўсёды бачыў толькі пшанічны хлеб.

Навасёлы ж, ці «самаходы», пакуль разжывуцца, мусяць ісці да іх у кабалу, рабіць ім на адработ і нават на той час зусім за бясцэн.

Навасёлы, у параўнанні з старажыламі, былі батракі і жабракі.

Панас Пушча, апрача таго, і тут, у Сібіры, больш хадзіў на паляванне, чым гаспадарыў — і гэта было лішняю прычынаю страшэннай беднасці, у якой ён жыў.

Калі ён завёў мяне ў сваю хату, я жахнуўся, пагледзеўшы на яго жыццё. Жыў ён у дрэнненькай цесненькай хатцы, і то перабраўся ў яе ўсяго толькі год, а то быў у зямлянцы.

У хаце было пуста, брудна, убога. Жонка — хваравітая. Усе дзеці — дробныя, апрача аднаго большага хлапца, гадоў 16, які сапраўды і рабіў усё ў гаспадарцы за такім бацькам.

Я тады не звярнуў на гэтага хлапца ніякае ўвагі. Ён мне здаўся звычайным вясковым хлапцом, змучаным працаю і, супроць бацькі, мала здольным і неразвітым.

— Дык вы яшчэ не забыліся пра гэтага дзівака? Ой, слухайце, што было з ім, з тым Панасам Пушчаю...

Здаецца, яшчэ ў тую восень, як вы былі ў Катарзе. Ну, так, яшчэ да рэвалюцыі... Прыходзіць ён да мяне і прыносіць у мяшку чорнага лебедзя.

Добры быў лебедзь, і пуху-пуху, і костка — сякераю не ўсячэш. Гадоў, мусіць, пяцьдзесят было таму лебедзю, калі не болей.

Прыносіць, я дзіўлюся. Вядома, асцякі страляюць лебедзяў колькі заўгодна і прадаюць пух. А ў рускіх гэта грэх, і каб хто забіў лебедзя, дык падняўся б цэлы пасёлак.

Заплаціў я за лебедзя, не памятаю ўжо — колькі, і пытаюся ў яго: «Панас! Няўжо ты сам яго забіў?» А ён смяецца і просіць аддаць грошы за лебедзя ды яшчэ й пазычыць тры рублі.

Быў ён, за сваім паляваннем, вечны батрак у чалдонаў і заўсёды, бывала, просіць пазычыць яму. Ну, пазычаеш. Аддасць — дык аддасць. Не аддасць — не збяднею.

Праўда, чалавек быў сумленны і заўсёды аддаваў — калі не грашмі, дык забітаю птушкаю, скуркамі, чым калі.

Даю тры рублі і яшчэ, памятаю, сказаў яму: «Глядзі, Панас! Нікому дужа не хваліся, што забіў лебедзя». І што ж вы думаеце?

Казаў Панас, жартуючы, што лебедзь той пяяў песню, смерці прасіў, дык ён і даў яму смерць. А яшчэ казаў, што ў законе добра не сказана, ці грэх забіваць лебедзя, калі ён чорны, а не белы. Жартаваў... А што вы думаеце?

Праз тыдзень, можа, болей, прыязджаюць з іхнага пасёлку людзі, адзін прывёз цёлачку ў разніцу. Купіў я цёлачку, рэжу, а ён стаіць і кажа: «А ведаеш, Абрам, едзь спаганяй грошы з Панасіхі, што Панас у цябе пазычаў, а

то прападуць»,— «Чаму,— дзіўлюся,— прападуць?» — «Бо Панас прапаў».

Было ў іх у пасёлку свята, выпілі бражкі. І адна там нейкая суседка-чалдонка яксьці даведалася і разлахала па ўсім пасёлку, што забіў Панас-самаход лебедзя.

Пачалі да яго чапіцца. П'яныя, вядома. Усіх маладых пагналі на вайну, а гэта засталося самае закаранелае чалдонне ды бабская цямнота.

«Каб не было,— кажуць,— бяды на пасёлак, трэба цябе самога забіць за лебедзя!» Ён нават зямлю, кажуць, еў, кляўся, што болей не будзе страляць лебедзяў, ногі ім цалаваў. Жонка плакала, прасіла. Дзеці. У іх жа на вачах і забілі — неміласэрныя людзі... А з самаходаў ніхто не заступіўся — баяліся.

І тры рублі маіх за ім так і прапалі. Няёмка, ведаеце, было спаганяць з удавы з малымі сіротамі ў такім няшчасці. Пасля, раз, далі мяшочак кедравікаў. Нічога, я ад гэтага не збяднеў. Бог мне дае...

Грамадзянін Дзісян апавядаў, а ўваччу стаялі мне Панасавы вочы. Глыбокія, добрыя вочы на худым цьмяным твары, блакітныя, як неба. У іх было вялікае разуменне жыцця, але пакорныя адносіны да ўсяго, што ні здарыцца.

— Ну, нічога. Усяк бывае на свеце,— нібы хацеў пацешыць мяне мой субяседнік.— Вось, цяпер старэйшы Панасаў сын, таварыш Пушча, старшынёю сельсавета, камуніст, партызаніў...

І троху мне палягчэла, ці толькі хацелася.

## ПАБОЖНЫ МЕШЧАНІН

У 1916 годзе служыў я ў запасным палку ў Сібіры і на нейкі час быў камандзіраваны ў невялікі горад Катаргу́, дзе і жыў на кватэры ў аднаго мешчаніна і ад нуды і не маючы іншых кніжак чытаў з ім разам «Жыція святых».

Мешчанін гэты меў да вайны невялікую гандлёвую лазню і добра зарабляў. Калі ж і ў іхным горадзе зрабіўся быў вялізны лагер запасных палкоў і ў яго лазню таксама пачалі ганяць салдатаў, па тры дні на тыдзень і па дужа малой цане, ён, нягледзячы на ўвесь свой патрыятызм,

лазню зачыніў і ўзяўся за гэтыя аграмадныя царкоўнаславянскія кнігі, якіх павінна было хапіць яму да канца самае доўгае вайны.

Праўда, патрыятызм тут быў на свой асобны лад: мешчанін страшэнна не любіў «хахлоў», «жыдкоў», палякоў і «палячкоў». Палячкамі ж ён зваў нас, беларусаў, і надта засмучаўся і не хацеў даць веры, што я таксама — «палячок».

А палюбіў ён мяне за тое, што я не прасмяхаў яго і цярпліва слухаў даўгімі восеньскімі вечарамі, пасля палкавое службы, размовы аб зачыненай лазні і аб святых.

* * *

Ён дасканала ведаў і мог бясконца пераказваць з памяці жыццеапісанні ўсіх святых, імені якіх насілі выдатныя катаржанскія жыхары і ўсе яго родныя і знаёмыя.

Да тых святых меў ён большую ласку, да тых меншую. Мой цёзка, апісаны ў «Жыціях», яму, напрыклад, вельмі падабаўся.

— Падумайце, мой дарагі,— казаў ён, хітра падміргваючы,— другі патшчаецца скрозь усё сваё жыццё, цярпіць голад і холад, змагаецца з пакусамі, у вярыгах мучаецца — і насілу ткі трапіць у святыя. А ваш ангел быў грэшнікам і катам, піў і еў у смак, салодкасці ўсякае зазнаў, і толькі скочыў у кацёл з гарачаю смалою, як раптам і святы... Ці ж не ўдача?

Я бачыў у хітранькіх і цвёрдых вочках хаваную зайздрасць да таго ўдачніка, якога ён называў маім святым і жыццё якога ■ другога тома «Жыцій», за люты месяц, ён вывучыў на памяць.

— А ведаеце што? — адказваў я на яго словы,— мне здаецца, што і вы, Інакенці Інакенцевіч, у тыя часы маглі б трапіць у святыя.

Мешчанін саромліва апушчаў вочы або з лішняю стараннасцю хлябтаў са сподка чай. А потым, неспадзявана, гаварыў даволі колка:

— Кгде уш нам уш выйсці замуж! То лі дело-та, вы, хрістолюбівое воінство: пріемшы смерць на поле брані, ко господу богу нашему на лоно праведное укготованы...

— Дзякуй за ласку! — адбіваўся я жартам: — Не дужа тым часам хочацца на гэтае праведнае ўлонне.

— Да што вы, да што вы! — быццам спалоханы, хапаў ён мяне за локаць.— Жэлаю вам здравствовать мнокгія ле-

та! — Я, знацца,— казаў ён далей цішэйшым голасам,— я толькі дзеля прыкладу, наогул толькі гаворачы, а вас хай маці божая бароніць і праведны Інакенці Іркуцкі, заступнік наш сібірскі!..

* * *

Каб развеяць мае думкі, ён браўся цяпер за якое-небудзь цікавае, на яго погляд, жыццё святога ці святой.

— Мае кнігі, мой дарагі, не поўныя, а вось некалі пазычаў я «Жыція святых» старога друку, у айца саборнага пратапопа, дык вось там то ёсць гісторыі.

— Напрыклад?

— Напрыклад? Ды вось, напрыклад... На мяне кажуць, што я скнарыца,— казаў ён, горка ўсміхаючыся,— за лазню, значыцца, што прычыніў дзеля пэўных страт і ўсякага непарадку. А я так думаю: справядлівы бог, як не захоча, то не асудзіць. Справа, бачыце, не ў скнарасці, а ў тым, як чалавек зносіць тую сваю скнарасць...— І ён апавядаў мне, як жыў некалі адзін святы, прападобны Арэхва, родам з Полацку, які гэтаксама меў грэх скнарасці, нічога старцам не дарыў і нават сабе кавалачка хлеба шкадаваў.— Не падумайце, як я, мой дарагі,— казаў ён, апавядаючы.— І вось бог так даў, што ў святога Арэхвы ўкралі зладзеі кнігі. Кнігі ў той час былі дужа дарагія, бо ад рукі пісаныя. Святы Арэхва моцна затужыў і нават хацеў зрабіць самагубства. І як ляжаў ён ад таго няшчасця хворы, было яму зданнё: чарты і ангелы спрачаюцца за ягоную душу. Тыя кажуць: ён наш, бо ён за кнігі бога зневажаў. Ангелы ж крычаць: пачакайце, з гарачкі і зняважыў, але калі абдумаецца — сцерпіць, а гэтым самым як бы міластыню сатварыць. Прачнуўся святы Арэхва, пакаяўся і зрабіўся затворнікам.

— Ну што: цікавае жыццё?

— Вельмі цікавае,— згаджаўся я.

— Так, мой дарагі, цікавае, а мне яно дык нават блізкае... Разумееце: украдзеныя кнігі, зачыненая лазня...

Пакуль я падбіраў зручнейшыя сказы, каб пацвердзіць яму, што і ён робіць міластыню, цярпліва зносячы зачыненую лазню і чытаючы «Жыція святых», пад вокнамі кватэры чулася шумная тупаніна, галосны гоман, можа быць, і трошку хмельны: ішлі з кінематографа мае вясёлыя сукватаранты.

Ён хрысціўся, дзякаваў мяне за гарбату і ўцякаў хутчэй на сваю палову. Баяўся іхных жартаў.

* * *

За кароткі час ён мне дакучыў. І я неяк сказаў яму, што чуў ад некага, быццам гэты іхны калішні сібірскі архірэй, Інакенці Іркуцкі, быў родам з Магілёўшчыны, сын звычайнага вясковага дзячка, на прозвішча Бекарэвіч, значыцца, таксама «палячок».

Пасля гэтага ён так загневаўся на мяне, што болей не прыходзіў на гарбату і гамонкі, а калі мы спатыкаліся з ім у сенцах ці на падворку, дык не казаў ужо «мой дарагі», а толькі суха даваў «дзень добры».

## ФЕЛЬЧАР ПЛАКУН

Вясны і восені ў Катарзé блізу не бывае. Адразу надыходзіць лета. Дні за тры снегу няма — і пачынае расці зяляніна.

Аднак жа, у пачатку лета, а то і ўлетку, раптам могуць быць там вялікія замаразкі. Гэта вельмі прыкрая рэч, і гаспадару, і таму, хто любіць цёплае роўнае лета.

Апрача таго, камары і мошкі не даюць жыць. У горадзе і то, калі выходзяць людзі ўвечары пасядзець на лавачцы, дык кладуць перад сабою цяпло ці выносяць вугалле ў гаршчочку і на вугалле падсыпаюць хвойкі — дзеля дыму.

Але цяжка адагнацца там ад камароў нават дымам. Звіняць увесь час над вухам, цягнуць душу з цела. Такое мізэрнае піскучае стварэнне, і ніяк не адгонішся, дык бярэ злосць. Цішком сядзе, і як каторы ўкусіць, дык дні тры потым свярбіць, і так свярбіць, што хоць ты цела раздзяры.

Тутэйшыя людзі і ў такіх цяжкіх умовах па вечарах на вуліцы кахаюцца, а толькі прыезджым горш. Добра таму, у каго сваё асобнае памяшканне і хто не баіцца ў дзень гарачыні — не адчыняе вокнаў, каб не наляцела поскудзі.

Камары бываюць месяц-паўтара, а тады слабеюць, затое прылятаюць мошкі, яшчэ горшыя за камароў, бо аж у паветры ад іх цёмна, не даюць дыхаць, лезуць у рот, у нос, слепяць вочы... Людзі надзяюць на галаву сеткі, як на падгляд пчол, і так, у нязручнасці, ходзяць і працуюць. А прывазныя далікатныя коні ад гэтых мошак упадаюць у сухоты і здыхаюць.

* * *

Катаргá — горад хоць і раскінуты, але невялікі, тым часам ёсць аптэка і два дактары, праўда, «такіх сабе», як кажуць катаржанскія жыхары, бо адзін дужа стары і глухі, и другі, яго пляменнік, зусім яшчэ малады і, пэўна, пакуль што не з поўным правам.

Можа, з гэтае прычыны, фельчар у горадзе Катарзé, грамадзянін Плакун, мае вялізную практыку, нягледзячы на ўсё яго дзівацтва.

З выгляду гэта звычайны мужчына, троху калматы і з акулярамі, але прыгажэйшы за прыродных чалдонаў.

Галоўнае тое, што ён вельмі дзіўны чалавек,— то плача, то смяецца...

Часам ён едзе па вуліцы задуманы, а часам крычыць на ўсё горла, «як п'яны мужык»,— кажуць некаторыя катаржане,— але сапраўды ён не п'е і нават не курыць. А чаму крычыць? — бо не магу, кажа, стрымаць сябе, мошкі надта ліпнуць. Аднак жа, крычыць і ўзімку, тады кажа — ад марозу.

Бедных ён лечыць дарма, яшчэ сваіх грошай дасць. Ездзіць да хворых на сваім коніку. Прыехаўшы, усюды кажа, быццам прасмяхаючы: «Да цябе найперш...»

І ніхто не ведае, чаму ён так часам вырабляецца, едучы па вуліцы — жаласна пяе, плача і ўсяк шуміць.

Можа, таму, што ён з «палітыкаў» (так тут кажуць на палітычных ссыльных), родам з Віленскае губерні, і жыццё яму ў горадзе Катарзé не падабаецца.

Можа, таму, што прыязджала да яго некалі даўно нявеста, таксама з Віленшчыны, полька, ды спалохалася сібірскіх камароў і мошак — і ўцякла назад.

Можа,— яшчэ якая прычына...

* * *

Я пытаюся ў грамадзяніна Дзісяна, ці жыве яшчэ там у іх, у Катарзé, той дзівак-фельчар, прозвішча якога я не ведаю, дый раней не ведаў, але якога ўсе ў горадзе завуць Плакуном.

— Фельчар Плакун? А як жа, жыве, жыве! — усміхаецца прыветна Дзісян і кажа мне, што фельчар так прызвычаіўся дзівачыць, што ўжо не можа кінуць.

І рэвалюцыя прыйшла, і на бацькаўшчыну мог ён вярнуцца, але і не вярнуўся і дзівачыць не перастаў, дый, мусіць, ніколі ўжо не перастане. Быў толькі нейкі перапы-

пак у яго паводзінах у 1918 — 22-м, так, гадах, калі Плакун троху быў пацішэў. А з 1923 года ізноў пачаў крычаць.

Цяжка, бачыце, да чаго-небудзь прызвычаіцца, але яшчэ цяжэй ад чаго-небудзь адзвычаіцца...

## УЦЕКАЧЫ

Снег яшчэ не выпаў, але вуліцы былі мёрзлыя і надвор'е дужа сцюдзёнае.

Увечары, ішоўшы спусцелаю ўжо вуліцаю, быў я вельмі разжалены, калі на рагу неспадзявана ўзбіўся на якогась няшчаснага хлопчыка, што туліўся ля сценкі і прасіў:

— Падайце капеечку!

— Што ты кажаш?! — дужа голасна спытаўся я ў яго, каб пачуць яшчэ якія словы.

— Дзядзечка, што ласка ваша...

Бедны — убогі, у лахманах, азызлы на сцюжы, прасіў ён ужо добрым жабрачым тонам. Гаворка ж у яго была беларуская.

Я даў яму залатоўку і папрасіў яго завесці мяне туды, дзе ён жыве. Жаданне маё зусім яго не здзівіла,— мусіць, ён прызвычаіўся да ўсякіх людскіх жаданняў і прызвычаіўся ціха і слепа пакарацца ім.

* * *

Цесная і нячыстая каморка была недалёчка ад рогу, на якім хлопчык прасіў. У ёй было душна і парна. Маладая дзяўчына нешта гатавала на вячэру ці то на пліτцы, ці то проста на трэсачках і трыножках у чалесніку. І напусціла поўна пары з лёгкім чадам.

Каля сценкі супроць печы сядзеў, разваліўшыся на тапчане, лускаў семечкі і глядзеў на дзеўку адзаду — салдат у расшпіленай паношанай шынельцы. Ён выглядаў у хаце жаніхом ці зусім блізкім чалавекам.

Тут жа, трошку воддаль ад печы, на ложку, у рыззі, вохала старая. Мусіць, матка. Пабачыўшы мяне, новага чалавека, яна прыслухалася. Пачуўшы сваю родную мову і здзівіўшыся, зараз яна яшчэ болей аджылася.

— Няўжо ж, няўжо ж... бяжэнцы мы, галубочку! —

не ўцярпіла яна ўрэшце і падала свой голас. Але дужа закашлялася, хаваючы худое цела бруднаю дзяругаю.— На ліха было і ўцякаць... Старога пахавалі ў дарозе, кінулі, беднага, у яму, не раўнуючы, як якога сабаку. Хай свят ляжыць! Спалохаліся немаведама чаго, паехалі і мы следам за ўсімі, у вір галавою, на край свету. От дурныя мы...

— Бросьце, мамаша! Ім вовсе не інцересно...— перабіў старую салдат і звярнуўся да мяне, на пасяродак хаты.

— Вам, сопствена, чыво укгодна? — сказаў ён грубаватым, няласкавым голасам і перавёў падазроны погляд з мяне на дзяўчыну. Тая капалася ля свае пліткі і нават галавы не павярнула.

Я пачуў сябе ніякава і прамарматаў нешта, абы сказаць:

— Думаў... гарачую вячэру тут даюць...

— А скуль жа, мой саколіку, сам? — улучыла-ткі старая хвілінку спытацца ў мяне.

Салдат не даў мне адказаць. Ён ціха, але вельмі выразна і зласмешна буркнуў:

— Не туда-с трафілі...

* * *

Я барзджэй выйшаў, заглушаючы дзіўную, мімавольную і неспадзяваную зайздрасць, што гэты салдацюга забраў тут сабе права.

Хлопчык застаўся коўкаць гарачую бульбу. Яго месца на рагу было цяпер пустое.

Як бы на ўцеху мне, першы снег засцілаў белым чысценькім абрусам пустую мёрзлую вуліцу.

Пасля таго чаду і парнасці было мне лёгка на паветры.

## СКАПЦЫ

У суседнім са мною купэ села і ехала аж да Томска сям'я скапца Алёхіна.

І я даведаўся ад грамадзяніна Дзісяна, што Алёхін даўней меў свой дом у Катарзé, гандляваў там, цяпер жа пераехаў і жыве ў Томску. І цяпер займаецца гандлем, бывае ў Маскве. Гэта быў тоўсты, жырны мужчына, салідны, але з бабскім абліччам.

Міма мяне хадзілі мыцца дзве дзяўчынкі — мусіць, яго дочкі ці дачка і сястра.

Мілавідныя абедзве. Асабліва міленькая — меншая.

Мне так карціла паглядзець на іх хоць трошку, але яны не выходзілі з свайго купэ. І нават нічога не куплялі, там у іх, я бачыў, ляжалі вялікія круглыя булкі хлеба, як пякуць сяляне. Відаць, гэта яны вязлі з сабою з Масквы на ўсю дарогу.

І праходзілі міма, у калідоры, спусціўшы вочы, у даўгім адзенні, як манашкі...

Такія слаўныя, ціхія... І шмат у іх было здушанага жыцця і скалечанага імпэту.

«І падумаць толькі,— разважаў я сам з сабою,— што ўва ймя нейкае нялепае ідэі, угоды богу, ім выражуць грудзі...»

Дзве дзяўчыны, дочкі скапца, што едуць ў нашым вагоне з бацькам-скапцом, стаяць мне ўваччу. Яны амаль не выходзяць з свайго купэ, і купэ іх зачыняецца. Але сёння я бачыў іх у калідоры раніцою, калі яны праходзілі, утупіўшы вочы...

Настаўнік казаў, што ў мужчын скапцы выразаюць ядры, а ў жанчын — грудзі. У некаторых выразаюць усё — гэта завецца «сесці на белага каня». У некаторых выразаюць не ўсё — гэта завецца «сесці на рабога каня».

Выразаюць і ў нежанатых ці незамужніх, выразаюць і калі ёсць адно дзіця ці болей,— каб не звёўся род, каб не звялася «ўгода богу».

## МОЦНАЕ КАХАННЕ

Калі я прачнуўся, цягнік стаяў на станцыі Тутальскай. Была шостая гадзіна раніцы, 2 ліпеня. У вакно свяціла халаднаватае сонца. Відаць былі прыгожыя зялёналесныя горкі.

Узбудзіў мяне гоман новых пасажыраў у праходзе купэ і на лаве каля праходу, дзе, нягледзячы на невыгоду, любяць садзіцца некаторыя маладыя жанчыны, калі ім недалёка ехаць.

Гаманіла мяшчанская сям'я, мусіць, рамесніка-адзіночкі.

Ён вельмі моцнага складу, чорны, барадаты, а ўжо стары і з нейкім перамаганым нутраным клопатам у змучаных вачах. Гаварыў з ёю вельмі ласкавым, ды мімаволі суровым і навучальным тонам.

Яна — звычайная мяшчанка, даволі гожая і прыемная, але супроць яго надта маладая, хоць ужо і мела каля боку большага хлопчыка, Шурыка, гадкоў 5—6, і маленькае дзіця, Танічку, на ўлонні. Ён пацалаваўся з ёю і пайшоў. Асталася яна з дзяцьмі. Зараз цягнік крануўся, яна памахала ў зачыненае вакно — і мы паехалі.

* * *

Цягнік ішоў, а я пазіраў на новую пасажырку і думаў пра іх: моцная, дружная сям'я... Але ці можа быць тут роўнае каханне, ці любіць яна яго, старога, хоць і такога здаравеннага і ласкавага мужа і добрага бацьку.

Я пазіраў на яе так, каб яна не заўважыла, і, мімаволі вывучаючы яе супакойны, не вельмі заходлівы, але нахільны да фізічнага смаку твар, дадумваўся, што, пэўна, яна не зазнала болю і мукі ад моцнага кахання, жыве шчаслівая за гэтым старым дубам, і ўсё добра, і ўсё добра...

Самая праставатая жанчына незвычайна востра адчувае найменшую цікавасць да яе з боку мужчыны. І яна быццам прачытала мае думкі. Ці, можа, людзі часта ўжо думалі тое, што і я, гледзячы на яе і мужа, і казалі ёй. Адно, што як толькі мы разгаварыліся, яна зараз сказала мне, быццам несвядома адказваючы на тыя мае пытанні:

— Ніколі моцна не кахайцеся...

— Чаму?

— А таму...— і яна пераказала мне, што надоечы на станцыі Юргá кінулася пад паравоз маладзенькая і харошанькая, 17 год, дзяўчынка-татарачка. Яна падвадзіла на станцыю свайго каханка, салдата. Абяцаў узяць яе з сабою, але на станцыі прызнаўся, што мае жонку. Яна зайшла наперад і, як цягнік пайшоў, кінулася пад колы. Перарэзала яе напалам. Бо ўзяў яе чэсць. І ён выскачыў з вагона глядзець на яе страшнае цела. Прызнаўся потым усім, што за яго кінулася...

— Дык вось не кахайцеся так моцна, а то бяда...— сказала яна мне і паківала наўмысля галавою, мімаволі трошку прыжмурыўшы вочы і зірнуўшы на мяне збоку. Потым зараз калыхнула Танічку, хоць тая ціха спала, і

пагладзіла па галоўцы Шурыка, хоць той уліп у вакно і забыўся на матку.

— А што б вы зрабілі, каб так закахаліся? — спытаўся я.

— А ці я ведаю? — засмяялася белымі зубамі і зноў паглядзела на мяне і зноў адхіліла ад мяне свае любыя жаночыя вочы.

А я адчуў да яе таварыскую, братнюю ласку.— «Жыві ты шчаслівая»,— падумалася.

* * *

Яна выйшла на станцыі Тайга, ці то ехала толькі дагэтуль, ці то каб перасесці на томскі цягнік. Я ссадзіў ёй з вагона Шурыка і падаў кошык. Далей з ёю ісці яна мне не дазволіла — з таго повару, што вельмі шмат зладзеяў, дык могуць украсці мае рэчы.

Цягнікі на станцыі Тайга заўсёды стаяць вельмі доўга, і я цярпліва глядзеў у вакно... аж вось убачыў харошую дзяўчынку, мусіць, таксама татарачку, бо з ёю была старэйшая, выразная манголка.

І падумаў, што вось такую, можа, перарэзаў цягнік за таго подлага.

І гэтая смяецца, чапурыцца!

Я доўга глядзеў. Яны праходжваліся па пляцформе, потым узышлі на высокія сходы, жалезную драбіну, што па ёй усходзяць на мост цераз усю лінію ад станцыі ў горад. Яны стаялі там, высока, любуючыся на дол.

Я ўсё глядзеў, пакуль, пастаяўшы, перайшлі масток, колькі яго было відаць мне ў вакно, і выйшлі з вачэй.

Я не выспаўся, мне балела трохі галава. Было сумна. І не было з кім пагаманіць, бо ўжо тая маладзіца з дзецьмі, пэўна, прыехала дамоў ці ў госці, парадкуецца ў хаце — і забылася і на мяне, і на размову, і на татарачку няшчасную.

## [ІВАШКА ПАЛАЧАНІН]

І сказаў Івашка Палачанін свайму багатаму купцу:

— Многа ёсць за гэтымі гарамі невыходжанага лесу. Многа ў тым лесе звяроў. Паехаць бы туды, пакупчаваць на хутраны тавар.

І паслаў багаты купец адважнага Івашку Палачаніна з добрымі малойцамі за той дзікі Урал.

Доўга йшоў з сваімі малойцамі Івашка Палачанін на ўсход вялікаю сібірскаю тайгою. Многа-многа дарагіх хутраў накупчаваў ён, таргуючы з дзікімі тубыльнымі людзьмі,— дзе купіўшы, а дзе і так узяўшы.

І ў 1364 годзе дайшоў да вялікае ракі Обі.

Пануры лес на дзікім беразе... Сумныя сцюдзёныя хвалі бурна плешчуць і штосьці спрадвечнае гамоняць..

Сядзеў Івашка на высокім обскім беразе, глядзеў на ваду, любаваўся на вялікія лясныя нетры за ракою, што стаялі там у сінім тумане.

І сумна зрабілася Івашцы Палачаніну...

Падумаў ён пра ўсё на свеце і пра сваю судзьбіну. І захацелася яму паспытаць свой лёс...

— Будаваць бы мне жыццё сваё паціхеньку ў сваім родным Полацку,— сказаў ён насмешліва і горка.— Змучыўся я. І радасць сваю па чужых прасторах рассеяў...

Выпіў ён хмельнае брагі, скінуў свой купецкі каптан і з крутога берага кінуўся ў тыя каламутныя хвалі,— каб ніколі ўжо, ніколі не вярнуцца ў свой радзімы Полацк.

І не сказаў прад смерцю нікому, што́ прыйшло яму ў дум, што́ пала яму на сэрца...

## ЛЁКАЙ КАМУНАРА

У многіх паўночных і сібірскіх гарадах Расіі ёсць польскія касцёлы. Іх будавалі, мусіць, заможныя ссыльныя палякі. Шмат дзе касцёлы гэтыя цяпер зачынены, а ў некаторыя ксёндз прыязджае раз у год.

У горадзе N касцёл стаіць над берагам шырокай і прыгожай сібірскай ракі Т.— невялічкі, старынны, заімшэлы, з чырвонае цэглы. Я заўважыў яго, калі ішоў бязмэтна па ўскрайках гораду і забрыў па бераг ракі ў гэтым месцы. Палюбаваўшыся крыху на гэтую пакінутую светам памятку старыны, я спусціўся па крутой сцежачцы ўніз і сеў па беражку, на траве. Тут жа сядзеў нейкі старэнькі чалавечак і вудзіў рыбу.

Рысы твару ў чалавечка былі нетутэйшыя. Увесь у сівенькім пуху, голены, у чорным даўгаполым адзенні.



М. Гарэцкі з жонкай
Леанілай Усцінаўнай Чарняўскай-Гарэцкай
і дзецьмі Леанідам і Галінай.
1923 г.

Складкі на твары паказвалі на даўгі пражыты век, на некаторую грубаватую насмешлівасць і вясёласць.

Мы разгаварыліся, і ён аказаўся не ксяндзом, як я спярша падумаў, а кампаньёнам тутэйшага ксяндза.

А потым, калі гутарка ў нас зайшла пра рэвалюцыю, ён сказаў:

— Я бачыў рэвалюцыі. Я бачыў яшчэ Парыжскую Камуну.

Аказваецца, ён быў камердынерам у польскага пана-эмігранта Урублеўскага, што браў удзел у дзеяннях Парыжскае Камуны і сам быў тады ў Парыжы.

Я вельмі ўсцешыўся. Я сабраўся шмат аб чым распытацца ў яго.

— Глупства, пане, усё гэта. Вудзіць рыбку куды прыемней, чым рабіць рэвалюцыю. Вось пан мой палез у кашу і загінуў у самы росквіт жыцця, а я крыху асцерагаўся, дык вось і цяпер яшчэ грэюся на ласкавым сонейку.

## ДАКУМЕНТЫ

Было нас трох: таварыш Бабіновіч з Міншчыны, дзядзька Янка Кісель з Віцебшчыны і трэці я — з Магілёўшчыны.

Ішлі мы аглядаць перасяленчыя дзялянкі ўніз па Обі ў адным з паўночных кутоў Томшчыны.

Перад гэтым мы тыдні два ехалі ў вагоне, а потым троху на параходзе, і цяпер нам прыемна і лёгка было ісці па зямельцы.

Дзень быў цёплы, але не гарачы, і ішлі мы ўвесь час тайгою. Былі ў нас толькі торбачкі з сухарамі на плячах ды па дзве пары запасных лапцей.

Спачатку мы гаманілі і жартавалі, але прайшоўшы вёрст 25 таежнаю дарожкаю, прызамарыліся, змоўклі і мімаволі засумавалі.

Убачыўшы каля дарогі вогнішча, на якім яшчэ дыміліся галавешкі, мы спыніліся тут адпачыць.

Падкінулі на галавешкі галля, і цяпло зашугала весела і прыветна.

Дасталі з торбы хлеб і сала. Закусілі. Мы меліся ўжо ісці, аж пачулі тарахценне.

11 Зак. 3829

Насустрач нам па дарозе ехалі дзве фурманкі. Яны пад'ехалі. [Пярэдні] крыкнуў:

— Стой, паря, закурым!

Гэта быў чалдон гадоў пад сорак, здаровы, сярэдні. У ботах, у чорнай паддзёўцы і чамусьці ў зімовай шапцы з вушамі.

Ён прыпыніў каня і вылез з фурманкі.

Задні падышоў да нас і прывітаўся:

— Здаровы былі!

— Здароў,— адказалі мы.

— Чо, самаходы?

Ён памаўчаў, схавана смеючыся. Другі нібы безуважна сказаў:

— Падзі Сыбіру сматрэць прыехалі?

І ізноў загаварыў:

— Ну, што ж, пасмотрыце, пакорміце сібірскіх камароў...

— Камароў мы не баімося; каб толькі зямельку добрую знайсці,— сказаў дзядзька Кісель.

— Жыць, чай, паря, вы тут не зможаце...

— А ці далёка яшчэ да сяла? — спытаўся я.

Пярэдні нічога не адказаў. Ускочыў у фурманку і намерыўся ехаць.

Задні кінуў: «Вёрст дванаццаць»,— і таксама пайшоў садзіцца.

Раптам ён спыніўся.

— А ну, пакаж, паря, дакументы,— сказаў ён, звярнуўшыся да дзядзькі Кісяля, які стаяў бліжэй.

Дзядзька Кісель троху збянтэжыўся ад неспадзяванкі і, пытаючыся ў нас вачыма, зірнуў на мяне і на т. Бабіновіча.

— Да ну, пакаж, не бойся! — насмешна сказаў чалдон.

— Пакажы, дзядзька,— сказаў я, адчуўшы прыкрасць ад насмешнага чалдонскага тону.— Няхай здаволіць сваю цікавасць.

Чалдон бліснуў на мяне вачыма.

Дзядзька Кісель палез у пазуху, дастаў свой скруточак з дакументамі і падаў яму.

— А ну, Вань, ты пісьмённік! — крыкнуў гэты чалдон пярэдняму і пасунуўся на дарогу. На ўсякі выпадак і мы пайшлі за ім.

Неспадзявана для ўсіх нас пярэдні зарагатаў і пагнаў каня, а гэты ўскочыў у фурманку, з дзядзькавымі дакументамі, і таксама схапіўся за лейцы.

— Стой! Страляць буду! — крыкнуў я не сваім голасам. Закрычаў і т. Бабіновіч. А дзядзька Кісель аж заенчыў ад страху, што яны ўцякуць з яго дакументамі.

Дзеелася гэта ўсё ў якую адну хвіліну.

Пярэдні чалдон спыніўся, а гэты, нічога не баючыся, з злою насмешкаю, трымаючы лейцы напагатове, крыкнуў:

— Пальцам страляць будзеш? — і зарагатаў.

Аднак ён жорстка памыліўся. Я выхапіў з кішэні старэнькі сміт і навёў на яго ва ўпор.

— Дзядзічка, аддавай, аддай! — залямантаваў дзядзька Кісель да чалдона і схапіўся за маю руку: — Брахненька, не страляй!

Праўда, мяне ўсяго аж калаціла.

— Дзядзька Кісель, супакойцеся! — вельмі вытрымана ўмяшаўся т. Бабіновіч, хоць і ён, як я заўважыў, вельмі ўсхваляваўся, але ўмеў гэта схаваць.— Супакойцеся, мы з ім пагамонім па-свойму... і ён пачаў падступацца бліжэй.

Аднак мы ледзь не ўпусцілі момант. Чалдон, не кідаючы дакументаў, пазіраючы на нас, з усяе сілы хлэснуў каня лейцамі. Конь ірвануўся...

Я стрэліў у паветра, і конь так ірвануўся, што чалдон скаціўся з фурманкі на зямлю і кінуўся, не выпускаючы дакументаў, даганяць каня.

— Заб'ю, як сабаку! Аддай дакументы! — равеў я дзікім голасам, бегучы за ім.

Ён спыніўся і падаў дакументы.

— Малайцы хлопцы! Гэта я пажартаваў з вамі,— сказаў ён няшчыра.— А ты, дзядзь, і ўзапраўды спалохаўся, што звязу твае дакументы,— дадаў ён, павярнуўшыся да дзядзькі Кісяля.— Нашто яны мне, на, вазьмі... Гэта я пажартаваў.

Дзядзька Кісель у радасці схапіў скрутачак і, хапаючыся, хаваў іх у пазуху.

— Так не жартуюць,— сурова сказаў т. Бабіновіч.

А чалдон, нібы не ўчуўшы, з выгляду спакойна, але ўнутрана спалоханы і руплівы, хутчэй сеў у фурманку.

Я не мог гаварыць ад хвалявання.

* * *

Праз хвіліну яны схаваліся ў тайзе і тарахценне сціхла.

11*

— Ну, што, бачылі чалдопа,— сказаў я да сваіх сяброў.

— Бачылі,— адказалі мне мае сябры і ўздыхнулі. Зрабілася мімаволі страшна.

Думкі ў кожнага ў нас паляцелі на радзіму, дзе не так вітаюць людзі падарожных.

І мы пайшлі далей.

«Але што яшчэ за ўпадніцтва!» — загневаўся я сам на сябе і страхнуў нудныя думкі.

Смелыя, энергічныя перасяленцы знойдуць тут сваё новае месца, на якім збудуюць новае лепшае жыццё. Мы ж жывем у часы сацыял[істычнага] будаўніцтва.

Але, усё ж лепей бы асушаць балоты Беларусі і не ехаць сюды...

## ПАД'ЕЗД

### (РАМАН У ДАРОЗЕ)

Я доўга ішоў яла́нямі — гладкім роўным полем з высокаю густою травою, спаміж якой там-сям відаць былі засевы жыта, ярушкі і аўса.

Сонца прыпякала, я змарыўся, хацелася адпачыць, але ніякага жытла нідзе, ні блізка ні далёка, не было відаць.

Як змерыць вокам — цягнулася тая высокая рудаватая трава з зелянейшымі лапікамі засеваў і кустоў. Дзе лапік зялёна-бледны — там засевы, дзе зялёна-гусцейшы — там кусты.

Уздоўж усяе дарогі гарэлі, як агонь, нейкія буйныя жоўтыя краскі. Яны нагадвалі палявую гвяздзіку, але яны былі такія пышныя, такія незвычайна яскравыя, што аж непрыемна і страшна рабілася ад іхняе буйнае дзікасці.

У кустах і ў траве пырхалі сініцы і яшчэ якіясь дробненькія птушкі. Пырхалі даволі рэдка. Яны ціха і непрыкметна папісквалі свае просценькія песні і толькі павялічвалі маю дарожную нуду.

І нават цвіркун, нават ён, званчэй і весялей, чым яны, цвірчэў сваё бразгатлівае: цыррр!.. цыррр!

Настрой у мяне быў дарожны, задумлівы, сумны.

* * *

Я нават не пачуў, калі так блізка наехала адзаду фурманка. Азірнуўся, неспадзявана ўбачыў, што яна пад'язджае, і ўсцешыўся, што пад'еду.

Але разгледзеў, што едзе там жанчына, адна, без нікога, і калі яна зусім дагнала мяне, я не ведаў, ці прасіць яе, каб падвязла, ці не прасіць. Адступіў убок з дарогі ў нерашучасці.

— Замарыўся? Хадзі падвязу! — крыкнула яна сама здаровым звонкім голасам, толькі нібы трошку з наўмыснаю жартліваю вясёласцю ў тоне, і паказала багатыя жыццярадасныя белыя зубы.

Каня яна не спыняла і, калі я ўскочыў у фурманку, схапіла і падцягнула мяне за пінжак каля пляча на спіне. Была яна яшчэ маладая і вельмі здаровая, і, відаць, смелая і простага характару.

Зараз, гэтаксама проста і вясёла, пачала са мною гаманіць. Я пахваліў яе каня, што бяжыць так слаўна, і яна, нейкім спосабам пазнаўшы, што я не тутэйшы, пачала казаць мне пра сваіх сібірскіх коней. Коні ў іх бягуць 40—60—100 вёрст не еўшы, толькі пастаяўшы. Коні невялікія, але бягуць як сабакі, вёрст 10—15 у гадзіну, толькі не трэба карміць раней, як гадзіны цераз 4—5 пастаяўшы. І ядуць мала. І дужа ласкавыя — як цяляты. Морду ў акно — і просяць у дзяцей хлеба.

Я ўявіў сабе яе сібірскі двор, пад адным дахам з домам, адчыненае акно з хаты на падворак, і конскую морду ў акне, і яе дзяцей у хаце на лаве, што кормяць каня хлебам праз акно... І нават уздрыгнуў, калі яна раптам тарганула мяне рукою за плячо, павярнула да мяне твар і блізка-блізка паглядзела мне ў вочы сваімі вялікімі і плоцкімі здаровымі вачыма і вясёла крыкнула:

— Чо, паря, невясёла думаш? І не слухаш, што цібе баю... Ха-ха! — і засмяялася звонка ў грукацённі колаў і тупаніне конскіх ног.

* * *

Зірнуўшы на мяне яшчэ раз, збоку і ўжо нібы крыху ўкрадкам, мацней пагнала каня і з наўмыснай безуважнасцю спыталася:

— Ты, мусіць, з Расеі-матушкі? Хадак, ці што?

— Настаўнік.

— А ходзіш пехатою? — здзівілася яна, і ў голасе чулася троху нявера.

Троху памаўчаўшы, яна сама, без маіх пытанняў, пачала апавядаць пра сябе. Жыве яна адна, без мужа. Муж яе загінуў праз соль. У часе ваеннага камунізма не было ў іхнай мясцовасці солі. З прыкладу іншых людзей, муж яе павёз у Маскву пуд мукі, а там за гэтую муку пабыў пяць пудоў солі. Вярнуўшыся, мяняў пуд солі на дзесяць пудоў мукі. Забагацеў. А потым, як паехаў другі раз, дык вось і дагэтуль не вярнуўся — шэсць гадоў няма ні слуху ні духу. І яна засталася жыць, з двума дзяцьмі, адна, без яго. Нічога, жыве добра. Але вось едзе з розглядаў, з пасёлка вёрст за сорак, дзе ёй параілі добрага прымака.

— Ну, і што? Высватала? — як бы з якою мімавольнаю зайздрасцю пацікавіўся я спытацца ў яе і бліжэй паглядзеў на яе здаровае цела, высокія грудзі, на яе даволі прыгожы і яшчэ такі малады твар.

— Не...— працягнула яна ў раздум'і.— Не, не спадабаўся. Бліжэй ёсць лепшыя, толькі блізкіх я не хачу браць...

— Чаму?

— Чаму? А таму, што ад блізкіх, з свайго пасёлка, цяжэй, калі што, адчапіцца... Не ведаеш? — і ўзноў засмяялася, грубавата, але проста і вясёла.

* * *

Увесь час казала яна мне ты, нават і пасля таго, калі я сказаў, што настаўнік.

Расказаўшы пра сябе, яна змоўкла, быццам чакаючы, што і я гэтаксама пачну апавядаць пра сябе.

— Слухай! — не то жартліва, не то паважна раптам ізноў звярнулася яна да мяне і ўзноў блізка-блізка нахілілася мне ў самы твар, але глядзела нібы некуды міма маіх вачэй.— Слухай-кось... кідай ты сваё настаўніцтва і йдзі да мяне ў прыймы.

— Што?!

— А нічога... Ідзі, і будзем жыць! — І цяпер глядзела на мяне блізка і ясна. І ў яе вялікіх шэрых вачах, шырокіх ад гэтай блізкасці і яснаты, было поўна жаночага жадання, але асцярожнага і прыхаванага, з дапытлівым чаканнем на адказ. З-пад хусткі ў яе цяпер па-дзявочы выбілася жменя русявых валасоў.

І нясмела, трошачку лішнюю хвілінку пачакаўшы, з

трошачку лішняю наўмыснаю развязнасцю, яна жартліва, лёгенька падштурхнула мяне плячом у плячо і яшчэ раз спыталася, ціха, цішэйшым жартам: — Ну?

Я маўчаў, задумліва гледзячы перад сабою ў поле па дарозе.

* * *

— Ах, дурная ж я! — засмяялася яна, адвярнуўшыся: — Я ж нават і не спыталася: можа, ты жанаты?

У мяне шавяльнулася думка зманіць ёй, ды нешта паважнае ў маём пачуцці да яе спыніла мой язык ад няпраўды. І я сказаў ёй усё, як было ў мяне.

Ці мне гэта здалося — толькі нібы нейкі смутак прабег у яе па твары. Скора яна ізноў засмяялася:

— Значыць, ашукалася я! А то еду, бачу — ідзеш ты, і думаю сабе: во, можа, мой суджаны ідзе... Ашукалася!

Я маўчаў, разглядаючы яе збоку. Ёй ад майго погляду зрабілася нязручна. І яна ізноў сказала:

— Дурны ж і ты! Хоць бы змяніў мне, пажартаваў са мною...

— Гэтым не жартуюць, ведаеш сама.

* * *

Калі ёй трэба было звярнуць убок, да свайго пасёлка, а мая дарога ляжала далей, проста ўперад, яна спыніла каня і па-сяброўску падала мне руку.

— Бывай!

— Бывай...

Поціск яе быў вельмі моцны, а я адказаў на яго сваім, даволі моцным, але заўсёдным поціскам.

— Можа, ніколі ўжо й не ўбачымся... Ці, можа, будзеш калі і ў нашым пасёлку?

— Мусіць, не...

— Паедзеш назад у Расею?

— Напэўна, так.

— Ну, бывай, мілы!

— Бывай.

І яна пагнала каня дарогаю да свайго пасёлку.

* * *

Я ішоў далей.

Ізноў тыя самыя ялапі, трава, і кусты, і рэдкія засевы, і дробныя птушкі.

Потым, над самаю ў мяне галавою, але высока-высока ў небе, доўга кружыла і жаласна крычэла каня: «Піць! пі-і-іць!»

Мне зрабілася ад гэтага крыку сумна.

Сонца прыпякала.

## [МАКСІМАВА ЗЯЗЮЛЯ]

Пуста мне ў дарозе. Ні душы...

Лес і лес. Кедры, лісцвянкі, бярозы, малады параснік, кусты каля балот.

І не сказаць, каб усё гэта было вельмі пышна, густа ці наогул прыгожа. Звычайны лес, часам даволі рэдкі і нават дробны.

А галоўнае — нейкая адвечная маўклівая нуда пануе тут і гняце думкі і пачуццё. І птушак не чуваць. Толькі зрэдку тарабаніць жаўна.

Вось я выходжу на большы прагал, зелянейшы ад бяроз на яго ўскрайках,— дзесьці далёка і неяк асабліва сумна закукавала сібірская зязюля.

— Ку-ку! Ку-ку!

І мне ўспомніліся яго сумныя вершы:

— Не кувай ты, шэрая зязюля!..

Ці прылятае яна, шэрая, там, у Крыме, пакукаваці яму?

І дзе будзе маё апошняе прытулішча?

Можа, тут, у Сібіры,— як і яму, на далёкай чужыне?

І колькі, колькі нас, хадакоў і перасяленцаў, слухалі тут гэтае сумнае кукаванне, прыгадваючы сабе бары мілае далёкае бацькаўшчыны?

## КАЛЯ БАЛОТНАЙ

У старажылаў зямлі дзесяцін па 18, а ў навасёлаў па 10.

На хутары не хочуць, паласы шырокія. Самае дальняе поле — 3—4 вярсты.

Цяпер ужо мала пакосу і зямлі. Спрэчкі за сенажаць між чалдонаў і «расейскіх».

Сеюць найбольш жыта і авёс.

Жыта родзіць удвая ў Сібіры супроць Беларусі. Збіраюць пудоў 50—100 жыта азімага з дзесяціны. У 1925 г[одзе] набралі вазоў 65.

Авёс — пудоў 70. Асот яму шкодзіць.

Пшаніцы пудоў 70 з дзесяціны збіраюць, травой зарастае. Грэчка пудоў 50 і болей.

Ячмень не родзіць. Лёну сеюць мала. Лён вылягае. Гароху мала.

Бульба родзіць, як і ў Беларусі.

Каноплі — сярэдне.

Проса ўрадз[іла], як прыехалі, гады два радзіла, а марозы не даюць, з вясны засухі. Цяпер не родзіць. Сёлета пасеялі фунтаў 10.

Пад жыта пашуць, як і ў Беларусі, а пад яр — раз.

Гной старажылы не кладуць, бо ў іх зямлі многа, а навасёлы гады тры сталі класці. Сёлета вывезлі 60 вазоў.

І жыта і яр паспяваюць разам — убірай-убірай...

Косяць касамі. І жанчыны. Дзяўчонка, лет 13, заўчаецца касіць. Сена грабуць рукамі і грабілкаю.

Жыта жнуць рукамі, а авёс машынаю (жнейкаю) і касою.

Малоцяць малацілкамі. Плоцяць за машыну 10 к. ці 1/2 пуда жыта з воза. Ён, чыя машына, толькі падае, а коні таго, чый хлеб.

Пайшлі ў царкву.

— Женщины как женщины, только толстыя головы.

Смяяліся з мовы.

Раней чалдон дзеўку замуж за расійскага не даваў.

«Саратаўскіх было 3 двары. Двух чалавек зарэзалі, беларусаў. Іх сталі лавіць, дык яны паехалі ў сваю старану, а ўбіўцы былі ў турме». Пасварыўшыся зарэзалі.

«Чалдон капейкі ні ўважа».

«А, хахол, з дарогі звыра́чый».

«6 братоў, сёмы бацька — 10 дзесяцін».

2 надзелы, пара коні і жарабок, дзве каровы, цёлкі, падцёлкі, авец штук 10, «свінней дзяржалі б штук па 10,

дык падохлі, срэдне штук па 4, курэй штук 15, а ў Марыны 30 (у мяне было 15 штук, дык асталася 9, а то за зіму памёрзлі і сенам прыдушылі)», «Памёрзлі, памёрзлі, то пад анбарам найду». А ў хаце крысы.

— Вутак штук па 10.

— Ой не, мой сын.

— Гусі ё.

— У нас тры калоды пчол, а ў Хвядоса 25. (У іх змерзлі пчолы).

— Калодзежы 2 казённых. I ё свае, пакапалі. Вада харошая, але зімой няма вады. Казённыя па 7 сажняў. А нашы па 2—3 сажні.

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Двор — кавалачак Украіны.

Жыхар м. Балотнай, Лінейная вуліца, дом № 37, Пётра Амільянавіч Максімюк, украінец, высокі, лысаваты, сівая барада, вочы троху як у Салтыкова-Шчадрына. Ён шавец. Два аддзеленыя сыны служаць на чыгунцы. Два меншыя, Міця 16 г. і яшчэ адзін жывуць пры ім. Дужа пабожны і троху рэакцыйны чалавек.

А жонка-маці, гаспадыня, страшэнна тоўстая, мусіць, хворая на вадзянку, ці што. Неахайная, але трымаецца добра.

Дзеці і ўнукі гавораць па-расійску. А яны, старыя,— з дамешкаю расійскае мовы. Яна нават добра па-ўкраінску.

Свой конь. Міця, прыгожы хлопчык 16 г., запрог і павёз мяне ў Кісялёўскі і Міхайлаўскі пасёлкі.

* * *

Станцыя. Пры станцыі горад. Кірмашы па суботах. З'язджаюцца нават за 80 вёрст. Прадаюць быдла, збожжа.

Каля гораду пасёлкі.

Пасёлак Міхайлаўскі — двароў 30—40.

Цераз лінію ад яго — пасёлак Кісялёўскі, двароў 40—50.

Яшчэ далей — пасёлак Сцяпаніха, двароў 70.

Яшчэ далей — пасёлак Бальшарэчанскі. Напрасцень ад

Балотнай, зімнікам, 5 вёрст, а ўлетку 9 вёрст. Бо зямля балоцістая, лугі, балоты.

Жывуць перасяленцы-беларусы. Найбольш менскія і магілёўскія. І гарадзенскія. Ёсць расійцы (тульскія), украінцы, палякі.

Школа. Настаўнік беларус.

* * *

Пасёлак Міхайлаўскі.

Двор Васіля Сцяпанчанкі. З Рагачоўскага павета. Гдоўскае воласці.

Я пасядзеў на падворку, з жанчынамі і малымі і дарослымі дзяцьмі.

Авечак стрыглі, сядзелі на прыклеці.

Маці вельмі сімпатычная беларуска-сялянка. Якая чыстая, добрая мова!

І ўся сям'я гаворыць па-беларуску. Нават сын 17 г. (выглядае ён на гадоў 20). Ён умее і па-расійску і па-беларуску.

Іхны хлопчык Васіль, 14 г., вучыцца ў школе ў Кісялёўскім пасёлку.

## ПАЯСОК

### УДАВА

Быўшы ў пасёлку Міхайлаўскім, вёрст 9 ад станцыі Балотнай, я пытаўся ў тутэйшых перасяленцаў-беларусаў, ці няма ў іх беларускіх паяскоў.

Ні ў кога не знаходзілася: вывезеныя з бацькаўшчыны паяскі пазнасілі, а новых тут не плятуць.

Нарэшце мне параілі схадзіць да цёткі Надзеі-ўдавы і паказалі, як да яе трапіць.

А трапіць было не лёгка. Гэта быў не двор, а ўбогая хатка на курыных ножках за нечыім чужым дваром.

Тут і жыла цётка Надзея з сынам-хлопчыкам, пастушком.

Калі я прыйшоў да іх, маці карміла сына. Ён прыгнаў пасялковае быдла на паранкі і цяпер сілкаваўся. Еў ён параную бульбу з сухім чорным хлебам. Маці сядзела пры ім і ласкава гаманіла.

Гэта была старэнькая, дробненькая, худая, зморшчаная жанчына.

У хаце — страшэннае ўбоства. Зямля, бруд, чарнота.

Хлопчык босы, у кашулі і штанах з грубага палатна.

Скот ганяе... Выганіць як свет. І на ранкі і на дзёнкі прыгоніць, два разы.

Яна спярша здзівілася, потым ласкава запрасіла мяне. У яе ёсць паясок. Але не адразу ж яго несці.

Мы разгаварыліся.

Яны перасяліліся з в. Сялец, Радомскае вол., Чавускага павета.

Муж кінуў яе. Нядаўна пісаў. Цяпер у Кіеве. Горкі жаль на мужа. І пры сыну.

Паясок была прадала, а потым дагнала і назад узяла: «Памяць аб вяселлі».

## ПАСЯЛЕНКА

А ў пасяленца доч была —
Харошая, прыгожая...

Замуж пайшла за старога чалдона. Не пушчаў яе чалдон пагуляць. Толькі пусціць — сам у акно глядзіць, ці не будзе з сваім даўнейшым гаварыць...

Вырвецца, пабяжыць, пастаіць з сваім міленькім часок. Плача гаручымі слязьмі...

— Не вярнуцца мне ў дзевушкі назад...

## НА ВЯСЕЛЛІ

Гаспадароў сын запрапанаваў мне пайсці з ім паглядзець, як спраўляюць у Сібіры вяселле.

Я ахвотна згодзіўся.

Ён пачысціў боты, памыўся, надзеў новую сітцавую з касым каўняром кашулю, падперазаўся вывезеным з Беларусі прыгожым саматканым поясам, доўга зачосваўся, і мы пайшлі.

На вуліцы, на падворку і ў хаце было шмат людзей. Ішоўшы, я пачуў і расійскую, і беларускую, і ўкраінскую, і яшчэ нейкую, можа, чувашскую ці якую, гутарку.

У хаце таксама былі і кражыстыя, калматыя чалдоны, і высокія, чарнавусыя ўкраінцы, і больш кволыя і далікатныя беларусы, і ўсякія людзі.

Але ўсё гэта былі здаровыя, мускулістыя, цягучыя ў фізічнай працы людзі.

Калі мы прыйшлі, быў перапынак у скоках, бо павялі ў камору частаваць скамарох. Зараз яны вярнуліся, селі на лаве, і я з вялікім неспадзяваннем убачыў, што музыка — малады белавусы мужчына, які выходзіў, трошку хмельна ўхмыляючыся,— кладзе сабе на калені цымбалы. У старога чалавечка была ў руках скрыпка, а малады размашысты хлапец уздзеў на плячо на рамені вялікі венскі гармонік.

— Полька! — крыкнуў цымбаліст, ізноў так жа хітравата і вясёла ўхмыльнуўшыся, і падняў у руках кручкі.

Гарманіст расцягнуў мяхі і даў тон.

І зараз урэзалі...

Зайгралі незвычайна добра.

Моладзь пабралася ў пары і закруцілася ў польцы.

Усё патанула ў гуках музыкі, тупаце, гомане.

— Ну, што? — здаволена спытаўся ў мяне гаспадароў сын.

— Добра,— адказаў я.

— Дык вы прайдзіце троху, сядзьце там на стульчыку, а я пайду скакаць.

— Добра, добра,— згаджаўся я і застаўся ў тым натаўпе, каб лепей паглядзець і паслухаць.

— А ці помніш ты, Сіланьціч, как ты ў міне па 40 капеек за вядзёрца капусты браў? — пачуў я каля сябе размову двух падпілых. Той, што пытаўся, быў ці то беларус, ці то рускі з паўднёвае Расіі, я не мог разабраць.

— Чо спамінаць то? А с міня не бралі, чо лі ча? — адказаў, адразу відаць, што чалдон, але даволі лагодны.— Выпіл, паря, і спамінаеш чорт ця зна чо...

— Якое там я выпіў? А ты, Сіланьціч, не выпіў? А помніш, ты...

## ШАХЦЁРЫ

4 л і п е н я, нядзеля

Ад Томска да станцыі Тайга 87 вёрст. Ехалі мы іх гадзіны чатыры. У Тайгу прыехалі начою, гадзіне а палове

пятай. Тут мусілі доўга чакаць. Гэта было 4 ліпеня 1926 года, у нядзелю.

Тут я разгаварыўся з двума шахцёрамі з Анджэрска-Суджанскіх капальняў.

Адзін — бландын, мае хранічны катар вярхушак лёгкіх, хрыпіць. Ён шахцёрам з 1905 г. Сям'я ў яго, разам з ім, 6 чалавек. Быў забойшчыкам. Цяпер яго адставілі ад работы забойшчыка. Плачучы прасіўся ў кіраўніка, каб пакінулі хоць у цэнтральным штыху (ходзе), дзе больш паветра. Адмовілі. Зарабляе 39 руб. на месяц, ды кватэра, апал і святло.

Другі — чорны, металёвец (слесар), працуе ў майстэрні на капальнях. Зарабляе на месяц 30 руб. з нечым, але займасцца здзельшчынай і тады можна выгнаць 70 руб. на месяц.

Так людзі. А конь адзін, Серка завецца, дык ходзіць пад зямлёю ўжо 10 ці больш гадоў.

Да рэвалюцыі гаспадаром капальняў быў Міхельсон. У яго былым доме ў Маскве — прадстаўніцтва Беларускай рэспублікі. Міхельсон набіраў у шахцёры ўсякі «зброд», каб лягчэй было яго вызысківаць. І даўней і цяпер шмат працуе ў капальнях беларусаў-перасяленцаў. Тут вакол і вёскі беларускія ёсць.

Працуюць цяпер і кітайцы. Хітрыя. Ёсць свядомыя. Шмат сімулянтаў (у бальніцу часта бегаюць).

Штэйгера бландын назваў «шчыкер».

Культурная адсталасць. І наогул адсталасць.

«Калі ўжо скончыцца гэты нэп?» — падумаў я сам сабе.

## АГНІ

На станцыю Тайга прыехаў я начою і мусіў доўга чакаць.

Калі я выйшаў на перон, надвор'е было ўжо золкае Пачынала развідняваць.

Страшэнна даўгі цягнік з непрыгожых вагонаў чацвёртага класа, сшчэпленых з таварнымі вагонамі і пустымі і пагружанымі вагонамі — пляцформамі, расцягнуўся на троху воддальнай ад вакзалу калейцы, і каля яго было ўжо пуста, бо пасадка канчалася.

Стаялі рэдкія праваднікі. Я ішоў уздоўж цягніка, і на

маё запытанне, ці можна ў гэты вагон сесці, кожны праваднік неахвотна, не павярнуўшыся, адказваў: «Местоф нет!» — і яшчэ больш гнуўся ў начавым летнім сібірскім холадзе з ліхтаром у спушчанай руцэ.

У самым канцы, у крайні вагон, хацелі былі сесці ўкраінскія сяляне ў саламяных брылях, але праваднік і тут не пушчаў іх і крычаў: «Местоф нет, кгаварят вам!..»

Яны моўчкі завярнуліся і пайшлі ізноў уздоўж усяго цягніка. А я сумысля палез у гэты вагон, не гледзячы на растапыранага праважніка, і ён мімаволі адхінуўся, каб даць мне прайсці, і іншым голасам, памаўчаўшы, сказаў у мяне за спіною: «Разляглісся там... Пацясніце каго-небудзь, а то стаяць прыйдзецца».

Увайшоўшы, я ўбачыў, што запраўды тут шмат разляглося, як у плацкартным.

Ад выпітых у буфеце дзвюх шклянак моцнае гарбаты спаць мне не хацелася. Я прысеў на крайчыку ў адным аддзяленні, дзе, апрача цьмянае вагоннае свечкі ў ліхтары над дзвярмі, гарэла свечка на століку, прылепленая пасажырамі.

* * *

Паветра ў вагоне было такое, што не было чым дыхаць, хоць ты задушыся; вокны ж усе былі глуха зачыненыя.

Упоцемку людзі храпелі і сонна кашлялі, дзеці часта капрысілі і хныкалі, часам усё цішэла і зусім сціхала. Прыйшоў час адпраўкі, а цягнік стаяў яшчэ, як мёртвы.

Там, дзе я сеў, на лаўцы супраць мяне ляжаў мужчына-рабочы, а ля яго, у нагах, бліжэй да праходу, сядзела жонка з дзіцяцем, у беднай, змытай блузцы, вастраносенькая жанчына. Сядзіць, прачнуўшыся. Дзіця турбуюць мухі, яна не дужа адганяе, жве смалу, як усякая прыродная сібірачка, і слухае, што кажуць чырвонаармейцы ля вакна.

Цягнік нарэшце, як бы неспадзявана, рыкнуў дзікім голасам, дзёрнуў, заскрыгаў, заскрыпеў, спыніўся, ізноўткі крануўся, і мы зусім паехалі.

Чырвонаармейцы сядзяць на лаўцы ля вакна, пад паліцаю, на якой спіць яшчэ адзін, трэці, іхны таварыш. Яны радыя, што з імі гамоніць жанчына, і ахвотна і далікатна самі гамоняць. Едуць яны ў водпуск.

Яны яшчэ маладыя хлопцы, хаця ўжо цвёрдыя з голасу і з твару, і я не ведаю, ці яны з чужых слоў ці з свайго

бачання апавядаюць аб тым, як страшэнна здзекаваліся калчакоўцы з рабочых і чырвонаармейцаў: вочы выкалвалі, шампаламі білі.

Тады і яна, паслухаўшы, пачала казаць, што ў Бачкарове, адкуль яна зайшла замуж у Чарамхова, калчакоўцы за некалькі расстрэленых чырвоных (я недачуў за колькі) плацілі па 25 рублёў. Дык знаходзіліся сволачы, што наперабой ірваліся да здзекаў, каб зарабіць...

— Утречком пайдзёш, а уж іх кгара навалена...— і ўсміхнулася жудасна, быццам бачачы.

На гэтым месцы яе слоў заварушыўся нездаволены муж, бо яна будзіла яго даглядаць дзіця, і сказаў, чухаючыся:

— У цібя хорошая прівычка будзіць утречком, самый сон...

Яна сказала — злая, быццам ліха:

— Ах, чтобы цібя чорьт... Інцілігенція какая...

* * *

Цяпер мы ехалі якраз міма Анджэрска-Суджанскіх капальняў, якія належалі некалі таму капіталісту Міхельсону, што ў яго былым доме ў Маскве цяпер змяшчаецца беларускае прадстаўніцтва. Між іншым, і ў капальнях даўней і цяпер шмат працуе беларусаў, бо вакол жывуць найболей перасяленцы з Беларусі.

Мы ехалі, і капальні блішчэлі электрычным святлом, як быццам там гэтых лямпачак тысячы-тысячы...

Працуюць там і начою, на тры змены. Надвор'е было ўжо ранішняе, але яшчэ туманнае, і святло гарэла па ўсіх капальнях. Ехаць міма і глядзець — было незвычайна прыгожа. Як быццам нейкі невядомы свет будучыні жыў там сваім найдзіўнейшым, таямнічым жыццём.

## ПАЛОННЫ

Тавара-пасажырскі цягнік, так званы «Максім Горкі», ідзе марудна, трасе, ківаецца, моцна грукае па рэйках.

Вагон 4-га класа бітма набіты.

У тым аддзяленні, дзе я так-сяк прымасціўся, едуць перасяленцы: мужчыны, бабы, старыя, дзеці... Мяшкамі,

клункамі, усякім рыззём і людзьмі забіты ўсе нары, лавы, паліцы і куты. Нават на падлозе, пад паліцамі, пастаўлены ўсякія скрыначкі, вёдры і ляжаць брудныя мяшкі.

Насмечана, набруджана, наплёвана. Увесь вагон сіні ад махорачнага дыму.

Гаспадар сям'і, худашчавы белабрысы селянін з невялікімі белымі вусікамі, курыць кручонку, плюе і апавядае... Едуць яны з Кліцоўскага павету ў Прыморскі край.

— Мне было ў палоне лёгка, бо я ўмею на розныя языкі: па-расійску, па-беларуску, па-ўкраінску, па-польску... Пажыўшы ў палоне, і па-нямецку хутка паўчыўся, бо іхная мова — як у нас яўрэйская, толькі іначай вымаўляюць... А я па-яўрэйску ўмеў — наўчыўся, як служыў у мястэчку ў яўрэя...

Трапіў я ў палон у 1916 годзе пад м[ястэчкам] Орля, за Беластокам.

Два разы ўцякаў з палону. Трэці раз пабег, далёка ўцёк, але ізноў папаўся: прадаў нас паляк беластоцкі, бо плацілі немцы па 25 марак за галаву, калі хто дакажа.

А было так. Зайшлі ў Беластоку да аднаго знаёмага, на прозвішча Бакуна. Ён накарміў палонных і паказаў дарогу, як уцякаць. А сусед яго, паляк, пагáліўся на грошы. Даказаў, каб узяць 50 марак за двух, па 25 м[арак] за кожнага.

Нас злавілі. Падвесілі на дзве г[адзіны]. Самлеў. 2 тыдні суровага арышту: давалі хлеба і поліўкі цераз два дні. Шкілет. У шпіталь.

І Бакуна таго засадзілі ў турму на 3 гады. Калі ж ён сядзеў у турме, жонка радзіла. Жонка полька, а Бакун беларус. І я быў кумам, і яшчэ 12 чалавек палонных адпусцілі на хрэсьбіны. Сабралі мы 150 марак на дзяўчынку, што радзілася.

І служыў я ў тым шпіталі. Раз адзін ранены нямецкі афіцэр пытаецца ў мяне чыстым рускім голасам: «Какой губерніі, земляк?» Аж ён 6 год кандытарскую ў Пецярбурзе меў. Даў грошы і прыставіў прыслужваць афіцэрам.

Закахалася ў мяне міласэрная сястра, немка-графіня. Да грэху не дайшло, але ўся аддавалася. За тое і кахала, што да грэху не дахадзіў.

Як выязджаў, дала 75 картачак сваіх фатаграфічных, залаты гадзіннік і персцень. Пісала, каб вярнуўся.

За той персцень мануфактуры дзяўчынцы на суконку 6 аршын выменяў.

## ХОЦІМКА

Шкадую, чаму я не скульптар, каб зляпіць яе вобраз ці выразаць яго — так, як некалі, быўшы малым, ляпіў з гліны ці выразаў з дрэва розныя прыемныя фігуркі.

Толькі цяпер зляпіў бы ці выразаў бы не маленькую фігурку, а вялікую і гордую постаць жанчыны, што не схіляючы галавы ідзе сваім шляхам жыцця.

І яшчэ думаецца мне: якія вы няпэўныя, шляхі нашага жыцця!

Пакуль няма такой машынкі, што змалку прызначала б мяне ісці ў скульптары, я блукаюся па дарогах, па якіх, можа, зусім не варта было б мне ісці.

А нарэшце, і галоўнае: пакуль няма магчымасці ісці шляхамі без камення і калючак, ідзём як трапіцца... І слава хай будзе таму, хто і на гэтых цярнёвых сцежках мае вочы, як у бачанае мною хоцімкі.

* * *

Я бачыў яе ў летні дзень, перад самым вячаровым змрокам, на станцыі Талбагá, за Пятроўскім заводам, у дзікім і яшчэ шмат каму страшным Забайкаллі.

Пачаўся гэты мой дзень хмарна ў паветры і хмарна ў маім сэрцы, быўшы мне ў плацкартным вагоне трэцяга класа, з рознымі інтэлігентамі і гандлярамі, пасля начавое вакзальнае куламесы на станцыі ў Іркуцку і колькіх гадзін язды ў сцюдзёным, але не праветраным купэ.

Спаць было мулка, я варочаўся, нарэшце пачаў глядзець у вакно і залюбаваўся на панурую вадзяную веліч Байкала. З другога боку — горы. Некаторыя высачэзныя верхавіны іх у хмарах-тумане. Па гарах лес. Пры дарозе часам голыя скалы. Прыгожа.

І так праз увесь дзень у вагоне было нудна і нецікава, і я жыў з прыродаю. Тут усюдых прыгожая, хоць і пустынная мясцовасць. Даліна ракі Селянгі, а вакол горы і горы. Вось пераезд па масту. Кусты. Тут водзіцца омуль і дарагая рыба сцерлядзь.

Пагода, нарэшце, разгулялася: каб ціха, дык на сонцы, пэўна, градусаў 25—30. Але вецер даволі буйны. А ў нас на Беларусі, калі і павее гэткаю парою, дык ціханькі ветрык.

І ўзноў горы, толькі ўжо воддаль, у сінім тумане. І аблокі плывуць у іхных верхавінах, толькі рэдка.

З боку ад дарогі, далёка на аблопп, убогія бурацкія ўлусы-зімоўнікі. І бедныя дзяўчаткі, ці то дзеці перасяленцаў, ці то работнікаў на чыгунцы, прадаюць ягады, суніцы, зусім яшчэ белабокія і дробныя-дробныя.

Так ехаў я гэты дзень.

Станцыя Талбага́. Ад вечара. Сцюдзенавата. Пуста на станцыі. Толькі адна баба, на бедным століку, з убітымі ў зямлю ножкамі, нешта прадае.

Усе туды бягуць і бачаць, што прадае нейкіх смажаных ліньксў, ці што, і дзве ці тры бедныя ляпёшкі.

І паглядзелі, і адходзяцца...

Яна высокая, з загрубелым і чырванаватым тварам. А на гэтым твары... на гэтым твары — такая жыццёвая горкасць, толькі ж нязлавімая, і пад такою ж моцнаю пячаткаю цвёрдасці і быццам пагарды!.. Галава, узнятая высока, і невялікія, але глыбокія і жудасна-разумныя вочы пазіраюць не на блізкіх, а на далёкіх.

А ля спадніцы два дробныя хлопчыкі, як звераняткі каля маці. Худыя дзеткі, і вочы ў іх не па ўзросту: шмат ужо бачылі.

Ніхто ў яе не купіў ні ліньксў, ні ляпёшак. Дый просіць яна за такога невялічкага і не самавітага ліньха 20 капеек. Тут усё дорага, і кожны гэта ведае, толькі як купляць, дык нікому не хочацца плаціць. А яна яшчэ і не дужа набіваецца сваімі ліньками.

Цягнік зараз пойдзе, ля століка застаўся адзін я. Ліньксў я з сваёю нерашучасцю, напэўна, ужо не куплю, калі дагэтуль не купіў. Але мне хочацца сказаць ёй штонебудзь ласкавае...

Я чую ў яе акцэнце нешта роднае, хоць гаворыць яна даволі добра па-расійску, і я пытаюся:

— А вы не з Магілёўшчыны перасяленка?

— З Хоцімску я... калі, можа, ведаеце,— адказала пабеларуску.

— Ведаю, ведаю! Сам адтуль недалёка...

— Ну як там цяпер жывуць людзі?

— А нічога... Патроху папраўляюцца...

— Добра, хоць папраўляюцца. Збіраюся і я паехаць назад... Можа, як-небудзь...— і пагладзіла мужчынскаю, загрубелаю рукою, але далікатна, як жанчына і маці, пагладзіла мімаволі, не бачачы, меншага хлопчыка па галоўцы.

І хлопчык яшчэ больш укруціўся ў спадніцу.

Цягнік крыкнуў, і я пабег, шкадуючы, чаму не купіў хоць аднаго лінька ў зямлячкі.

* * *

8 ліпня, чацвер. Мой другі дзень пачаўся ў тым самым вагоне, у тым самым купэ і на тэй самай вышняй задняй паліцы, таксама даволі рана, але ўжо далёка на ўсход, каля станцыі з такою любаю назваю: Яблыня.

Я адчыніў акно і пазіраў праз яго на свежую раніцу. Прыслухаўся: зязюлька гдзесьці кукуе: ку-ку! ку-ку! ку-ку! Але шум цягніка заглушае зязюльцы голас.

Перавал цераз Яблыневы горны хрыбет, а бачу — пасеяна бульба. Ну ці так уяўляў я сабе некалі гэтую веліч прыроды!

Не, кажуць, перавал мы праехалі начою, гэта было кіламетраў 15 на ўсход ад станцыі Сахонда, а цяпер мы з'язджаем.

Сонейка, цёпла і ціха, кукуе зязюлька, а суровы вобраз хоцімкі стаіць мне ўваччу.

І сум і радасць змагаюцца ў маім падарожным сэрцы.

## СУМНАЯ ДАМА

8 ліпня, чацвер

Далёка адзаду Чыта, пыльны горад.

Нерчынск. Ветка ад Прыйсковай. За Нерчынскам — Бянкіно, Куэнга.

На ст. Куэнга, перад вечарам, заскачыла нас граза. Хмары жоўтага пяску на зямлі, сівыя хмары на небе, перабунтавалася неба і зямля, гром, маланка і нарэшце дождж, дождж.

А ехалі ўвесь час над ракою Шылкаю. З аднаго боку скала, з другога — рака. Якое хараство!

Знайшоў селяніна-земляка (з-пад Горак).

8 ліпня, чацвер

Цэлы дзень — страшэнная гарачыня. На адной станцыі тэрмометр паказаў 35°.

Вагон усё пусцеў, і за ст. Карымскай, дзе манчжурская

калейка пайшла ўправа, а мы паехалі ўлева, у нас засталося на ўвесь вагон усяго чатыры пасажыры і два праваднікі.

Нейкі малады каморнік, ці хто, сядзеў ў канцы вагона каля праваднікоў.

Бледны малады настаўнік з Сіхотэ ляжаў у купэ ў другім канцы вагона.

А пасярод, у адным купэ засталіся мы ўдваіх: я і дама ў пенснэ, што ўсё чытала кніжку. І ляжала, не ўставала.

Якаясьці сухая, замкнутая, чорная, хоць яшчэ і маладая. І ўсё чытае, нікуды не гледзячы па баках.



Па абедзе пачалі збірацца хмары. У горах часам гулка грымеў гром, быццам бярвенне грукочыць.

Але дажджу не было. І ў вакно, калі я кідаў чытаць і глядзеў на прыроду, я бачыў голых людзей на беразе і плаваючых у вадзе — там купаліся.

І яна нарэшце падышла да вакна. Да другога. Стаяла — сур'ёзная, сухая, у пенснэ.

Так мы праехалі і яшчэ адну станцыю, дзе, нягледзячы на збіранне хмар, шмат было вясёлых піянераў у чырвоных гальштуках, з чырвонымі сцягамі — экскурсія, ці што.

Яна загаварыла толькі тады, як праваднікі прынеслі навіну, што перад намі забурыўся цягнік, таксама паштова-пасажырскі № 4, як і наш. Казалі, што ацалелі ўсяго тры вагоны, што 13 чалавек забіта, шмат паранена. Цягнік наскочыў на таварны.

Мы ўсе, і асабліва яна, устрывожыліся.

Надвор'е цямнела.

Дарога ўвесь час ішла берагам Архону, пад высокімі горамі. Лёгка скаціцца пад адкос і бухнуцца ў раку. І многа заваротак.

На дварэ цямнее.

Падышла да аднаго са мною вакна.

Яна едзе з Чыты ў Хабараўск, да мужа. Муж яе — камандзір палка. Не мог выбраць сабе што лепшае, чым такая нудота, думаю, гледзячы на яе.

І бяздзетуха. А чаму — не ведае. Суха-адукаваная.

Чаму дзень мой гэты — ехаць з нейкаю дамаю, невядома куды, невядома чаго? Жыццё такое кароткае, такія дні пры такой кароткасці.

* * *

Падулі ветры, пацямнелі хмары. Моцна захілялася лаза. Пясок б'е аб шыбы.

У 1914 г. яе сястра-гімназістка кінулася з моста ў ваду.

У 1925 г. яе другую сястру, 24 год, укусіў шалёны сабака. Зрабілі прышчэпку супроць шалу. І памерла ад менінгіту ў тры дні.

У яе дрэнны брат.

Гаворыць даўно стрыманаю, але няўгоенаю горкасцю. Нібы сухая нейкая крыўда.

Гаворыць, нібы хваліцца.

Мусіць, настаўніца. Усё цвяроза разумее.

* * *

Раптам неба змяшалася з зямлёю. Пыл, віхор, круцігца, ляціць, жоўта, сіва. Цёмная цяжкая хмара, як ноч, асунулася на зямлю.

У вагоне ўсе вокны зачынены, каб нас зусім не засыпала пылам. За вакном бярозы і ясакары трывожна шумяць. Ледзь выступаюць з туману цёмныя высокія горы.

Цягнік ідзе... Яшчэ не зусім цёмна.

Будка. Расаду пасадзілі і паліваюць. Бульба невялічкая расце. І завецца так дзіўна: Бянкіно.

Я думаў: будзем стаяць, каб перачакаць грозу. Не, паехалі. І нібы троху сціхла.

* * *

Забушавала страшэнная навальніца, а мы ўсё ехаліехалі, ад станцыі да станцыі.

Дождж ліў, і маланка блішчэла. Як блісне, тады можна разгледзець, што едзем берагам, крута, вада блізка, унізе, за кустамі. Вада цёмная, кусты гудзяць, бо пясок па іх б'е.

Яна стаяла ля вакна, плакала. Апавядала. Жыццё ёй не цікава. А крушэння баіцца.

* * *

Ст. Куэнга. Даехалі-ткі і сталі. Стаім... Не едзем...

Цёмна. Цёпла. Свежа. Сабакі брэшуць. Каровы мычэлі. Стаім.

Было па-тутэйшаму гадзін 11-50 (па-маскоўскаму 5-50).

Два званкі.

Смела і моцна пракрычэў гудок.

Паехалі. Стаялі гадзіны дзве.

Навальніца пранеслася.

Можна легчы, заснуць, супакойна ўтуліцца ў самога сябе.

Усё добра.

## КІСЛАЯ КРЫНІЦА

Мокра, сцюдзёна, хмарна, сумна. Горы. Дробная таёжная лісцвянка. Пуста. Толькі казённыя будынкі ды часам рабочыя, што ладзяць чыгунку.

Балотная даліна! Рэчачкі балотныя. Незвычайна буйны жоўты казелец. Сітнікі. Таксама незвычайна буйнае «мыльца». І розная балотная трава з краскамі і без красак, толькі я не ведаю, што як завецца. Не люблю гэтага балота, бо калісьці, жывучы ў Палессі, у такой самай багне, я цяжка захварэў і ледзь не памёр.

Вышэй на лузе — усё тыя самыя, буйныя, як мак, чырвона-жоўтыя званочкі, кутасамі.

Масты на шпалах. Адна калейка. Дарога небяспечная. Тут не разгонішся. І начою стаялі, гадзіны дзве, між нейкіх скалаў.

130 вёрст — нічога не купіш, нічога няма, і гэта ўздоўж чыгункі. Мусіць, самая дзікая мясціна ў дзікім Забайкаллі.

* * *

За колькі станцый перад гэтым, у буфеце, убачыў яго, пасажыра-дзядзьку ў наскім шэрым жупане, і пазнаў, што зямляк. Я пайшоў з ім і сеў у той вагон, дзе ехаў ён з сям'ёю. Яны перасяленцы, а выходзіць ім на станцыі Кіслы Ключ.

Вагон 4-га класа. Галота. Неахайнасць. Шукаюць ў галаве вялікаю драўлянаю грабёнкаю, што лён мыкаць на мычкі... Гэтымі ж рукамі ядуць, не памыўшы і добра не абцёршы. Сухары размочаныя, селядзец, што завецца — шмайка, сала, абаранкі, малако ў бутэльцы.

Брудна ў вагоне. Ляжаць у тры покаты: ніз, сярэднія і вышнія палаці, або нары. Пясок, смецце, акуркі, плююць, харкаюць, дзеці тут жа пэцкаюць...

Жонка, а я думаў — маці яго. І яму і ёй у дакументах па 40 гадоў. Дзеці бледныя, асабліва самы меншы хлопчык, гадкоў трох, а можа, пяці.

Гавораць па-беларуску. Толькі ён, трохі з натугаю, па-расійску. І большыя хлопцы часам пачынаюць, але не выходзіць, бо гадоў ім 14—16, у свеце яшчэ не былі.

Хлопчыку забалеў жывот. Галосіць. Маці супакойвае, бядуе.

Дзяўчынка, у даўгой, да самых лапцяў, спаднічонцы, не ведае, што рабіць. Паткнецца туды, паткнецца сюды — і баіцца. А ён сам, гаспадар, стаіць са мною ля вакна з пабітымі, як у вясковай хаце, шыбамі, бо гэта вагон 4-га класа, у цягніку, які завецца «Максім Горкі» і якім ехаць з Беларусі ў Забайкалле трэба цэлы месяц, стаіць са мною ля вакна, пазірае на тое балотнае блонне, на тыя страшэнна буйныя залацістыя краскі едкага казельцу, на тыя кіслыя балотныя сітнікі і цвярдую, рэзкую асаку і кажа:

— Сенажаткі добрыя! Ах, якія сенажаткі!

Пацяшае сябе ў маіх вачах, а сам, пэўна, думае, што ўжо блізка тая станцыя Кіслы Ключ, дзе трэба выхадзіць на новае, сібірскае, перасяленчае жыццё.

* * *

І вось яна, станцыя Кіслы Ключ, што па-беларуску будзе кіслая або квасная крыніца. У балоце. Вакол — горы. Лес, тайга. Тры хаткі і два сцюдзёныя будынкі, апрача патрэбных каморак. Чалавек пяць на пляцформе.

І з вагона — сям'я перасяленцаў...

Бывайце, бывайце! Разжывайцеся здаровыя, шчаслівыя!

Пуста. Толькі машына гудзіць дзёрзка і надзейна...

## У ТАЙЗЕ

Частыя ўздымы, спускі, зігзагі, праходы ў горах і часам тунелі. Голых гор блізу няма — лес, трава на скале.

Перад кожным масточкам слупок з напісам: «Зачыняй паддувала!» — мусіць, каб іскры не ўпалі ў драўляны масток, а то можа згарэць.

Вакол дарогі — «сопкі», як кажа праваднік; «непраходная тайга»...

— А людзі тут жывуць?

— Які сабака будзе тут жыць? — адказвае ён.

Але вось едзем нейкаю балотнаю далінаю спаміж гор. На дрэнным лагу сям'я зграбае сена. Паласу, хоць гэта і ў Сібіры: мусіць, няма дзе размахнуцца. Не дужа і шырокая паласа. Зграбаюць сена неразбіванае, пакосамі — значыцца, асака нейкая... Кругом пуста і дзіка.

Балотная даліна канчаецца, і ў канцы станцыя — бедная, убогая, глухая таёжная станцыя. Казённыя будынкі ў лесе — і ўсё.

Дзве бабы — мусіць, не з вёскі, а жонкі чыгуначных рабочых — прадаюць дзве бутэлькі малака, квас-бурду сібірскую ў вялізнай бутлі і жымаласць у кошыках з бяросты. У нас, на Беларусі, гэтую жымаласць ніхто не есць.

З цягніка тут не высадзіўся ніводзін чалавек, а сеў толькі міліцыянер са стрэльбаю.

Зараз за станцыяй чыгунка робіць пятлю: ідзе ўгару і заварачваецца назад, адлегласці між яе першым і другім кірункам няма і паловы кіламетра, і здаецца, быццам другая, раўналежная калейка-дарога відаць з горкі ад нашае дарогі праз дробныя лісцвянкі і бярозавыя кусты.

Узбіраемся па той пятлі ўсё вышэй і вышэй. Вялізная выемка ў скале. Выязджаем... Станцыя — як на далоні ўнізе перад намі і толькі трошку засталася ад нас.

Ніколі нічога падобнага я не бачыў. Не ведаў, што так можна круціць чыгунку.

Паўзём паціху. Машына крычыць — мусіць, паваротка будзе, ці што. Уздоўж палатна — рабочыя з лапатамі. Яны кідаюць працу і глядзяць на цягнік. Некаторыя махаюць нам рукамі, шапкамі. І я з радасцю таксама махаю ў гэтай дзікай пустэчы.

Жывуць яны ў будках, пакрытых карою. Камары кусаюць іх... Бачу аднаго ў сетцы. Кітаец у рускіх ботах з натугаю прэ тачку зямлі. Больш рускіх. Кітайцы без кос.

Вакол дробны лес. Маладая стройная лісцвянка. Ку-

стамі бярозка. Дзікае месца. Аднак побач з чыгункаю ідзе грунтавая дарожка — значыцца, тут жывуць. А грунт, мусіць, дрэнны: на гэткай гарышчы па зямлі мох парос.

Нарэшце едзем па высокай гары паўз даліны, высока. Даліна між гор шырокая, голая, лог, рэчачка, кусты.

А далей — горы, горы, горы... Верхавіны іх у хмарах.

На беразе рэчачкі бачу нейкія ўбогія хаткі, як лясныя буды. Можа — улусы бурацкія. Няма ў каго спытацца.

Едзем, едзем, а станцыі ўсё няма.

Ізноў такі самы фокус з завароткаю. Але якраз! Пятля.

Нарэшце — станцыя. Толькі перад самай станцыяй — пасёлак. Бедныя хаты. А станцыя нішто сабе. Тут дэпо, буфет. Ёсць усякая яда, і не дужа дарага. На пероне гуляе тутэйшая публіка. Жартуюць, смяюцца, кахаюцца. Толькі дужа сцюдзёна, бо ўжо вечар. Налеплены афішы: барытон Бурдзілаў, пасля заграпічнага турнэ, будзе тут пяяць мімаездам... Каля вадакачкі дровы, патрэбная каморка, абгароджаная дрывамі, і чалавек са стрэльбаю на варце. Нават сад ёсць: расце лісцвянка, баярышнік, дзікая ружа (шыпшына).

Троху павесялела...

У другім канцы вакзала бабы прадаюць малако. Там крык і лаянка.

— Усюдых малако 5 к. шклянка... А вы па 10 к. хочаце... Растропы няшчасныя!

Бабы маўчаць.

Тут жа нейкі дзядзька, з выгляду селянін. Пытаюся. Кажа, што вакол станцыі ёсць невялічкія пасёлкі. Перасяленцы жывуць гадоў 15—20. Ён сам з Сімбірскае губерні. Сеюць авёс і бульбу. Іншы хлеб мерзне. Ёсць ягады, бяруць іх зубчастымі савочкамі, блудзяць у тайзе...

Два званкі. Машына крычыць. Паехалі. Ізноў лес, горы, балотныя даліны. Цішэй едзем перад кожным масточкам ці ўздымам.

Праваднік з суседняга вагона прыйшоў да нашых праваднікоў і зайграў на балалайцы.

І вясёла і сумна...

## ДУРНАЯ

Прыехаўшы на станцыю Бачкарова, я мусіў чакаць тры гадзіны, пакуль будзе адпраўка цягніка на Благавешчанск. На пероне гуляла шмат прыгожых дзяўчат і ма-

ладых жанчын — мусіць, тутэйшых жыхарак са станцыі і гораду. Аж пыл падняўся ад іхняе хадні.

І я прайшоўся з канца ў канец. Але я быў тут чужы і адзінокі. І з пыльнага перону я пайшоў у вакзальны будынак.

Я купіў газету і сядзеў у зале, за даўгім буфетным сталом з штучнымі кветкамі і высокімі пустымі падстаўкамі для фруктаў. Сядзеў і чытаў. Побач са мною нейкія два нэпманы, сытыя, гладкія, толькі што паголеныя, з пахам адэкалону і пудры, пілі піва і елі нейкае смажанае мяса, ад якога ішоў прыемны і разам прыкры ежны дух. Яны выдзяляліся не столькі чыстаю дарагою вопраткаю, колькі гладкімі тоўстымі тварамі і важнымі, пагардлівымі і разам нахальнымі поглядамі.

Піва тут дарагое, пяцьдзесят капеек бутэлька. Але піў я з смакам, толькі трошку засмуціўшыся ад думак пра бедных людзей, якім піва недаступна. І шчокі мае прыемна гарэлі і ад піва і ад адэкалону пасля галення.

Людзей было вакол не шмат — каля сценак, на лавах, сядзелі, ціха гаманілі.

Раптам за дзвярмі пад'езду пачуўся шумны гоман, ішоў невялікі, але шумны груд людзей. Можна было падумаць, што там ёсць п'яныя або падпілыя. Я зацікавіўся і, як прывык, калі бачыў п'яных, адчуў непрыемную пагарду да іх.

Але потым я разгледзеў, троху спераду ад усіх, маладзіцу — не то сялянку, не то мяшчанку, сярэдняга ці нават троху дробнага складу. Яна ішла паціху і нешта ўвесь час гаманіла і гаманіла, і так голасна, што гэта вельмі вылучалася і было нягожа перад людскім парадкам. Гаварыла ж яна так, што няможна было разабраць, толькі я пачуў як бы ўкраінскія словы і падумаў, што яна ўкраінка.

Пасадзілі яе на лаву, ля сценкі, якраз супроць таго месца, дзе за сталом сядзеў я і тыя нэпманы.

На галаве ў яе была чырвоная хустачка, завязаная так, як завязваюць цяпер камсамолкі, а ў нас на вёсцы заўсёды завязваліся так жнеі на пякучым сонцы. Сітцавая кохтачка, сіняя лінялая спаднічка і белы фартушок...

Вязлі яе ўдваіх: малады міліцыянер у чорным даўгаполым шынялю і чорнай шапцы з чырвоным аколкам і высокі маўклівы мужчына ў сялянскай простай вопратцы, але, пэўна, былы салдат.

Людзі разышліся, а некаторыя наўмысля рабілі выгляд, што не заўважаюць яе, як звычайную з'яву. Яна зні-

зіла голас, і ўсё гаманіла і гаманіла, з невялікімі перапынкамі і быццам ні да кога ці да ўсіх разам.

Сувязі ў словах было мала. Услухаўшыся, я зразумеў, што галоўным пунктам яе вар'яцтва быў голад адных, калі раскашуюць другія. Гэта дзівіла мяне... «Пэўна, спадчына грамадзянскай вайны, такой жорсткай на Далёкім Усходзе»,— падумаў я. Бо хоць і нэп цяпер у нас, і побач з сытымі нэпманамі шмат бедных працоўных людзей, але ўсё ж няма ў нас цяпер такіх выпадкаў, каб з голаду вар'яцелі працоўныя людзі. Гэта магчыма так у капіталістычных краінах. Гаварыла яна мяшанаю расійска-беларускаю моваю, з акцэнтам паўдзённае Беларусі, была, можа, з Чарнігаўшчыны.

Задумаўшыся, я не заўважыў, як яна ўперыла ў мяне вочы. А калі ўбачыў, мне зрабілася ніякава... І што ж яна гаварыла:

— Адны ядзяць, выпіваюць... А другія глядзяць, вытрашчыўшы вочы, як птушкі... Няма ў мяне ні мужа, ні дзетак, а яны во стаяць перада мною, есці просяць... Што ж я? Нічога ж я... А калі я галодная...

Нэпманы зірнулі адзін на аднаго, паціснулі плячыма, пагардліва і нібы вінавата выпяцілі вусны. Адзін пастукаў відэльцам па брыжку талеркі, другі дастаў грошы расплачвацца. Зараз яны пайшлі, узварухнуўшы вакол той пах адэкалону, пудры і смажанага мяса.

Мужчына дастаў з торбы і даў ёй хлеба. Яна з'ела. Потым утупіла галаву, рукі выцягнула між ног, сядзела так, нерухомая, засмучоная, доўга — і маўчала.

А была харошая. Круглавідая, бялявая, добры, звонкі і чысты голас.

Шкода было яе. Хто яна? Што яна?

11 л і п е н я, нядзеля

А палове першай начою мы выехалі на Благавешчанск. Мне дрэнна спалася. Было горача і парна, бо такі тут клімат — непрывычны для мяне.

І не выходзіла з памяці яна.

На нейкай станцыі ў наш вагон сеў новы чалавек. Я не мог разгледзець яго ў прыцемку і толькі чуў, як ён гаварыў:

— Перайшоў з таго вагона. Не магу слухаць, як яна ўсё гамоніць і гамоніць...

— Гэта яе ў Благавешчанск вязуць,— адгукнуўся другі.— Што ёй такое, не ведаеце? — спытаўся ён.

— Не ведаю. Кажуць, муж партызанам быў. Белыя забілі. А яна з дзяцьмі доўга ў тайзе хавалася, дык звар'яцела. З голаду, кажуць, звар'яцела.

Гаманілі спакойна і даволі безуважна ў ціхім, сонным, прыцемным вагоне.

## «КААПЕРАТАР»
## [ПЛАЧ НА МАГІЛЕ]

Разгаварыліся мы з ім яшчэ на нейкай станцыі зараз пасля Іркуцка.

Малады чалавек, з добраю выпраўкаю, у савецкім фрэнчы. Чорныя вусікі, а вочы неяк лішне бегаюць. Але ці мала ўсякіх людзей спаткаеш у дарозе.

Казаў, едзе з Барнаула ў Хабараўск, шукаць працы. Інструктар каапэрацыі.

На кожнай станцыі выхадзіў, пагульваў, загаварваў з людзьмі, піў, еў.

І да мяне колькі разоў падходзіў гаманіць. Відаць, цікавіўся, хто я, але пытаўся далікатна, патрошку і асцярожна, робячы вялікія перапынкі ў часе: сёння спытаецца адно, заўтра другое, так, мімаходам, да гутаркі.

Я думаў, што ён «скарочаны» і ўцякае ад нацыяналізацыі з Казахстана (Кіргізіі), бо ён апавядаў, што ў Сяміпалацінску праводзіцца «страшэнная кіргізацыя» і ўжо праведзена на 60 %... Не ведаю, як ён вылічыў гэтыя проценты.

Пачуўшы ад мяне ў гэтым пытанні іншы дух, ён пераманіў фронт і на адной станцыі запрасіў мяне ў свой вагон. Там ехала жанчына з хлопчыкам, родам з Холмшчыны. Таварыш Крук (так яго звалі) сказаў мне, што гэта яго зямлячка, бо і ён «беларус з Холмскае губерні». І пры мне даў жанчыне кавалак белага хлеба і агурок, а хлопчыку пару цукерак.

Але гаварыць ён не ўмеў ні па-беларуску, ні па-ўкраінску.

На станцыі ў Бачкарове, дзе адходзіць ветка на Благавешчанск, я быў здзіўлены, убачыўшы яго на станцыі, калі цягнік на Хабараўск пайшоў.

— Што вы, засталіся ад цягніка? — спытаўся я.

— Не... бачыце, раздумаўся. Хачу пашукаць працы ў Благавешчанску.

Тут жа я ўбачыў яго рэчы. Чамадан яго быў вялікі і салідны, хоць стараваты, але з добрае, даўнага часу скуры.

Прыехаўшы ў Благавешчанск, у Дом селяніна, я зноў з ім спаткаўся, у канцылярыі. Ён прасіў сабе пакой. Убачыўшы мяне, нібы ўсцешыўся і сказаў, што ёсць толькі адзін пакой, дык займём разам.

Я згодзіўся, раз няма больш пакою.

Прыехалі мы якраз у нядзелю, усё было зачынена, і ён запрапанаваў мне пахадзіць па гораду разам з ім. Але потым мы разышліся.

## МОГІЛЬНІК

Дэкаратыўныя расліны ў Добразнаменску: баярышнік, ліцвянка, акацыя, бяроза.

Усё гэта расце на добразнаменскім могільніку. Кусты — як бы маліны. Красачкі як і на Беларусі. Бярозкі. Больш ясакараў.

Могільнік вялікі і багаты. Нават дзіва, калі ён паспеў такі вырасці, калі і горад існуе гадоў 50—60.

Могільнік густы і добра дагледжаны.

Напісы: забіт у часе грамадзянскае вайны, пагінула ў часе грамадзянскае вайны. Прозвішчы на помніках — беларускія, украінскія, польскія, расійскія.

Фатаграфіі: маладзенькія, 16 год, 20 год.

35 год — муж піша вершы, а алоўкам нехта дапісвае: «Прости! Я не виновен. Я мстил только за смерть моей дорогой и милой мамы».

І шмат падобных.

Маці просіць дачку, каб узяла да сябе.

Колькі тут тугі, гора і смутку.

У царкве служба. Больш старых. Ёсць і ўсякія. Выйшаў і ўбачыў дзяўчынку. Русыя валасы, сінія вочы — якое хараство! Чаму я раней так яго не цаніў?

## БЛАГАВЕШЧАНСКІЯ АБРАЗКІ

Калі я прыйшоў у Дом селяніна, уборшчыца кажа, што ў майго сужыхара тужурку ўкралі. Непрыемная гісторыя. Я пагаманіў з ёю, пагаманіў з тым тыпам, што сядзеў у будцы ля варот як вартаўнік. Ніхто нічога не ведае. Пайшоў і спаткаў самога Струка (так яго прозвішча).

З ім было два прыяцелі: той малады хлопец з тэлеграфу, што ўчора я знайшоў яго спячага на маёй койцы, і яшчэ нейкі адзін, з вусамі. Аказваецца, Струк з тым хлопцам і не начавалі дома — п'янствавалі і начавалі дзесьці ў вагоне.

Пайшлі ізноў да будкі ля варот. Там той дзяжурны вартаўнік і ўборшчыца. Нічога... Прапала тужурка, і ніхто нічога не ведае.

Струк потым казаў, што ўборшчыца гэтая ўкрала. Учора ён казаў пра яе: «бл...» і збіраўся «ўпатрабіць».

Мусіць, прапіў тужурку сам.

* * *

Былі на беразе Амура. У яго аказаўся бінокль. Грам. Струк навёў яго на той бок, на кітайскі горад Сахалян, і нібы жартуючы сказаў:

— Ану падзівімся, ці не ўбачым знаёмых...

Ён казаў, што там шмат рускіх белагвардзейцаў, ёсць родам і з Благавешчанска. І яны спісваюцца з роднымі, калі, у які дзень і ў якую гадзіну і ў якім месцы выйдуць з біноклямі і каб родныя адгэтуль выходзілі. І сышоўшыся — глядзяць у біноклі і раскланьваюцца і пацалункі рукамі пасылаюць.

Але ён нікога не ўбачыў.

* * *

Уночы, калі я заснуў, ён некуды выйшаў. Чамадан свой вынес ён, аказваецца, яшчэ ўдзень.

У газеце было напісана, што яго застрэлілі ў чаўне на Амуры, таму што не спыніўся, нягледзячы на тое, што яму некалькі разоў крычалі і стралялі спярша ў паветра.

Уцякаў і не ўцёк.

Вось які быў Струк.

# МАЛЫ РЫЗЫКАНТ

Быў дзень адпачынку, надвор'е стаяла сухое і цёплае, і на прыстань сабралася пагуляць шмат мяшчанскае і сялянскае людnасці.

Хадзілі і сядзелі, чакаючы ад'езду, пасажыры, а з імі іхныя родныя і знаёмыя, што іх праваджалі. Перакупкі бойка прадавалі розную яду. Стрыжаныя, без шапкі, кітайцы насілі марозіва, чысцілі боты, скалілі жоўтыя зубы і жартавалі, кулдыячучы нешта, што тутэйшыя жыхары разумелі і смяяліся, а я ніяк не мог зразумець.

Нарэшце я пацікавіўся і прабіўся паглядзець, што там такое, дзе найбольш людзей. Аж гэта рабы хлопчык-беспрытульнік хадзіў, станавіўся і пяяў у натоўпе, што яго зараз густа абступаў. Я пачуў, што ён пяе пра муку:

Муку маю адабралі
І па шыі надавалі...

Пяяў ён пра звычайную гісторыю з нядаўна мінулых дзён, і я меўся ўжо адысці, але мне вельмі спадабалася, што ён дзеля акампанементу трашчаў нейкімі асаблівымі маленькімі клякоткамі, сціснуўшы іх па аднэй у кожнай руцэ.

Я прыгледзеўся бліжэй, і мяне яшчэ болей здзівілі яго вочы на худым і бледным, моцна папсаваным воспаю твары. У вачах у яго было праўдзівае творчае захапленне і думка — далёкая ад гэтага месца, засмучоная цяпер, думка прыроднага мысленніка. Можна было падумаць, што ён сляпы... гэтаму ж дапамагала смелая, але асцярожная рухавасць, з якою ён ускідваў галаву і махаў рукамі — як сляпы.

Пасля вайны і рэвалюцыі ў мяне вельмі лёгка накручваюцца слёзы і падпірае комам дыханне. Але тым жа часам выпрацавалася ў мяне і пэўнае кіраванне сабою, і, калі я гэтага не хачу, я па сваёй волі магу і не заплакаць, і не падпусціць у грудзях кому.

Тут мне было прыемна не стрымацца... Я ўбачыў перад сабой блізкага чалавека. І падобную блізкасць да яго адчуваў не адзін я, а ўсе, хто на яго глядзеў і слухаў яго песню.

Звычайная гісторыя пра муку была толькі маленькаю прыгодаю ў цэлай паэме з яго жыцця. Ён пяяў, што быў змалку свавольны, што бацька яго, прыйшоўшы з нямецкае вайны, памёр, што маці хацела зрабіць сына чалавекам і аддала яго ў батракі роднаму дзядзьку, але ён нікога не

слухаў і йшоў па сваёй волі, збег у горад і зрабіўся беспрытульным...

Пяяў ён даволі нескладнымі радкамі з дрэннаю рыфмаю і вельмі няправільнаю расійскаю моваю, але з такім пачуццём і праўдаю, што ўсе яго незвычайна ўважна слухалі, стараючыся цішэй лузгаць семячкі і меней гаманіць.

Ён скончыў, зняў сваю старую і вялікую, не па мерцы, салдацкую шапку і выставіў яе перад сабою.

Грошай яму кідалі мала, затое ў адзін момант накідалі абаранкаў, пернікаў, цукерак, ён мусіў нават сесці на пясок і разгарнуць прыпол, і туды пасыпаліся гэтыя дары.

Я, чалавек ад прыроды ашчадны, гэтым разам так расчуліўся, што без усякага жалю кінуў яму ў шапку сярэбранага паўрубля. І хутчэй хацеў адсунуцца... Аж нехта паклаў мне руку на плячо і стрымаў. Я азірнуўся. Гэта быў высокі і стараваты ўжо матрос, з светлымі, падстрыжанымі вусамі на добрым і стройным твары.

Па-сяброўску трымаючы мяне, ён ласкава сказаў: «Псуеш, браце, хлопчыка...», а потым паківаў галавою, гледзячы на беспрытульніка, і больш сурова сказаў яму: «Хлапец ты — не дурань, а не сваею дарогаю пайшоў... На вёску ідзі, зямлю рабіць, або ў горадзе шукай якога правільнага дзеля сябе занятку».

На параход пайшлі мы з гэтым навучальным дзядзькам у матроскай вопратцы разам, гаворачы аб беспрытульных.

Я быў здзіўлены, што ён, матрос і чалавек разумны, так не любіць беспрытульных.

Як гэта бывае ў дарозе, ён на хаду паспеў мне шмат аб іх сказаць.

Ён казаў, што найбольш беспрытульных ездзіць улетку, чыгункаю. Едуць яны ў скрынках для вугалля, на прыступках, тэндэрах, дахах, нават на восях пад вагонамі. «Вылезе,— казаў ён,— другі такі з-пад вагона, як чорт, абадраны, абшэсканы, свеціць голым целам, лахманамі трасе, распусціць іх па ветру, як самая апошняя брыда». Кажучы так, ён у злосці забываўся, што патрэбна ўсё ж ткі малому хлопчыку вялікая адвага, каб падарожнічаць на восі пад вагонам. Далей пачуў ад яго, што нашы беспрытульнікі заязджаюць у Маньчжурыю, у Харбін, нават у Шанхай, і бывалі выпадкі, што — у Японію. З Японіі, казаў ён, іх зараз выкідаюць або нават забіваюць...

Прызнацца, я падумаў, што ён троху выдумвае ці маніць, як усе матросы.

Між іншым, ён заўважыў, што на параход пралезці беспрытульнаму дужа цяжка, і яго высадзяць на першай жа прыстані. Прынамсі, казаў ён, не было яшчэ выпадку, каб нага беспрытульніка ступіла на борт «Пралетарыя». На гэтым амурскім параходзе, на якім мы цяпер ехалі, быў ён матросам ужо колькі год.

Якое ж было маё здзіўленне, калі троху пагадзя, як параход наш адышоў кіламетраў пяць, я ўбачыў на палубе — каго вы думаеце... таго самага беспрытульніка, што пяяў на прыстані...

Цяпер ён здаўся мне зусім іншым, і я быў нават не пазнаў яго, думаў, што, можа, другі, але не — гэта быў ён, той самы рабы хлопчык.

Падыходзіў вечар, сцюдзянела, шырачэзны Амур сурова хваляваўся, а чырвоны край неба адсвечваўся ненатуральнасцю і зменнасцю.

Ужо не цікавіла глядзець на далёкія зялёныя кітайскія берагі і высокія блізкія нашы.

І ў гэты час ён выпаўз знедкуль на палубу і пагульваў каля пасажыраў. Яму, відаць, падабалася, што погляды ўсіх спыняюцца на яго маленькай асобе. А ўжо паспеў дзесьці абпэцкацца, твар яго быў у нейкай смале ці сажы з салам. Адной рукою ён курыў, пушчаючы дымок скрозь носік, а другою ўвесь час падцягваў нагавіцы.

Якраз міма праходзіў той матрос. Ён з агідаю агледзеў беспрытульніка з галавы да ног, кіўнуў мне на яго і буркнуў:

— Вось убіўся-ткі на «Пралетарыя», свалата! Ну, нічога, у сяле Нізавым высадзім.

— Рукі кароткі! — адказаў яму, пачуўшы, беспрытульнік, і такім тонам, як быццам і сапраўды дужа цяжка было яго высадзіць. Усе вакол засмяяліся.

* * *

На другі дзень нашае падарожы, вельмі рана, калі яшчэ пасажыры спалі, я выйшаў пагуляць на палубу — і заўважыў, што матросы чымсьці занепакоены і паглядаюць у адзін бок.

І зараз з таго боку два матросы, адзін спераду, другі адзаду, панеслі на шэрых насілках невялікі камок, пакрыты брэзентам.

— У чым справа? — спытаўся я ў аднаго маладзенькага матросіка.

Аказваецца, учорашні беспрытульны хлопчык залез пад мост, дзе па ланцугах ходзіць сектар параходнага руля. Зазвычай руль робіць адхіленні на 20—40 градусаў ад асяродку, і тады там можна сядзець. Але на крутым павароце руль, мусіць, адразу лёг на борт, на 80—90 градусаў, і канцом сектара прыціснула яго да сценкі і раздушыла. Якраз гэты маладзенькі матросік, замятаючы смяццё, заўважыў, што з-пад маста, дзе ходзіць сектар руля, тырчаць ногі. Паклікалі адміністрацыю і выцягнулі малога рызыканта. Цяпер яны няслі яго...

Усё было вельмі проста... Ды мне зрабілася так цяжка, быццам я быў вінаваты ў гэтай смерці. І зараз жа я падумаў аб старым матросе.

Аж і ён быў тут — увесь белы і, здаецца, аж трошкі тросся, так узнерваваўся. Ён заўважыў мяне і кіўнуў мне галавою, паклікаўшы:

— Хадзі, братка... Паглядзі.

Калі мы прыйшлі ў тую каморку, куды яго занеслі, насілкі з трупікам стаялі ўжо на століку і матросы з фельчарам выходзілі ў калідорчык.

Стары матрос адкінуў край брэзенту, і мы ўбачылі сіні, перакрыўлены дзіцячы твар. У сударажна зведзенай, чорнай ад бруду, маленькай руцэ быў заціснуты недакурачак папяроскі.

Хто яго ведае, якім поглядам глядзеў цяпер на мёртвага стары матрос, але я пачуў, як ён уздыхнуў і сказаў:

— Курэц... Вось табе Шанхай і Японія... Наездзіўся...

Потым ён ізноў закрыў яго — і мы выйшлі. У калідорчыку ён узяў мяне адною рукою за плячо, як на прыстані, і пацягнуў у цямнейшы куток. Тут ён закрыў сабе вочы другою рукою, ціха пляснуўшы далоняю па твары і моўчкі паківаўшыся, як ад зубнога болю.

Я думаў, чаго ён так?

А ён моцна ціскануў мяне за плячо і глухім, зусім змененым голасам, з балючаю натугаю сказаў:

— Эх, братка... У мяне ж свой гэткі... сволач... не ведаю, дзе і што... шалаецца.

Якраз гэтым часам «Пралетарый» падыходзіў да сяла Нізавога. Тут аддалі цела хаваць.

# КВЕТКІ ЗЛА

Мы або ціха пахаджалі па пяроўнай старой палубе, або стаялі, абапершыся на поручні, і, думаючы і гаворачы сваё, безуважна глядзелі па прыгожую вадзяную прастору Амура.

Тэма нашае гутаркі, відаць, прыйшлася яму па патуры, і ён, з троху лішнім на мой погляд захопам, а можа, і саромячыся сваіх прызнанняў выпадковаму спадарожніку, казаў:

— Гэта, мусіць, асаблівасць натуры або спадчына маладых, поўных рамантызму гадоў, што мне, ужо немаладому і ашуканаму жыццём, заўсёды, яшчэ і цяпер, чакаецца ў дарозе, што я спаткаю цікавую, сімпатычную, прыязную...

— Ну, пэўна ж, былі ў вас спатканні,— заўважыў я, каб не маўчаць.

— Уявіце сабе, мне вельмі часта трапляецца ездзіць на параходзе і чыгункаю, бо ў мяне такая служба, і ўжо пяць год жыву я на Далёкім Усходзе, а тут шмат цікавых жанчын, і вось за ўвесь гэты час я ніводнага разу не ўбачыў тую, спатканне з якою засталося бы ў памяці на ўсё жыццё прыемным успамінкам...

— Што гэта там? — спытаўся я.

Мы пачулі нездаволеныя галасы, азірнуліся назад і ўбачылі, што груд пасажыраў, самае беднае і бруднае масы, з абурэннем глядзяць на нейкую жабрачку, хочучы, як відаць, прагнаць яе ад сябе.

Мы падышлі бліжэй — і я ўбачыў жудасны бязносы твар хворае на пранцы.

Яе жаласныя вочы, з пячаткою вечнага сораму, стараліся глядзець нібы звычайна, але мімаволі глядзелі кудысьці так, каб не спаткацца з людзьмі.

Непрыемны, цяжкі жаль скалыхнуўся ўва мне ад той брыдоты, замест чалавечага твару, а разам шавяльнуўся неапраўданы страх, каб не набрацца хваробы.

І так было, я бачыў, з кожным здаровым чалавекам. Усе з прымушанаю цярплівасцю, але нясходанаю агідаю кідалі ёй у бляшанку медзяныя грошы і хутчэй адварочваліся.

Ад старасці і слабасці яна ледзьва цягалася. Замест носа былі дзве страшныя вялікія дзіркі... Тырчэлі рэдкія гнілыя зубы... Уся ў лахманах... Рука з бляшанкаю, куды ёй кідалі грошы, трасецца.

— Пойдзем. Я хачу вам яшчэ сказаць, што...— цягнуў мяне мой субяседнік, але я прыстоіў яшчэ трошку, гледзячы на гэтую няшчасную.

Яна шукала самага горшага месца, дзе б ёй сесці, і нарэшце прыткнулася і пачала развязваць свой брудны камок рыззя каля ўбогага і адзінокага падарожнага гольда.

Але нават дзікі гольд, спярша і ён пачаў сварыцца на яе, у сваёй незразумелай мове, і махаць, злуючы, рукою, каб не сядзела ля яго, а нарэшце сам перасеў на другое месца.

— Дык я хацеў вам яшчэ сказаць...

— Пачакайце,— перабіў я,— а чым жа вам гэта не спатканне?

У голасе маім не было ніякае іроніі. Проста я бухнуў не падумаўшы.

Субяседнік мой, аднак жа, страшэнна пакрыўдзіўся.

— Ну, што вы гаворыце...— буркнуў ён і змоўк.

А я бачыў, як падышоў параходны служачы і сагнаў яе з таго месца. Яна пакорна падабрала сваё шкумаццё і пасунулася кудысьці далей.

Субяседнік мой абапёрся на поручні і маўкліва глядзеў на Амур, на кітайскі бераг.

## БЯЗНОГАЯ БАБУЛЯ

Ідучы позна ўвечары па ціхіх благавешчанскіх вуліцах, па тратуарах, над якімі даволі часта звісала густое веццe садоў, я пералічаў у думках, што тут расце, на Далёкім Усходзе, у садах і гародах.

У Благавешчанску ў садах ёсць: яблыкі — дробненькія, саладкавыя, не дужа сакавітыя, ранеты; сліўкі — цвёрдыя, дробныя, кіслыя; чаромха — яе тут ядуць; смуродзіна — чорная і чырвоная; маліна. І ўсё.

І я думаў: балазе яблычкі, хоць дрэнныя, растуць. У Сібіры і таго няма. А з яблычкамі лягчэй прызвычайвацца і жыць тут нашым перасяленцам.

Апрача таго, у садах і ў гародах у Благавешчанску садзяць суніцы, але больш бяруць у тайзе. Клубніц (друзгалак) тут няма.

Гародаў тут шмат, і гароды вялікія. Растуць гуркі, радзіс, морква і дужа добрыя гарбузы.

Гароднıцтвам займаюцца найбольш кітайцы. І я ўспомніў, як ходзяць яны раніцою і ўдзень па гораду, па вуліцах, з шырокімі круглымі кашамі, нізка пачэпленымі на канцы карамысліка, і крычаць, як старыя бабы, тонкім і трэснутым голасам. У кашах — радзіс, гуркі, зяляніна, і яны крычаць назвы гэтага свайго тавару па-расійску, але так, што я нічога не магу разабраць.

У сініх дабавых штанах і сініх дабавых халатах або ў кароткіх чорных кацавеечках. І халаты і кацавеечкі з бакоў разрэзаны і звязаны шнурочкамі. Нагавіцы ўнізе абкручаны і таксама завязаны шнурочкамі. На нагах пантофлі, і крок мяккі, як у тыгры. Жоўтая скура, касыя вочы, але кос ужо не носяць, чорныя густыя валасы каротка абстрыжаны, і найчасцей бачыў без шапак. Чамусьці даволі часта — гнілыя зубы. Трэба прызвычаіцца да іхняга хараства. Але ёсць і прыгожыя (маладыя хлапцы).

Кітайцаў тут шмат. Некаторыя жывуць ужо даўно, а то найбольш прыходжыя на заробкі. І толькі мужчыны. Жанчын-кітаек амаль што не відаць.

Усё гэта я прыгадаў сабе, ідучы цёмным тратуарам, і ўспомніў, што калі сёння ўдзень сядзеў я ў садзе ў таго мешчаніна, у якога на кватэры жыў калісьці мой дзядзька, дык жонка мешчанінава, гаманлівая і ласкавая на словах мяшчанка, казала мне, чаму ў Благавешчанску ўвечары рана пусцеюць вуліцы, жанчыны не гуляюць, сядзяць дома.

— Жарты жартамі, а позна ўвечары ў Благавешчанску хадзіць небяспечна,— казала яна наогул і пра жанчын.— Кітайцы крадуць жанчын. Мяшок на галаву — і за Амур, у Сахалян. Там жэняцца, а то і прадаюць у публічны дом.

Я ішоў, і стук ад маіх ног чуваць быў па цёмнай і пустой вуліцы.

Удзень было дужа горача і пыльна, а цяпер, у цёмнай прахалодзе, так прыемна шумелі над галавою ясакары.

Тут дзесь, у гэтым квартале, ішоўшы ўдзень міма саду, каля дзверцаў якога віселі вагі, я заходзіў купіць чагонебудзь і купіў мяшэчак смародзіны. Прадавала кульгавая бабуля — такая прыветная, але якаясь змучаная і задуменная. Я тады падумаў яшчэ, што людзей з такім выглядам я бачыў тут шмат: ці не кладзе гэтую пячатку на іх тутэйшы край?

Я пачаў прыпамінаць, як я тады йшоў, і разгледзеўся, што якраз іду па той самай вуліцы. Зараз павінен быць і той садок...

Раптам я адхіснуўся... У дзверцах саду мільганула чорная постаць і нечакана застукала кіем па агароджы...

Усё было цёмна, толькі на Амуры, ля прыстані, блішчэлі агні.

— Хто тут? — галасна і наўмысля прыветна і супакойна запытаўся я, каб пачуць голас.

— Я,— адказаў жаночы голас.— Сад сцерагу.

— А! Добры вечар! Гэта ж я ў вас удзень смуродзінку купляў.

— Можа сабе.

Я прыпыніўся і закурыў, каб пагаманіць. Кажу:

— Як жа гэта вы, бабуля, і пры старасці, і з хворымі нагамі, і ўдзень тут тупаеце — і яшчэ начою сад вартуеце?

— Як трэба, дык што ты зробіш? — адказала яна і ўздыхнула.

— І не баіцёся? — пажартаваў я.

— Во, смеху варта! Чаго ж гэта мне баяцца?

— А кітайцы ўкрадуць...

— Кралі, калі была маладая, мой ты мілы... Без смеху кажу. Вось таму і бязногая.

Тады я папрасіў яе расказаць мне, як гэта было.

Яна пераказала суха і каротка. Відаць, гора засталося непазбытым і ціснула яе сваёю непапраўнасцю. А можа, цяжкае жыццё вырвала ў яе з сэрца ўсякую лірыку.

Жыла яна вясёлаю дзяўчынаю ў бацькі-перасяленца з Пскоўскае губерні. Жыла і гора не ведала. Было іх дзве дачкі: яна большая, а другая меншая.

У бацькі служыў кітаец.

Аднаго разу, увосень, паехалі яны капаць бульбу,— яна з сястрою і гэты кітаец.

Быў ён заўсёды дужа старанны, ласкавы. Гадоў яму было пад трыццаць, і дзесь у Кітаі меў жонку і дзяцей.

Капалі яны бульбу, і запрасіў ён пакатаць іх па Амуру. Яны, не падумаўшы, згадзіліся.

Было гэта ў полі, вёрст за пяць ад Благавешчанска.

Ён зараз жа паплыў далёка ад берагу. Яны пачалі прасіць, каб вярнуўся, а ён маўчыць і кіруе далей. Ужо кітайскі бераг бліжэй, чым свой. Яны крычэць — не слухае. Меншая сястра заплакала, а яна хацела адабраць у яго

вёслы. Стукнуў яе кулаком па галаве — адвалілася, ледзь човен не абярнуўся. Перавёз...

Прадаў там іх, за кожную ўзяў па 6 капёў.

Потым іх перапрадавалі з рук у рукі, нейкі час яны былі ўсё разам, а потым раздзяліліся: яе ўзяў замуж адзін кітаец, а сястра трапіла ў публічны дом.

Атрымала яна ад сястры толькі адзін ліст. Пісала, бедная, што кормяць яе чарвямі, нейкімі пампушкамі, што ў кітайцаў лічылася смачнаю ядою, а ў яе ад гэтае яды вярнула з душы. Вучылі, як трэба лашчыць мужчын, білі і здзекаваліся.

Апавядаючы, бабуля заплакала.

— Так і загінула наша бедная Машутка. Чула я, што як спадзе каторая з цела, дык перапрадаюць аж у Індыю...

Пра сябе яна казала далей так:

— Была я замужам за тым кітайцам лета да зімы. Дужа стараўся прыручыць: ласкавы быў, не біўся, але ўсё не верыў мне. І зацяжарала ўжо. А тады паехаў ён неяк узімку ў Сахалян, у госці. Я была толькі ў калодках, басаногая, але надумалася: калі ўцякаць, дык толькі цяпер, лёд на Амуры і — блізка... Выйшла ціханька і пабегла. Адышлася з добрыя гоні, як згледзелі яны, кінуліся дaганяць. Стралялі разы два. Бегла, не ведаю ўжо, як дух з мяне не выперла. Дабегла да свайго берагу і звалілася нежывая. Салдаты падабралі. Нічога, ачуняла, але ногі адмарозіла, вось і калека цэлы век. Сад хоць дагледжу...

— А цяпер бываюць такія выпадкі? — спытаўся я, каб што-небудзь сказаць.

— Не, цяпер не чуваць. Коні крадуць.

Не ведаў я, чым яе пацешыць, развітаўся і пайшоў з невясёлымі думкамі аб ёй і яшчэ больш аб яе няшчаслівай сястры.

Потым успомніў, што не спытаўся, ці радзілася ж тое дзіця, ці зайшла яна тут замуж, чый гэта сад сцеражэ,— але ўжо ніякава было яшчэ раз варушыць яе боль, і я, хоць потым бачыў яе другі раз,— не пытаўся.

## ІНТЭЛІГЕНТЫ

На ст. Благавешчанск мытны агляд. Трасуць каля дзвярэй у вакзале. І мяне трэслі.

Выехалі з Благавешчанска 12 ліпня, а 1-й гадзіне ўдзень (6г. маскоўск. часу).

Троху праехалі — загарэлася букса ў таварным вагоне. Букса новая.

Пасажыраў шмат. Адна пасажырка паказвае кашнэ, якое было ў мужа на шыі, дык не забралі. У другой — новыя шаўковыя панчохі на нагах. Тут цана $2-2^{1}/_{2}$ р., а ў Маскве трэба заплаціць 8 руб.

А $2^{1}/_{2}$ г. пераязджалі мост цераз Зею. Шырокая Зея. І глыбей за Амур.

На берагах Зеі — прыгожа. Зяленіна, кусты, селішчы.

Страшэнна душна, хоць неба і не дужа чыстае ад воблакаў.

* * *

У нашым аддзяленні — едуць у Дарасун, курорт вёрст за 60 ад Макавеева. Там лечаць жываты і нервы.

Я не ведаў, хто яны і што яны, і толькі з іхных гутарак я зразумеў, што едуць яны з Благавешчанска на курорт Дарасун і што яны, павінна быць, савецкія служачыя.

Але яна была занадта беленька і далікатна і сапраўды інтэлігентна, каб быць хоць бы нават машыністкаю ў канцыляры́і.

І ўвесь профіль панскі, і нос просты і тонкі, і зачоска строга грэцкая. Гадоў ёй 20—23. Сукенка шаўковая, баціначкі модныя, брошка на грудзях з дарагім каменем і залаты вянчальны пярсцёнак на руцэ.

Ён — звычайны паўінтэлігент, але даволі ўжо па-панску далікатны, асабліва ў адносінах да яе.

Можна было падумаць, што яны муж і жонка: яны елі разам і адно, гаманілі ціханька, глядзелі ў вакно, стоячы плячо ў плячо. Але потым я пачуў, што яны кажуць адзін аднаму вы.

Надта цяжка была ўгадаць, дзе ён працуе... Быў у добрым касцюме савецкага выгляду: фрэнч, галіфэ...

* * *

Дарожныя гутаркі — самыя разнастайныя і круцяцца каля палітычных і грамадскіх навін дня, каля сямейнага быту, каля здароўя і хвароб, кахання і заляцання.

Гутарка зайшла пра курорт Дарасун.

Гэта — у Забайкаллі, у Чыцінскай акрузе, 130 вёрст ад Чыты. Там вельмі маляўнічая мясцовасць, але суровы клімат.

Крыніцы там — жалезістыя і жалезіста-вапенныя, у якіх шмат вуглякіслаты. Тэмпература крыніц вагаецца ад аднаго да чатырох градусаў вышэй нуля.

— Я еду туды ўжо другі раз, і мне там вельмі падабаецца,— міла сказала Таісія Іосіфаўна (так яе звалі).

— Таісія Іосіфаўна, там, кажуць, даволі нудна,— сказаў ён.

— Сяргей Георгіевіч! Нуда — рэч умоўная... Калі мы з мужам ехалі з Масквы на Далёкі Усход, нас страшылі жыццём у Благавешчанску. Казалі, што там гуляюць на вуліцах з мядзведзямі, як з сабакамі... Ажно жыццё, як вы ведаеце, зусім іншае...

Ён міла ўсміхнуўся і нічога не сказаў.

З курортаў айчынных перайшла гутарка на курорты замежныя. Пра іх шмат апавядаў хворы інжынер. Ён бываў у Нямеччыне.

І загаманілі пра жыццё нашых прадстаўнікоў за межамі.

— Да... чаго толькі не прыходзіцца рабіць партыйцу ў парадку дысцыпліны,— сказаў Сяргей Георгіевіч трошку рамантычна і з пачуццём загаманіў пра еўрапейскія касцюмы, у якія мусяць адзявацца нашы замежныя прадстаўнікі.

— Хош не хош,— сказаў ён, як гавораць расійцы з народу,— хош не хош, палязай у фрак! Дысцыпліна!

Гаварыў ён так, быццам яго самога ўжо зараз пасылаюць паўнаважным прадстаўніком за межы і ён зараз мусіць скінуць свой савецкі фрэнч і лезці ў фрак.

У той жа вечар хворы інжынер ад кагосьці ў падарожных даведаўся і шапнуў мне, хто яны.

Яна — вельмі сімпатычная і, нягледзячы на маладосць і хараство, разумная і сур'ёзная жанчына, дачка нейкага важнага царскага чыноўніка. Мае гімназіяльную адукацыю. Замужам цяпер за дужа важным чалавекам.

Ён — беспартыйны саслужывец яе мужа. Чалавек без адукацыі, але ўмее па-кітайску і бывае ў Кітаі. Сын нейкага кулака-чалдона з-пад Благавешчанска.

# ПАВАРОТ

Прыехалі ў Бачкарова ў пачатку сёмай гадзіны, перад вечарам, але ўсе крамы і парыкмахерскія былі ўжо зачынены.

Я схадзіў і прайшоўся па мястэчку, што пры станцыі; завецца яно горад Аляксандраўск, але гэты горад горшы за ўсякае мястэчка.

Калі ішоў назад, убачыў пад сасонкамі пры дарозе перасяленцаў, якія едуць назад, у Старадубскі павет.

Начавалі яны ў будках з колля, пакрытага хваёваю лапкаю. Толькі адна была палатка з суровага палатна.

Тут былі іхныя скрынкі і ўсякія манаткі. Ля адной скрыні сагнуўшыся баба перабірала грабяні і грабёнкі, сукно. Даставала з мяшочка сухары, развязвала і завязвала талакно.

Мужчын не было. Толькі хлопчык-недалетак стаяў, прыхінуўшыся да дрэва. Другая баба, яшчэ добрая маладзіца, карміла ў будзе малога грудзьмі. За крайняю будкаю, на пянушку, я ўбачыў і дзяўчынку гадоў 15-ці. Яна ела размочаны ў вадзе, у кубку, сухар.

Я ласкава даў ім добры дзень і прыстоіў, каб спытацца, адкуль яны і куды яны едуць. Але бабы неахвотна адказвалі на мае пытанні. Тая, што карміла дзіця, сказала, што ехалі яны сюды роўна месяц, а як назад заедуць — бог яшчэ ведае. А хлопчык сказаў, што як сюды ехалі — білет каштаваў 13 руб., а ўжо назад падаражэла — 16 рублёў.

Гаварылі яны больш па-расійску, чым па-ўкраінску ці па-беларуску.

Калі я меўся ўжо пайсці, з адной будкі палезлі ногі, а потым выбраўся і ўвесь мужчына, даволі несамавіты на погляд, чорны, барадаценькі. Ён узяўся курыць і, робячы папяроску, казаў мне, не гледзячы на мяне і нейкім панурым ці вінаватым голасам.

Ён казаў, што пражылі яны тут, на Дал. Усх., месяцы два. За Тарбагатаем вёрст 30. Стары Гарбыль. Вёрст 70 ад Бачкарова. Троху там і пасеялі, хто зямлянкі парабіў, хто ў балагане, хто ў хатах у даўнейшых навасёлаў стаяў (якія жывуць па 15—20 гадоў). Коні пакуплялі. Але гліна — як камень, нічога не ўродзіць. Хадакі былі, расхвалілі як няведама што. А там: сяння дождж, а заўтра суха, хоць палівай. І вось тут, бліжэй да Бачкарова, ярыца — во! а там ад зямлі не відаць. Дык прыехала восемдзесят

двароў, а цяпер засталося яшчэ двароў дваццаць, а то ўсе ўцяклі.

— Там тысячы перавярнулася, ніхто не хоча жыць,— уставіла свае словы баба, што перакладала ў скрынцы дабро.

— Што прадалі, а што й так кінулі дый паехалі назад,— сказала і маладзіца ў будцы.

У гэты час з мястэчка падышоў яшчэ адзін мужчына — маладзейшы і лепшы на выгляд. Ён нёс у руцэ сена лядцы і пучок радыскі. І я ўздумаў, што сёння свята Пятра і Паўла, а ён, гаспадар, есць селядца і радыску.

— З тысячы назад едзе восемсот, гэта праўда,— сказаў ён, пачуўшы размову.— А ўсё каму не сядзіцца? Во гэтым,— паказаў ён на жанчын,— ды гэткаму во,— кіўнуў ён на хлопчыка.— Прысталі, што хоць жыцця рашыся: «Паедзем назад, паедзем назад!» Ну, во, паехалі...

Хлопчык усміхнуўся, а бабы быццам вінавата маўчалі.

Калі я спытаўся аб іхнай мове і нацыянальнасці, гэты мужчына, што пазней прыйшоў, сказаў:

— Мы маларасейцы... [...]

Было іх тут чатыры сям'і.

Божа мой! Колькі ўжо раз рабіў я павароты назад у жыцці сваім... І колькі яшчэ раз буду рабіць?

## СПРЭЧКІ

Душна і нудна.

Падарожных з Благавешчанска шмат.

І ўсім душна і нудна. Замест слова душна лепш можна было б сказаць парна, бо гарачае і нейкае макравае надвор'е.

Побач са мною пасажыр — інтэлігентны чалавек. Нейкі недалуга. 43 гады яму, а сівы. Жывот у яго хворы.

Ціха і супакойна, але з асадкам пахаванае чужацкасці да савецкага ладу жыцця гаворыць ён.

Аказваецца — беларус, інжынер, едзе на бацькаўшчыну, у Віцебск. Дзевяць год пражыў на Далёкім Усходзе. Пытаецца ў мяне пра Беларусь, дзівіцца, навошта патрэбна гэтая беларусізацыя... А сам цягнецца паміраць на Беларусь. Здаровы ўцякаў, а хворы цягнецца назад. І яшчэ бурчыць, што Беларусь не такая, як яму хочацца.

* * *

Ужо надвечар, калі пасцюдзянела, прачнуўся інжынер, закурыў і ўзноў пачаў са мною гутарку на тыя самыя тэмы. Яму, відаць, прыемна трошку спрачацца са мною і наглядаць, як я пахавапа гарачуся.

Але цяпер у гутарку ў нашу ўбіваецца салідны пасажыр, з выгляду савецкі служачы. Тоўсты, моцны, сярэдняга ўзросту, наогул ува ўсім сярэдні. Відаць, яму мая занадта гарачая прыхільнасць да беларушчыны даўно ўжо не спадабалася, і ён цяпер не ўцерпеў.

Ён спярша выказаў, салідна і паважна, камуністычны погляд на нацпытанне, а потым сказаў:

— Партыя зусім правільна праводзіць ажыццяўленне свае праграмы ў нацпытанні. Але ўсё-ткі трэба сказаць, што ў нас цяпер часам лішне многа даюць волі царкве і нацыянальным імкненням.

— Пры чым тут царква?

— Ды пра царкву, няхай сабе, можна сказаць тое самае і ў нас, што і ў вас. Але што да беларускае мовы, напрыклад, дык я чуў нават на з'ездзе ў Маскве, што ў вас там ствараюць нешта даволі-такі штучнае...

* * *

Я лёг з сумнымі думкамі і доўга не мог заснуць... Я ўспомніў, як сядзеў за тую няшчасную беларускасць сваю ў польскай турме...

І колькі ўжо падобных гутарак прыйшлося мне весці на сваім вяку! Ярмо нейкае... якое і муляе і муляе і звязвае ўсё жыццё.

І я думаў: бяссільнасць пакрыўджанага — самае балючае пачуццё. Лягчэй можна дараваць крыўду індывідуальную, чым нацыянальную ці класавую.

Мне ўспомніліся розныя нешчаслівыя моманты ў маім жыцці. Смерць Ганначкі... Гэтая рана ніколі не зажыве. Творчасць, каханне, дастатак — толькі грубыя ці не дужа грубыя лякарствы. Чалавек едзе за тысячы вёрст, за ім едзе яго неадчэпная думка...

Сон узмацняе сілы чалавека. І я ўстаў спакойны і ціхі, але цвёрды.

Хто мяне так знерваваў, аказваецца — сакратар А-ска-

га павятовага камітэта Камуністычнае партыі т. Груканаў. Гэта шапнуў мне інжынер, «на ўсякі выпадак...».

А т. Груканаў загаманіў са мною проста і ветліва. Ён даведаўся, што я маю адносіны да Белар. с.-г. акадэміі, і яшчэ болей змяніў тон на ласку. Дачка яго таксама паступае сёлета ў Цімір. с.-г. акадэмію ў Маскве. І я ўбачыў, што ён любіць дачку, як і звычайны непартыйны, і хоча, каб яна паступіла і ўчылася на добрае здароўе.

Ці думаў я, ці гадаў я, што любоў мая да мовы матчынае зробіць мяне контраю ў вачах такіх патэнтаваных рэвалюцыянераў?

А я думаў: калі не будзе сям'і, родных — і не будзе суму па іх. Калі не будзе нацыі — і не будзе таго ярма, якое ўсё жыццё гняце мяне.

## СЕЗОННЫЯ РАБОЧЫЯ

Едучы па Забайкальскай з. д.[1] на ўсход, я заўважыў, што на аднэй глухой-глухой таёжнай станцыі рабочыя з чыгуначнага адцінку, цэлая дэлегацыя, дзесяць чалавек, шумелі, жаліліся, што іх крыўдзяць, што іх ашукалі, што яны будуць жаліцца ў Маскву, што вось і крушэнні дзеля таго бываюць...

Яны селі на гэтай станцыі ў наш цягнік з дармовымі білетамі да Масквы.

І пакуль я ехаў, яны кідаліся ў вочы на кожнай станцыі, бо ўсе чыгуначнікі-рабочыя, усе праваднікі пагарджалі імі, смяяліся з іх і пад выглядам спрэчак лаялі іх. І дэлегацыя трымалася кучкаю, свой свайго...

Найчасцей я бачыў, мусіць, іхных лідэраў. Адзін, малады, гэта быў тып гультая і забулдыгі — высокі, троху пахілы, у блузе артыста і ў панчохах і старых галёшах. Другі — барадаты, вусы, як у цара Мікалая другога, нізкі, прысадзісты, тупы. Трэці — наджылы, высокі, сіваваты, з выгляду добраабразны, а бліжэй прыгледзеўшыся — касы і злы. Чацвёрты — твар як у п'янчужкі, чырвона-спечаны і нездарова змяты, у зубох вялікая шчэрба спераду і збоку.

Аказваецца, іх прывязлі на працу з Масквы. Плоцяць ім па 2 р.50 к. на дзень, а яны хочуць па 5 р. на дзень. Жа-

---

[1] Чыгунцы.

ляцца, што не ведаюць, на якіх умовах яны працуюць, што харчоў у тайзе няма і цяжка падвозіць... І шмат розных крыўдаў маюць яны ў запасе.

— Абібокі, гультаі, абы ездзіць дарма ды не працаваць,— лае іх наш праваднік.

— Ну, ты, халуй! — цыкае на яго той, што ў блузе артыста.

— Здзельна працаваць не хочаце...

— А табе якое дзела?

А я думаю — мусіць, тайга іх так настроіла.

## БАЙКАЛ

16 ліпня, рана-рана, мы пад'язджалі да Байкала. Цягнік робіць вакол Байкала кругу 240 вёрст, бо калі ехаць проста, дык усяго 40 вёрст, а калі аб'язджаць — дык 280 вёрст.

Раней перавазілі цягнік на ледаколе. На ім было тры рэйкавыя калейкі, на 7 вагонаў кожная — 21 вагон маглі перавезці зараз.

Ледакол разбілі ў часе грамадзянскае вайны.

Байкал вялікі, даўжынёю 900 вёрст, а ўшыркі вёрст 40—60.

Байкал не даследаваны. Ёсць глыбіня больш вярсты. Ёсць, як кажуць, бяздонныя месцы, і Байкал нібы злучаецца пад зямлёю з акіянам... Байкі!

Скала стрымлівае ваду, а то заліло б увесь Іркуцк.

З Байкала рэкі і выцякаюць і ўпадаюць у яго.

У Байкале жыве звер нерпа.

Шапка «нэрпічча» ў Іркуцку 3 р. 50 к. Пінжакі з нерпав[ае] скуры шыюць. Скура з кароценькаю поўсцю, як бобрык. Нерпа вылязае ўвосень і вясною. Важыць 4—7 пудоў. Салам топленым боты шмаруюць, машыннае масла робяць, прадаюць у аптэцы.

Пахмурны Байкал... Плешча, хоча размыць бераг. Робіць з каменя мох... Сцюдзёна. Вецер.

Апавяданне пра русалку.

Селянін. Сібірскі казак. Пісьменны. Чытаў розныя кніжкі. Апавядае, што бачыў у Байкале русалку. Галава,

як у жанчыны, толькі дужа зялёная і валасастая. Хвост — рыбі. Рукі — як у цюленяў лапы. Мылася. Ранецька. З-за кустоў бачыў. Шамнуў. Насцеражылася. Засмяялася, як нямая, плёснула лапамі і нырнула ў бяздонне.

Каму ні казаў — ніхто не верыць. Інжынер пачынае казаць, што можа быць міты — не выдумка. Таісія Іосіф. думае, што ў яго была галюцынацыя. Сяргей Георгіевіч — не верыць: выдумка, каб ашукаць нас і пасмяяцца з нас. Груканаў нападае на цемнату: нават калі б гэта праўда была — трэба змагацца з ёю, бо гэта дурман, аплот для рэакцыі. І спытаўся: колькі ў цябе дзесяцін зямлі? А перад гэтым гутарка аб вялікіх поспехах навукі, радыё, [пра] аэрапланы, расклад атамаў.

Я маўчаў і ўяўляў, што гэта я бачыў русалку.

## [НА СТАНЦЫІ ЧАРНАРЭЧАНСКАЙ...]

На ст. Чарнарэчанскай дзяўчаты прадавалі даволі добрыя суніцы. Жанчына гаварыла па-беларуску, паўночна-ўсходнім дыялектам: «Пасьпеіць, дзядзька...» У дзяўчыны спадніца саматканая, як у нас.

18 ліпеня, нядзеля

Ст. Клюквенная. Маса ўсякіх прадуктаў. Тут, кажуць, гарадок. Я толькі што прачнуўся і паспеў выйсці толькі выпіць бутэльку малака за 8 к. Вялізная ўзгаркаватая раўніна з дробным мешаным, але больш хваёвым падлескам.

Начою праехалі Канск-Енісейскі — пуста, убога, як і ў Ніжнявудзінску.

Учора ад ст. Замзар і да позняга вечару — машкара на станцыях такая, што забівала мне дыханне. Даволі буйная, дык тут з сеткамі косяць і інш. (але далёка не ўсе).

Чым бліжэй да Краснаярска, тым болей гор. Але і вёскі з драўлянымі стрэшкамі, нівы, людзі. На станцыях усяго многа.

У Красиаярску стаялі гадзіны дзве ($5^3/_4$—$7^3/_4$ м. ч.). Ад'ехалі, пастаялі з $^1/_2$ г. і вярнуліся назад, бо паравоз з рамонту і зараз папсаваўся.

Чуюся так сабе. Жывот не ў парадку і галава троху баліць (у левай частцы лоба).

## НУДНА

19 л і п н я, станцыя Балотная

Як на ліха тавара-пасажырскі цягнік № 11, з якім я меўся даехаць да Новасібірска, сёння спазніўся на дзве гадзіны: замест 5.14 дня, будзе 7.14 увечары.

І я мушу сядзець на станцыі і чакаць. Іду ў буфет. Мне хочацца есці, але ў мяне баліць жывот, і ў буфеце няма нічога, што можна б было мне з'есці без шкоды для майго жывата.

Газет няма, хоць станцыя пры даволі значным гарадку, які таксама завецца Балотная.

Саджуся тут і пішу адкрыткі... Заказаў шклянку гарбаты.

Пайшоў дожджык і не сціхае. На вакзале ціха. У нашым буфетным пакоі (а тут буфет толькі 1-га і 2-га класса), за столікам у кутку, пры печы, нейкія паджылыя вакзальныя людзі п'юць піва. Адзін, з чыгуначным значком на шапцы, вымаўляе па-ўкраінску. Ён грубаваты жартаўнік і ўсіх пацяшае сваімі жартамі.

Да іх падсеў быў міліцыянер — малады, жвавы і прыгожы, але твар у яго чырвоны і п'яны, язык заплятаецца. Відаць, выпіў міліцыянер. Яны гавораць з ім і глядзяць на яго так, што ён зразумеў і ўстаў ад іх. Размашыста падступіўся да тоўстае, гладкае і маслянае буфетніцы. Чую: папіжонным голасам просіць яе, каб яму далі яшчэ бутэльку «ачышчанай»... Буфетніца масляна ўсміхаецца, але муляецца, даваць не хоча.

Уваходзіць начальнік у чырвонай шапцы. Не заўважаючы міліцыянера, становіцца з ім побач і штосьці кажа буфетніцы. Міліцыянер змыўся... Буфетніца палюбезнічала з начальнікам, і ён ужо пайшоў.

Паднялася і кампанія, што піла піва і жартавала.

У пакоі ціха і нудна. Пахаджае за буфетам і ў дзверы

ў сумежны пакой буфетніца. Яна ў мяккіх пантофлях, пазванівае ключыкамі.

Меладычна б'е гадзіннік, высока на сцэнцы. Шэсць гадзін. Мне чакаць яшчэ болей за гадзіну. Дожджык за вакном не сціхае...

Я напісаў усе адкрыткі. І думаю: яны пойдуць туды, дзе бурнаю крыніцаю б'ецца наша новае творча-будаўнічае, рэвалюцыйнае жыццё... І туды, дзе цяпер людзі адсягаюць ярыну, і поляць гароды, і, можа, косяць ужо і грабуць... і туды, на Далёкі Сахалін, дзе Фёдар Канцавы набразае перасяленцам новыя, неабжытыя землі.

Прыйшлі два маладыя чалавекі і селі за пару піва, за столік пасярод. Мусіць, таксама якія тутэйшыя служачыя.

Зараз за імі — дзве паненкі з яшчэ адным маладым чалавекам. Паненкі зірнулі ў люстру і селі пад ёю на канапку, супроць таго століка. Той, што прыйшоў з імі, сеў на крэсла побач.

Памаўчалі, паглядзелі.

Чорненькая кажа аднаму таму маладзенькаму, што селі за пару піва:

— Чыго вы нервнічаіцё?

Я думаю: якая гэта ў яе гаворка, чыго, а не чыво, і ё ў слове нервнічаіцё.

Той толькі паглядзеў і сеў каліўца бліжэй да іхняе кампаніі, пасунуўшы крэсла. Відаць, гэта ўсё свае людзі.

Потым яна захацела ісці дамоў. Яе просяць пабыць. Гамоняць, жартуюць, а сумны дожджык ідзе.

— Спаць хачу,— кажа чорненькая...

— М...— сказаў нешта той, што на яго казала, чаго ён нервуецца. Пакручвае іківае шклянку з півам у руках. Сумны. Завуць яго, аказваецца, Пеця.

— Развлекацца? Кем і чэм? — пытаецца яна ў яго, надзьмуўшы губкі.

І гэтак далей.

## МАЛА СІЛЫ

7.14 увечары. Я сеў у вагон — бітма набіты і брудны.

Але добра;: я знайшоў тут дзве беларускія сям'і перасяленцаў... Яны ехалі назад у сваю Чэрыкаўшчыну.

Едуць з Далёкага Усходу, з Бачкарова. Шукалі там надзелаў угару па Томі вёрст на 80 і ўніз вёрст на 30.

«Пагаманю яшчэ з імі»,— падумаў я. Але было цесна. І было невыгодна сядзець пад нарамі, сагнуўшыся, і сыпалася на галаву.

Потым страшэнна плакала дзяўчынка ў адной перасяленкі. Ёй балеў жывот. Маці гушкала яе, ледзь сама не плачучы, і ўсё прымаўляла жаласна: «Любае дзіця... Мілае дзіця...» Валосікі ў беднае дзяўчынкі светлыя, тырчаць доўгія, а ножкі — як спічкі...

Раней я чуў ад кагосьці, што ў вёсках каля Бачкарова, вёрст за 15—16, Дубнічкі, Паляна, Серкіна, Сасновы Бор, трэба капаць калодзеж на 15 сажняў, каб дастаць вады. Але вада добрая. У лясах там расце і дуб. «Партызаны тут спасаліся».

Калі дзяўчынка троху агоўталася, перасяленец, сярэдні мужчына, сказаў мне, што вёрст [за] 15 ад Бачкарова, раз'езд Беланогава, вёска Паляна, гадоў 15 жывуць перасяленцы з іхняе вёскі (яны з Чэрыкаўшчыны, 3 вярсты ад Прапойска).

Прычына іхнага павароту — «мала сілы». Сям'і шэсць чалавек, а працаўнік адзін. А хадакі казалі зусім другое.

— Як жа вы цяпер будзеце, вярнуўшыся?..— спытаўся, хочучы сказаць, што цяжка ім будзе вярнуцца ізноў, назад, на тое самае, і яшчэ горшае, пакінутае, разбуранае.

— Якся абойдзецца,— адказаў ён.

— Сядзь жа, мілае дзіця, на ціпушачкі,— садзіла перасяленка дзяўчынку апраўляцца. Яна чула нашу размову і колькі разоў паўторыла: — Мала сілы... Ах, што ж, калі мала ў нас сілы.

## ЛЮСТРАДЗЁН

### ПАГРАНІЧНЫ ІНЦЫДЭНТ НА АМУРЫ

28 жніўня 1929 г. у сераду ў невялікім пасёлку Нова-Смаленскім, што пад самым Амурам, на мяжы СССР з Кітаем, праз увесь дзень і ўвечары, стаяла ціхае і цёплае надвор'е з прыемным свежым тонам у паветры.

І як сцямнела і знайшоўся вольны час ад работы, дзве тутэйшыя рускія камсамолкі, сёстры Аня і Дуня Багатыровы, пайшлі пагуляць з двума тутэйшымі камсамольцамі, братамі Чан-Бао і Сун-Бао.

Дзяўчаты былі дочкі качагара, а хлопцы — сыны рамонтнага рабочага. Яны ўжо колькі год жылі на адным падворку і па-суседску здружыліся. Цяпер час быў неспакойны, чакалі вайны, расійскія белагвардзейскія аддзелы рабілі ўжо там-сям напады на савецкую зямлю, і позна ўвечары гуляць было небяспечна.

Але гэтымі днямі Аня Багатырова, скончыўшы вытворчую практыку, ехала ў Маскву, у Ціміразеўскую сельскагаспадарчую акадэмію, дзе ўжо пераходзіла на трэці курс, і з ёю разам меўся ехаць і Чан-Бао канчаць Камуністычны універсітэт народаў Усходу. Дык захацелі пагуляць перад ад'ездам з свайго пасёлка, так далёкага ад Масквы. А з імі пайшлі і Дуня з Сунам.

Але бацькі гэтых камсамолак і камсамольцаў, ведаючы сваіх дзяцей, нічога не баяліся і толькі прасілі іх, каб яны гулялі разам і не заходзілі б вельмі далёка ад пасёлка.

Бесклапотная моладзь хутка забылася на ўсе перасцярогі. Яны ішлі ўжо за пасёлкам, уздоўж чыгункі, большая па́ра — Аня і Чан — наперадзе, а меншая — Дуня і Сун — трохі астаўшыся. Ішлі, весела гамапілі, смяяліся. Маладосць — самая бесклапотная і шчаслівая пара̀ ў жыцці чалавека.

А тым часам лепей было б ім сёння так далёка не хадзіць...



Якраз у гэты вечар расійскі белагвардзейскі аддзел краўся ад Амура, уздоўж чыгункі, каб напасці на Нова-Смаленскае. Яму было дадзена ў Харбіне аператыўнае заданне: напасці на пасёлак, разбурыць станцыю, папсаваць чыгуначную каляю і павесіць усіх пасялковых камуністаў і савецкіх працаўнікоў.

— У бой за бацькаўшчыну,— казаў начальнік аддзела, фанабэрысты і заядлы афіцэр, рускі патрыёт, родам з дробнае шляхты Магілёўскае губерні.— Або памерці, або ўратаваць Расію,— казаў ён, і словы яго часам яму самому здаваліся пустымі і фальшывымі, але ён гнаў прэч думкі самакрытыкі і ўпэўніваў сябе, што робіць вялікую і важную справу.



Белагвардзейцы напалі на іх так знянацку, раптоўна і нечакана, што ні Дуня, ні Сун-Бао, заставўшыся жывыя, ніяк не маглі потым уздумаць і сказаць парадкам, як гэта ўсё здарылася.

Яны памяталі толькі, што Чан-Бао паспеў стрэліць з рэвальвера і, мусіць, гэтым стрэлам забіў белагвардзейскага афіцэра, труп якога знайшлі потым на гэтым месцы. Дуня яшчэ апавядала, што калі на Чана кінуліся з шашкамі другія белагвардзейцы, дык Аня хацела засланіць яго сабою. Белагвардзейцы спачатку не стралялі — пэўна, каб не было шуму, і пасеклі бедных Аню і Чана шашкамі.

Сун-Бао спярша акамянеў быў на месцы, а потым, зразумеўшы, дзіка рынуўся на дапамогу брату і Ані. Рэвальвера ў яго не было, і ён у вялікай ярасці выхапіў з рук у аднаго белагвардзейца стрэльбу і пачаў ёю махаць вакол сябе. У гэты момант Дуня страшна закрычала, збітая нападнікамі з ног. З зямлі яна ўбачыла, што Суна завалілі і б'юць нагамі. Калі ж яна хацела падняцца, яе так моцна выцялі кулаком па галаве, што яна страціла прытомнасць.



Пачуўшы стрэл з рэвальвера і дзявочы крык, падняла трывогу чырвонаармейская застава. Чырвонаармейцы беглі на ратунак, і тады белыя пачалі страляць. На стра-

ляшіну ў момант падняўся ўвесь пасёлак, па станцыі завыла сірэна. Усе рабочыя з чыгункі, рускія і кітайцы, і ўсе пасялковыя рамеснікі і сяляне, таксама як рускія, так і кітайцы, схапіўшы, хто што меў, беглі адбіваць напад.

Іван Багатыроў пачуў трывогу, калі дапіваў гарбату, прыйшоўшы з работы. Ён сарваў са сценкі дубальтоўку і выскачыў на вуліцу.

Разам з ім выскачыў з свае кватэры і яго сусед Фын-Бао з жалезным крукам у руках.

Ні слова адзін аднаму не сказаўшы, яны з усяе сілы пабеглі па вуліцы за пасёлак, у той бок, куды пайшлі гуляць іхнія дзеці і дзе цяпер стракатаў з чырвонаармейскае заставы кулямёт і з усіх бакоў бахалі стрэлы з карабінаў.

Яны прыбеглі, калі абстрэленыя белагвардзейцы ўцякалі ўжо за Амур, на кітайскі бок. Яны прыбеглі, калі чырвонаармейцы і рабочыя дружыннікі, асвятляючы дарогу факеламі і пяючы «Інтэрнацыянал», вялікім натоўпам неслі з поля ў пасёлак забітых і раненых.

І яны, Іван Багатыроў і Фын-Бао, падбегшы да натоўпу і зараз даведаўшыся пра жудасную для іх навіну, таксама далучыліся да ўсіх і моўчкі пайшлі за насілкамі, на якіх іхнія пасялковыя людзі няслі... каго няслі? О, гора, гора! Як гэта прыняць бацькам да свядомасці свае бацькоўскае?

Усяго было шэсць насілак. На першых спераду няслі забітага Чана, як якога палкаводца, а за ім, на другіх насілках, няслі забітую Аню, як нявесту яго ці памочніцу. На трэціх насілках няслі ўсяго залітага крывёю раненага Суна, а на чацвёртых — таксама ўсю ў крыві і непрытомную Дуню, а такую ж яшчэ ў гэты дзень харошую і вясёлую дзяўчыну. На пятых насілках няслі раненага чырвонаармейца. На шостых насілках няслі раненага дружынніка з рабочае дружыны.

Іван Багатыроў і Фын-Бао спярша то забягалі наперад да насілак, на якіх ляжалі іхнія дзеці, то заставаліся, збіваючыся з нагі.

А потым пайшлі адзаду, за самымі апошнімі насілкамі, побач адзін з адным пайшлі, і нават ціха падпявалі, без слоў, услед за ўсімі «Інтэрнацыянал». І стрыманае гора душыла іх.

— Фын! Браце ты мой, Фын! — прашаптаў раптам Багатыроў, узяў упоцемку кітайцаву руку і на ўсю сілу сціснуў яе.

І трошку сорамна зрабілася Івану, што ў гэтых словах і ў гэтым націсканні рукі — недарэчы і па-смешнаму выявіў ён нешта такое, што, можа, не трэба было выяўляць.

— Івана! Мая сына — твая сына... Твая дачок — мая дачок...— залепятаў скрозь слёзы Фын і схапіў і прыклаў Іванаву руку да свайго сэрца.

А з пасёлка яшчэ ішлі і беглі на спатканне розныя людзі — і беглі там хваравітая Багатырыха і маленькая Фынава дачушка, заўсёды такая вясёлая і жартаўлівая Лі-Бао.

Хваравітая Багатырыха, проставалосая, расхрыстаная, бегла ратаваць сваіх дзяўчат, яшчэ не ведаючы, што ўжо нясуць іх ёй, маці, насустрэчу. Яна радавалася, што страляніна за пасёлкам троху ўжо аблягласся, а сірэна на станцыі перастала выць. Але калі трывожныя думкі ізноў прыпякалі ёй сэрца, яна ізноў паддавала ходу і бегла, задыхаючыся ад свае хрыпаты.

Маленькая кітайка-піянерка Лі-Бао вясёла бегла на падмогу сваім любым братам-камсамольцам, яшчэ не ведаючы, што ўжо ніколі не пажартуе з ёю смяшлівы Чан і не скора, вельмі не скора пачне ізноў вучыць яе бальшавіцкай грамаце строгі Сун...

А другая маці, таксама як і Багатырыха, немаладая ўжо жанчына, кітайка Лю, засталася далёка адзаду, у пасёлку, бо не магла бегчы на сваіх дробненькіх ножках, што змалку, праз дзікі стары звычай, былі забіты ў калодкі і таму не выраслі.

Яна там, астаўшыся, дыбала, як калека, качалася з боку на бок, як сухая быліна, і расстаўляла рукі і плакала, не абціраючы слёз.

Яна плакала, што ізноў вайна, ізноў страх і неспакой, і праклінала тых сваіх кітайскіх генералаў і тых белых рускіх, што хочуць біць бедных людзей рускіх і бедных людзей кітайскіх.

І было ўжо ціха і вельмі цёмна, толькі далёка дзесь па-над Амурам яшчэ троху, але ўжо рэдка стралялі.

Сумна-пабедная працэсія, і факелы, і песня «Інтэрнацыянал» увайшлі ў пасёлак, і тут, пасля ўсяго і пасля расходу ўсіх, разгарнулася паслятрывожная ціша. І хто зусім супакоіўся, а хто пачаў яшчэ несвядома шукаць у роі сваіх страшных ад непапраўнага гора дум — шукаць ужо апраўдання і прымірэння. Так ідзе шлях да супакою.

На чырвонаармейскай заставе, у дашчатай пуні, закрытай на замок, на стале на козлах, нерухома ляжаў труп, што яшчэ ўдзень быў заядлым і фанабэрыстым афіцэрам, рускім патрыётам.

А ў Харбіне жонка, паклаўшы дзяцей спаць, пісала яму вясёлы ліст. Удзень яна атрымала ад яго перавод на грошы і таму была ў дужа добрым гумары і таму пісала яму асабліва лісліва, пісала ўсё тое, што, як ужо добра ведала, павінна было яму спадабацца. Яны не дужа любілі адзін аднаго і заўсёды разумелі, калі і чаму пачыналі адзін аднаму ільсціць, а калі і чаму — сварыцца.

І яна пісала яму, не ведаючы, што ён ужо не прачытае, і што не пасварацца яны ўжо болей ніколі, і што будзе ёй без яго, ды з дзяцьмі, цяжка жыць, бо гэта апошнія грошы, якія зарабіў ён, і зарабіў такою цаною.

Скончыўся дзень.

## СМЕРЦЬ [ПАЎЛЮК ТРУС]

1/IX

Стары Трус і яго Марылька складалі аўсяныя снапы на таку.

Ён быў на тарпе і моўчкі складаў, лічачы, колькі будзе тых снапоў з гэтага возу.

Яна патрошку кідала яму снапы на тарпу, каб не дужа замарыць старога бацьку.

І думала: каб мог Паўлюк пабыць удому яшчэ хоць трошку, хутчэй бы ўправіліся з работаю.

Але ж мусіў ехаць Паўлюк у Мінск, бо ўжо пачыналіся заняткі ў універсітэце, і казаў яшчэ, што мае гэтым часам падрыхтаваць у друк свой новы зборнік вершаў.

Мала й пабываў ён сёлета ў іх. А за той кароткі тэрмін быў з усімі такі ж добры, такі ж ласкавы...

* * *

Забыўшыся, яна высока махнула сноп, і ён зваліўся ёй назад.

Усміхнулася — і якраз убачыла, што босы хлопец-лістапосец, ён жа і сакратар вясковае камсамольскае ячэйкі, узышоў на ток і прыстоіў...

І другія хлопцы, іхныя вясковыя, спыніліся з ім у варотах, быццам не ведаючы, узысці ім таксама ці не.

Камсамолец трымаў нейкую складзеную квадрацікам паперку.

І, зірнуўшы на яго твар і на тую паперынку, Марылька раптам адчула ў руках нейкую млявасць.

— Тут вам... Марылька... здаецца, пра Паўлюка...— сказаў, падходзячы, камсамолец; стараўся быць спакойным і не вытрываў;—тэлеграма...— дадаў ён, і голас у яго задрыжэў і асекся, і хлапец нібы глытнуў слёзы. І Марылька зразумела, што яму на пошце сказалі ці як іначай, але ён ведае пра тое страшнае, што там напісана.

— Кідай жа там! — крыкнуў быў, не азіраючыся, стары Трус, але не прычакаў чарговага снапа, пачуў гамонку, убачыў лістаносца з папераю і тых хлапцоў у варотах і рупненька палез па драбінцы з тарпы ўніз.

Спаміж усіх старых у вёсцы ён быў адзіны чалавек, што ўмеў чытаць і друкаванае і рукапіснае.

Злез, дапытліва і невясёла зірнуў на лістаносца і ўзяў у яго з рук тую тэлеграму.

«Паўлюк... памёр... брушнога тыфусу... безадкладна прыязджайце... пахаванне панядзелак другога верасня»,— слова па слову прачытаў ён і ўжо нічога не бачыў ад раптоўнага туману ў вачах.

* * *

Бывае ў жыцці такі момант.

Ён выпякае ў сэрцы след на ўсё жыццё.

Марылька дзіка крыкнула.

Потым, як выпушчаны з рукі сноп, апала на аўсяны груд і прыдушана, трасучыся ад глухой роспачы, ціха загаласіла:

— А мой жа ж ты бра-ту-у-улечка!

— Ах ты, Паўлючок ты мой, Паўлючок! — выдыхнуў з грудзей цяжар навстра стары бацька.

І не ведаў ён, што ўжо цяпер казаць, што ўжо цяпер рабіць...

Невымоўная смяротная туга сціснула яму сэрца.

Яна выпякала свой след на ўсё жыццё.

І след яе бывае тым глыбейшы, чым менней застаецца жыцця.

Ніці абрываюцца назаўсёды.

# ПРАСТУДА МІСТЭРА РАМЗАЯ

Ангельскі прэм'ер-міністр, лідэр рабочае партыі, містэр Рамзай Макдональд, сядзеў у сваім кабінеце і чытаў біблію.

Усе апошнія дні Лондан быў у безупынным дробным дажджы з ветрам, і прэм'ер трохі прастудзіўся. Доктар загадаў яму не выходзіць з дому, нікога не прымаць, не займацца справамі і нават не пісаць дзённіка.

І ён сядзеў у сваім цёплым кабінеце, у мяккім халаце, у пантоплях з пуху, слабаю рукою расчэсваў свае ўжо трохі выпетраныя сівыя кудры і вусы белым, слановае косці, грабеньчыкам і чытаў вялікую кнігу старажытнае мудрасці.

Але ўвесь час неадчэпна лезлі яму ў галаў думкі аб сучаснай Палестыне, дзе ў гэты момант лілася кроў.

І мімаволі разважаў ён, як бы шукаючы сабе апраўдання: «Арабаў настроілі камуністы, і кроў, якая там цячэ, няхай ляжа на іхняе сумленне. Яўрэйскі народ заслужыў дэкларацыю Бальфура, і мы не можам скасаваць яе. У імя права і парадку, у імя культуры і цывілізацыі мы павінны страляць там у гэтых няшчасных паўстанцаў...»

І раптам прыгадаўшы, што яму не можна думаць на такія тэмы, каб грып не ускладніўся на яго нервовай сістэме, Рамзай Макдональд захацеў яшчэ болей углыбіцца ў чытанне святога пісьма, каб супакоіцца.

Ён гартаў біблію, думаючы, на чым спыніцца, і спыніўся на тым сваім улюбёным месцы, дзе Абрагам, паводле божага загаду, ідзе рэзаць свайго роднага сына Ісака.

І ён чытаў і дзівіўся вялікай душэўнай моцы ўсвятога Абрагама... і хацеў быць сам такім, як Абрагам...

І, думаючы так, патроху зусім супакоіўся, згарнуў біблію, пацягнуўся ад хваравітае зябкасці, высмаркаўся і пачаў класціся спаць.

* * *

Калі ж у Лондане была яшчэ цёмная ноч, над далёкай Палестынай ужо займалася на дзень, і ў горадзе Ерузалеме, у нейтральным армянскім квартале, у глухім, без вакон на вуліцу доме, канчаўся сход аднаго падпольнага гуртка ерузалемскае камуністычнае моладзі,

На сходзе горача і балюча абмяркоўвалі бягучы момант.

У сакратара гуртка, камсамольца-яўрэя Абрагама, учора па дарозе пад Ерузалемам цёмныя арабы-фелахі забілі бацьку.

У члена гуртка, камсамолкі-арабкі Айшы, гэтымі днямі была цяжка паранена маці — шалёнаю куляю, што залящела ў вакно з вуліцы, калі яўрэйскія дружыннікі адстрэльваліся ад арабскага натоўпу каля Сцяны Плачу. Айшына маці жыла на вёсцы і толькі выпадкова была ў Ерузалеме, прыехаўшы даведацца дачкі і разам прадаць мяшэчак гародніны.

Прамаўляючы, Абрагам і Айша і ўсе таварышы, якія выступалі, з усіх бакоў высветлілі сутнасць паўстання арабаў, і адначасна была прынята рэзалюцыя, апошнія два пункты ў якой былі такія:

1. Усімі сіламі распаўсюджваць адозву, выпушчаную камуністычнай партыяй па арабскай і яўрэйскай мовах, аб спыненні дзікай бойкі, патрэбнай толькі ангельскаму імперыялізму, яўрэйскай буржуазіі і арабскім нацыяналістам і скіраванай супроць адзінага інтэрнацыянальнага пралетарскага фронту.

2. Мабілізаваць усіх сяброў гуртка для распаўсюджання адозвы.

Сход скончыўся, калі над горадам Ерузалемам ужо свяціла гарачае сонца. Абрагам і Айша выйшлі са сходу разам і разам жа дайшлі яны да мусульманскага кварталу — моўчкі, нічога не гаворачы, але з адным сэрцам і з аднымі думкамі.

Калі яны хацелі ўжо разысціся, з аднаго падворка выскачылі арабскія хлапчукі і, закрычаўшы: «Бі яго!»,— закідалі Абрагама каменьчыкамі і чарапкамі ад пабітых гарлачоў.

Адзін чарапок балюча ўдарыў Айшу па калену, але Айша не спалохалася і не пабегла... Яна абхапіла Абрагама левую рукою, а праваю дастала з кішэні пачак адозваў, сыпнула іх да хлапчукоў і крыкнула па-арабску:

— Цёмныя дзеці! Прачытайце, што тут напісана, і вы будзеце ведаць праўду!

Хлапчукі пахапалі адозвы і разбегліся...

Абрагам і Айша, сціснутыя сардэчнай горыччу, завярнулі тады ў яўрэйскі квартал.

Калі яны праходзілі міма першых яўрэйскіх дамоў, на спатканне ішла яўрэйская пахавальная працэсія — пад

аховаю ангельскіх салдатаў. Гэта вязлі на вечны адпачынак Абрагамавага бацьку.

Адзін стары барадаты яўрэй, убачыўшы Абрагама з арабскаю дзяўчынаю, агідна адхаркаўся і плюнуў у твар Абрагаму.

Другі, такі самы барадаты законнік, толькі маладзейшы, сагнуўся, зграб жменю пылу і засыпаў Айшы вочы.

Абрагам, белы як палатно, дастаў з кішэні пачак адозваў на яўрэйскай мове і сыпнуў іх перад сабою; быццам абараняючыся. Некалькі адозваў надхапілі маладыя хлапчукі-сіяністы. Адзін з іх перадаў яе бацьку — багатаму крамніку. Той зірнуў на яе, схапянуўся і ўраз надбег да начальніка ангельскае варты, што вёў за сабою ўсю працэсію, і, тыкаючы перад ім брудным кіпцястым пальцам то ў адозву, то на Абрагама, шыбка забалбатаў, блытаючы ангельскія і яўрэйскія словы: «Камуніст! Камуніст! Будзь проклят! Арыштаваць! Арыштаваць!..»

Начальнік махнуў сваёю булдавешкаю, і салдаты аховы падышлі да Абрагама і Айшы, надзелі ім наручнікі, прымкнулі адзін да аднаго тым прыгожа зробленым ланцужком і павялі іх у другі бок ад працэсіі, у завулак, дзе турма.

А ў гэты час у вайсковым шпіталі памірала цяжка параненая фелашка-маці.

* * *

І ў гэты самы час, раніцою 8 верасня 1929 года ў далёкім Лондане, прачнуўся ангельскі прэм'ер-міністр, лідэр рабочае партыі, містэр Рамзай Макдональд, трохі хворы на прастуду.

І калі ён прачнуўся, яго старэйшая дачка, разумная, прыгожая і скромная міс Бэтсі, змераўшы яму тэмпературу, ласкава сказала:

— Татачка, чытаць газеты сёння табе забараняю... Але будзь зусім спакойны: усе тэлеграмы гавораць аб тым, што падзеі ў Палестыне, у выніку рацыянальных мерапрыемстваў нашага ўраду, ідуць на спад...

Ён з бязмерным бацькаўскім пачуццём любіў сваю Бэтсі, якая была так падобна да нябожчыцы маці і замяніла яе ў асірацелай сям'і містэра Рамзая.

# НЕРАЗГАДАНЫЯ ЛЮДЗІ

8 верасня 1929 г. з раніцы ішоў дождж і было дужа золка, а потым хоць не дужа пацяплела і дзьмуў рэзкі вецер, але зрабілася ўсё ж ткі святлей і весялей.

І дзеля таго, што была нядзеля і можна было спадзявацца на большы праход розных людзей,— стары жабраккалека Адам Скарына вылез з свайго закутка і прыкандыбаў на сваіх кавёлах у гарадскі сад.

Ён стаў на галоўнай дарожцы, якою быў самы ход у горад і з горада назад, і, як заўсёды, пачаў украдня і неўпрыметку, здаля, лавіць поглядам людзей, каб ведаць, у каго і як прасіць.

Ён ведаў, што найчасцей падаюць яму людзі сярэдняга веку, мужчыны і жанчыны, калі яны ў бедпай вопратцы і з простымі тварамі. Мусіць, яны пачынаюць ужо думаць пра сваю старасць, пра свой канец.

Давалі яны мала, 2—3 капейкі, часам 5, але давалі амаль што кожны дзень, не міналі яго безуважна і давалі, паглядзеўшы на яго, самі, без асаблівага канькання з яго боку. І жыў ён, галоўным чынам, сродкамі гэтых людзей.

Найскупейшымі ў яго вачах, з яго практыкі, былі старыя і дзеці, без розніцы класа і заможнасці. Старыя заўсёды скупы, а дзеці заўсёды безуважна-эгаістычны. (Слова «эгаізм» Адам Скарына, пэўна ж, не ведаў, але паняцце ў яго было тое самае, толькі якім словам ён яго выражаў ці зусім ніякім не выражаў,— не ведаю.)

Цяжэй было яму ўгадаць, калі падасць жанчына, у якой твар і вопратка сведчылі, што яна ўжо выбіваецца ці ўжо выбілася з простых людзей у чыстае жыццё. Часам гэтыя жанчыны, асабліва калі яны ішлі з дзяцьмі на пагулянку, давалі шчодра, 10—15, а то і 20 капеек. А часам грэбліва адварачваліся, каб нават не паглядзець на яго.

Занятыя савецкія служачыя, мужчыны, у некаторым сэнсе былі падобны да гэтых жанчын: часам давалі добра, на хаду памацаўшы ў кішэні і выцягнуўшы адтуль, што там трапілася, а часам праходзілі з сваімі тоўстымі партфелямі, як сляпыя, не бачачы свету.

* * *

І самая цяжкая справа было зразумець яму тых людзей, якіх ён ведаў, што яны важныя, усім вядомыя цяпер людзі.

Праўда, такіх ён ведаў мала.

Некаторыя з іх ніколі і нічога яму не давалі, і стары чуў ад некага, што ў іх цяпер такі закон: ніколі нічога не даваць жабракам, каб яны не стаялі на вуліцах.

А некаторыя такія асобы, бывалі выпадкі, шчодра давалі яму. Відаць, закон у іх быў не для ўсіх роўны.

Жабрак баяўся назаляць такім людзям занадтым прыставаннем, бо заўсёды памыляўся ў сваіх меркаваннях наконт іх.

І сёння, калі ён убачыў, што ідзе ў шэрым пінжачным касцюме, без паліто, і ў шэрай кепцы старываты, але зграбны постаццю і лёгкі на ногі, прыемны з твару прафесар-камуніст Старабыльскі, ён спярша хацеў выткнуцца далей наперад, выцягнуць руку перад ім на дарожку, а потым, зірнуўшы на задуманую пахіленую галаву з бурымі калматымі бровамі, застаўся на сваім месцы і нават трошку сціснуў сябе і падаўся назад.

А Старабыльскі прыпыніў крок, не спяшаючыся дастаў партманецік, выняў сярэбраную манетку і ўважліва паклаў яе Адаму Скарыне ў самую шапку. Даў 20 капеек.

Зараз за добрым Старавольскім ішоў у рудым замежным паліце і ў фасоністым капялюшы, чорны, барадаты, падцягваючы троху нагу, былы эканом графаў Чапскіх. Цяпер ён быў камуніст і камісар.

І стары калека, сам былы слуга графа Чапскага, радасна нераставіў свае кавялы бліжэй на дарожку...

Але таварыш Бацяноўскі злосна зірнуў на яго і пайшоў, нібы пакрыўджаны.

І Адам уздыхнуў, думаючы аб гэтых неразгаданых людзях...

## СОН

13 верасня 1929 года, у пятніцу, быў ясны, сонечны, халадкаваты восеньскі дзень. У паветры лунаў свежы арамат, стаяла салодкая бадзёрасць.

Перад вечарам мне дакучыла сядзець у панурым закутку і чытаць газеты. Я змарыўся.

Я пайшоў пагуляць і зайшоўся па дарозе да аднаго свайго земляка, Пётры Старабыльскага. Працаваў у рэдакцыі «Чырвонае краіны».

Калі я прыйшоў, ён сядзеў адзін у сваёй кануры. На стале стаяла распачатая бутэлька гарэлкі, ляжаў агурок, і не на талерцы, а на кавалачку фанеры, і быў гэты мой зямляк выпіўшы, нягледзячы на тое, што вечар яшчэ толькі пачынаўся.

На мае пытанні, як яму жывецца, пачаў ён жаліцца, што, мусіць, «здымуць яго з работы»: скора партыйная чыстка, а нехта ўбачыў яго на вуліцы п'янога.

— Ну, гэта глупства,— сказаў я,— калі за табою няма нічога больш паважнага.

— Што за мною можа быць? — адказаў Пётра.— І ў мінулым і ў сучасным я чыст і ясен, як бутэлька гарэлкі. Але я ўпэўнены, што мяне чакае нейкае ліха...

І ён наліў паўшклянкі і набгом выпіў.

— Адкуль жа ў цябе гэтая ўпэўненасць без усякіх падстаў? — здзівіўся я і, падумаўшы, дадаў: — Не пі так многа, зашкодзіць.

— Сніў я сёння сон,— сказаў Пётра.— Стаю гдзесь высока-высока, а потым як паляцеў па сходах уніз, ляцеўляцеў і шмяк! Падняўся, гляджу: аж нага ў мяне зламана... І гэта ўжо факт, што здымуць мяне з работы.

Ён выпіў яшчэ і хацеў пачаставаць мяне, але я сказаў, што спяшаюся ў другое месца.

Я развітаўся і пайшоў.

Зрабілася мне непрыемна.

Думаў я: вось які мой зямляк — здаецца, сур'ёзны працаўнік, культурны чалавек, добры партыец. П'е гарэлку, верыць у сны... І сніцца яму толькі пра сябе самога...

Я не мог зразумець: што яго грызе? І пастанавіў абавязкова схадзіць паслухаць, калі яго будуць чысціць.

Чыстка яго мелася быць праз колькі дзён.

## ЧЫСТКА

Чыстка пачалася 24 жніўня ў суботу, а 8-й гадзіне ўвечары, у адной мінскай асветнай установе.

Першым чысціўся ён.

Выйсце яго перад стол, за якім сядзела камісія, уся зала спаткала воплескамі — такі гэта быў відны працаўнік і так усе яго паважалі. У зале сабралася шмат партыйных і беспартыйных.

І сам т. Старабыльскі мімаволі прыемна ўсміхнуўся, задраў сіваватую галаву і ўклаў рукі ў кішэні.

І калі ён апавядаў камісіі і ўсёй зале аб сваім сялянскім паходжанні і аб сваім змаганні з царскім рэжымам яшчэ як быў студэнтам і потым настаўнікам у адной гімназіі; калі ён адказваў на пытанні аб сваёй падпольнай дзейнасці і ў часе польскае акупацыі — дык таксама нейнакроць разлягаліся галосныя радасныя воплескі.

Адзінаю плямкаю было тое, што паважаны таварыш Пётра Старабыльскі належаў калісьці нейкі час да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Але ён шчыра прызнаўся ў гэтай сваёй памылцы з маладых гадоў, і, апрача таго, памылка ж была папраўлена тым, што ён зараз пасля Кастрычніка, перайшоў у партыю бальшавікоў.

— Болей бы нам такіх камуністаў, як таварыш Пётра Старабыльскі! — у захапленні выклікнуў хтосьці ў зале, калі т. Старабыльскі ішоў на сваё месца, і выклік быў пакрыт яшчэ большымі, чым дагэтуль, воплескамі.

* * *

У гэты момант старшыня камісіі чытаў запіску з залы.

Ён прачытаў яе раз і два, падняў плечы і зноў апусціў іх.

Потым даў тую запіску чытаць сябрам камісіі, а сам зацікавіўся кніжкаю, у якой была пададзена запіска.

У зале зрабілася чамусьці вельмі ціха, і ў той неспадзявана непрыемнай цішыні старшыня камісіі голасна сказаў, узяўшы запіску і трымаючы яе ў руках:

— Чыстка таварыша Пётры Старабыльскага, на жаль, яшчэ не скончана. Тут пададзена запіска такога зместу...

І ён ціха, трохі збіваючыся, але чутна для ўсіх, на ўсю вялікую залу, прачытаў:

«Няхай камуніст Старабыльскі скажа яшчэ, як ён, быўшы настаўнікам у гімназіі, рэдагаваў юбілейны зборнік, прысвечаны 300-годдзю дынастыі Раманавых».

Усе апаламіліся. Старабыльскі, збялеўшы і затросшыся, быў узняўся, потым ізноў сеў, ізноў узняўся і стаяў пануры, рыхтуючыся адказваць на гэтае новае, неспадзяванае пытанне.

А сябар камісіі, што сядзеў з левага боку ад старшыні, камуніст-рабочы з 30-гадовым стажам рабочым і 25-гадовым партыйным стажам устаў з тою кніжкаю і прачытаў:

«300-летие Дома Романовых. Юбилейный сборник статей под редакцией Петра Ивановича Старобыльского».

— Тут ёсць і прысвячэнне, пісанае рукою рэдактара,— сказаў горка і сурова рабочы і прачытаў:

«Симпатичной Вале на добрую память о пережитом. Петя».

* * *

— Хто падаў гэтую кніжку і запіску? — спытаўся прыдушаным голасам старшыня камісіі, абводзячы залу вачыма спадылба.

Усе, апрача папуранага Старабыльскага, павярнуліся на залу, але ніхто не адгукаўся адтуль на старшынёва запытанне.

У гэты момант па сходах, да дзвярэй, што на вуліцу, шыбка спушчалася худая даўгавязая жанчына, якая калісьці даўно была сімпатычнай Валяй.

Ёй было душна ў зале і душна выйшаўшы на вуліцу, хоць гарачыня, што стаяла ў Мінску праз увесь дзень, ужо змянілася прыемным вечаровым халадком, а пыл ад раскапаных вуліц, дзе праводзілі трамвай і пракладалі каналізацыю, пад вечар значна апаў і, прынамсі, не быў бачны на святле запаленых электрычных ліхтароў.

* * *

Шмат дзён пасля яго чысткі я быў вельмі заняты рознаю бягучаю работаю і таму не меў часу зайсціся да яго, каб пацешыць яго, хоць няшчыра і, галоўнае, здаволіць сваю цікавасць, як жа гэта ўсё здарылася.

З работы яго, аказваецца, усё ж ткі не знялі і з партыі не вычысцілі, бо ён даў здавальняючыя тлумачэнні.

Аказваецца, імя яго на зборніку было пастаўлена супроць яго волі і пасля гэтага ён кінуў працаваць у гімназіі. Старыя партыйныя таварышы, аказваецца, добра ведалі ўсю гэтую гісторыю, ён яе ад партыі не скрыў і не скрываў, і наогул нічога асаблівага ўва ўсёй гэтай гісторыі не было.

Калі я прыйшоў да яго, ён ізноў сядзеў за бутэлькаю і агурком, а ў руках у яго быў альбом фатаграфічных картак.

Ён паказаў мне яе картку ў альбоме.

Гэта была прыгожая, вельмі прыгожая, дзяўчына-гімназістка з вялікімі і нявіннымі, як у дзіцяці, вачыма.

— Яна не можа мне дараваць, што я здрадзіў свайму дробнабуржуазнаму класу і перайшоў да класа пралетарыяту,— сказаў Пётра і выпіў паўшклянкі гарэлкі набгом.

## АСЛЯПЁНЫ КОНЬ

Жывуць яны на хутары, на зямлі, што некалі перад самай рэвалюцыяй купіў яшчэ Змітраў Пілімоненкаў дзед, сельскі царкоўны стараста, у пана Вішнявецкага, былога магілёўскага чыноўніка.

У пачатку рэвалюцыі, у 1918 годзе, зямлі ў іх троху адрэзалі, але ўсяго хутара не адабралі, і хутар, можна сказаць, застаўся добры. Жылі яны заможна.

І таму што старэйшыя Змітравы браты вучыліся (адзін цяпер канчае Акадэмію ў Горках, а другі — універсітэт у Мінску), дык Зміцер змалку быў задушаны работаю і ўчыўся толькі дзве зімы. Бацька хацеў, каб Зміцер застаўся гаспадаром, каб Змітру перайшоў хутар, каб са Змітрам дажываць яму век. Таму і не ўчыў яго. Пахадзіў ён у школу зімы дзве, а тады бацька не пусціў і задушыў работаю.

У дзень злачынства пасвіў Зміцер коні на сваім хутары, як і заўсёды ў свята, калі парабак ішоў гуляць. Пасвіў і ад нуды займаўся сам з сабою. Але забава была кароткая, і ўсё роўна было яму нудна, бо ў гулявыя дні нават і яго, да нуды на хутары вельмі ўжо звыклага, кудысьці ўсё ж ткі цягнула.

І ён не ўцерпеў. Стрыножыў коні і пайшоў да пасялковых хлопчыкаў, што таксама пасвілі коні недалёчка ад яго, у лесе мясцовага значэння.

* * *

Хоць у лесе мясцовага значэння, сапраўды, ніякага лесу даўно ўжо не было, а былі тут толькі пні ды кусцікі, але ўсё ж было тут троху зацішней, чым у голым полі.

І хлопчыкі завялі коней у гэты лес, сабраліся, расклалі каля вялікага пня цяпло, паселі вакол і гаманілі.

Гаманілі найболей пра калгасы, пра тое, што ў вёсцы недалёка ад іх, дзе таксама нядаўна прайшло землеўпарадкаванне і нарэзалі пасёлкі,— людзі не ведаюць, што ім

цяпер рабіць: пераносіцца на новыя месцы ці ўжо чакаць, седзячы на старых, калі ўжо будзе тая калектывізацыя...

І ездзілі адтуль людзі ў Мінск, да таварыша Чарвякова, прасіць у яго рады, дык таварыш Чарвякоў сказаў ім: «Сядзе́це, нікуды не пераносе́цеся, бо ўсё роўна праз год ці два ўсе пойдуць у калгас».

Гаманілі найболей пра калгасы, і адзін хлопчык-піянер, што быў нядаўна ў Магілёве і чуў там лекцыю пра жыццё ў калгасах, апавядаў цяпер усім сябрам, што ў калгасах будуць вялізныя агульныя аборы, стайні і свінарнікі, жывёла будзе толькі завадская, рабіць будуць усё толькі машынамі і ў кожным жа калгасе будзе мураваная школа, тратуар і электрычнасць...

І ўсе хлопчыкі з вялікаю цікавасцю слухалі Янку Кубарыка — так звалі таго хлопчыка,— і ў думках мімаволі малявалі ўжо сабе вобразы гэтага новага, незвычайнага жыцця.

І была ім радасць.

* * *

Аж тут падышоў да іх Зміцер Пілімоненка і, пачуўшы, пра што гаворка, пачаў смяяцца з іх і сказаў, між іншым, такія словы:

— Калі бацькі вашы пойдуць у калгас, дык падохнеце вы ўсе там з голаду, а я з сваім бацькам як жыў на хутары, так і буду жыць.

І яшчэ ён дадаў, што так і вучоныя браты яго казалі, калі прыязджалі дамоў.

Ад такіх паганых яго слоў усе хлопчыкі ўз'ярыліся, як папаратыя ў гняздзе шэршні, і закрычалі на яго:

— Ідзі ад нас! Буржуй ты, кулак! Чаго ты да нас прыйшоў?

А піянер Янка Кубарык, не могучы стрымаць свайго растрывожанага сэрца, крыкнуў яму:

— Пакуль мы падохнем у калгасе, дык ты з сваім дурным бацькам абрасцеш сабачаю поўсцю на востраве Салаўках, што на моры, на Белым моры. Ты — белы, і сашлюць цябе на Белае мора!

І таксама дадаў той Янка Кубарык, піянер, што «і братоў тваіх вучоных прагоняць, і з Горак і з Мінску, калі яны такія супроцькалгаснікі».

Тады Зміцер Пілімоненка, не гаворачы ні слова, схапіў з зямлі вялікі сук і мерыўся на Яначку, каб трахнуць яго

з усяе сілы, аж усім страшна стала, і многія ад страху вочы зажмурылі.

Але Янчачка схіснуўся, дык Зміцер не ўлучыў.

А ўсе яны, хоць былі меншыя за Зміцера, не спалохаліся яго сілы, і ў момант, спярша адзін нехта, а за ім і ўсе, пахапалі з вогнішча гарачыя галавешкі, кінуліся на яго, махаючы з усіх бакоў, як на ваўка, і пагналі...

Ён жа, уцякаючы, бег міма старога мышастага каня, што спакойна скуб невялічкую ўбогую траўку сваімі з'едзенымі ўжо, старымі конскімі зубамі.

Конь жа гэты быў якраз Васілёў Кубарыкаў, Янчачкавага бацькі, беднага незаможніка. І чый конь — Зміцер ведаў. Спярша прабег міма, а потым спыніўся, прыгледзеўся і спазнаў, што Васілёў Кубарыкаў. І раптам падбег назад, да самае конскае морды, і ў вялікай злосці выцяў выспяткам з усяе сілы, мысічкам бота, проста ў самае вока.

І конь ад яго ўдару аслеп, спярша на адно вока, а потым і на другое, і другое выцякла. [...]

* * *

Судзілі Змітра Пілімоненку за гэтую ганебную справу.

І ён стаяў і плакаў, і прасіў, каб яму даравалі, і кляўся, што ніколі больш не будзе так рабіць. І казаў, што ахвотна пойдзе ў калгас, каб толькі прынялі.

Відаць было па ім, што ён вельмі спалохаўся, што яму здорава прыпаяюць; відаць было, што ён хоча разжаліць суддзяў, размазваючы слёзы пальцамі па твары.

Быў гэта малады, але здаравенны дзяціна, белабрысы і мурлаты. І плакаў ён дужа непрыгожа і выглядаў як дурань.

Але вочкі яго часам бліскалі пахаванай хітрасцю і злосцю. Нябойсь, як каня біў, дык быў у ботах, а на суд прыйшоў у лапцях, у старым жупане.

Народны суд Лупалаўскага раёна Магілёўскае акругі, у складзе старшыні суда рабочага з электрастанцыі т. Кеніга і членаў суда: настаўніка з педтэхнікума т. Якаўлева і рабочага з гарбарні т. Шпонькі, пастанавіў:

«За хуліганскі той учынак, зроблены на грунце класавай варожасці да сялянскае беднаты і яе пралетарскае ідэалогіі, засудзіць кулака Змітра Пілімоненку на год зняволення без строгае ізаляцыі.

Але беручы пад увагу цямноту, несвядомасць і малады век падсудзімага,— зменшыць яму пакаранне да шасці месяцаў прымусовае працы.

Апрача таго, спагнаць з яго на карысць бедняка Васіля Кубарыка, за пакалечанага каня, сто рублёў, паводле ацэнкі, якая была зроблена камісіяй пад старшынствам раённага ветэрынара т. Вішнявецкага».

* * *

Судовы рэпарцёр магілёўскае газеты «Серп і молат» запісаў у блакнот, рыхтуючы для газеты нататку пра гэты суд, што прысутныя ў зале рабочыя і сяляне спаткалі пастанову воплескамі. Але сапраўды воплескаў ніякіх не было. Хіба плёснуў толькі сам гэты рэпарцёр, т. Шнэйдэр, сын былога магілёўскага купца ільном і пянькою па Школьнай вуліцы.

І, апрача таго, прапазіцыя, зробленая суду кімсьці з залы, каб было павядомлена ў Горкі і ў Мінск пра студэнтаў Пілімоненкаў, была, мусіць, не дачута і засталася без увагі.

Рэпарцёр пра гэта нічога не напісаў, бо яго родны брат вучыцца ў Мінску ў універсітэце (дадамо: дружыць з Пілімоненкам, хоць студэнт Шнэйдэр партыйны і сябар бюро ячэйкі, а студэнт Пілімоненка — беспартыйны і любіць пасмяяцца з некаторых мерапрыемстваў Савецкае ўлады).

І яшчэ, апрача таго: пытанне, зададзенае таксама кімсьці з залы, ці не радня ветэрынар Вішнявецкі таму былому магілёўскаму чыноўніку, пану Вішнявецкаму, таксама, мусіць, было судом не дачута і засталося без адказу.

(Дадамо: а гэта ж родны сын — і член суда Якаўлеў тое добра ведаў.)

## КІРМАШОВАЕ ПАБОІШЧА Ў МЯСТЭЧКУ КРЫВІЧАХ

29 верасня 1929 года на кірмашы ў Крывічах меліся выступаць са справаздачнымі прамовамі перад сваімі выбаршчыкамі паслы Беларускага рабоча-сялянскага соймавага клубу таварышы Басіла і Заядлы.

З гэтае прычыны ўжо напярэдадні кірмашу, а найболей, як заўсёды, раніцою 29 верасня, у дзень кірмашу, у Крывічы ехала з усіх бакоў, па ўсіх дарогах, бясконцу многа сялянскіх фурманак з кірмашоўцамі. І на кожнай

жа фурманцы было па тры, па чатыры, а то й па пяць, па шэсць чалавек. І ўсе былі па-святочнаму прыбраныя, і ўсе былі па-кірмашоваму вясёлыя, і ўсе шмат гаманілі пра тое, што на кірмаш едзе людзей як ніколі, бо, вядома, будуць прамаўляць беларускія паслы, дык цікава іх паслухаць, што яны там новенькага прывязуць нам з тае панскае Варшавы, з гэтага сойму. А надвор'е стаяла такое добрае: хоць і восень, але і сонца, і цёпла, і суха, аж усім радасць. Адным словам, кірмаш меўся быць на славу.

* * *

Спаміж фурманак не ўсё былі простыя сялянскія калёсы ці лёгкія пляцёныя таратайкі ў адзін конь і прыпражку. Шмат ехала і шляхоцкіх аднаконных і пароконных брычак і нават ці мала дарагіх панскіх брык.

Гэтыя важнейшыя ехалі пазней, калі сонца паднялося ўжо высока, каб паспець толькі пад самы кірмашовы разгар. Яны ўжо дома добра паснедалі, а пэўна ж не горш і выпілі дзеля такога дня.

Вядома, і па кірмашы прыемна цягацца, калі ў целе сытасць і вочы бліскучыя ад моцы і здароўя.

І ўжо даволі позна на пары карых жарабцоў ехаў на сваёй добрай восеньскай брыцы, фарбаванай у жоўты колер і на высокіх чырвоных колах машыннае работы, з тоўстымі спіцамі, сам пан Крывіцкі, тутэйшы пан. На козлах сядзеў фурман з польскімі вусамі і бачкамі ля вушэй, у сінім каптане і ў рагатай шапцы. Сядзеў ён выставіўшы рукі з лейцамі, а доўгі тонкі хлыст тырчэў збоку высока, схіліўшы ўгары хвосцік. Жарабцы ляцелі самі, толькі трымай.

За фурманам сядзеў пан Крывіцкі ў кунтушы і ў баброван шапачцы, і з ім побач паліцыянт у форме, а болей нікога, бо пан Крывіцкі жыве ў маёнтку з сям'ёю толькі ўлетку, а потым застаецца там адзін, а сям'я жыве ў Варшаве.

Паліцыянта вёз ён не для ахраны, а толькі падвазіў. Паліцыянт той ехаў учора з Вільні цягніком у Крывічы, ды спазніўся і мусіў у дарозе начаваць. Абначаваў ён у маёнтку пана Крывіцкага, у эканома, а раніцою прасіў сабе каня да мястэчка, аж пан ласкава згодзіўся падвезці яго сам.

І жарабцы ляцелі, а паліцыянт усё паглядаў на гадзіннік на руцэ, бо ён меў спецыяльнае даручэнне ад дэфензівы прысутнічаць на мітынгу беларускіх паслоў, дык ба-

яўся, каб не спазніцца да пачатку. У дарозе пан з ім размаўляў і навёў размову на дзейнасць польскай паліцыі на крэсах. Ён мякка, але цвёрда крытыкаваў і казаў, што з тутэйшымі сялянамі трэба абхадзіцца ласкава і хітра, дык і ўсё будзе добра.

Паліцыянт быў мужчына сярэдняга веку, худы і цьмяна-жаўтаваты з твару, вочы ў яго былі маленькія, сядзелі дужа глыбока ў ямах, і колер іх быў шэра-мутны, невыразны, але раптам са злым і нячыстым блісканнем. Ад неспакойнага сумлення і наогул ад нервовасці не глядзеў ён імі проста і спакойна, усё нібы шукаў, куды зірнуць каб убок, каб не сустрэцца з другім позіркам.

І пачаў ён жаліцца пану, што лёгка казаць, а сапраўды служба яго самая цяжкая і адбірае здароўе, з'ядае чалавека. Казаў ён, што пайшоў у паліцыянты з перакананння, як польскі патрыёт з юнацкіх год, былы пэпэс і дружыннік самога пана маршала Пілсудскага, з якім разам некалі пэўны час і працаваў. Але вось паклаў сілу і здароўе, лёс кідаў яго ва ўсе бакі, і цяпер ён мала зарабляе, і сам выпрасіўся на меншую работу, каб не папсуць сабе нервы і ўсё здароўе зусім да рэшты. І пачаў казаць, што яшчэ за месяц перад гэтым быў ён на рабоце ў турме на Вронках, дзе шмат палітычных зняволеных і ў тым ліку якраз ёсць засуджаныя на працэсе Беларускае рабоча-сялянскае Грамады, і не толькі якія інтэлігенцікі, але і простыя сяляне — магчыма, і з-пад гэтых самых Крывічоў.

І казаў ён, што нельга абхадзіцца з імі ні ласкава, ні хітра, гэта толькі прыгожыя словы. І для прыкладу, хоць і коратка, не хочучы доўга развадзіць гамонку, расказаў, колькі здароўя каштавала яму апошняя галадоўка ў турме. Цягнулася яна дзесяць дзён. За гэты час зняволеныя рабілі некалькі разоў дэманстрацыю са спевам «Інтэрнацыяналу», галоўным чынам у часе пагулянак. Чатыры дні харчавалі іх штучна. Жывое цела ім раздзіралі, білі, рукі выварочвалі, а яны адбіваліся, як звяр'ё...

А ў іх ліку і сяляне, магчыма, з-пад гэтых самых Крывічоў. Злыя і ўпартыя. Галадоўка была спынена на дзесяты дзень самімі зняволенымі ў сувязі з тым, што яна пагражала жыццю некаторых. І калі кіраўнікі хацелі спыняць галадоўку, сяляне гэтыя хацелі яшчэ далей яе цягнуць.

Пан слухаў, зацікавіўся, як гэта робяцца гэтыя галадоўкі, і прыкідліва спачуваў паліцыянту, што сапраўды служба яго цяжкая, але казаў, што таму яна і патрабуе

ўмельства. Спрачацца з паліцыянтам ён з далікатнасці не стаў. Толькі ў заключэнне выказаў думку, як бы просьбу:

— Але добжэ было б, пане паліцыянце, жэбы дзісяй [у] мястэчку на тым вецу кірмашовым зостована была моя сістэма, то ест хітросць і лагоднасць... Так мне сеп здае.

* * *

Панаехала на кірмаш відзіма-нявідзіма народу.

Прыехаў і стары, але яшчэ гарачы дзядзька Якім Бузюк з сваёю жонкаю, цёткаю Марыляю, і з сваёю дачушкаю,— прыгожаю сінявокаю Настулькаю.

Прыехалі, выпраглі каня, завярнулі высока аглоблі, далі каню сена, самі захацелі снедаць пасля дарогі, бо выехалі рана. Дзядзька Яхім збегаў у рэстарацыю, прынёс паўлітроўкі панскае гарэлкі, а цётка Марыля тым часам расклала на калёсах на ручнічку кавалачак парэзанага сала, парэзала каўбасу, паклала кавалачак сыру і дастала бутэльку малака. Настулька ўсё паглядала вакол, на кірмаш. Пачалі снедаць. Аж прыходзіць швагар Сымон Трапліца і, выпіўшы і закусіўшы з імі, кажа, што ходзяць па людзях чуткі, нібы паліцыянты, асаднікі і панкі зробяць у часе мітынгу напад на беларускіх паслоў і будуць страляць з рэвальвераў у тых сялян, што пойдуць на мітынг паслоў слухаць.

Цётка Марыля адразу паверыла і спалохалася. І спярша яна зусім не хацела пушчаць туды дзядзьку Яхіма, а калі ён загневаўся не на жарт і пачаў сварыцца на яе, яна сціхла і толькі прасіла: «Хоць жа ж ты там наперад дужа не вытыкайся...»

А ён і сам пайшоў і Настульку з сабою павёў, каб і яна на сваіх паслоў-абаронцаў паглядзела.

— Калі ўсе будзем хавацца, як зайцы ў хвораст, дык што ж мы ўжо тады й за людзі,— разважаў ён, павесялеўшы ў вялізным натоўпе і прабіваючыся далей наперад. І прабіўся, на сваю радасць, аж да самага возу, на якім стаялі паслы: тоўсты пасол — то быў таварыш Басіла, і тонкі пасол — то быў таварыш Заядлы. Дзядзька Бузюк ведаў іх з ранейшага часу, калі прыязджалі яны на перадвыбарныя сходы. І цяпер паківаў ім галавою з прыветнаю ўсмешкаю. І таварыш Заядлы адкіўнуў яму прыветна назад, а таварышу Басіле не было ўжо часу, бо ён сцішаў народ, падняўшы і трымаючы руку, каб ужо пачаць прамаўляць.

І пакуль казаў ён сваю прамову, таварыш Басіла (хоць і з перцам, але выкруціста, так, што і камар носа не падточыць, каб прычапіцца за парушэнне дазволеных правіл), пакуль казаў ён — ішло яшчэ ціха.

І плёскалі яму дужа многа, і шапкі ўгору кідалі, і голасам паддавалі яму свайго вялікага спачуцця, ды ізноў сціхаліся, і зноў ішло яшчэ ўсё так-сяк спакойна,— ворагі маўчалі, цярпелі.

А як пачаў прамаўляць тонкім голасам і вострым словам таварыш Заядлы — паліцыянты, асаднікі і пераапранутыя па-сялянску шпікі ўсчалі крычэць, кідацца да возу, лаяцца і штурхаць тых сялян, што былі на варце і не давалі падступацца бліжэй да паслоў.

І адзін паліцыянт каля дзядзькі Бузюка (а гэта быў якраз той, што ехаў з панам Крывіцкім) усё маўчаў, толькі зубамі ад злосці скрыгаў ды нячыстымі вочкамі пагана бліскаў, нарэшце выхапіў з кішэні кніжачку і аловак, штосьці запісваць, а потым схапіўся леваю рукою за рэвальвер, а правую руку з тою кніжачкаю выставіў, задраў, аж затросся, галаву і паціснуўся, нягледзячы на людзей, наперад і заверашчэў благім голасам:

— Не позва́лям! Не позва́лям!

За ім і ўся іх зграя яшчэ дзічэй заекатала, загаласіла, захадзіла, каб не даць болей гаварыць паслу. Паднялі нязносны гвалт.

Паліцыянт азвярэў, пёрся проста на людзей і, калі дзядзька Бузюк лёганька адштурхнуў яго ў грудзі, як сохлага ад злосці гада, ён ударыў яго кніжкаю наводмах па губе, аж кроў пайшла...

І тады забыўся дзядзька Яхім Бузюк, гарачы ад прыроды чалавек, забыўся на ўсе жончыны перасцярогі і ўзбурыўся ад крыўды; і сам не памятаў, як гэта было, а размахнуўся і даў такую поўную пляцку па яго паліцыянцкай мордзе, што й кніжачка з алоўкам з рукі яго ў пярчатцы выскачыла... Быў дзядзька Бузюк некалі на месячным апалчэнскім абучэнні і хоць дысцыпліны набраўся за кароткі час мала, а ў руках сваіх з таго часу палаўчэў. Поўху мог даць ёмка.

І як ні крычалі, ні ўпрашалі паслы, каб не даваліся іхныя выбаршчыкі на правакацыю і не чапаліся з паліцыянтамі, як ні крычалі, ні ўпрашалі, а не маглі ўжо даць рады, і пачалася з той аплявухі тузганіна, і разгарэлася яна ў вялікае пабоішча...



Нядоўга цягнулася пабоішча. Павялі паліцыянты гарачага дзядзьку Яхіма Бузюка з пабітаю галавою і з носам у крыві. Павялі паліцыянты за ім следам і яго прыгожую сінявокую Настульку. Бо яна кінулася была ратаваць бацьку, і яе замяшалі ў адну кучу. Навюсенькі саматканы палітончык яе падралі і папэцкалі ў гразь і кроў.

І яшчэ шмат каго павялі...

А тыя сяляне, што засталіся вытрыма́лыя і пельга было да іх ні за вошта прычапіцца, пчыльна абступілі паслоў і праводзілі іх грамадою на станцыю і там пасадзілі іх у вагон, гледзячы, каб ніхто не ўчыніў ім якога гвалту, і тады толькі адышліся, калі пайшоў цягнік і паслы з акна памахалі ім капелюшамі.

І калі паслы паехалі, дык арыштавалі паліцыянты і шмат каго з тых вытрыма́лых сялян. І некаторым нават наручнікі надзелі.

І нікога з арыштаваных не пакінулі ў Крывічох, а з другім цягнікам, цёмненька, пасадзілі ў вагоны і павезлі невядома куды — мусіць, у Вільню на Лукішкі.

Кідалася-кідалася, як падбітая курыца, цётка Марыля па мястэчку: і сярод народу, і потым на спусцелым рынку, і каля пастарунку, і каля арэштнага дому. І паехала дамоў адна, на пустых шырокіх калёсах. Паехала нічога не купіўшы. Нават гасцінца дзяцём забылася купіць.

А ці плакала ці не ў дарозе і што думала і пачувала, калі ехала дамоў,— тое ўжо хіба раскажа яна калі-небудзь сваім унукам, як добра яно ўлежыцца і зробіцца казкаю.



Так скончыўся ў гэтым годзе кірмаш у беларускім мястэчку Крывічах, што цяпер пад Польшчаю.

А надвор'е было такое добрае, цёплае, яснае,— быццам і не восень, а ўсё яшчэ лета. Добры меўся быць кірмаш, а ніхто не пагуляў, не пацешыўся.

Затое пачулі вольнае слова — у той няволі, у тым праклятым катуху, у які загналі беларускую сялянскую бядноту паганыя польскія паны і падпанкі — «каб на іх звод, каб учынілася ім тое, што панам у Расеі, ды яшчэ горш у сто разоў, каб ніводзін і на свеце не застаўся, каб і семя іхнае сцёрлася з зямлі...» (Гэтак праклінаюць іх цяпер у Заходняй Беларусі.)

# З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ 1930 г.

## СМЕРЦЬ

13.VI

Увечары, лежачы на пасцелі і выцягнуўшы ногі, глядзеў на іх і думаў: хто будзе бачыць гэтыя ногі ў труне?

Ці, можа, не ціхі жалобны абрад будзе там, а поле дзікай бойкі, вайны, ці глыбіні мора, ці яшчэ што... напрыклад, гломазд ад разбітага цягніка?

Хочацца, каб быў абрад.

## КАРШУН, ПТУШАЧКА І Я

15.VI

Цёпла, улетку, на курорце, кусты.

Іду міма.

Нешта трапечацца ў галлі кустоў...

Птушка.

Хапаю...

Гэта ж каршун забівае птушачку.

Схапіў яго за шыю і здушыў на ўсю сілу.

Трапыхаўся каршун, ды ўсё бяссілеў, шыя выцягнулася — доўгая. Ён выпусціў птушачку.

Але яна была ўжо мёртвая.

Позна я задушыў каршуна: ён паспеў задушыць птушачку.

## «БАЦЬКА ОСЛІП...»

Станцыя Сковська.

Недалёка БССР.

На станцыі буфет.

Абед з дзвюх страў 55 к.

Вазьму адну першую. Эканомія. І ўсё-ткі гарачага з'еў.

Узяў.

Шчавель. Кіслы. Нясмачны. Баюся, каб не захварэць.

А белагаловы хлопчык у вясковай кашулёнцы і ўжо ў штоніках усё стаіць збоку, паглядзіш — трошку адыдзе.

Бачу, узяў адзін пасажыр на другую страву блінчыкі з сырам. Кажа — салодкія, смачныя, хоць маслам і не пахне.

Пайшоў я браць, іду назад, а хлопчык сядзіць на маім месцы і есць той шчавель з хлебам, есць нясмела, а са смакам.

А калі я еў шчавель, ішоў яшчэ хлопчык і прасіў:

— Дайце копіёчку...

— Хто ты? Беспрызорнік? — спытаўся я, каб не даць, калі беспрызорнік.

Хлопчык замяшаўся.

— Ні... Мой бацька осліп...

Я схапіў і шыбка падаў яму кавалачак хлеба.

Ён і ў суседа просіць:

— Дайце копіёчку.

— Што?

— Копіёчку.

— Што? Я сам абедаю...

Відаць, не зразумеў, што той гаворыць.

— Капеечку! — падказаў я.

— А, копеечку. Нет копеечкі.

## ЧАЛАВЕК У КАРОНЕ

27.VI

### I

Варачаюся дамоў. Як бы мост, што ў гарадскім садзе ў Мінску, але даўжэйшы і шырэйшы. Нейкія дзяўчаты, хлапчукі.

Я заляцаюся да адной. Здаровае цела, моцныя ногі. Працівіцца і смяецца — гэта ж на масту, людзі...

Нейкія хлапчукі з правага боку і з левага боку, тузгаюцца. Махаючы рукамі, чапаюць мяне. Я адбіваюся і раз моцна тузгануў аднаго. Не спыняючы бойкі, ён, узла-

ваны на мяне, схапіў мяне адною рукою і ніяк не адпускае, нельга вырвацца. Я балюча ўпіўся зубамі ў яго палец. Я ведаю, як гэта яму дужа баліць.

Неяк вырваўся, бягу. Хлапчукоў пяць гоніцца за мною. Я баюся, што яны, напэўна, дагоняць мяне, хачу крычаць, але хто тут пачуе — кусты, пустынна. Хрыпла крычу.

Бягу шыбка, з вялікай лёгкасцю, чуючы паветра вакол сябе, і, азіраючыся, бачу, што яны далёка астаюцца ад мяне.

## II

На горку ўзбягаю.

Хачу прабегчы ціханька міма, да свае кватэры, каб не бачылі, што я ўжо вярнуўся, але праз акно ці праз дзверы адна ўбачыла мяне і кажа: «Вось і вярнуўся». Радасна кажа. Але мне нельга прабегчы, бо нейкія загарадкі. І рукі свае, пералязаючы, я абпэцкаў у нешта слізкае.

Заходжу ў сенцы ці кухню — папрасіць вады, памыць.

Шмат мяса, свініны, і цэлыя тушы кароўскія.

Зараз вынесуць вады.

Вядзе гаспадыня да калодзежа. Усё пад нейкімі павецямі, і зноў тое мяса, і на вагах мяса, і мухі садзяцца на яго. Ведаю, што гэта вяшчуе нядобрае.

Калодзеж (помпа). Гаспадар — стары, і ні то сын яго, ні то пляменнік, здаравенны белагвардзеец у чырвоных штанах.

Пампуе гаспадар і ён, і ён усё стараецца так павярнуць галоўку помпы, каб абліць мяне. Я гэта разумею, выкручваюся, і яшчэ цікую накіраваць помпу на яго самога, і яшчэ трошку, нібы няўмысля, пару кіёчкам яго самога, у яго задніцу ў чырвоных штанах.

Ён разумее, што я хітры.

Памыў рукі, іду. Там яшчэ, адзаду, вядуць пад рукі нейкую старую. Я сам знайду дарогу,— каб толькі ўцячы.

Калі ўжо выхадзіць з-пад павеці, з гэтага гумна,— дагапяе мяне гэты здаравенны, у чырвоных штанах, і на галаве ў яго — вялікая, медзяная, але гладкая карона з крыжыкам, і ў руках стрэльба, і дзірачка рулі глядзіць проста мне ў грудзі...

Канец мне, бо ён не хоча, каб я вынес адгэтуль яго тайну.

Я хачу прасіць, умаўляць не забіваць мяне, хоць і амаль што няма надзеі на ратунак: гэтыя людзі жорсткі і разумна-бязлітасны.

Я не ведаю, як загаварыць з ім: па-польску? (бо ён жа, пэўна, паляк), але можа загневацца — бо ён жа расійскі манархіст.

— Гэта ты той...— (троху блытана называе мяне).— Я ведаю цябе, гэта пра цябе пісалі...

— Але ж я...

І думаю: кінуцца вон і ў роў скаціцца.

І баюся прачнуцца без ратунку, і хоць чую, што ўжо прачнуўся, строю планы ратунку: ці на яго кінуцца, на стрэльбу, ці ўніз, у роў...

Прачынаюся. 2 гадзіны начы.

## ПРЫВЯЗАНЫ ХЛОПЧЫК

13.VII.1930 г.

Куламеса на вакзале — як заўсёды.

У натоўпе — маладзіца з шырокім кошам (як плацце пасіць), а да ручкі прывязаны хлопчык, гадкоў 3—4, тоўсценькі, босенькі.

Ідзе, адна ручка прывязана, а другою трымаецца за беражок коша.

Прывязан каротка: яна паставіла кош, і ён сунуўся на зямлю з ручкаю і не можа ўзняцца.

А ў яе на руках яшчэ дзіця ці вузел.

І маўчыць ён, узнімаецца спакойна. А вакол — людскія ногі.

# КАМЕНТАРЫІ

У дадзены том уваходзяць апавяданні М. Гарэцкага 1913—1930 гг.

Усе творы друкуюцца па апошніх прыжыццёвых выданнях кніг пісьменніка, публікацыях у перыядычным друку і матэрыялах з фонду М. Гарэцкага, якія захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР.

Пры ўстанаўленні аўтэнтычнага тэксту і напісанні каментарыяў былі выкарыстаны ўсе вядомыя публікацыі і рукапісы твораў М. Гарэцкага.

У каментарыях да тома не даюцца спасылкі на публікацыі твораў М. Гарэцкага 1959—1983 гг., акрамя тых выпадкаў, калі яны друкаваліся ў гэтыя гады ўпершыню.

Творы змяшчаюцца ў хранапагічным парадку згодна дат напісання або, пры адсутнасці звестак аб іх, згодна даты першай публікацыі.

Прынятыя скарачэнні:

«Рунь»— Гарэцкі М. Рунь: Апавяданні. Вільня, 1914.

«Досвіткі»— Гарэцкі М. Досвіткі: Апавяданні. Мінск, ДВБ, 1926.

«Апавяданні»— Апавяданні: зборнік падрыхтаваны М. Гарэцкім да друку ў 1928 г.

Фонд М. Гарэцкага — матэрыялы з фонду М. Гарэцкага, які захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР.

«Выбраныя творы»— Гарэцкі М. Выбр. тв.: у 2-х т. Мінск, «Маст. літ.», 1973.

«Родны край»— чытанкі для дзяцей, падрыхтаваныя Л. У. Чарняўскай — Гарэцкай.

газ.— газета.

час.— часопіс.

# I

Свой творчы шлях Максім Гарэцкі пачаў як аўтар апавяданняў. На працягу 1913 года ў газеце «Наша ніва» былі надрукаваны апавяданні «У лазні», «Роднае карэнне», «Страхаццё», «Красавая язмін», «У панскім лесе», «Стогны душы», у 1914 г. выйшла першая кніга — «Рунь». Гарэцкі ўвайшоў у літаратуру адразу як сталы майстар, талент якога не выклікаў сумнення. Яго першыя творы і зараз стаяць сярод класічных узораў навелістычнага жанру, ім не робіцца скідак як «ранні́м», «пачаткоўскім», «вучнёўскім». У Гарэцкага не было перыяду творчага вучнёўства, не было твораў пераймальных. Былі сярод яго першых апавяданняў менш і больш дасканалыя, слабейшыя і мацнейшыя, але не было няспелых, прахадных, нявыпашаных.

Такая «раптоўная» творчая сталасць і сёння ўражвае. Здаецца дзіўным, як мог дваццацігадовы юнак так хутка ўвабраць у сябе вопыт створанага ў літаратуры да яго і як дакладна вызначыў ён для сябе сваю тэму, змог хутка знайсці свой голас. Аднак было менавіта так. Не ва універсітэтах, гімназіях, а ў пачатковай школе, вучылішчы, а найбольш шляхам самаадукацыі Максім Гарэцкі набыў шырокую літаратурную эрудыцыю, якая дапамагла яму знайсці свой шлях у літаратуры. Але не толькі і не столькі гэта выспеліла яго талент, колькі тое, што ішло ад роднай зямлі, народнага вопыту, народнай творчасці. З дзіцячых гадоў М. Гарэцкі пільна ўзіраўся ў жыццё, прыслухоўваўся да роднай мовы, палюбіў народныя песні, паданні, казкі. Назаўсёды ўвайшла ў яго творчасць родная Багацькаўка. На пачатку сваёй пісьменніцкай працы ён, мабыць, яшчэ не ўсведамляў, што родная вёска, гісторыя сваёй сям'і, свайго роду будзе для яго невычэрпнай крыніцай творчасці. «Шматок роднай зямлі памерам з паштовую марку заслугоўвае, каб аб ім пісаць, і не хопіць жыцця, каб сказаць аб ім усё»,— заўважыў У. Фолкнер. Гэтыя словы можна цалкам аднесці і да творчасці М. Гарэцкага, у якой важнае месца займае адлюстраванне мінулага і сучаснага роднай старонкі, лёсу людзей.

У сваіх апавяданнях Максім Гарэцкі імкнуўся разглядзець духоўны свет чалавека, які вырас і ўзгадаваўся на зямлі, быў выхаваны на прадзедаўскіх традыцыях і звычаях. І пісьменнік спрабуе разабрацца — што з шматвяковага жыццёвага вопыту было скіравана да высакароднага ў людзях, а што ішло ад забабонаў, забітасці і абуджала самыя нізасныя, агідныя бакі чалавечай натуры. Пачынаючы з ранніх апавяданняў («Буйніцы і драбніцы», «Хаўтуры», «Скрыпачка», «Усё мінаецца»). М. Гарэцкі імкнецца прасачыць, як абуджалася, вызвалялася ад векавых напластаванняў цемрашальства пытлівая думка, расла прага да святла ведаў. У шэрагу апавяданняў аб часах паншчыны са зборніка «Досвіткі» М. Гарэцкі паказвае, наколькі моцна можа скалечыць душу прага да багацця або адчуванне сваёй улады над іншымі людзьмі.

Пісьменніка цікавіць, як абуджаюць у чалавеку нізкія памкненні або пазбаўляюць надзей на радасць, шчасце саслоўныя, рэлігійныя ўмоўнасці, забабоны, абмежаванасць духоўнага самавыяўлення, убоства жыцця. Але не толькі змрочнае, цёмнае бачыў пісьменнік у тым даўнейшым жыцці. Ён даводзіў, што здаўна жыло ў народзе і высока цанілася высакародства душы, што чала-

век у самых цяжкіх абставінах выказвае высокую годнасць, справядлівасць, добрасумленнасць. Нібы на крайніх палюсах размежавання высокага і нізкага ў чалавеку стаяць апавяданні «Дурная галава» і «Прысяга». У першым расказваецца пра духоўна скалечанага чалавека, які з лёгкай душой, бяздумна згадзіўся падняць руку на такіх жа сялян, як і сам, і не адчуваў пры гэтым ніякіх дакораў сумлення. У другім апавяданні селянін Тарас, ратуючы людзей, пераадолеў у сабе нават спрадвечны страх перад боскай карай і не выдаў цімакоў прадстаўнікам улады. Добра ведаючы псіхалогію селяніна, М. Гарэцкі высока ставіць учынкі людзей, што спрабуюць пераадолець цемрашальства, забабоны, якімі была адурманена дарэвалюцыйная вёска. У апавяданнях «Што яно?», «Страхаццё», «Дурны настаўнік» ён паказвае смельчакоў, якія спрабуюць кінуць выклік дзікунству, імкнуцца сваім розумам дайсці да сэнсу жыцця. І няхай з-за абмежаванасці свайго светапогляду, жывучасці перажыткаў яны не дасягаюць мэты, але гэтыя памкненні да святла ісціны ўзнімаюць іх у вачах пісьменніка. Усякая ж уступка цемрашальству, нават часовая, дробная, рашуча асуджаецца ім. Нездарма ў апавяданні «Стары прафесар» М. Гарэцкі вывеў адукаванага чалавека, вучонага, які, спрабуючы адратаваць ад смерці жонку, здрадзіў сваім перакананням. Гарэцкі піша і пра пошукі ісціны вясковай моладдзю, што толькі-толькі пачала цягнуцца да святла ведаў і, задумаўшыся над праблемамі жыцця і смерці, філасофіяй чалавечага існавання, пераадольвае ў сабе забабоннае. Сярод іх — студэнт-медык Архіп Лінкевіч («Роднае карэнне»), настаўнік Якуб Цімохавіч («Дурны настаўнік»). І ўжо спрабуюць хоць неяк вывесці з цемры сваіх аднавяскоўцаў сялян: Клім Шамоўскі («У лазні»), Кастусь Зарэмба («У чым яго крыўда?»), настаўнік Ляксей Ляксеевіч («Зіма»). Так у творчасці Максіма Гарэцкага тэма жыцця беларускага сялянства ў дарэвалюцыйную пару пераплятаецца з тэмай народнай інтэлігенцыі, тэмай пошукаў філасофіі жыцця. М. Гарэцкі не можа не паказаць адмоўных праяў няправільна зразуметых паняццяў аб адукаванасці, інтэлігентнасці як у нечым чужых народу. Клім Шамоўскі, Кастусь Зарэмба балюча пераносяць адчужэнне ад сваякоў, аднавяскоўцаў, якое стала адчувацца пасля таго, як яны некаторы час пажылі ў іншым асяроддзі, набылі пэўную адукацыю. Перажываюць з-за таго, што не могуць нічога зрабіць для іх. Настаўнік Ляксей Ляксеевіч ужо спрабуе і неяк дзейнічаць. Такія ж выхадцы з вёскі, як настаўнікі Мутэрка («Мутэрка») або Гапон («Гапон і Любачка»), пад уплывам уяўленняў пра адукаванага як пра «пана» свядома ставяць сябе вышэй вяскоўцаў. І тут ужо пісьменнік не шкадуе сатырычных фарбаў, каб паказаць, як адарванасць ад сваіх каранёў прыводзіць да маральнай дэградацыі. Асабліва жорстка ганьбуе ён тых, хто і навукі асаблівай не прыдбаў, а ўсяго толькі пажыў у горадзе, але ўжо пагарджае ўсім родным, нават бацькамі.

М. Гарэцкі імкнуўся адлюстраваць у сваіх творах не толькі сучаснае, але і мінулае. Ён пачаў вывучаць гісторыю чалавечай душы з блізкага яму часу, паступова заглыбляючыся ў тыя часы, сведкамі якіх былі яго старэйшыя родзічы, спрабаваў паказаць і больш далёкае мінулае і зноў вяртаўся ў сучаснасць, каб адлюстраваць падзеі, якія праходзілі перад яго вачыма. А падзеі былі грандыёзныя, яны рэзка змянілі звыклую хаду жыцця, многае

перайначылі ў ім. М. Гарэцкі быў салдатам у першую сусветную вайну, падтрымліваў сувязь з дзеячамі кампартыі Беларусі і Літвы ў Вільні, ведучы там актыўную асветніцкую і журналісцкую работу, а вярнуўшыся ў Савецкую Беларусь, прыняў самы жывы ўдзел у грамадскім, літаратурным і навуковым жыцці. Сярод вышэйшых дасягненняў М. Гарэцкага — творы, у якіх адлюстраваліся ўражанні ўдзельніка вайны: «Літоўскі хутарок», «Генерал», «Рускі», «На этапе». У іх аўтар выступае як гуманіст, ён пратэстуе супраць забойства чалавека чалавекам, супрацьператварэння вайны ў гульню лёсамі мільёнаў простых людзей, якія не маюць адзін да аднаго ніякай варожасці.

Хто хоча мець сапраўднае ўяўленне пра творчасць Гарэцкага-апавядальніка, бясспрэчна, павінен пазнаёміцца з раннімі публікацыямі яго замалёвак, урыўкаў з будучых аповесцей. Тое, што зараз уключана ў том, у многіх выпадках прадстаўлена ў перапрацаваным выглядзе, асобныя рэчы, такія як «Патаёмнае», «Рунь», «Габрыелевы прысады», былі падзелены аўтарам на некалькі частак, якія сталі самастойнымі і друкуюцца не як апошнія варыянты, а як новыя рэдакцыі. Іншыя ж творы, наадварот, сталі цаглінамі ў больш буйных пабудовах — аповесцях,— гэта можна сказаць пра апавяданні «У лазні», «У чым яго крыўда?», «Кросны», «Герой», «На гаі» і г. д. У пэўнай ступені па-іншаму выглядае для сучаснага чытача і мова ранніх твораў М. Гарэцкага, на сённяшні погляд, ёсць і архаізмы, і ўстарэлыя напісанні, але колькі ў ёй знаходзім нечаканых адкрыццяў, трапных азначэнняў, незацяганых, свежых слоў, якія пісьменнік вынес са сваёй радзімы.

У апавяданнях, напісаных пасля вяртання ў Мінск, М. Гарэцкі ўсё часцей звяртаецца да падзей, у якіх цесна пераплятаюцца гісторыя і сучаснасць; думае аб стварэнні хронікі жыцця адной сям'і, у якой можна было б адлюстраваць гістарычны шлях беларускага народа ад часоў прыгону да сучаснасці. Задума, якая надоўга захапіла М. Гарэцкага, разрасталася, пісьменнік уключаў у яе ўсё новыя сюжэтныя лініі. Адна з іх прывяла да стварэння цыкла апавяданняў «Сібірскія абразкі». Як піша ва «Успамінах пра брата» Г. І. Гарэцкі: «Максім настолькі захапіўся збіраннем матэрыялаў да «Камароўскай хронікі», што зрабіў у 1926 годзе адмысловае падарожжа ў Сібір, бо туды вялі жыццёвыя шляхі некаторых асноўных яго герояў. З вялікай колькасці кароткіх апавяданняў сібірскага цыкла надрукавана было менш дзесяці. Але яны маюць важнае значэнне для гісторыі літаратурнай творчасці Максіма як кавалачкі будучай хранікальнай эпапеі».

Не проста зараз разважаць пра «Сібірскія абразкі», разбіраць іх мастацкія якасці, бо твор не завершаны. Стаў бы гэты цыкл адным з раздзелаў «Камароўскай хронікі» або самастойным творам — невядома. Мы можам толькі захапляцца грандыёзнасцю задумы пісьменніка, яго настойлівасцю і жаданнем быць да драбніц праўдзівым у тым, што піша, а найбольш — яго надзвычайным пачуццём любові да роднага краю, да Беларусі, любові да людзей. У «Сібірскіх абразках», як ні ў якім іншым творы М. Гарэцкага, так поўна раскрыліся рысы характару аўтара, яго пачуцці.

Яшчэ адзін цыкл апавяданняў — «Люстрадзён», магчыма, таксама мае дачыненне да ідэі напісання хронікі сям'і, толькі тут

аўтар падыходзіў да рэалізацыі задумы, прытрымліваючыся іншых кампазіцыйных прынцыпаў. Ён хацеў звярнуцца да самых свежых падзей сучаснасці, паказаць эпізоды з жыцця ледзь не ў планетарным маштабе — дзеянне іх, па задуме аўтара, адбываецца на працягу аднаго-двух месяцаў у Англіі і Палестыне, у сталіцы Беларусі і невялікім мястэчку, у Крыме і на Далёкім Усходзе. На гэтую задуму напластавалася іншая — стварыць хроніку жыцця членаў адной сям'і — братоў Вышнявецкіх.

Цыкл «Люстрадзён» не быў завершаны, некаторыя абразкі засталіся ў накідах, чарнавіках. Тым не менш не можа не ўразіць грандыёзнасць замыслу пісьменніка, які смела браўся за нераспрацаваныя яшчэ беларускай літаратурай тэмы. Тое ж можна сказаць і пра ўсё напісанае М. Гарэцкім. Якое тэматычнае, жанравае багацце бачыцца ў яго апавяданнях! Некаторыя з тэм, закранутых М. Гарэцкім, пазней былі разгорнуты ў буйных творах, сталі дамінуючай тэмай творчасці шэрагу беларускіх пісьменнікаў. Ёсць тэмы і сёння яшчэ нікім з сучасных пісьменнікаў не закранутыя.

Апавяданні М. Гарэцкага складаюць частку адной вялікай эпічнай кнігі пра беларускі народ, якую ён пісаў усё жыццё. Ёсць у яго апавяданнях і «скразныя» персанажы, і пераклічкі, і падобныя сітуацыі. Пісьменнік не раз вяртаўся да сваіх ранніх твораў, уключаў іх фрагменты ў больш буйныя рэчы. Да апавядання звяртаўся ён і працуючы над «Камароўскай хронікай», шэраг фрагментаў да якой занатаваны ў выглядзе замалёвак.

## II

Гісторыя тэкстаў апавяданняў М. Гарэцкага даволі багатая, своеасаблівая і цікавая; яна дае вельмі каштоўны матэрыял для вывучэння ідэйна-творчай эвалюцыі пісьменніка, псіхалогіі яго творчасці, дазваляе папоўніць біяграфічныя звесткі, а таксама атрымаць уяўленне пра неажыццёўленыя задумы, планы ненапісаных твораў.

У матэрыялах фонду М. Гарэцкага, перададзенага па захаванне ў Цэнтральную навуковую бібліятэку імя Якуба Коласа АН БССР яго жонкай Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай і дачкой Г. М. Гарэцкай, ёсць некалькі лісткоў, на якіх пісьменнік у 1928 г. занатаваў назвы ўсіх напісаных ім твораў, пазначыў даты іх напісання. Адзін з гэтых лісткоў мае загаловак «Храналогія маіх твораў», другі — «План мае творчасці». Запісы, зробленыя ў іх, у большасці пацверджаны звесткамі з перыядычнага друку, даюць пэўнае ўяўленне пра творчую гісторыю многіх апавяданняў, дазваляюць удакладніць даты напісання ў тых выпадках, калі яны не былі пазначаны ў першых публікацыях.

Згодна «Храналогіі» першае апавяданне М. Гарэцкага «У лазні» было напісана 31 снежня 1912 г. А 25 студзеня 1913 г. яно было надрукавана ў «Нашай ніве». Рукапіс «У лазні» знаходзіцца зараз у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Літ.ССР. Гэта вядомы аўтограф ранняга перыяду творчасці М. Гарэцкага. Сярод яго рукапісаў, якія знаходзяцца ў фондзе, ёсць тэксты, што адносяцца да 1913—1916 гг., але яны ўяўляюць сабой перапрацоўкі, якія рабіліся для больш позніх публікацый.

Апавяданні М. Гарэцкага, што друкаваліся ў «Нашай ніве» на працягу 1913 года, увайшлі ў першы зборнік пісьменніка «Рунь», выдадзены ў 1914 г. у Вільні ў друкарні Марціна Кухты Беларускім выдавецкім таварыствам. Гэта апавяданні «У лазні», «Роднае карэнне», «Страхаццё», «Красаваў язмін», «У панскім лесе». Акрамя таго, у кнізе «Рунь» былі ўпершыню надрукаваны апавяданні «Што яно?», «У чым яго крыўда?», «Рунь», «Лірныя спевы», а таксама драматычны абразок «Атрута», першая публікацыя якога таксама была ў «Нашай ніве».

Пры жыцці М. Гарэцкага некаторыя з гэтых апавяданняў друкаваліся і пазней у перыёдыцы, урыўкі з іх уключаліся ў дзіцячыя чытанкі «Родны край» Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай. Апавяданні «У чым яго крыўда?» і «У лазні» пісьменнік аб'яднаў, перапрацаваўшы іх, у адзін твор — аповесць «У чым яго крыўда?», выдадзеную ў 1926 г.

Цікавую гісторыю мае апавяданне «Рунь», якое дало назву зборніку. У фондзе М. Гарэцкага захоўваюцца тры рукапісы, якія адносяцца да «Руні». Першы — гэта частка «Руні», у якой апавядаецца гісторыя Уладзіміра З. («Памяці друга»), а таксама ўрыўкі з яго дзённіка («Да самога сябе») — усё гэта часткова перапрацавана і аб'яднана ў адно апавяданне пад назвай «Рунь». Другі — урывак з апавядання «Войт», які ў кнізе «Рунь» падаваўся як напісаны Уладзімірам З.,— таксама стаў самастойным творам. Трэці рукапіс — гэта незакончаная перапрацоўка апавядання «Княгіня». У Зборы твораў усе гэтыя рукапісы друкуюцца як асобныя творы.

Зборнік «Рунь» быў заўважаны чытачамі, якія сачылі за развіццём маладой беларускай літаратуры, да яго прыхільна паставілася крытыка. Акадэмік Я. Ф. Карскі ў кнізе «Беларусы» (т. III, выпуск 3, Петраград, 1922 г.) зрабіў досыць падрабязны аналіз твораў, якія ўвайшлі ў кнігу, і ўбачыў у асобе М. Гарэцкага пісьменніка з вялікім будучым: «...у іх (апавяданнях) ёсць усе дадзеныя, каб з аўтара з часам развіўся добры пісьменнік з самародным талентам».

Кнігу «Рунь» высока ацаніў Максім Багдановіч. У артыкуле «Беларускае адраджэнне» (1914) «Рунь» змешчана ў пераліку найбольш значных твораў таго перыяду ў беларускай мастацкай літаратуры.

У 1913—1914 гг. М. Гарэцкі напісаў яшчэ некалькі твораў малога жанру, якія або былі апублікаваны пазней, або зусім не друкаваліся пры жыцці пісьменніка. Гэта «Патаёмнае», «Буйніцы і драбніцы», «Усё мінаецца», «Гапон і Любачка», «Скрыпачка», «Вясна», «Сумная дзяўчынка». Творчая гісторыя апавядання «Патаёмнае» не толькі цікавая, але і характэрная для адносін М. Гарэцкага да сваіх твораў. Напісанае ў 1913 годзе, а магчыма, і раней (у адным са спісаў «Храналогіі» твор стаіць першы, вышэй даты — 1913 — і назвы апавядання «У лазні»), яно было надрукавана ў 1918 г. Магчыма, што апавяданне перапрацоўвалася ў 1917—1920 гг. Частка апавядання была надрукавана ў 1920 г. у зборніку «Нашай нівы». Пазней, у 1924 г. таксама не поўнасцю яно змяшчалася ў газеце «Маладыя араты» і ў беларускім дэкламатары «Чырвоны дудар».

У фондзе М. Гарэцкага захоўваюцца тэксты апавяданняў «Патаёмнае» і «Цёмны Лес», якія ў цэлым і складаюць той першапачатковы тэкст, які публікаваўся ў 1918 годзе, але ён выгля-

дае значна перапрацаваным. Гісторыя тэксту «Патаёмнага» на гэтым не канчаецца. Пазней М. Гарэцкі ўключыў частку апавядання «Цёмны Лес» у адзін са сваіх апошніх твораў — «Скарбы жыцця». На жаль, адсутнічае першы ліст рукапісу і тэкст, які адносіцца да «Патаёмнага», захаваўся толькі ад слоў «Якуб! Якуб! — сумуе голасна зязюлечка». Да яго прымыкае таксама ў чацвёрты раз перапрацаваны тэкст фрагмента апавядання «Руіны», і ўжо затым ідзе напісанае ўпершыню.

Так выкарыстоўваючы старое, пераасэнсоўваючы яго, М. Гарэцкі ішоў да новага. Такі шлях быў уласцівы М. Гарэцкаму. Два апавяданні леглі ў аснову аповесці «У чым яго крыўда?», з апавяданняў «На гаі» (1918), «Кросны» (1919), «Як Лявон хадзіў на пошту» (1921) пачыналася аповесць «Меланхолія» (1928). Блізкія па тэме апавяданні «Рускі» (1915), «Літоўскі хутарок» (1915), «Герой» (1920) папярэднічалі з'яўленню запісак «На імперыялістычнай вайне» (1926). Дарэчы, менавіта гэтыя творы змешчаны аўтарам разам у «Плане мае творчасці» як, магчыма, асобны цыкл, аб'яднаны блізкасцю тэмы. Апавяданне «Рускі» ў першай публікацыі мела назву «На імперыялістычнай вайне (з запісной кніжкі)».

Апавяданні «Уцекачы» (1916), «Пабожны мешчанін» (1924) былі ўключаны пазней у цыкл «Сібірскія абразкі».

Варта ўспомніць і тое, што ўпершыню храналагічны прынцып, з дакладнай датыроўкай падзей, на якім пабудавана «Камароўская хроніка» і ў значнай ступені «Віленскія камунары», быў выкарыстаны М. Гарэцкім у «Сібірскіх абразках», цыкле «Люстрадзён», ды і раней — у апавяданнях «У чым яго крыўда?», «На этапе».

Была і яшчэ адна сталая тэндэнцыя ў творчасці М. Гарэцкага — імкненне да лаканічнасці, сціслаcці, уменне ў малым умясціць вялікае. Гэта тэндэнцыя знайшла выяўленне ў аўтарскай перапрацоўцы твораў, напісаных у 1915—1921 гг.

Нягледзячы на складаныя ўмовы жыцця — удзел у баях, раненне, цяжкі стан здароўя, М. Гарэцкі ў гэты час напісаў шэраг апавяданняў, якія належаць да лепшых узораў яго творчасці: «Літоўскі хутарок», «Рускі», «Зіма», «Маці», «Генерал», «Хадзяка», «Прысяга» і іншыя.

Лепшыя свае апавяданні М. Гарэцкі настойліва ўдасканальваў, папраўляў, дапісваючы фразы, выкрэсліваючы цэлыя абзацы, устаўляючы новыя. Але гэта — пасля. А ў тыя гады лёс апавяданняў быў вельмі розны. Адны хутка пасля напісання друкаваліся ў беларускіх выданнях тых часоў: газетах «Наша ніва», «Вольная Беларусь», «Беларускае жыццё», «Беларуская думка», «Наша думка», «Незалежная думка», «Беларусь», «Беларускія ведамасці», «Дзянніца», «Вольны сцяг». Іншыя былі перакладзены на рускую мову і друкаваліся ў «Известиях Смоленского Совета» ў аўтаперакладзе і толькі пазней па-беларуску. Некаторыя творы, як, напрыклад, «Ідэёвы чалавек», «Ахвяра», засталіся ў накідах.

Вельмі плённай была для М. Гарэцкага восень 1916 г., якую ён правёў у Гжацку. Запісы ў «Храналогіі» дазваляюць устанавіць дакладныя даты стварэння пэўных твораў. 7—12 кастрычніка было напісана апавяданне «Маці», 18—19 — «Хадзяка», у канцы верасня — не знойдзены твор «На чыстай адстаўцы». 7 лістапада напісаны «Амерыканец», 8 — «Прысяга», 10—11 — «На гаі»,

26 — «Дзве сястры». Датуецца 1916 годам і створана ў Гжацку таксама апавяданне «На этапе».

Значная колькасць апавяданняў напісана ў 1921 г. Асабліва прадуктыўна працаваў М. Гарэцкі ў жніўні — верасні. Апавяданні ў гэтыя месяцы, згодна «Храналогіі» і дат, прастаўленых аўтарам, з'яўляліся ў такой паслядоўнасці:

18 жніўня «Трасца»
21 — » — «Смачны заяц» («Паншчына»)
25 — » — «Дурны настаўнік»
28 — » — «Еду дамоў»
29 — » — «Страшная музыкава песня»
7 верасня «Скарб»
9 — » — «Сасна»

У 1921 г. былі таксама створаны (але дакладныя даты іх напісання невядомыя) апавяданні «Стары прафесар», «У панскай кухні», «Руіны», «Багатая пчэльня», «Супакой», «Нявесткі сваваца». Творчую гісторыю гэтых і некаторых іншых, больш ранніх твораў М. Гарэцкі раскрыў у апавяданні «Удосвецця» («Беларускія ведамасці, 1921, 20 снежня), якое потым у некалькі змененым выглядзе адкрыла кнігу «Досвіткі» (1926):

«Дзед казаў казкі і розныя прыгоды з даўняй мінуўшчыны. Ад яго, майго любага старога дзядулькі Анупрэя, чуў я гісторыі з часоў прыгоншчыны, спісаныя ў «Панскай сучцы», «Прысязе», «Асілку», «Прыгоне» і іншых апавяданнях».

Зборнік «Досвіткі» выйшаў з друку ў 1926 г. Яго склалі дзесяць апавяданняў, напісаных у 1916—1921 гг.: «Досвіткі», «Панская сучка», «Смачны заяц», «Прысяга», «Страшная музыкава песня», «Стары прафесар», «Дурны настаўнік», «Трасца», «Сасна», «Багатая пчэльня». Кніга атрымала станоўчы водгук у друку. У рэцэнзіях на яе адзначаліся ўменне аўтара будаваць сюжэт, майстэрскае валоданне мовай, псіхалагізм.

З 1922 г., пасля апавядання «Дурная галава», да 1928 г. у перыядычным друку не з'яўлялася новых апавяданняў М. Гарэцкага. Пісьменнік рыхтаваў зборнік «Апавяданні», які збіраўся выдаць у 1928 г. У фондзе М. Гарэцкага захаваліся некаторыя апавяданні, якія былі ўжо нанова перадрукаваны, дапрацаваны. Уяўляе цікавасць змест гэтай кнігі.

Вось ён:

Лэдзі і Тацяна
Смачны заяц
Крывая прысяга
Горды скамарох
Сасна
Багатая пчэльня
Стары прафесар
Трасца
Роднае карэнне
Юлічка
Лявон і Муся
Рунь
Амерыканец
У панскім лесе
Удзельніцы жыцця
Чарнічка
Маці
Хадзяка
Скарб
Зіма
У панскай кухні
Супакой
Крыўда
Меланхолія
Ціхая плынь
На імперыялістычнай вайне
Вайна
На этапе
Генерал
Пабожны мешчанін
Уцекачы
Знібее сэрца
Габрыелевы прысады

Няцяжка заўважыць, што М. Гарэцкі ўключыў у новы зборнік восем з дзесяці апавяданняў, што ўваходзілі ў кнігу «Досвіткі» (апрача апавяданняў «Досвіткі» і «Дурны настаўнік»), некалькі твораў са зборніка «Рунь»: «Роднае карэнне», «У панскім лесе», «Рунь», асобныя апавяданні, якія друкаваліся ў 1913 — 1921 гг. у перыёдыцы, тры аповесці, запіскі «На імперыялістычнай вайне» і два апавяданні, якія пазней увайшлі ў «Сібірскія абразкі». У пацы адсутнічаюць апавяданні з «Досвіткаў», аповесць «У чым яго крыўда?» і яшчэ два творы, якія нам асабліва цікава было б убачыць, бо іх назвы ўпамінаюцца толькі ў гэтым пераліку, а саміх твораў няма. Гэта — «Удзельніцы жыцця» і «Вайна». Нельга не прыкмеціць, што для выдання ў зборніку М. Гарэцкі змяніў некаторыя загалоўкі апавяданняў. «Лэдзі і Тацяна» — гэта «Панская сучка», «Крывая прысяга» была раней проста «Прысягай», апавяданне «Горды скамарох» мела назву «Страшная музыкава песня», «Юлічка» — гэта «Дзёгаць», «Лявон і Муся» — «Красаваў язмін». Дарэчы, у апошнім апавяданні герой меў імя Юра. Тут, мабыць, аўтар меў на ўвазе Лявона Задуму. Што ж хаваецца за назвамі «Удзельніцы жыцця» і «Вайна»? Адсутнасць шэрагу апавяданняў у пацы, дзе сабраны творы са зборніка «Апавяданні», крыху праясняецца, калі паглядзець на адваротны бок старонак рукапісу аднаго з апошніх твораў М. Гарэцкага, які адносіцца да 1928 г.,— «Кіпарысы». Большасць лістоў гэтага твора — разрэзаныя на 4 часткі лісты машынапісаў. Па тэксту, які, поўнасцю не захаваўся, можна зразумець, што «Кіпарысы» пісаліся на адваротных старонках падрыхтаваных да выдання апавяданняў «Смачны заяц», «Панская сучка», «Сасна», «Багатая пчэльня», а таксама «Досвіткі» і «Рускі». Калі б не было «Досвіткаў», да якіх ніяк не стасуецца назва «Удзельніцы жыцця», можна было б выказаць меркаванне, што назва «Вайна» адносіцца да апавядання «Рускі». Тады, магчыма, гэта было апавяданне «Літоўскі хутарок»? Але на адвароце двух лістоў з рукапісу «Сібірскіх абразкоў» знойдзены варыянт 1928—1929 гг. да першых старонак гэтага твора, дзе паўтараецца першапачатковая яго назва.

У «Выбраных творах» М. Гарэцкага (1973), складальнікі якога прытрымліваліся не храналагічнага прынцыпу, а падбору твораў па зборніках і цыклах, апавяданні з падрыхтаванага да выдання зборніка 1928 года даюцца па перапрацаваных аўтарам машынапісах, у некаторых з якіх маюцца аўтарскія праўкі. Трэба адзначыць, што праўкі, відаць, адносяцца да больш позняга, чым 1928 год, часу, таму можна гаварыць не аб адной, а, прынамсі, аб дзвюх перапрацоўках некаторых апавяданняў. Першая рэдакцыя была зроблена да 1928 г., ад яе захаваліся машынапісы тэкстаў. Параўноўваючы іх з адпаведнымі публікацыямі, нельга не заўважыць, наколькі патрабавальна паставіўся М. Гарэцкі да сваіх твораў, зноў рыхтуючы іх да друку. Па-першае, многія апавяданні былі значна скарочаны. Знята ўсё лішняе — элементы натуралізму, расцягнутыя разважанні, грубыя выразы. Па-другое, М. Гарэцкі паглыбляў, а часам і відазмяняў характарыстыку вобраза галоўнага героя, больш выразна акрэсліваў яго сацыяльную сутнасць. Характэрным прыкладам такой значнай перапрацоўкі служыць апавяданне «Зіма». У новай рэдакцыі гэтага твора адсутнічаюць тры досыць значныя ўрыўкі, вялікі раздзел перапісаны нанава. Зняты натуралістычны эпізод у час гуль-

ні ў карты. Незадаволенасць Панаса сваім жыццём пасля скарачэння аднаго абзаца стала тлумачыцца яго жаданнем вырвацца з аднастайнасці, забітасці, цемрадзі жыцця, а не тым, што Панас «скончыў двухкласную школу і застаўся мужыком». М. Гарэцкі звярнуў увагу і на мову твора, па праўках можна заўважыць наслядоўнасць, з якой аўтар пазбаўляўся ад дыялектычных слоў, русізмаў.

Вось некалькі прыкладаў.

| Было: | Стала: |
| --- | --- |
| аб ім нецярпліва думалі | нецярпліва чакалі |
| спорка | спрэчка |
| ташната | млосць |
| неадступна | неадчэпна |
| прыставіцца | прыкінуцца |
| зараз масленка | блізка масленка |

Але галоўнае, што змяніў М. Гарэцкі ў апавяданні, датычыць вобраза вясковага настаўніка Ляксея Ляксеевіча. М. Гарэцкі выкрасліў тэкст урыўка з рамана, які пісаў настаўнік. Замест яго М. Гарэцкі ўвёў новы эпізод, у якім па-новаму паказаў запаветныя думкі і планы творчасці настаўніка. Калі раней у апавяданні быў выведзены настаўнік, нечым блізкі да Гапона Гапонавіча, адарваны ад народа, які і ў сваім «рамане» заклапочаны толькі тым, як у алегарычнай форме давесці думку, што нельга есці ўсім з адной міскі, то ў новай рэдакцыі мы бачым чалавека, які хоча прысвяціць сваё жыццё асветніцкай працы, хоча бачыць родную старану не цёмнай і прыгнечанай, а сацыяльна разняволенай. Аўтарская іронія па адрасу настаўніка, аднак, не знікла, толькі гэта ўжо не злая, сатырычная іронія, а хутчэй спагадлівая ўсмешка.

Значна перапрацаваны апавяданні «Маці» і «Генерал». У першым скарочаны занадта падрабязныя апісанні нараджэння дзіцяці, адсутнічаюць разважанні дзяўчыны пра сваё жыццё, яе рэлігійна-містычныя думкі, крыху зменена заключная частка твора. У другім — скарачэнне і дапрацоўка былі накіраваны на тое, каб больш паказаць генерала не праз яго разважанні, а праз учынкі, акцэнтаваць увагу чытача не на прыватным выпадку недарэчнай, нічым не апраўданай смерці аднаго чалавека па віне другога, а на большым — асуджэнні вайны як бессэнсоўнай гібелі мільёнаў людзей у імя чужых ім інтарэсаў эксплуатататарскіх класаў.

Апавяданні «Габрыелевы прысады» і «Знібее сэрца» таксама сталі якасна новымі, дасканалымі пасля перапрацоўкі. Напісаныя на аўтабіяграфічным матэрыяле ад першай асобы, яны ў першапачатковым выглядзе мелі прыкметны адбітак прыватнага, асабістага. М. Гарэцкі ў новым варыянце значна скараціў апавяданне «Габрыелевы прысады», надаў яму большую цэласнасць.

Урывак з яго, які пачынаецца са слоў «А яшчэ зусім нядаўна...», М. Гарэцкі, мабыць, хацеў дапрацаваць і зрабіць самастойным творам, спрабаваў яго перарабляць, але не завяршыў гэтую працу.

Параўнанне трох рэдакцый апавядання «Зпібее сэрца» дае падставу для цікавых назіранняў. Першая публікацыя — аўтапераклад для «Известий Смоленского Совета»— была насычана падрабязнасцямі, якія дакладна паказвалі час і месца дзеяння: «Железноводск. Август. Дивное небо. Прекрасное солнце. Живительный воздух. Великая Бештау нежится и дремлет». «Старая простая женщина с белым узлом тяжело приплелась к Смирновскому источнику». У «Дзянніцы» (другая публікацыя) мы бачым ужо новы варыянт пачатку:

«Быў слаўны пагожы дзень у жніўні месяцы на адным з каўказскіх курортаў, дзе я ў свой час лячыўся ад розных сучасных хвароб і, здавалася, ужо лепшаў».

Тут нібы робіцца спроба аддаліцца ад прыватнага, ад канкрэтнасці абставін дзеяння, паказаць думкі не асобы аўтара, а апавядальніка.

У трэцім варыянце наогул знімаюцца ўсякія канкрэтныя прыкметы месца дзеяння, звесткі пра героя: «Дзіўнае неба. Упакойна-гарачае сонца. Жыватворчае паветра.

Знямелая гара-асілак кукобіцца і дрэмле і нагадвае егіпецкую піраміду».

Цікава, што пазней М. Гарэцкі ў сваіх творах стаў прытрымлівацца, можна сказаць, адваротнага прынцыпу — як мага дакладней перадаць адчуванне часу. Але гэта былі ўжо творы іншай настраёвасці, накіраванасці, асоба аўтара ў іх прысутнічала рэдка і то хутчэй у якасці назіральніка падзей, а не самапаглыбленага ва ўласныя думкі, настроі і перажыванні.

Арыгінал апавядання, з якога рабіўся пераклад, не захаваўся, таму рускі тэкст, які мае адрозненні ад другой публікацыі, дае цікавы дадатковы матэрыял. Тут мы знаходзім штрыхі да біяграфіі аўтара, яго думак, пачуццяў той пары. Напрыклад, яго разважанні пра паноў, адчуванне адзіноты, адчужанасці ад курортнай публікі. Або вось тлумачэнне адной з фраз: «Ад зямлі ты ўзят, ад зямлі ты ўзят!» — шэпча мне на вуха самотнасць мая.

Адкуль гэта? Што мне ўроілася ў галаву, які тут звязак?» А ў першым варыянце твора адказ быў: «От земли ты взят»... Ах, да! В часы моей юности и светлых надежд я читал, кажется, шведский роман под таким заглавием. О художнике, взятом от сохи, от земли взятом». Ці не таму і запомніўся М. Гарэцкаму гэты твор, што, чытаючы яго, ён думаў пра сябе? Маленькая дэталь, а за ёй стаяць разважанні пісьменніка пра сваё прызначэнне як творцы, пра сваю сувязь з радзімай, народам. Нездарма ж праз усе перапрацоўкі прайшоў, яшчэ больш выкрышталізаваўся матыў тугі па родных мясцінах.

М. Гарэцкі не лічыў завершанай і работу над апавяданнямі са зборніка «Досвіткі». Ацалелыя лісткі машынапісаў некаторых з іх, на якіх былі потым напісаны «Кінарысы», паказваюць, што пісьменнік многае змяняў у такіх творах, як, напрыклад, «Смачны заяц», «Трасца», «Панская сучка», не шкадуючы выкрэсліваў фразы, абзацы, запісваў новыя, зноў перарабляў іх. У гэтых праўках выразна бачна імкненне да строгасці пісьма, лаканізму. Раней М. Гарэцкі быў больш шчодрым у апісаннях, падрабязна апісваў некаторыя сітуацыі. Праўкі, зробленыя ім у 1927—1928 гг. у тэксце ранніх апавяданняў, паказваюць, якім патрабавальным быў пісьменнік да мовы твора. З асаблівай увагай працаваў

ён над фіналам. Напрыклад, апавяданне «Стары прафесар» у першай публікацыі завяршалася шчасліва. Прафесар пераступіў дзеля ыратавання жонкі праз свае прынцыпы атэіста, вучонага, і атрымлівалася, што знахарства дапамагло: «І яна, як на тое, стала папраўляцца і да восені зусім добра ўстала на ногі. Пасля здзвіжання яны выехалі ў Пецярбург, а сёлета ўжо не прыязджалі. Старая пані казала Аўгінні, што чакаюць дзіцяці і паехалі кудысь на цёплыя воды».

У кнізе «Досвіткі» быў іншы фінал: «Але не магла памагчы навука — не памаглі і забабоны. На трэці дзень хворая сканала». Толькі ці самае важнае ў творы — асуджэнне знахарства? Галоўнае ўсё ж — паказаць барацьбу забабонаў і навуковай перакананасці ў душы прафесара, няўстойлівасць вучонага ў гэтай барацьбе. І вось трэці варыянт фіналу, які мы знаходзім у аўтарскім экземпляры кнігі «Досвіткі», што захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Тая дакладнасць, з якой зроблены гэтыя праўкі, паказвае, што ўносіла іх рука майстра. Сканцэнтраваўшы ўвагу на галоўным у творы — тэме здрады сваім перакананням, М. Гарэцкі выкрэслівае апошнія абзацы — «Як бы лепей ∾ сканала» і завяршае твор, не апавядаючы далей, чым скончылася хвароба прафесаравай жонкі. Дзеля галоўнага ў творы аўтар выкрэслівае і радкі, у якіх апісваюцца любоў прафесара да фальклору, думкі Аўгінні, што прама перадаюць чытачу тое, над чым ён павінен задумацца сам.

Застаецца толькі шкадаваць, што папка з рукапісамі зборніка «Апавяданні» не дайшла да нас у тым выглядзе, які яна мела ў 1928—1929 гг.

У фондзе М. Гарэцкага захоўваецца яшчэ адна папка, у якой сабраны рукапісы «Сібірскіх абразкоў». Пад такой назвай М. Гарэцкі задумаў напісаць твор у выглядзе шэрагу апавяданняў, аб'яднаных агульнай тэмай. У чэрвені — ліпені 1926 г. М. Гарэцкі зрабіў паездку на Далёкі Усход для знаёмства з жыццём беларусаў-перасяленцаў. У дарозе ён вёў запісы, многія з якіх былі затым апрацаваны. Акрамя таго, М. Гарэцкі ўключыў у «Сібірскія абразкі» таксама і некалькі апавяданняў, напісаных раней.

У 1916 г. ён некаторы час служыў у Іркуцку. Убачанае там дало яму матэрыял для апавяданяў «Уцекачы» і «Пабожны мешчанін», якія ў «Храналогіі» датуюцца адпаведна 1918 і 1924 гадамі, аднак былі ўпершыню апублікаваны ў час працы над усім цыклам. У апавяданнях «Чорны лебедзь» і «Фельчар Плакун» М. Гарэцкі таксама звяртаецца да падзей, сведкам якіх ён быў у 1916 годзе, звязвае іх з сучаснасцю.

У фондзе М. Гарэцкага захоўваюцца рукапісы апавяданняў, накіды, дарожныя запісы, якія аўтар збіраўся выкарыстаць у «Сібірскіх абразках». Шэраг рукапісаў не быў апрацаваны, некаторыя часткова паўтараюць адзін аднаго, уяўляючы сабой, як, напрыклад, абразкі «Могільнік» і «Кааператар», два варыянты абразка; «На вяселлі» — чарнавы накід і больш апрацаваны тэкст. Асобныя абразкі засталіся наогул у выглядзе дарожных дзённікавых нататак.

У 1926—1928 гг. М. Гарэцкі апрацоўваў «Сібірскія абразкі», плануючы выдаць іх асобнай кнігай. Некаторыя апавяданні з цыкла («Фельчар Плакун», «Уцекачы», «Кіслая крыніца». «Малы рызыкант», «Агні») друкаваліся на працягу 1928 года ў «Звяздзе»

і літаратурным дадатку да «Савецкай Беларусі». Аднак праца над цыклам не была завершана. Некаторыя, пераважна больш апрацаваныя, апавяданні друкаваліся ў часопісе «Полымя» (1968, № 8), затым у «Выбраных творах (1973). Поўнасцю «Сібірскія абразкі» змяшчаюцца ўпершыню ў дадзеным томе.

Магчыма, М. Гарэцкі перапыніў працу над «Сібірскімі абразкамі», захапіўшыся новым цыклам — «Люстрадзён». З абвостранай увагай адносячыся да гісторыі, жывучы ў тых абставінах, калі яна ствaралася на вачах, М. Гарэцкі не хацеў жыць толькі мінулым. У яго ўзнікла задума напісаць цыкл апавяданняў, якія былі б люстрам дзён (адкуль і назва), сучасных яму, апавядалі б пра падзеі, якія хвалявалі яго ў гэтую пару жыцця. І на працягу 1929 — пачатку 1930 гадоў ствараецца цыкл апавяданняў, у якіх дакладна абазначаны не толькі месца, але і час дзеяння. Па календары за 1929 год лёгка ўстанавіць, што ён абмежаваны датамі ад пятніцы 23 жніўня («Перачаканне дажджу») да панядзелка 30 верасня («Знойдзеная дачушка»). Але ў працэсе работы аўтар заўважыў, што ён мусіць у пэўных выпадках парушыць каляндарны прынцып, бо сюжэт асобных апавяданняў зблíжаўся, а дзеянне адбывалася ў розныя дні.

У папцы, дзе сабраны рукапісы зборніка «Люстрадзён», ёсць напісаныя рукой аўтара шэсць варыянтаў парадку размяшчэння апавяданняў. Ёсць варыянт, суаднесены з датамі, але ў ім ужо адзначана недасканаласць такога парадку, робяцца заўвагі: «Чыстка» (перанесці, зрабіць пасля «Сну»)» або «Сон» — зрабіць да «Чысткі». Ёсць варыянт, у якім апавяданні, нечым звязаныя паміж сабой, аб'ядноўваліся ў чатыры радзелы. І ёсць яшчэ адзін цікавы варыянт, які варта прывесці поўнасцю. Гэта замысел аб'яднаць усе апавяданні па зусім іншаму прынцыпу, звязаўшы іх паміж сабой як адзін твор пра пяць братоў Вышнявецкіх. Вось гэты запіс:

БРАТЫ ВЫШНЯВЕЦКІЯ

Першы брат. 1. Прастуда містэра Рамзая (прадстаўнік Рас. камітэту).

Другі брат. 1. Пагранічны інцыдэнт на Амуры (афіцэр).

Трэці брат. 1. Кірмашовае пабоішча ў м. Крывічах (паліцыянт).

Чацвёрты брат. 1. Асляпёны конь (аграном Вышнявецкі). 2. Якасць прадукцыі (аграном).

Пяты брат. 1. Жаночая помста (Старабыльскі). 2. Смерць (прамоўца).

Замысел не быў рэалізаваны. Ад яго засталося толькі ўпамінанне прозвішчаў Вышнявецкі, Старабыльскі ў некаторых апавяданнях, ды яшчэ ў другім варыянце апавядання «Пагранічны інцыдэнт на Амуры» з'явіліся радкі пра белагвардзейскага афіцэра. Запіс зместу твора пад назвай «Браты Вышнявецкія» цікавы тым, што ён паказвае нам замысел стварыць нешта накшталт сямейнай хронікі, які потым увасобіўся ў «Віленскіх камунарах», «Камароўскай хроніцы». Невядома, што стрымала М. Гарэцкага ад намеру паказаць, як лёс раскідаў прадстаўнікоў адной сям'і, братоў, па ўсім свеце ад Англіі да Кітая, прывёў іх у супрацьлеглыя лагеры.

Рукапісы зборніка «Люстрадзён» засталіся недапрацаванымі,

дайшлі да нас не поўнасцю. Страчаны апавяданні «Якасць прадукцыі», «Усё любоў праклятая», якія ўпамінаюцца ў некаторых варыянтах зместу, толькі невялікі ўрывак тэксту дае ўяўленне аб змесце апавядання «Неразгаданыя людзі».

Чытач ужо знаёмы з апавяданнямі цыкла «Люстрадзён», парадкам іх размяшчэння. Застаецца растлумачыць, што цыкл друкуецца на аснове каляндарнага прынцыпу з парушэннем яго там, дзе гэта меў намер зрабіць аўтар. Разначытанні і варыянты пададзены ў каментарыях да канкрэтных твораў цыкла.

Наколькі поўна прадстаўлена ў томе спадчына М. Гарэцкага ў галіне малога жанру? У «Храналогіі» Максіма Гарэцкага зафіксавана амаль усё, напісанае ім на працягу 1923—1928 гг. З гэтых твораў беззваротна страчаны рукапіс апавядання «Адна», аб чым пісаў сам М. Гарэцкі. Апавяданне гэтае напісана ў 1915 г., надрукавана не было, невядомы застаўся і яго змест. Не знойдзена і апавяданне «На чыстай адстаўцы», напісанае ў Гжацку ў канцы кастрычніка 1916 г. З апавяданняў, напісаных у 1921 г., М. Гарэцкі называе «На заезджым двары», «Нафталін», «Гутарка аб відзенні», «Жыццё ў глыбокім тыле», «Спакой», «Гуляюць...», «Маруська», «Вечны карагод». У «Плане мае творчасці» ўпамінаюцца назвы «Падарожны», «Супярэчнасці»— якія не расшыфраваны, як некаторыя іншыя, і абазначаюць або не напісаныя яшчэ творы, або тыя, што былі напісаны і не захаваліся. Магчыма, нешта з гэтых твораў публікавалася і пакуль не адшукана.

Ёсць і яшчэ адна акалічнасць. М. Гарэцкі часта мяняў назвы сваіх твораў. Напрыклад, апавяданне «Панская сучка» называлася ў розных публікацыях, рукапісах і ў «Храналогіі» «Сука магната», «Лэдзі і Тацяна». Ёсць і больш складаныя загадкі. «Чарнічка» і «Чарнушка»— назвы блізкія, але абазначаюць розныя творы, другі з іх зараз мае назву «Памылка», былі і варыянты: «Грэшная чарнушка», «Чарнушка займаецца зладзействам», «Зладзейка», «Другая чарнушка», «Чарнушка і абразы». Таму ёсць верагоднасць, што за некаторымі назвамі з «Храналогіі» і «Плана мае творчасці» хаваюцца ўжо вядомыя нам творы.

Пошукі твораў М. Гарэцкага, асабліва ранніх, ускладняюцца тым, што ён часта падпісваўся псеўданімамі, ініцыяламі, крыптанімамі. Зараз з разнавіднасцямі іх вядома больш дзесяці: М. Б., М. Беларус, Максім Беларус, Г. М., М. Г., А. Мсціслаўскі, Ваш Амсціслаўскі, М-скі А., Псеўданім, Гар-цкі, Дзед Кузьма, Кузьмянкоў. Некаторыя з іх ужываліся адзін-два разы, напрыклад, апошні. Прозвішчам «Кузьмянкоў» было падпісана апавяданне «Дурная галава» (Беларускі звон, 1922). Можа быць, М. Гарэцкі выкарыстаў яго як блізкае псеўданіму «Дзед Кузьма». Прыгадаем, што «Віленскія камунары» былі напісаны «ад імя» Мацея Мышкі, «Люстрадзён» пісьменнік збіраўся выдаць пад псеўданімам «Мізэрыус Монус», а невялікая нататка «Няхай жыве камуністычная Беларусь!» у «Известиях Смоленского Совета» (1919) была падпісана — П. Б.-н.

Кожны з сабраных у першым томе твораў мае сваю гісторыю, аб усіх немагчыма напісаць. Чытачу, які пажадае зазірнуць у творчую майстэрню М. Гарэцкага, многае можа даць знаёмства з варыянтамі тэкстаў. Гэта дазволіць лепш зразумець, як гартаваўся талент М. Гарэцкага, як настойліва працаваў ён над словам, удасканальваў сваё майстэрства.

*М. П. Кенька*

## У ЛАЗНІ (с. 47)

Друкуецца па кнізе «Рунь». Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, 25 студзеня. Датуецца 31 снежня 1912 г. згодна запісу ў «Храналогіі маіх твораў». У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Літ. ССР захоўваецца рукапіс апавядання, які М. Гарэцкі даслаў у рэдакцыю «Нашай нівы». Твор быў падпісаны псеўданімам «Максім Беларус», але ніжэй М. Гарэцкі напісаў звесткі аб сабе: «Крэсцьянін вёскі Малае Багацькаўкі Шамоўскае воласці Мсціслаўск. пав. Маг. губ. Макс. Іван. Гарэцкі. Адрас: Горкі Маг. губ., каморніцка-агранамічнае вучылішча, М. І. Гарэцкаму». У рукапісе апавяданне датуецца 3 студзеня 1913 г., што верагодна лічыць датай адпраўкі твора ў рэдакцыю.

«У лазні» — першае апавяданне пісьменніка. Яно ўвайшло ў першы яго зборнік «Рунь» (1914). Друкавалася таксама ў газ. «Гоман», 1918, 19, 22 лютага (№№ 15, 16). Увайшло ў перапрацаваным выглядзе ў аповесць «У чым яго крыўда?» (Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926 г.).

## ПАТАЁМНАЕ (с. 53)

Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню твор пад такой назвай друкаваўся ў час. «Варта», 1918, № 1. Ён пазней некалькі разоў перапрацоўваўся. Частка апавядання як самастойны твор друкавалася ў зборніку «Нашай нівы» (1920 г.), у зборніку «Беларускі дэкламатар «Чырвоны дудар» (Мінск, выд. «Савецкая Беларусь», 1924), у газ. «Малады араты», 1924, 24 чэрвеня.

Па тэксту «Беларускага дэкламатара «Чырвоны дудар» друкаваўся ў «Выбраных творах». У фондзе маюцца рукапіс апавядання «Патаёмнае» і машынапіс з праўкамі аўтара другога апавядання «Цёмны Лес», якія раней складалі адзін твор. Абодва апавяданні значна адрозніваюцца ад першай публікацыі. Дакладная дата перапрацоўкі не вызначана, прыблізна можна аднесці не да 1926—1928 гг. Датуецца 1913 г. згодна «Храналогіі».

Урыўкі з апавядання (пад назвай «Нашая бацькаўшчына» і «Цёмны Лес») друкаваліся ў чытанцы «Родны край» (кн. 3—4) Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай.

## ЦЁМНЫ ЛЕС (с. 55)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Уяўляе сабой частку апавядання «Патаёмнае», перапрацаваную аўтарам. У перапрацаваным выглядзе друкуецца ўпершыню. Датуецца 1913 г. згодна «Храналогіі». Машынапіс мае аўтарскія праўкі, частка тэксту дапісана чарнілам.

## СТОГНЫ ДУШЫ (с. 58)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 16 мая, дзе было апублікавана ўпершыню. Датуецца 1913 г. па часе публікацыі.

## РОДНАЕ КАРЭННЕ (с. 58)

Друкуецца па кнізе «Рунь». Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, 2, 9, 16 жніўня і 5 верасня, пад назвай «Родныя карані». Першая публікацыя была падпісана: «Максім Беларус». Урыўкі пад назвай «Ваўкі» і «Роднае карэнне» ўключаліся ў чытанку «Родны край». Акадэмік Я. Ф. Карскі ахарактарызаваў гэты твор як «прекрасный рассказ по содержанию и по естественности изложения» (Е. Ф. Карский. «Белорусы», т. III. вып. 3, Петраград, 1922, с. 372). Датуецца 1913 г. па часе публікацыі.

## У ПАНСКІМ ЛЕСЕ (с. 80)

Друкуецца па кнізе «Рунь». Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, 12 верасня за подпісам «М. Г.». Датуецца 1913 г. па часе публікацыі.

## КРАСАВАЎ ЯЗМІН (с. 81)

Друкуецца па кнізе «Рунь». Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, 28 верасня за подпісам «М. Г.». Датуецца 1913 г. па часе публікацыі.

## СТРАХАЦЦЁ (с. 85)

Друкуецца па кнізе «Рунь». Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, 24 кастрычніка. Падпісана «Г. М.». Друкавалася ў газ. «Гоман», 1916, 2 чэрвеня; у скарочаным выглядзе ўключалася ў чытанку «Родны край» (кн. 1.). Датуецца 1913 г. па часе публікацыі.

## ШТО ЯНО? (с. 87)

Друкуецца па кнізе «Рунь», дзе было апублікавана ўпершыню. Датуецца 1913 г. згодна запісу ў «Храналогіі».

## БУЙНІЦЫ І ДРАБНІЦЫ (с. 101)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага. Пры жыцці пісьменніка не друкавалася. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Датуецца 1913 г.

## УСЕ МІНАЕЦЦА (с. 101)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Датуецца 1913 г.

## ХАЎТУРЫ (с. 102)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага.

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 3 кастрычніка, пад назвай «Самае кароткае апавяданне». У першай публікацыі датуецца вераснем 1921 г. У машынапісе датуецца 1913 г.

## РУНЬ (с. 103)

Друкуецца па машынапісу і рукапісах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — «Рунь». Датуецца 1914 г. згодна запісу ў «Храналогіі». Апавяданне ў першай публікацыі ўключала ў сябе напісаную ад імя аўтара частку «Памяці друга», у якой апавядалася пра Уладзіміра З., творы якога ён нібыта прадстаўляе чытачу, затым ішлі ўрыўкі з саміх твораў пад назвай «Войт», «Княгіня». «Да самога сябе», «Кавалкі з днеўніка».

Пазней М. Гарэцкі дапісаў апавяданне «Войт», перапрацаваў таксама ўрывак «Княгіня», але асобна гэтыя творы не друкаваліся. Пад назвай «Рунь» былі пасля перапрацоўкі аб'яднаны астатнія часткі. Дата перапрацоўкі дакладна не ўстаноўлена, прыблізна 1926—1928 гг. У перапрацаваным выглядзе друкуецца ўпершыню.

## ВОЙТ (с. 113)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — зб. «Рунь». Датуецца 1913 г. Урывак з апавядання «Рунь», напісаны ад імя Уладзіміра З., быў дапрацаваны М. Гарэцкім, стаў самастойным творам.

## [КНЯЗЕЎНА] (с. 115)

Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага (ф. 7, воп. 1, адз. зах. 38, лісты 12—14). Упершыню — пад назвай «Княгіня» ў кнізе «Рунь», друкавалася як частка з аднайменнага апавядання, дзе было пададзена як накід апавядання Уладзіміра З., пра якога пісаў аўтар. («Вось другое апавяданне, у каторым Уладзімір хацеў апісаць гістарычныя часы Беларусі»).

Тэкст рукапісу напісаны чорным чарнілам, маюцца паасобныя праўкі. У параўнанні з тэкстам кнігі «Рунь» рукапіс мае больш блізкую да сучаснай арфаграфію, што даказвае яго пазнейшае паходжанне. Радкі «Нашто ~ табе?»— адсутнічалі ў першай публікацыі.

Можна з пэўнай падставай меркаваць, што аўтар перапрацоўваў апавяданне, маючы намер зрабіць яго самастойным творам, як і «Войт». У рукапісе апавяданне не мае назвы. Намі выкарыстоўваецца назва першай публікацыі, зменена ў адпаведнасці з аўтарскай праўкай (Замест «Княгіня» — «Князёўна»). Датуецца 1913 г.

## У ЧЫМ ЯГО КРЫЎДА (с. 116)

Друкуецца па зб. «Рунь», дзе было ўпершыню апублікавана. Датуецца 1914 годам. Апавяданне паслужыла асновай для аднайменнай аповесці, у якую было ўключана ў дапрацаваным выглядзе таксама апавяданне «У лазні».

## СКРЫПАЧКА (с. 129)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Пры жыцці пісьменніка не друкавалася. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Дата напісання дакладна не ўстаноўлена. Па зместу можна меркаваць, што апавяданне пісалася ў ранні перыяд творчасці М. Гарэцкага.

## ВЯСНА (с. 129)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Датуецца 1914 г. згодна даты ў машынапісе, настаўленай аўтарам.

## СУМНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА (с. 132)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Рукапіс уяўляе сабой ліст са сшытка, у верхняй частцы якога прыклеена выразка — ліст нелінаванай паперы з тэкстам першых пяці абзацаў апавядання. Загаловак і далейшы тэкст дапісаны на асноўным лісце. Праўкі зроблены чорным чарнілам, якім напісаны і ўвесь тэкст. Апошні абзац закрэслены чырвоным алоўкам, але ў дадзеным томе ён адноўлены, таму што надае апавяданню большую завершанасць. Датуецца 1914 г.

## ДЗЁГАЦЬ (с. 133)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Наша ніва», 1915, 22 мая. Датуецца 12 красавіка 1915 г. («Храналогія»).

Машынапіс твора правак не мае, апрача загалоўка, надпісанага вышэй ранейшага — «Юлічка» — алоўкам. Апрача гэтай назвы, у «Плане мае творчасці» ўпамінаецца яшчэ адна: «Дзёгаць і пыл». М. Гарэцкі планаваў уключыць «Дзёгаць» у зборнік «Апавяданні».

## ЧАРНІЧКА (с. 137)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, 8 снежня. Пад загалоўкам «Монашенка» друкавалася (у перакладзе аўтара) на рускай мове ў газ. «Известия Смоленского Совета» 25 кастрычніка 1918 г. пад псеўданімам «Дзед Кузьма». Урывак пад назвай «Восень» уклю-

чаўся ў чытанку «Родны край» (кн. 3—4). Твор напісаны ў Багацькаўцы.

Машынапіс мае праўкі, зробленыя алоўкам. Уверсе, збоку ад загалоўка, напісана: «Восень».

### ЛІТОЎСКІ ХУТАРОК (с. 140)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, 12, 13, 15 чэрвеня, дзе было ўпершыню апублікавана. Датуецца 1915 г., дата завяршэння — 7 красавіка 1915 г. Дата прыводзіцца ў першай публікацыі.

У фондзе М. Гарэцкага ў папцы з рукапісамі апавяданняў цыкла «Сібірскія абразкі» на адваротным баку лістоў 112—113 (апавяданне «Пад'езд») ёсць рукапісы двух варыянтаў пачатку апавядання «Літоўскі хутарок», перакрэсленыя сінім чарнілам. Датаваць рукапісы пэўным годам не ўяўляецца магчымым, але па ўскосных дадзеных (почырк, асаблівасці арфаграфіі) можна меркаваць, што спроба перапрацоўкі апавядання рабілася каля 1928—1929 гг.

### РУСКІ (с. 154)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1925, № 1 пад загалоўкам «На імперыялістычнай вайне (З запісной кніжкі)». Датуецца 1915 г. згодна запісу аўтара. Магчыма, твор па задуме аўтара павінен быў уваходзіць у запіскі «На імперыялістычнай вайне». У фондзе М. Гарэцкага маецца выразка з часопіса і машынапіс з праўкамі аўтара.

### ЗІМА (с. 158)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, 23, 30 чэрвеня. Датуецца 1915—1917 гг. Дата завяршэння — 17 кастрычніка 1917 г. Для зборніка «Апавяданні» твор перапрацоўваўся. М. Гарэцкі значна скараціў яго, зняў апісанні, у якіх былі элементы натуралізму, зрабіў шматлікія праўкі.

### МАЦІ (с. 171)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, 4 жніўня. Датуецца 1916 г. згодна «Храналогіі». Напісана 7—12 кастрычніка ў Гжацку. Для зборніка «Апавяданні» твор быў значна перапрацаваны.

### ХАДЗЯКА (с. 177)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 41. Дату-

14 Зак. 3829

ецца 1916 г. Напісана ў Гжацку 18—19 кастрычніка. Машынапіс мае рукапісныя праўкі.

### ГЕНЕРАЛ (с. 181)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, 12 мая. Датуецца 1916 г. згодна «Храналогіі». Напісана ў Гжацку 20—23 кастрычніка. Пры падрыхтоўцы зборніка «Апавяданні» М. Гарэцкі істотна перапрацаваў твор.

### АМЕРЫКАНЕЦ (с. 188)

Друкуецца па газ. «Вольная Беларусь», 1917, 14 лістапада, дзе ўпершыню апублікавана. Датуецца 1916 г. згодна запісу ў «Храналогіі». Напісана ў Гжацку 7 лістапада. Друкавалася без змен таксама ў «Беларускай думцы», 1919, № 2—3.

### ПРЫСЯГА (с. 195)

Друкуецца па зборніку «Досвіткі». Упершыню — газ. «Наша ніва», 1920, 28 кастрычніка, 1, 12, 16 лістапада. Датуецца 1916 г. згодна запісу ў «Храналогіі». Напісана 8 лістапада ў Гжацку. У пераліку зместу зборніка «Апавяданні» названа «Крывая прысяга».

### ДЗВЕ СЯСТРЫ (с. 202)

Друкуецца па час. «Вольны сцяг», 1921, 15 кастрычніка, дзе было ўпершыню апублікавана. Датуецца 1916 г. згодна запісу ў «Храналогіі». Напісана 26 лістапада ў Гжацку. У «Храналогіі» мела назву «Дзве сястрычкі».

### НА ЭТАПЕ (с. 206)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — «Полымя», 1972, № 7. Датуецца 1916 г. згодна машынапісу. Дапрацаваны твор М. Гарэцкі планаваў уключыць у зборнік «Апавяданні». Магчыма, твор друкаваўся раней, але звестак пра гэта не знойдзена. Напісана ў Гжацку.

Закрэсленае ў машынапісе:

Я запісаў сабе назву вёскі і дзе яна знаходзіцца, каб пасля вайны, калі застануся жывы, паехаць туды ў этнаграфічную экспедыцыю.

### ГАБРЫЕЛЕВЫ ПРЫСАДЫ (с. 211)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага.

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, 24 лютага пад загалоўкам «Габрыелевы алеі».

Згодна «Хрaналогіі» апавяданне завершана 28 верасня 1917 года ў Жалезнаводску. Перапрацавана ў 1928 годзе для выдання ў зборніку «Апавяданні». У параўнанні з першай публікацыяй тэкст апавядання значна зменены, зроблены шэраг скарачэнняў, правак. Вялікі ўрывак тэксту «Габрыелевых прысад» (апісанне Кісла-водска), выключаны з першапачатковага варыянту, захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага пад умоўнай назвай «Кіславодскія замалёўкі».

Перапрацоўваючы апавяданне, М. Гарэцкі імкнуўся зрабіць яго больш кампактным, больш сцісла пераказана ў творы гісторыя Габрыеля, зняты і вялікі ўрывак, у якім былі занатаваны развaжанні аўтара, змрочныя, містычныя думкі аб жыцці. Яны былі сканцэнтраваны ў адным абзацы, дапісаным пазней: «Прыйшоў вялікі час, і вялікай працы чакае краіна. Мала я жыў, мала зрабіў. Хворы, капаюся ў мінулым, падводжу ўбогія рахункі. Не ведаю, куды павядуць мяне мае жыццёвыя дарогі». Але і гэты ўрывак быў закрэслены. Мы захавалі яго ў апавяданні таму, што без яго перарывалася сувязь з далейшым.

Перапрацаваны варыянт апавядання набыў большую абагуленасць, элементы аўтабіяграфічнага, дакументальнага характару ў ім падначалены задуме ўзняцца да тыповага, усеагульнага.

## [КІСЛАВОДСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ] (с. 215)

Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Датуецца 1917 годам. Рукапіс уяўляе сабой асобныя лісты з тэкстам, які напісаны чорным чарнілам, наклееныя на чатыры лісты. Пад рукапісам дата: 28/IX 1917. Жалезнаводск — тая ж, што і ў апавяданні «Габрыелевы алеі», часткай якога з'яўляецца ўрывак. Магчыма, М. Гарэцкі меў намер надрукаваць гэты твор як самастойнае апавяданне. У параўнанні з адпаведным тэкстам 1918 года ва ўрыўку расшыфраваны назвы Кіславодск, Пяцігорск, Жалезнаводск, Эльбрус, якія ў першай публікацыі абазначаліся толькі першай літарай, зняты асобныя абзацы, у якіх прасочвалася сувязь з «Габрыелевымі алеямі», некаторыя разважанні, думкі.

Апошнія абзацы (Ляцеў ~ Дзе вы?») амаль супадаюць з адпаведнымі радкамі з «Габрыелевых прысадаў». Назва «Кіславодскія замалёўкі» — умоўная, у рукапісе яе няма.

## ЗНІБЕЕ СЭРЦА (с. 218)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню: «Известия Смоленского Совета», 1918, 9 сакавіка, пад назвай «Щемит сердце» ў перакладзе на рускую мову, зробленым аўтарам. Друкавалася пад псеўданімам «Дзед Кузьма». Упершыню ў арыгінале — газ. «Дзянніца», 1918, 7 лістапада. Датуецца 1917 г. згодна «Храналогіі». Напісана ў Жалезнаводску, як і «Габрыелевы прысады». Машынапіс правак не мае, алоўкам дапісана толькі апошняя фраза.

## ПАНСКАЯ СУЧКА (с. 221)

Друкуецца па тэксту зборніка «Досвіткі». Упершыню — газ. «Известия Смоленского Совета», 1918, 14 студзеня, пад назвай «Сука магната» на рускай мове ў перакладзе аўтара, пад псеўданімам «Дзед Кузьма». Упершыню ў арыгінале — газ. «Беларуская думка». 1919, № 20—23. Друкавалася таксама ў газ. «Беларусь», 1920, 17, 18 сакавіка (з падзагалоўкам «Апавяданне з часоў паншчыны»), у зборніку «Досвіткі» (1926). Урывак пад назвай «Хаўтуры за прыгонам» змяшчаўся ў 3—4 кнізе чытанкі «Родны край». Датуецца 1918 г. згодна запісу ў «Храналогіі»: студзень 1918, Смаленск. У варыянтах і ў «Храналогіі» мела таксама назвы «Лэдзі», «Лэдзі і Тацяна», «Сука магната».

## ІДУЦЬ УСЕ — ІДУ Я... (с. 232)

Друкуецца па час. «Беларускае жыццё», 1919, № 2, дзе было надрукавана ўпершыню. Датуецца 1919 г. згодна часу публікацыі.

## ТАМАШЫ (с. 234)

Друкуецца па час. «Вольны сцяг», 1920, № 1, дзе было ўпершыню апублікавана. Датуецца 1920 г. згодна часу публікацыі. У фондзе М. Гарэцкага, у папцы, дзе сабраны разрозненыя старонкі-ўрыўкі асобных твораў,— ёсць ліст, напісаны чорным чарнілам, які ўяўляе сабой урывак з, мабыць, больш ранняга рукапісу «Тамашоў». І пачатак яго (Каб цябе ～ па яго словы) амаль супадае з тэкстам першай публікацыі, працяг жа — адсутнічае.

Варыянт рукапісу:

с. 240

[41] Каб табе ～ маўчыш! — адсутнічае.

с. 241

[1] Замест: па-боску // па добраму.

[1–6] Ні разу ～ божа наш!» — адсутнічае.

[7] Пасля словы//Яна думала пра сваё жыццё і шкадавала сябе. Яна была з беднага двара, за беднага зайшла замуж. Пажыла з ім троху, і ён памёр, пакінуўшы яе ўдавою з малым на руках. Памёрла і малое. Вярнулася да бацькі, думала лепей будзе, чым у мужавых братоў, што пачалі ўжо гыркаць па яе. А там браты пачалі гыркаць. У наймы пайшла. Спярша ў панкоў па фальварках служыла, а тады ў мястэчка да пісара нанялася. Уцякла ад пісара, бо чапіцца пачаў. Ваданоскаю ў местачковых крамнікаў была, па суботах у печы ім паліла і ўсякую цяжкую чорную работу рабіла. І вось падкруціўся гэты пракляты Тамаш... Нашто было ісці за яго? На смачнейшы кавалак хлеба разлічала. Горак стаў гэты кавалак, так горак, што жыць не хочацца... А вось другі год жыве, і дзіця няма. І не любіць яна Тамаша. Нялюбы чалавек. Адна радасць — Міхалка ў хаце. А Тамашу (бацьку — закрэслена) вярзецца (нялюба — закрэслена) ужо, што ў яе з Міхалкаю... (ёй Міхалчынае — закрэслена).

## ЗЛОСЦЬ (с. 241)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 22 студзеня. Датуецца 10 снежня 1920 г. згодна даты ў першай публікацыі.

## ДОСВІТКІ (с. 243)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі». Упершыню над назвай «Удосвеццця» ў газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 20 снежня. У параўнанні з тэкстам кнігі першая публікацыя мае адрозненні. Датуецца 1921 г. згодна часу першай публікацыі. Твор друкаваўся і ў газеце «Чырвоная змена», 1926, 24 верасня.

Варыянты газ. «Беларускія ведамасці»:

с. 243—244

37—29 Замест: Доўгімі ~ падданых. //

Доўга цягнуцца зімовыя досвіткі.

Гэты час — найлепшая пара для развіцця нашае народнае паэзіі і пераказаў старыны.

Цэлы год прабыў я парабкам у заможнага хадзяіна (тут слова «гаспадар» ужо забыліся) у захалусці Смаленскае губерніі і з найбольшай прыемнасцю ўспамінаю якраз бясконцыя зімовыя досвіткі.

Дзед казаў казкі і розныя прыгоды з даўняй мінуўшчыны. Ад яго, майго любага старога дзядулькі Анупрэя, чуў я гісторыі з часоў прыгоншчыны, спісаныя ў «Панскай сучцы», «Прысязе», «Асілку», «Прыгоне» і іншых апавяданнях.

Яго старэйшы ўнук, дваццацёхгадовы хлапец Гаўрыла, часта перабіваў нам ціхую, стройную плынь казання й слухання.

Маладая думка заўсёды бунтавала супроць пакоры падданых панам.

с. 245—246

43—16 Замест: Маўчыць ~ дзядулі... // Доўга цягнуцца зімовыя досвіткі. Яшчэ далёка да світання.

## ПАМЫЛКА (с. 246)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Тэкст уяўляе сабой наклееную на паперу выразку з газеты, па якой М. Гарэцкі зрабіў шэраг правак. Пэўны час было невядома, адкуль выразка, у каментарыях да «Выбраных твораў» М. Гарэцкага адзначалася, што дата і месца публікацыі не ўстаноўлены. Упершыню апублікавана пад назвай «Грэшная чарнушка» ў газ. «Наша думка», 1921, 29 студзеня. Пад тэкстам прастаўлена дата — 10 снежня 1920 г. У «Храналогіі» твор быў запісаны пад назвай «Чарнушка займаецца зладзействам» і датаваўся 1921 годам. Аднак дату, прастаўленую ў першай публікацыі, трэба лічыць больш правільнай.

Апавяданне мела таксама варыянты назвы: «Другая чарнушка», «Чарнушка і абразы», «Зладзейка».

## «ДУРНЫ НАСТАЎНІК» (с. 248)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі». Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 14 снежня пад загалоўкам «Дурны вучыцель». Датуецца 25 жніўня 1921 г. згодна «Храналогіі».

## ТРАСЦА (с. 253)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі», дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца 18 жніўня 1921 г. згодна «Храналогіі».

## СМАЧНЫ ЗАЯЦ (с. 257)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі». Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 10 кастрычніка пад загалоўкам «Паншчына». Датуецца 21 жніўня 1921 г. згодна «Храналогіі».

Публікавалася без змен у першым зборніку «Беларускіх ведамасцей» (Вільня, 1921). Сярод варыянтаў першай публікацыі ўяўляе цікавасць пазней зняты ўрывак, дзе М. Гарэцкі скарыстоўвае беларускую казку пра паходжанне шляхты.

с. 261

Варыянты газ. «Беларускія ведамасці»:

5 Пасля: Бжастоўскі //, вядомы ў сваім часе на ўсю Рэч Паспалітую дуэліста і забойца аднаго В-га ксяндза. Хто чытае старынныя кнігі, той ведае аб гэтым скандальным забойстве графам жартаўлівага ксяндза, быўшага яго духоўніка і друга. Для няведаючых — кароценькая спраўка. Ксёндз быў з добрай шляхты і за чаркай мёду любіў, па жартаўлівасці сваёй натуры, пасмяяцца над важнымі тытуламі. Аднойчы, гасцюючы ў графа ў Бжаставіцах, у цеснай выпівацкай кумпаніі, у якой быў і граф, ксёндз гэты апавядаў вядомую беларускую легенду аб пахаджэнні князёў і графаў.— «Калі бог тварыў людзей, дык кандыдатаў на князёў і графаў ён памазаў маслам. А нейкі падла-сабака, смакуючы масла, прыбег і з'еў памазаных. Загневаны бог схапіў яго за хвост і пачаў трэсці. З-пад хваста пасыпаліся кандыдаты, і які зваліўся пад вішню, зрабіўся князь Вышнявецкі, каторы пад асіну — граф Асіноўскі, той, што пад бярозу, той граф Бжастоўскі, па-беларуску Берастоўскі»... Шалёны граф, самалюбны ў тытульных справах, прымусіў свайго духоўніка тут жа, у кабінеце, стаць з ім напаядынак і забіў з пісталета перабраўшага меру хмельнага ксяндза, за што мусіў на нейкі час нават уцячы ад каралеўскага суда за межы Рэчы Паспалітай.

— Скуль яснавяльможны дастаў яго? — спытаўся ў князя аб кухары гэты самы граф Бжастоўскі.

Пасля: ніякава //. Гэта мы яму — «людцы» — усміхнуўся шляхетны граф Бжастоўскі на простую мову кухара.

## ЕДУ ДАМОЎ (с. 264)

Друкуецца па тэксту газ. «Беларускі звон», 1922, 4 ліпеня, дзе было ўпершыню апублікавана. У першай публікацыі датуецца 28 жніўня 1921 г.

## СТРАШНАЯ МУЗЫКАВА ПЕСНЯ (с. 265)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі». Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 7 лістапада. Датуецца 29 жніўня 1921 г. згодна «Храналогіі». У пераліку зместу зборніка «Апавяданні», куды М. Гарэцкі планаваў уключыць гэты твор, ён названы «Горды скамарох».

## СКАРБ (с. 270)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 17 кастрычніка пад загалоўкам «Гутарка аб кладзе». Датуецца 7 верасня 1921 г. згодна «Храналогіі».

## САСНА (с. 273)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі». Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 24 лютага. Датуецца 9 верасня 1921 г. згодна «Храналогіі».

## ПАКІНУТЫЯ ХАТЫ (с. 279)

Друкуецца па машынапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, 9 снежня. Датуецца 4 кастрычніка 1921 г. згодна даты, прастаўленай у першай публікацыі.

## У ПАНСКАЙ КУХНІ (с. 280)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Твор рыхтаваўся для зборніка «Апавяданні».

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 25 сакавіка і 1 красавіка. У першай публікацыі меў падзагаловак: «Успаміны». Датуецца 1921 г. згодна «Храналогіі».

Машынапіс мае праўкі, зробленыя алоўкам. Побач з загалоўкам пастаўлены другі — «Забойства».

Варыянты газ. «Беларускі звон»:

Падзагаловак — (Успаміны).

Народ наш не глядзіць на панскага лакея з такою пагардаю, як вучоныя людзі. Аддаць сынка ў лакейскую ці кухарскую навуку лічыцца нават шчасцем, бо ўсё ж гэта, на просты пагляд, лепей, чым ганяцца за свіннямі ля статку ці быць у мястэчку жыдоўскім ваданосам. Але выкіравацца беларускаму хлопчыку на лакея ці кухара было трудна, затое, што трудна было наламацца гаварыць па-панску, што значыць — па-расейску ці па-польску. І трудна было, адышоўшыся ад міскі, прызвычаіцца да беленькай тарэлкі, не пабіўшы яе шмат разоў.

Так было і са мною. (Апавяданне вядзецца ад першай асобы — далей усюды замест Сымонка было — я.)

Пасля: навуку //Пану я спадабаўся, і цераз колькі дзён перавялі мяне з кухні ў пакоі, вучыцца на лакея.

З засмучэннем спамінаю гэтую сваю службу, праўда, кароткую і не цяжкую дзеля работы, але вельмі невясёлую ў памяць. Дзякаваць богу, не выйшаў я на лакея. Прычына, з-за якой пакінуў тую службу, была смутная. Стаяла яна звонку ад майго жыцця, але ўсё ж пасля гэтага ўзяў мяне мой тата з панскага двара.

Судамойку нашу забіў мужык...

Як цяпер памятаю сабе той дзень.

Пасля: страшны //У кухара на радзіме памёрла адзіная родная сястра, і яго пан адпусціў на паўтара месяца дамоў, у Смаленскую губерню, рабіць парадкі з гаспадаркай, а кухарскую працу часова спраўляла за яго старэнькая кухарка, служыўшая калісь яшчэ ў панскай маткі, а цяпер жыўшая ў сына, у мястэчку, на пакоі. Надта добрая й разумная была бабулька. Удваіх мы з ёю і сядзелі ў пустой і прастыўшай кухні (дзеялася гэта ўзімку, пасля каляд).

Пасля: друк //, а я ўжо добра ўмеў і любіў чытаць, паўчыўшыся за тры гады ў сваёй школе граматы. Чытаў, разумеецца, па-расейску, хоць шмат якіх слоў не разумеў тады або прыймаў, як цяпер ведаю, зусім наадварот. Напрыклад, слова «внешний» я разумеў як «унутраны», «соперник» як «прыяцель», а пад словам «современник» разумеў чалавека, які будзе жыць некалі няскора пасля нас.

Такое там было ў мяне з бабулькай і чытанне. Яна дужа любіла гаманіць.

замест: Сымонка ~ хутчэй //мне зрабілася жудасна, але быццам... цікаўна. Было сорамна за гэтую вясёлую цікаўнасць, і я шыбка пабег

пасля: бацька, // і мая лакейская кар'ера скончылася назаўсёды.

## РУІНЫ (с. 285)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню пад назвай «Чутае над возерам» — газ. «Беларускія ведамасці», 1922, 1 студзеня. Датуецца 1921 г. згодна «Храналогіі». Тэкст уяўляе сабой тры лісты ў клетку з блакнота, на якія наклеены кавалкі неліянаванай паперы з тэкстам, напісаным чорным чарнілам. Загаловак надпісаны над другім, закрэсленым: «Музыка падземная». Закрэслены і тэкст «Я прачнуўся ~ прыснілася», дапісаны на лістку з блакнота. Падаецца пе ў каментарыях з мэтай даць уяўленне пра замысел аўтара. Далей у той жа папцы захоўваецца яшчэ адзін варыянт «Руін», напісаны чорным чарнілам на двух лістах неліянаванай паперы памеру сшытка. Тэксты абодвух варыянтаў маюць папраўкі, скарачэнні. Найбольш верагодна, што апошнім быў другі, больш кароткі варыянт. М. Гарэцкі, мабыць, меў намер падаць гэтае апавяданне як запіс сну, потым закрэсліў канец, а затым зноў перапрацаваў твор, скараціўшы яго яшчэ больш. Першая публікацыя (1922) — самы ранні варыянт твора. Дату перапрацоўкі ўстанавіць не ўдалося. На ліянаваных лістах з блакнота захавалася ранейшая нумарацыя: 46, 47, 48, што дае магчымасць меркаваць аб верагоднасці падрыхтоўкі твора да ўключэння ў зборнік.

## СТАРЫ ПРАФЕСАР (с. 287)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі». Упершыню — час. «Беларускі звон», 1922, 17 лютага пад загалоўкам «Прафесар». Датуецца 1921 г. згодна «Храналогіі».

Варыянты газ. «Беларускі звон»:

с. 292

33–34 замест: Але ~ скапала.//І яна, як на тое, стала папраўляцца і да восені зусім добра ўстала на ногі. Пасля здвіжання яны выехалі ў Пецярбург, а сёлета ўжо не прыязджалі.

Старая пані казала Аўгінні, што чакаюць дзіцяці і паехалі кудысь на цёплыя воды.

## БАГАТАЯ ПЧЭЛЬНЯ (с. 292)

Друкуецца па кнізе «Досвіткі», дзе ўпершыню апублікавана. Датуецца 1921 г. згодна «Храналогіі», дзе яно было занатавана пад назвай «Пчолы».

## СУПАКОЙ (с. 296)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Рыхтавалася да публікацыі ў зборніку «Апавяданні». Упершыню — «Полымя», 1968, № 8. Датуецца 1921 г.

## НЯВЕСТКІ СВАРАЦЦА (с. 298)

Друкуецца па машынапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — «Полымя», 1968, № 8. Датуецца 1921 г.

## ДУРНАЯ ГАЛАВА (с. 299)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Беларускі звон», 1922, 21 кастрычніка пад псеўданімам «Кузьмянкоў». Гэты псеўданім М. Гарэцкі ўжыў толькі адзін раз. Датуецца 1922 г. згодна часу публікацыі.

# СІБІРСКІЯ АБРАЗКІ

Цыкл апавяданняў, у якім адлюстравана ўбачанае М. Гарэцкім у час паездкі на Далёкі Усход. У чэрвені — ліпені 1926 г. М. Гарэцкі праехаў па чыгунцы ад Масквы да Благавешчанска. Паездка рабілася з мэтай пазнаёміцца з жыццём беларусаў-перасяленцаў. Лёс беларусаў, якія перасяліліся на Далёкі Усход, зацікавіў М. Гарэцкага ў час працы над «Камароўскай хронікай», у якой ён меў намер прасачыць, як склалася жыццё тых герояў твора, якія сталі перасяленцамі. Запісы, якія М. Гарэцкі вёў у час паездкі, леглі ў аснову самастойнага цыкла абразкоў, апавядан-

няў, нарысаў і замалёвак. Над ім М. Гарэцкі працаваў у 1926—1928 гг.

Асобныя апавяданні з цыкла друкаваліся ў перыёдыцы ў 1928 г. Але праца над «Сібірскімі абразкамі» не была завершана. У матэрыялах фонду М. Гарэцкага захаваліся абразкі, апрацаваныя аўтарам, а таксама і матэрыялы, якія засталіся ў выглядзе накідаў, дарожных занатовак. Некаторыя рукапісы маюцца ў двух варыянтах — чарнавым і апрацаваным. У дадзеным томе «Сібірскія абразкі» друкуюцца поўнасцю ўпершыню. Частка матэрыялаў прыводзіцца ў каментарыях.

## [ПАЕХАЛІ...] (с. 302)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

Напісана на шасці лістах, фіялетавым чарнілам, з асобнымі праўкамі чырвоным алоўкам. Назвы няма.

На адваротным баку ліста 114 рукапісу «Сібірскіх абразкоў» (трэці ліст апавядання «Пад'езд») маецца ўрывак пад назвай «Лясы і дачнікі», тэкстуальна блізкі да пачатковых старонак гэтага твора:

### ЛЯСЫ І ДАЧНІКІ

З Масквы выехаў 27 чэрвеня 1926 г., у нядзелю, а 8-й гадзіне ўвечары. Вагон без перасадкі Масква — Томск.

На пероне было маса публікі.

Усе вясёлыя, чыстыя, заможныя. Купляюць чарэшні — колькі хочуць. Смяюцца, вясёла гамоняць, крычаць.

Надвор'е самае летняе, горача, сонейка...

Цягнік шыбка ідзе, раве, імчыцца, вырываецца з гораду ў шырэйшыя і нуднейшыя прасторы.

Але шмат лясоў.

Пад самаю Масквою — і столькі вялікага, густога, прыгожага лесу.

І ўсё дачныя пасёлкі, прыгожыя дачныя будыначкі.

І ўсё дачнікі — прыбраныя, сытыя, здаровыя і вясёлыя, паны...

Вечар, ноч. Кладуся спаць. Я адзін з сваімі думкамі. А хочацца спаткацца, пагаманіць, палюбавацца на жыццярадаснае хараство...

Блізасць тэкстаў дазваляе зрабіць выснову, што замалёўка «Лясы і дачнікі» ўяўляе сабой першапачатковы варыянт главы «Паехалі...» «Сібірскіх абразкоў». Урывак каштоўны і тым, што дазваляе вызначыць дакладную дату пачатку паездкі М. Гарэцкага на Далёкі Усход.

## [УГОДА БОГУ] (с. 305)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Загаловак быў закрэслены аўтарам.

Закрэслены аўтарам урывак «Табун ~ хмарна...» у тэксце абразка ўзноўлены, таму што без яго траціцца сувязь з наступным тэкстам.

## ЧОРНЫ ЛЕБЕДЗЬ (с. 307)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Тэкст на 4 лістах, напісаны фіялетавым чарнілам.

## ПАБОЖНЫ МЕШЧАНІН (с. 310)

Упершыню — літаратурны дадатак да газ. «Савецкая Беларусь», 1928, 15 красавіка за подпісам «М. Г.».

У фондзе М. Гарэцкага апавяданне захоўваецца ў выглядзе выразаных з газеты палос друкаванага тэксту.

## ФЕЛЬЧАР ПЛАКУН (с. 313)

Упершыню — газ. «Звязда», 1928, 12 лютага за подпісам «М. Г.».

Друкуецца па тэксту, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Тэкст уяўляе сабой выразку з газеты, у якой ёсць праўкі аўтара. Частка тэксту (Катарзе~адзвычаіцца...) напісана фіялетавым чарнілам ад рукі. Загаловак таксама напісаны ад рукі.

## УЦЕКАЧЫ (с. 315)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Тэкст уяўляе сабой выразку з газ. «Савецкая Беларусь», 1928, 1 красавіка. У адным са спісаў «Храналогіі» твор датуецца 1918 г. У газеце быў падпісаны ініцыяламі «М. Г.».

## СКАПЦЫ (с. 316)

Друкуецца ўпершыню. Тэкст напісаны чорным чарнілам (першы ліст) і фіялетавым чарнілам (другі ліст), маюцца праўкі фіялетавым чарнілам і чырвоным алоўкам. Увесь тэкст перакрэслены алоўкам зверху ўніз.

## МОЦНАЕ КАХАННЕ (с. 317)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Тэкст уяўляе сабой выразку з газеты з праўкамі аўтара, зробленымі чорным чарнілам. Выразка зроблена, відаць, са «Звязды». Дата публікацыі невядома.

Варыянты:

«1926 г. У вагоне Масква — Томск» — закрэслена.

Ніжэй напісана: «1916 г. Іркуцк». Дата, відаць, памылковая, трэба 1926.

Збоку ад газетнай выразкі прыпісана фіялетавым чарнілам: Ст. Тайга. Праз тры гадзіны я буду ў Томску, але шкадую, што не ўзяў маршруту ехаць адразу ў Благавешчанск, бо калі я буду заязджаць у Томск, як буду ехаць назад, дык страчу 2—3 дні.

## [ІВАШКА ПАЛАЧАНІН] (с. 319)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

Назвы ў рукапісе няма. Тэкст на дзвюх вузкіх палосках паперы, напісаны фіялетавым чарнілам.

## ЛЕКАЙ КАМУНАРА (с. 320)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

Тэкст напісаны на асобным лістку фіялетавым чарнілам. У назве закрэслена слова «парыжскага».

## ДАКУМЕНТЫ (с. 321)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Тэкст напісаны на адзінаццаці лістках паперы.

## ПАД'ЕЗД (с. 324)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны сінім чарнілам на чатырох лістах памерам сшытка. На адвароце першага і другога ліста ўрыўкі з рукапісу апавядання «Літоўскі хутарок», трэцяга — абразок — «Лясы і дачнікі» (гл. каментарый да абразка «Паехалі...»), чацвёртага — урывак з рукапісу артыкула. Першы загаловак, закрэслены аўтарам, быў — «Дарога».

## [МАКСІМАВА ЗЯЗЮЛЯ] (с. 328)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

Тэкст напісаны на асобным лістку фіялетавым чарнілам. Назва «Максімава зязюля» — закрэслена, «Дзядзька Кісель» — дапісана вышэй, аднак гэта назва адносіцца да іншага ўрыўка.

## КАЛЯ БАЛОТНАЙ (с. 328)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Тэкст напісаны на лісце памеру сшытка і дзвюх разрэзаных частках такога ж ліста.

На адвароце двух апошніх лістоў, калі іх скласці, чытаецца закрэслены тэкст, які звязаны з папярэднім. Відаць, гэта былі чарнавыя запісы размоў: Жыта жнём рукамі, а авёс — машынаю («жнейка»). Жанчыны косяць. «Дзяўчонка лет 13 заўчаецца касіць».

Бяруць вазоў 25 «кладзі» (тутэйшае слова, у нас гаварылі «застаронкі»)?? «На семянó малоцім з ёўпі». Малоцяць малацілкамі.

10 к ці 1/2 пуда жыта з воза за малацьбу. Ён, чыя малацілка, толькі падае, а коні таго, чый хлеб. (10 р. (25 вазоў кладзі).

У іх было ў 1925 г. вазоў 65. «Пяньку мочым, а лён сцелем. Як скосім, так і сцелем». Ткуць самі — «усё свойськыя».

На хутары не хочуць, палосы шырокія. Самае дальняе поле 3—4 вярсты. «Мы сёлета вывезлі 60 вазоў», «Гной цяпер кладом» (гады тры сталі класць). «Старажылы і цяпер не кладуць, у іх 18 дзесяцін, а ў нас па 10».

Выглядаюць нічога сабе, але маці дужа худая, дзеткі-дзяўчаткі замораныя таксама.

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ (с. 330)

Друкуецца ўпершыню па аўтографу з фонду М. Гарэцкага. Неапрацаваныя накіды апавядання. Тэкст напісаны сінім чарнілам на лісце памеру сшытка, на адваротным баку яго закрэслены пачатак апавядання «Прастуда містэра Рамзая», але тут — пад назвай «Абразкі». Словы «Двор — кавалачак Украіны» — прыпісаны збоку і могуць быць вытлумачаны як варыянт назвы і як занатоўка да тэксту.

## ПАЯСОК (с. 331)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны чорным чарнілам на лісце памеру сшытка. Назва «Паясок» напісана алоўкам вышэй першай назвы «Удава».

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Друкуецца ўпершыню. У фондзе М. Гарэцкага рукапіс, які ўяўляе сабой тэкст, напісаны чорным чарнілам на лісце памеру сшытка, змешчаны ўслед за рукапісам з той жа назвай, але ён аддзелены ад рукапісу пад назвай «Мова», які быў напісаны, відаць, у адзін час.

«Жывуць 18 год тут. 1929—18=1911 г. Хлопец успамінае, як выязджалі: «Помню, ішоў каля млына-ветрака і плакаў».

Многа народу ехала... Дзівіліся, дзе яны стаўпяцца, дзе яны падзенуцца...

Ехалі ў цяплушках.

Залезла большая дзяўчынка туды, дзе паны ездзяць, вытурылі.

Ехалі 14 дзён.

Прыехалі. Цяжка было разжывацца. Дапамогі давалі на аднаго гаспадара 100 р. Нам далі на дзеда і тату па 100 руб.

Як прыехалі, пад бярозаю колле́м абставім, саломаю, голлем, палатно, дзяругу напнём.

Як прыехалі, пашлі жаць па 70 [...]

Бульбы вядзерца 40 к. Бралі навасёлы, валынскія хахлы.

Так гаравалі да восені. У восень хаткі збудавалі. І зямлянкі.

З сабою прывязлі калёсы, кадушкі капусту, гуркі саліць, кублы з адзежаю, кажухі, палатно, сала.

Каня купіць — 100 р.

Карову [купіць] 50 р.»

## МОВА

Упершыню — час. «Полымя». 1968, № 8. У фондзе М. Гарэцкага гэты ліст ідзе пад нумарам 104, а «Перасяленцы» пад нумарам 102, ён з'яўляецца працягам, пасля запісу «Пасёлак Міхайлаўскі», што пацвярджаецца і блізкасцю зместу, і тым, што ў адрозненне ад ліста 103 («Перасяленцы») напісаны сінім чарнілам. Тым жа чарнілам раней была прастаўлена і агульная нумарацыя, пазней закрэсленая.

Мова.

— Як прыехалі, смяяліся сібіракі з нашае мовы.

Цяпер кажам цялега (калёсы). Усё роўна і ўсё раўно.

Жыта і рож. Пшаніца травой зарастая.

Ячмень ня родзя.

Лён вылягая.

Гной цяперака кладом.

Грабілка — машынныя граблі.

Семянó.

Ён сіраціна.

Гылубы літаюць.

Тутыцька, тутака, адкуліцька.

Далéй.

Багата (многа).

Ё.

Ёўня.

Сённі.

— Мой сын!

* * *

— Песні пяем расейскія, што з сабою прывязлі з Расеі. Старыя жанчыны і дзяўчаты пяюць па-свойму.

— Іхнія песні ні к чаму, пад гармошку.

Наша песня — плаўная, шырокая, а іхняя трында-трында, і ўсё.

Нашу песню пяюць — сэрца ракою разліваецца, жалем шчыміць, а іхную запяюць — толькі п'янаму падгоцківаць.

## ПЕСНІ

Чарнавы накід. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

Зайшла гутарка пра песні.

Навасёлка хваліць свае («расейскія») супроць сібірскіх.

— Адна дзяўчынка спела, дык наскідалі 25 руб. Бо наша песня — другі слухае ды слязамі збоку льецца. У нас жоднага чалавека няма, каб песень не любіў. Кожны любя песні і ходзя слухаць, дзе пяюць.

Іхная песня:

Паря по воду паехал,
Паря зá угол задзел.
Перадоўка парвалася,
Паря з воза палядел!

**Во і ўся іхная песня.**

Песня

На чужыне жывучы,
Будзеш плакаць ідучы...
Ой загуду я, загуду
Пра сваю горку бяду...
Я ў Сібіры не буду,
Ды я ў Сібіры не буду,
Ды ў Сібіры варагі
Кругом хату абляглі...
Ой пайду я ў даліну,
Шукаючы радзіму...
Я ножкамі не зайду,
А лятаці не магу,
Ой я лятаці не магу...

## ПАСЯЛЕНКА (с. 332)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Тэкст напісаны на частцы ліста чорным чарнілам.

## НА ВЯСЕЛЛІ (с. 332)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны чорным чарнілам на двух лістах памеру сшытка.

## НА ВЯСЕЛЛІ

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Мабыць, чарнавы варыянт папярэдняга абразка. Тэкст напісаны чорным чарнілам на адным лісце з праўкамі, якія рабіліся збоку. Цяжка ~ пад хату — дапісана сінім чарнілам. Ніжэй закрэслены тэкст, які больш шырока разгорнуты ў другім «белавым» варыянце:

// Ці помніш ты, Сіланьціч, як ты ў мяне па 40 к. за вядзерца капусты браў?

Што тое ўспамінаць? І з мяне бралі...

Пасля: успамінкаў — закрэсленае: Усё гэта здаровыя, мускулістыя, спрацаваныя земляробы. Высокія, стройныя, прыгожыя чарнавусыя ўкраінцы. Больш кволыя і далікатныя беларусы.

Размашыстыя яраслаўцы. Кражыстыя, калматыя чалдоны.

Гаварылі на ўсіх мовах.

Поўны тэкст варыянта:

## НА ВЯСЕЛЛІ

Прышлі музыкі. І дзе ён іх выкапаў.

У аднаго былі цымбалы, прывёз з Расіі, у другога скрыпка, у трэцяга гармонік.

Вясельныя песні. Усе і весяліліся і плакалі.
Вясёлыя полечкі. «Так і падсякае». І ў іх радасць і сум маладасці. Плача мужчына: я ўжо стары... Чаму я не малады. То перасяляўся, то ваяваў, то рэвалюцыю рабіў... І ўжо я стары... Дзетачкі мае... Калі ж я жыў.
— Ты ж цяпер жывеш.
Каханне, усе яго салодкія мукі, пераліві.
Украінскія песні.
1) Паря по воду паехал
2) Ой, полным-пална каробачка...
Усё ходырам хадзіла.
Пілі, цалаваліся, скакалі.
Заходлівасць. Пянчота.
Бесклапотнасць, ат. усё ліха ў бок, як жывеш дык жывеш, а пагуляеш — трэба забыцца.
Мукі кахання.
Вялікая любоў да чалавека, разуменне яго і ласка да яго і дараванне яму яго аблуды.
Уставіць: успаміны аб радзіме
як ехалі
як разжываліся
як змагаліся
радасць жыцця
і сум у тых, хто меў тую радзіму.
Маладыя шчаслівыя — ім няма тых успамінкаў.
Цяжка было з сваім кутком расставацца. Мо ніколі ўжо не ўбачым. А як тут жыць? — трэба ехаць. Прадалі ўсё, Зямлі горстачку роднае ў хустачку набралі — каб на новым месцы на магілку пасыпаць і пад хату.
Ці помніш ты, Сіланьціч, як ты ў мяне па 40 к. за вядзерца капусты браў?
— Што тое ўспамінаць? І ■ мяне бралі...

## ШАХЦЁРЫ (с. 333)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.
Тэкст напісаны на двух лістах са сшытка ў лінейку чорным чарнілам. Апошняя фраза дапісана алоўкам.

## АГНІ (с. 334)

Упершыню — у літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, 15 лютага (№ 2). Выразка з газеты з невялікімі праўкамі, што маецца ў фондзе М. Гарэцкага, і паслужыла для публікацыі твора ў двухтомніку, але ў каментарыях указвалася, што дата і месца публікацыі не ўстаноўлены.
На старонках пад №№ 120 і 121 у рукапісах «Сібірскіх абразкоў» маецца тэкст, які адносіцца да апавядання. Хаця на першым з іх з аднаго боку ідзе пачатак абразка «Сібірскія апавяданні», на адвароце ёсць тэкст, які ўваходзіць у апавяданне «Агні»: «Кажуць яны аб тым, як страшэнна здзекаваліся калчакаўцы над чырвонымі: вочы выкалвалі, шампаламі білі. Тады і яна, паслухаўшы, пачала казаць, што ў Бачкарове, адкуль яна зайшла за-

муж у Чарамхова, некалькі расстраляных (я...» Тэкст перакрэслены.

Тэкст чарнавіка:

Заўважылі. Ка́ра... Секлі розкамі, самі ж рабочыя, так што паднялі ў крыві, блізу мёртвага. Ён спачатку крычаў, называў ласкавымі іменнямі тых таварышоў, што яго білі, а потым знямеў.

Другі выпадак. Кітайцы і расіец выразалі на прыйсках сям'ю. Кітайцы ўцяклі, а яго злавілі, прывязалі да слупа, аблілі газаю і запалілі... З барады.

— Барада во какая! — казала касавокая, вастраносенькая падарожніца. Кек пашло! — сказала кек, замест как, і ўзноў на вострым, касавокім твары прагавіта-жудасная ўхмылка.

Крычэў, згарэў.

Чырвонаармеец апавядае, што ў іх аднаго напаілі чалавечаю крывёю, і ён не мог ужо ўтрымацца, каб не біць другіх.

— Спорцілі.

Другі чырвонаармеец пярэчыць, што каб напаўнець — п'юць жа скаціннуюкроў, і нічога.

— Так то скацінная, а то чалавечая.

## ПАЛОННЫ (с. 336)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

Тэкст на трох лістках са сшытка ў лінейку напісаны чорным чарнілам, да 3 ліста прышпілены кавалак ліста з сшытка ў клетку, на ім дапісаны фіялетавым алоўкам тэкст, які не ўвайшоў у двухтомнік, мабыць, таму, што не звязаны са зместам абразка «Палонны»:

Прыходзіў сляпун і пяяў на расійскім жаргоне песні («жызня», «ро́дны» і інш.,— відаць, беларус).

Перасяленец праслязіўся.

Перасяленец стараецца па-расійску.

Сям'я — па-беларуску. Яны снедалі.

Пасля: яны // гаварылі — закрэслена.

## ХОЦІМКА (с. 338)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню час. «Аршанскі маладняк», 1928, № 7 за подпісам «М. Г.». Датуецца 1916 годам, але гэта, відаць, памылка, трэба — 1926.

Тэкст уяўляе сабой выразкі з часопіса. Праўкі зроблены чорным чарнілам.

Падзагаловак «З запісной кніжкі» быў дапісаны, але закрэслены.

## СУМНАЯ ДАМА (с. 340)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны на пяці лістах фіялетавым і чорным чарнілам, алоўкам.

## КІСЛАЯ КРЫНІЦА (с. 343)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — газ. «Звязда», 1928, 5 лютага пад назвай «Кіслы ключ».

Тэкст уяўляе сабой выразку з газеты, праўкі аўтара зроблены чорным чарнілам. Назва, таксама наклееная выразка, папраўлена аутарам.

## У ТАЙЗЕ (с. 345)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Тэкст напісаны чорным чарнілам на трох лістках фармату сшытка. Вышэй загалоўка ёсць радкі, занатаваныя ў дарозе: Артеушко — заваротка назад.

9 ліпеня. ст. «Ерофей Павлович».

Дзіўная назва. Сёння ехалі па самай дзікай, бязлюднай мясцовасці. Горы, горы, балотныя даліны, ручаі, дробны лес. Людзей няма, толькі рабочыя пры дарозе. Дзіка.

## ДУРНАЯ (с. 346)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1928, № 8.

Тэкст — на трох лістах фармату сшытка, напісаны чорным чарнілам.

## «КААПЕРАТАР» [ПЛАЧ НА МАГІЛЕ] (с. 349)

Друкуецца ўпершыню.

## МОГІЛЬНІК (с. 350)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. У фондзе М. Гарэцкага ёсць варыянт абразка, ён быў запісаны ўслед за абразком «Кааператар». Тэкст чарнавіка:

Могільнік тут вялізны. Растуць як дэкарацыйныя расліны: баярышнік, акацыя, невялічкія лісцвянкі, бярозкі і якіясьці кусты, падобныя да маліны. Шмат ясакараў.

На могілках — красачкі, як і ў нас на Беларусі.

Могільнік вялікі і багаты. Нават дзіва, як ён паспеў так вырасці, калі і горад існуе гадоў пяцьдзесят.

Могілак густа. У большасці могілкі добра дагледжаны.

Напісы: «забіт у часе грамадзянскае вайны»...

Прозвішчы на помніках — рускія, украінскія, беларускія, польскія.

Фатаграфіі.

Вось маладзенькая дзяўчынка прыветна і сумна ўзіраецца. Напісана, калі радзілася, калі памёрла. Ёй 16 год. Памёрла ў 1922 годзе.

На адным крыжы — вершы жонцы ад мужа. Алоўкам нехта дапісвае: «Прости! Я не виновен. Я мстил только за смерть моей дорогой и милой мамы». Драма, але якая?

На другім маці просіць дачку, каб узяла да сябе.
І шмат падобных напісаў.
Колькі тут тугі, гора і смутку!
Але пакуль я хадзіў, аглядаў і разважаў, я згубіў з вачэй майго спадарожніка.
Шукаючы па дарожцы, я ўбачыў, што ён прыхіліўся, стаўшы на калені, да адной могілкі, і ў яго постаці і твары — цяжкія ўспаміны і гора... Крыж на магілцы быў яшчэ даволі свежы і не падпісаны.

## БЛАГАВЕШЧАНСКІЯ АБРАЗКІ (с. 351)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.
Па зместу звязаны з абразком «Кааператар», дзе адзін з персанажаў меў прозвішча Крук. У «Благавешчанскіх абразках» ён — Струк.

## [БЛАГАВЕШЧАНСКІЯ АБРАЗКІ]

Накід да аднайменнага абразка. Друкуецца ў каментарыях з двума падзагалоўкамі, якія былі ў рукапісе.
**Дом селяніна.**
Будынак добры, плакатаў шмат, а парадку мала.
Разам змяшчаюцца мужчыны і жанчыны. Усюды кураць. Прыбіральніцы не любяць сялян. Газет няма. Клазеты брудныя.

У № 7 той кааператар (сам п'яны) прывёў яшчэ нейкага п'янага хлапца (рабочага з тэлеграфу?) Вакно не адчыняецца, а пакой (адгародка) нядаўна пафарбаваны, дык хоць ты задушыся. Я перайшоў у агульнае памяшканне. Спаць было дрэнна ў гэтай казарме. Дзіця плакала. Мухі.
Сяджу на даху дому селяніна. Завецца гэта — «солярый».
Беспрацоўны шкляр.
**Візіт да Буяніхі.**
Цяпер малады Гошка (Георгій) Буянаў выкладае гімнастыку ў хрысціянскіх маладых людзей у Харбіне. Таварыш яго, грам. Струк, пайшоў да старой Буяніхі. Баяліся прызнацца. У Буянавых млын і два дамы. Запрашаў мяне. Я не пайшоў.

## МАЛЫ РЫЗЫКАНТ (с. 352)

Друкуецца па тэксту газ. «Звязда», 1928, 22 красавіка, захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага ў выглядзе выразак, наклееных на лісты паперы, памеру сшытка. Праўкі зроблены чорным чарнілам.

## КВЕТКІ ЗЛА (с. 356)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.
Рукапіс — на трох лістах памерам сшытка, напісаны чорным чарнілам. Надпіс «Кветкі зла» дапісаны вышэй першага загалоўка — «Спатканні» алоўкам.

## БЯЗНОГАЯ БАБУЛЯ (с. 357)

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны чорным чарнілам на пяці лістах фарматам сшытка. Назва надпісана фіялетавым чарнілам над ранейшай — «Начою».

## ІНТЭЛІГЕНТЫ (с. 360)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны чорным чарнілам на чатырох лістах. Першы — са сшытка ў лінейку, астатнія без лінеек. Загаловак напісаны алоўкам побач з закрэсленым «Выехалі з Благавешчанска». У нашым ~ нервы — прыпісана алоўкам.

## ПАВАРОТ (с. 363)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню: час. «Полымя», 1968, № 8.

Тэкст напісаны на трох лістах са сшытка ў лінейку, чорным чарнілам. Асобныя праўкі зроблены чырвоным алоўкам. Фраза «Божа ~ рабіць?», якой завяршаецца апавяданне, дапісана алоўкам.

## СПРЭЧКІ (с. 364)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны на двух лістах чорным чарнілам.

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Чарнавыя рукапісныя накіды. Апрацаваны не былі.

Друкуецца, як незавершаны твор, сярод розначытанняў і варыянтаў.

Перасяленцы
хаваюць
нябожчыка.

Хаўтуры.
Хаваюць старога перасяленца.
Жонка, дзеці плачуць. Брат.

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Перасяленчы пункт.

Ранняя раніца, а яны ўжо капошацца.

Бабы вараць — хто на раскладзеным агні, хто ў галандцы на пункце, па чарзе.

Брудныя, бедныя.

Дзеці галосяць, плачуць.

Мужчыны ходзяць, кураць.

З Кліпцоўшчыны. Новая скрыня. Чыгункі брудныя, закопчаныя...

Бабуля кажа, што едуць пяты тыдзень. Жаліцца, што ўсё выкідаюць з вагона ў вагон...

І на кожнай перасядачнай станцыі — каля цяпла пад дрэўцамі... Тут, у Бачкарове, стаяць 3 дні.

Сяргей, хлопчык, у салдацкім шынялі.

Дзяўчынка, Шурачка, на сваіх нагах, а большая дзяўчына трымае малога на руках.

Едуць на Іман.

— Усё з'елі, што рабіць?

— Прадалі конікаў і каровак,— усё з'елі...

Бацька: худы, нізкі, маршчыны, валоссе, гной у ражках між павекамі. Курыць піпку.

Хадакам паказалі адно, а нам даюць другое.

Старажылы не хочуць прымаць. Кажуць: «Сцясняем іх, што ім пакідаюць толькі па 6 дзесяцін на душу, а то адразаюць для перасяленцаў».

Лесу няма. Зямля — гліна, як камень.— Каб хадакам вочы павылазілі...— Сопкі ды балоты...

— Такой зямлі і ў нас досыць,— чаго ж было ехаць?

У 1913 палілі тайгу ў Прыморскім краі. Дубы ў тры абхваты не абхваціш.

Абкладуць кучкаю з гумно, кучак дзесяць, як запаляць...

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Зямлянкі. 50 сем'яў схавана ў зямлі. Адно вакенца, а ёсць зямлянкі з 2—3 вакенцамі. Цёмна, брудна, смярдзіць зямлёю і гноем.

Жывёла абгарожана абы-як. Двароў няма. У 10 гаспадароў няма коней, у паловы — кароў, толькі ў кожнага куры і авечкі. Плугоў усяго 6 на ўвесь пасёлак.

Зямлі шмат, а сеяць няма чым.

Няма чаго есці. Ловяць рыбу, не ўмеюць і часта хто-хто ды ўтопіцца.

Тутэйшая ўлада дала падзячны ліст за выкананне 100 % с.-г. падатку раней за вызначаны тэрмін.

Амур затапіў увесь пасёлак. Зямля дрэнная. Травы шмат, але няма грошы купіць жывёлу.

Усяго сюды прыехала 125 сем'яў (едакоў больш за 700). Цяпер частка выехала назад, частка разышлася па Амуру.

## СЕЗОННЫЯ РАБОЧЫЯ (с. 366)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Тэкст — на двух лістах са сшытка ў лінейку, напісаны чорным чарнілам.

На адвароце першага ліста ёсць закрэслены запіс, зроблены аўтарам для сябе: «Апавяданне пачаць з таго, што вагонны праваднік апавядае пра сябе; пад'язджаем тым часам да станцыі, дзе селі сезонныя рабочыя».

## БАЙКАЛ (с. 367)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Тэкст на двух лістах са сшытка ў лінейку, напісаны чорным чарнілам.

Побач з першым загалоўкам, другі — «Русалка» і ў дужках — «Тут жа — «Жывы музей». Вышэй — закрэслены яшчэ адзін загаловак: «Апавяданне пра русалку». Апошні загаловак паўтараецца ніжэй пасля замалёўкі пра Байкал.

## [НА СТАНЦЫІ ЧАРНАРЭЧАНСКАЙ...] (с. 368)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст уяўляе сабой асобныя накіды на двух лістках, напісаныя фіялетавым чарнілам. Загаловак дадзены па першых словах урыўка.

## НУДНА (с. 369)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Тэкст напісаны чорным чарнілам на трох лістах памеру сшытка, без лінеек.

## МАЛА СІЛЫ (с. 370)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

# ЛЮСТРАДЗЁН

Цыкл апавяданняў.

Друкуецца па рукапісах з фонду М. Гарэцкага. Друкуецца не поўнасцю. Асобныя апавяданні цыкла друкаваліся ў 1930 годзе. Датуецца 1929—1930 гг. Даты першых публікацый твораў, якія друкаваліся, прыводзяцца ў каментарыях да іх. Апавяданні раздрукаваліся, прыводзяцца ў каментарыях да іх. Апавяданні размешчаны ў паслядоўнасці, якая найбольш адпавядае стану захаванасці рукапісаў і замыслу аўтара.

## ПАГРАНІЧНЫ ІНЦЫДЭНТ НА АМУРЫ (с. 372)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню пад назвай «Напад белагвардзейцаў» — час. «Маладняк», 1930, № 1.

Тэкст рукапісу больш падрабязны, больш поўны, чым надрукаваны ў «Маладняку», але яго варта лічыць больш ранняй рэдакцыяй, у якой яшчэ адлюстравана задума стварыць хроніку братоў Вішнявецкіх (афіцэр — другі брат). Рыхтуючы апавяданне для публікацыі як асобны твор, а не як частку цыкла, М. Гарэцкі паправіў тэкст, скараціўшы ўсё, што не адносілася непасрэдна да яго сюжэта.

## СМЕРЦЬ [ПАЎЛЮК ТРУС] (с. 376)

Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8, у няпоўным выглядзе. Другая частка апавядання, якую Гарэцкі назваў «Пахаванне», друкуецца ўпершыню сярод розначытанняў, як незавершаная. Побач з загалоўкам збоку і вышэй надпіс алоўкам «Паўлюк Трус». Злева алоўкам напісана дата: 1/IX, справа — № 5. Тэкст напісаны на пяці лістах памеру сшытка фіялетавым чарнілам.

### ПАХАВАННЕ

Панядзелак 2-га верасня 1929 г.

Яшчэ ніколі не бачыў Беларускі Дом пісьменніка ў Мінску гэтулькі гасцей.

Адкуль, чаго панайшло іх сюды столькі і нават з вёскі панаехала?

Яшчэ ж ніколі, здаецца, не бачна было тут гэтых дзядзькоў у сялянскіх світках, з такімі спечанымі сонцам тварамі, з такімі загрубелымі ад працы рукамі.

Ды невясёлыя сабраліся госцікі.

Засмучона шэпчуцца мужчыны і хлопцы. Плачуць жанчыны і дзяўчаты. Дзяўчаткі, тыя дзяўчаткі, што разам з імі ў педтэхнікуме вучыўся ён, разам будаваць новае жыццё рыхтаваўся! Шчырыя слёзы вашы, дзяўчаткі, таварышкі! Вянок вы прыняслі з красак амаль што ўжо восеньскіх. Красак у руках прыняслі. Уквеціць дарогу Паўлюку. Уквеціць вечны шлях.

Невясёлыя сабраліся госцікі...

Шэпчуцца, плачуць. Так невясёла чакаюць яны на пасад сённяшняга маладога. Чакаюць, чакаюць... /.../

Калі ж той аўтамабіль прыедзе? Прывязе Паўлюка? Кажуць, ужо паехалі.

І музыкі, нарэшце, прыйшлі.

Ды невясёла гудуць і трубяць іхныя трубы. Не вясельныя песні лунаюць тут...

* * *

Загрымела, застучэла...

Прывязлі, уняслі, паставілі.

Труны не адчынілі, не адчынілі вечнага дому Паўлюковага. Ніхто твару яго апошні раз не паглядзеў. У больніцы ў калідоры ложак яго стаяў! Там ён і сканаў. Ціхі, нікому невядомы. Так там ведаюць песняроў беларускіх. Ды яшчэ маладых, нейкіх пралетарскіх. Забыліся, час спусцілі. Твару яго для апошняга паглядзення нам не захавалі. Тыфус пацалаваў яго ўсяўладна.

Паставілі ў залі вечны дом, ды не адчынілі. Кветкамі прыбралі [...]

Вось па чатыры на варце становяцца. Пастаялі каля яго, пастаялі.

Так усё ўрачыста [...]

Выносяць...

Вялізным натоўпам занялі ўсю вуліцу.

А вуліца ўся разрыта, раскопана.

Трамвай будуюць.

Пяяў у сваіх вершах пябожчык пра гэты трамвай.
Сацыялістычнаму будаўніцтву ў роднай краіне без меры радаваўся.
І не...
Доўга дыбаюць коні, везучы хаўтурны воз.
Далёка да могільніка дыбаць ім.
Вуліцы паразрыты.
Сонейка прыпякае.
Музыка пра вечнасць хаўтурна бухае.
Марш пахавальны.
І нарэшце — вось тут вечнасць будзе яго.
На могільнік уз'язджаюць.
Месца тое шукаюць.
Між двюх сасонак яма.
Сасонкі, сасонкі! Сумныя сасонкі. Паўлюк жа пра сасонкі пяяў.
Ну, канчайце...
Музыка, грымі!
Прамоўцы, гаварыце!
Марылька пачакае крычаць, пакуль вы будзеце прамаўляць і пакуль музыка будзе грымець за прамовамі вашымі. А тады прыпадзе яна, Марылька бедная, як ніклая трава да долу, і горка-горка загалосіць.

* * *

Колькі прамоўцаў, колькі прамоў!
І таварышы неслухмяным языком, няскладнымі словамі скажуць сваё. [...]
Ну, спі спакойна! Ты ўжо нічога не чуеш.
Без пары ты адышоў.
Хто б мог падумаць, хто?
Смерцю сваёю сезон адчыніў.
Няўжо мёртвы будзе сезон?
А хто ж будзе песні пра сацыялістычнае будаўніцтва ў роднай краіне так шчыра пяяць? [...]
Ну, нічога, Паўлюк!
Нічога, нічога!
Жыццё складаецца з нарадзін і смерці.
Ты ўжо ўсё прайшоў.
Канец.
Можна расхадзіцца.
За жыццё брацца.
Нейкіх навін чакаць.
Якія ж будуць навіны на таку тваім?
Якія, га?

## ПРАСТУДА МІСТЭРА РАМЗАЯ (с. 378)

Друкуецца па матэрыялах з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Чырвоная Беларусь», 1930, № 2 пад назвай «У Палестыне».

## НЕРАЗГАДАНЫЯ ЛЮДЗІ (с. 381)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. І. Гарэцкага. Напісана на неліноўаных лістках памеру сшытка фіялетавым чарнілам. Вышэй назвы, якая прыводзіцца тут, была напісана дру-

гая — «Жаночая помста» (пад гэтай назвай, таксама закрэсленай, ішло спачатку і апавяданне «Сон»).

Назва закрэслена алоўкам. Перад назвай «Неразгаданыя людзі» стаіць лічба «I», а пасля яе алоўкам прыпісана «№ 8».

Персанаж твора адзін раз, магчыма, памылкова названы ў тэксце Старавольскім. Далей, у апавяданнях «Сон» і «Чыстка», ён зноў носіць прозвішча Старабыльскі.

### СОН (с. 382)

Друкуецца ўпершыню па рукапісу з фонду М. Гарэцкага.

Загаловак «Жаночая помста» закрэслены. Збоку алоўкам напісана «№ 9».

### [ЧЫСТКА] (с. 383)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Назва ўмоўная, у тэксце яе няма, але аўтар называе так абразок, які адносіцъ да 24 жніўня (гл. ніжэй). Твор блізкі да апавядання «Сон», таму абодва абразкі змяшчаюцца адзін за адным, хаця гэтым парушаецца храналогія. Аднак у аўтара ёсць на лісце 4 рукапісу зборніка заўвага: «Чыстка» (перанесці, зрабіць пасля «Сну»).

На адваротным баку першага ліста рукапісу апавядання «Сон» рукой М. Гарэцкага напісаны сказ — варыянт пачатку:

«24-га жніўня, у суботу, а 8-й гадзіне ўвечары, была назначана чыстка камуністычнай ячэйкі ў адной мінскай асветнай установе».

### АСЛЯПЁНЫ КОНЬ (с. 386)

Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8. Друкавалася ў скарочаным выглядзе.

### КІРМАШОВАЕ ПАБОІШЧА Ў МЯСТЭЧКУ КРЫВІЧАХ (с. 389)

Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў фондзе М. Гарэцкага. Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

## З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ 1930 г. (с. 395)

Друкуецца па рукапісу з фонду М. Гарэцкага. Тэкст напісаны на лістах у клетку, вырваных з блакнота, запісы зроблены алоўкам. Гэта былі кароткія занатоўкі думак, назіранняў, сюжэтаў.

Запісы адносяцца да 1930 года.

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 8.

## Тлумачэнні некаторых слоў у творах М. Гарэцкага *

*Абб́рак* — лужок сярод раллі, саду. Мясціна, якую не аруць.
*Абша́р* — участак вялікіх памераў, неабсяжная прастора.
*Абша́рнік* — памешчык, уладальнік вялікіх абшараў зямлі.
*Адылі́* — аднак, ■ далей, а потым.
*Акру́тны* — жорсткі.
*Амбара́с* — непрыемныя турботы, непакой.
*Асе́ць* — сушыльня ў гумне (з падвальнай печчу) для прасушкі снапоў перад малацьбой.
*Багаўня́* — скрыначка ў куце пад абразамі.
*Базыльяа́нцы* — уніяцкія манахі.
*Бо́лкі, бо́лачкі* — воблачкі.
*Бутува́цца* — сіліцца, намагацца, выбівацца з сіл.
*Бяда́* — двухколка, лёгкі возік.
*Ва́дзіцца* — сварыцца.
*Варыўня́* — невялікі будынак або прыбудова для захавання агароднiны.
*Віда́ль* — пейзаж, краявід, перспектыва.
*Віха́цца* — у дадзеным выпадку — вагацца.
*Вязёнкі* — вязаныя рукавіцы.
*Гато́ўка* — наяўныя назапашаныя грошы.
*Гнёт* — цяжкі кавалак дрэва, якім прыціскаюць каноплі ў час мачэння. Наогул, груз, якім націскаюць што-небудзь.
*Грамніца (грамнічная свечка)* — свечка, якую асвячаюць у царкве ў дзень грамніц (рэлігійнае свята). Грамніцу давалі ў рукі паміраючаму, запальвалі ў час навальніцы.
*Гру́здзілы* — цуглі.
*Гу́бка* — частка натканага палатна.
*Гу́нька* — пакрывала для каня, папона; посцілка.
*Гуры́на* — від нітак для вышывання.
*Задо́ўка* — моцная вяроўка для ўвязвання воза.
*Захвіцэ́нне* — летаргічны сон.
*Згон* — дзень, калі сяляне павінны працаваць на панскім полі.
*Здо́льнік* — селянін, які арандаваў зямлю на правах здольшчыны.
*Зюклі́вы* — гаманлівы, гаваркі, словаахвотны.
*Зяме́ц* — пчаляр.
*Кабе́рац* — дыванок пад ногі.
*Каланіца* — мазь для колаў.
*Камлы́жка* — цвёрды камяк зямлі.
*Куко́біцца* — песціцца.
*Ку́нігас (літ.)* — ксёндз.
*Курцы́* — вушкі ў лапцях.
*Ку́рчына* — перакладзіна, шост для адзення ў хаце.
*Маргéлка (магéрка)* — мужчынская шапка з лямцу.
*Мост* — падлога.
*Мы́каць* — расчэсваць грэбенем кудзелю, лён.
*Мы́чкі* — жменя льну, падрыхтаваная для пражы, расчасаная грэбенем.

---

* Даюцца пераважна тыя значэнні слоў, у якіх яны ўжыты пісьменнікам.

*Мя́ліца (це́рніца)* — самаробная прылада, па якой мялі лён, канаплю.
*Мяллё* — кастра.
*Набо́й* — зарад пораху са шротам, карцеччу або куляй для паляўнічай стрэльбы.
*Наву́жнік* — невялікі вулей у лесе на дрэве, пастаўлены для лоўлі раёў пчол.
*Паруга́цца* — дражніцца, насміхацца, знарок злаваць сваімі благімі паводзінамі.
*Падо́л* — месца на рэчцы, сажалцы, дзе мыюць бялізну.
*Па́найка* — палонка.
*Па́рыня* — папар.
*Пастая́лка* — халоднае сырое малако, якое пастаяла ў пограбе.
*Пе́рыць* — выбіваць бялізну пранікам.
*Пол* — ніжнія нары ў сялянскай хаце, на якіх спалі.
*По́стаць* — палоска жыта або іншай збажыны, запятая жняёй (жнеямі).
*Пратэ́сы (пара́ты)* — царкоўныя харутвы.
*Пушны́* — хлеб з прымессю мякіны.
*Пяхце́р* — плеценая з тонкіх вяровачак вялікая сетка, у якую клалі сена, выпраўляючыся на кані ў дарогу.
*Пяхо́та-по́чту* — атрад ганаровай варты.
*Рэ́згіны (рэ́звіны)* — прылада з дзвюх сагнутых дугой палак, пераплеценых тонкімі вяроўкамі. Служыць для нашэння сена, саломы і г. д.
*Рэ́знік* — мяснік.
*Ры́знік* — вандроўны гандляр, які прадаваў тавары ці мяняў іх на рыззё.
*Саха́* — у дадзеным значэнні — падпорка з развілкаю ўверсе, у якую кладуцца бэлькі ў гумнах і хлявах.
*Смаля́нкі* — пацукі.
*Спарышы́* — два збаны з вузкім горлам, змацаваныя разам. У іх насілі абед на поле.
*Су́валка* — пакулле.
*Су́днік* — шафа для кухоннага посуду.
*Суно́жка* — папярочная планка, якая змацоўвае ножкі стала.
*Су́прадкі* — вячоркі, у час якіх дзяўчаты разам пралі.
*Ташнава́ць* — перажываць.
*Угру́нь* — бегам.
*Уру́га* — добрая паша.
*Усведамля́ць* — прасвятляць, адукаваць, развіваць свядомасць.
*Ханджа́* — тэхнічны спірт.
*Ціма́к* — селянін, які ўцёк ад свайго памешчыка.
*Цугакі́* — палачкі, якія ўжываліся пры пляценні лапцей.
*Чаўхі́рка* — карэц, конаўка для вады.
*Шаўлю́жка* — каняка, кляча.
*Шубі́на (шубе́нь)* — палка, якой можна кінуць у што, каго.
*Шу́рка* — мера дроў у чвэрць сажня (у шуркі ехаць — ехаць нарыхтоўваць дровы).
*Шчапе́ль* — нож.

# ЗМЕСТ

*Ад рэдакцыі* . . . . . . . . . . . . . . 5

*Алесь Адамовіч.* Класік беларускай літаратуры . . . . . . . . . . . . . . . 7

## АПАВЯДАННІ

У лазні . . . . . . . . . . . . . . . . 47
Патаёмнае . . . . . . . . . . . . . . . 53
Цёмны Лес . . . . . . . . . . . . . . . 55
Стогны душы . . . . . . . . . . . . . . 58
Роднае карэнне . . . . . . . . . . . . . 58
У панскім лесе . . . . . . . . . . . . . 80
Красаваў язмін . . . . . . . . . . . . . 81
Страхаццё . . . . . . . . . . . . . . . 85
Што яно? . . . . . . . . . . . . . . . 87
Буйніцы і драбніцы . . . . . . . . . . . 101
Усё мінаецца . . . . . . . . . . . . . . 101
Хаўтуры . . . . . . . . . . . . . . . . 102
Рунь . . . . . . . . . . . . . . . . . 103
Войт . . . . . . . . . . . . . . . . . 113
[Князёўна] . . . . . . . . . . . . . . . 115
У чым яго крыўда? . . . . . . . . . . . 116
Скрыпачка . . . . . . . . . . . . . . . 129
Вясна . . . . . . . . . . . . . . . . . 129
Сумная дзяўчынка . . . . . . . . . . . . 132
Дзёгаць . . . . . . . . . . . . . . . . 133
Чарнічка . . . . . . . . . . . . . . . . 137
Літоўскі хутарок . . . . . . . . . . . . 140
Рускі . . . . . . . . . . . . . . . . . 154
Зіма . . . . . . . . . . . . . . . . . 158
Маці . . . . . . . . . . . . . . . . . 171
Хадзяка . . . . . . . . . . . . . . . . 177
Генерал . . . . . . . . . . . . . . . . 181
Амерыканец . . . . . . . . . . . . . . . 188
Прысяга . . . . . . . . . . . . . . . . 195
Дзве сястры . . . . . . . . . . . . . . 202
На этапе . . . . . . . . . . . . . . . 206
Габрыелевы прысады . . . . . . . . . . . 211
[Кіславодскія замалёўкі] . . . . . . . . 215
Знібее сэрца . . . . . . . . . . . . . . 218
Панская сучка . . . . . . . . . . . . . 221

Ідуць усе — іду я... 232
Тамашы 234
Злосць 241
Досвіткі 243
Памылка 246
«Дурны настаўнік» 248
Трасца 253
Смачны заяц 257
Еду дамоў 264
Страшная музыкава песня 265
Скарб 270
Сасна 273
Пакінутыя хаты 279
У панскай кухні 280
Руіны 285
Стары прафесар 287
Багатая пчэльня 292
Супакой 296
Нявесткі сварацца 298
Дурная галава 299

## СІБІРСКІЯ АБРАЗКІ

[Паехалі...] 302
[Угода богу] 305
Чорны лебедзь 307
Пабожны мешчанін 310
Фельчар Плакун 313
Уцекачы 315
Скапцы 316
Моцнае каханне 317
[Івашка Палачанін] 319
Лёкай камунара 320
Дакументы 321
Пад'езд 324
[Максімава зязюля] 328
Каля Балотнай 328
Перасяленцы 330
Паясок 331
Пасяленка 332
На вяселлі 332
Шахцёры 333
Агні 334
Палонны 336
Хоцімка 338
Сумная дама 340
Кіслая крыніца 343
У тайзе 345
Дурная 346
«Каапературар» [Плач на магіле] 349
Могільнік 350
Благавешчанскія абразкі 351
Малы рызыкант 352
Кветкі зла 356
Бязногая бабуля 357
Інтэлігенты 360

Паварот . . . . . . . . . . . . . . . . 363
Спрэчкі . . . . . . . . . . . . . . . . 364
Сезонныя рабочыя . . . . . . . . . . . 366
Байкал . . . . . . . . . . . . . . . . 367
[На станцыі Чарнарэчанскай...] . . . . . . 368
Нудна . . . . . . . . . . . . . . . . 369
Мала сілы . . . . . . . . . . . . . . . 370

**ЛЮСТРАДЗЕН**

Пагранічны інцыдэнт на Амуры . . . . . 372
Смерць [Паўлюк Трус] . . . . . . . . . 376
Праступа містэра Рамзая . . . . . . . . 378
Неразгаданыя людзі . . . . . . . . . . 381
Сон . . . . . . . . . . . . . . . . . 382
Чыстка . . . . . . . . . . . . . . . . 383
Асляпёны конь . . . . . . . . . . . . . 386
Кірмашовае пабоішча ў мястэчку Крывічах 389

**З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ 1930 г.**

Смерць . . . . . . . . . . . . . . . . 395
Каршун, птушачка і я . . . . . . . . . 395
«Бацька осліп...» . . . . . . . . . . . 395
Чалавек у кароне . . . . . . . . . . . 396
Прывязаны хлопчык . . . . . . . . . . 398

**Каментарыі** . . . . . . . . . . . . . . 399
Тлумачэнні некаторых слоў . . . . . . . 442

**Гарэцкі М.**

Г 21 Збор твораў. У 4-х т. Т. 1. Апавяданні/[Аўт. прадм. А. Адамовіч].— Мн.. Маст. літ., 1984.— 446 с., 4 л. іл., 1 л. партр.

У пер.: 2 р. 60 к.

Збор твораў вядомага беларускага пісьменніка, вучонага, крытыка, публіцыста, аднаго з заснавальнікаў беларускай мастацкай прозы Максіма Іванавіча Гарэцкага (1893—1939) — найбольш поўнае, навукова каменціраванае выданне яго спадчыны.

Г $\frac{4702120200-103}{М\ 302(05)-83}$ падпіснае

ББК 84Бел7
Бел 2

**МАКСИМ ИВАНОВИЧ ГОРЕЦКИЙ**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ

ТОМ 1

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*На першым форзацы:*
*Стары куток Малой Багацькаўкі.*
*На другім форзацы:*
*Стары калодзеж у Малой Багацькаўцы.*

Рэдактар А. Дз. Куліш
Мастак В. П. Масцераў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 1623

Здадзена ў набор 01.07.83. Падп. да друку 18.05.84. АТ 01125. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 23,52+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 24,89. Ул.-выд. арк. 25,97. Тыраж 8000 экз. Зак. 3829. Цана 2 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.